# Янка Купала

## *Поўны збор твораў у дзевяці тамах*



# Янка Купала

## *Поўны збор твораў*



*Том*

**1**

**ВЕРШЫ. ПЕРАКЛАДЫ**

**1904—1907**

**Рэдактар тома**
**ГНІЛАМЁДАЎ У. В.**

**Падрыхтоўка тэкстаў і каментарыі**
**ЗАБРОДСКАЙ С. В., ШАМЯКІНАЙ А. І.**

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1995

# АД РЭДАКЦЫІ



Поўны збор твораў народнага паэта Беларусі Янкі Купалы ў 9-ці тамах падрыхтаваны ордэна Дружбы народаў Інстытутам літаратуры імя Янкі Купалы АН Беларусі. Гэта навукова-каментаванае выданне спадчыны класіка беларускай літаратуры.

Поўны збор твораў Янкі Купалы ажыццяўляецца ўпершыню. Выданне ўключае ўсе вядомыя на сённяшні дзень вершы, паэмы, п'есы, пераклады, літаратурна-крытычныя і публіцыстычныя артыкулы, лісты Янкі Купалы, чарнавыя накіды, дарчыя надпісы на кнігах.

У параўнанні з папярэднім Зборам твораў у 7-мі тамах (Мн., 1972—1976) новае выданне дапоўнена творамі, якія выяўлены ў архівах і перыядычным друку або па пэўных меркаваннях не друкаваліся ў сямідзесятыя гады. Гэта вершы і вершаваныя пераклады, публіцыстычныя артыкулы і выступленні, п'еса «Тутэйшыя», празаічныя пераклады. Новыя творы значна пашыраюць уяўленне пра спадчыну Янкі Купалы як паэта, драматурга, літаратурнага крытыка і публіцыста.

Пры падрыхтоўцы выдання ўдакладнены даты напісання і крыніцы першай публікацыі твораў, выпраўлены недакладнасці і друкарскія памылкі, значна пашыраны гісторыка-тэксталагічны і рэальны каментарый. Упершыню ў практыцы выдання спадчыны Я. Купалы ў асобны раздзел вынесены варыянты і іншыя рэдакцыі твораў, зроблена тэксталагічнае апісанне зборнікаў «Жалейка», «Гусляр», «Шляхам жыцця», «Спадчына», раскрыта гісторыя іх стварэння.

У аснову Поўнага збору твораў пакладзены жанрава-храналагічны прынцып:

першы том — вершы і пераклады 1904—1907 гг., польскамоўныя вершы, раздзел «Dubia»;

другі том — вершы і пераклады 1908—1910 гг.;

трэці том — вершы і пераклады 1911—1914 гг.;

чацвёрты том — вершы і пераклады 1915—1929 гг., вершы невядомых гадоў, раздзел «Dubia»;

пяты том — вершы і пераклады 1930—1942 гг.;

шосты том — паэмы і пераклады;

сёмы том — п'есы і драматычныя паэмы;

восьмы том — літаратурна-крытычныя артыкулы, раздзел «Dubia»;

дзевяты том — празаічныя пераклады і пераклады п'ес, лісты,

калектыўныя творы, раздзел «Дадатак», які змяшчае дарчыя надпісы, рэдактарскія заўвагі Я. Купалы; у гэты том уключаны таксама «Летапіс жыцця і творчасці», даведачны апарат.

Пры размяшчэнні твораў па тамах складальнікі адмовіліся ад традыцыйнага падзелу творчасці Я. Купалы на дарэвалюцыйны і савецкі перыяд.

За асноўны тэкст твораў прыняты Збор твораў Янкі Купалы ў шасці тамах 1925—1932 гг. (Мінск) як найбольш поўнае і аўтарытэтнае выданне, у падрыхтоўцы якога прымаў непасрэдны ўдзел аўтар. Творы, якія напісаны Купалам пасля выхаду ў свет вышэйпамянёнага Збору твораў, а таксама перапрацаваныя аўтарам, друкуюцца па апошніх прыжыццёвых выданнях. У раздзеле «Каментарыі» да кожнага твора падаюцца звесткі аб крыніцы асноўнага тэксту, першай публікацыі, прыжыццёвых публікацыях у зборніках і многіх перыядычных выданнях. Акрамя друкаваных матэрыялаў шырока выкарыстаны аўтографы паэта і іншыя архіўныя матэрыялы, якія захоўваюцца пераважна ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы і БДАМЛіМ (Мінск).

На падставе вывучэння друкаваных і рукапісных крыніц унесены пэўныя тэксталагічныя праўкі ў паасобныя творы паэта.

Рэдакцыйная калегія выказвае падзяку за дапамогу пры падрыхтоўцы выдання супрацоўнікам Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы.

# ПРАРОК НАЦЫЯНАЛЬНАГА АДРАДЖЭННЯ



## I

У кожнай нацыянальнай літаратуры ёсць імёны асабліва значныя і славутыя, якія найбольш поўна ўвабралі ў сябе вопыт перажытага, здабыткі папярэднікаў, сталі прызнанымі песнярамі свайго народа, яго гістарычнага лёсу. У славян гэта — Пушкін, Шаўчэнка, Міцкевіч, Прэшэрн, Негаш, Гвездаслаў... У іх сузор'і свеціцца і зорка Янкі Купалы. Ён стварыў такія мастацка-філасофскія, ідэйныя каштоўнасці, якія не маюць аналагаў у іншых народаў. Праз яго творы беларускі народ расказаў свету пра сваё жыццё і звычаі, гісторыю, прыроднае ўлонне, раскрыў свой светапогляд і норавы, прад'явіў, інакш кажучы, неабвержнае мастацка-паэтычнае сведчанне аб сваім існаванні на зямлі... Гістарычная своеасаблівасць гэтай постаці заключалася ў тым, што з самага пачатку, з так званага «жалейкавага» перыяду, у творчасці Купалы, у адзенні паэта, выступаў прарок нацыянальнага Адраджэння, які, валодаючы вялікім паэтычным дарам, на ўвесь свет абвясціў выхад беларускага народа на арэну гісторыі.

Сапраўднае яго прозвішча — Луцэвіч Іван Дамінікавіч. Нарадзіўся ён амаль на купальскае свята — 7 ліпеня 1882 г. (па новаму стылю) у самым цэнтры Беларусі, пад Мінскам, у фальварку Вязынка былой Радашковіцкай воласці (зараз Маладзечанскі раён Мінскай вобл.). На Міншчыне нарадзіліся і бацькі паэта: Дамінік Ануфрыевіч — у засценку Пяскі, каля Ігумена (Ігумен — цяперашні Чэрвень), і Бянігна Іванаўна, маці, якая паходзіла з фальварка Няшота, што непадалёк ад мястэчка Рубяжэвічы. Абое належалі да дробнай шляхты, пабраліся ў 1879 г. (Бянігна Іванаўна нават супраць волі бацькоў, парваўшы з сям'ёй). Сваёй зямлі ў іх не было, і Дамінік Ануфрыевіч вымушаны быў (дарэчы, як і яго бацька) стаць арандатарам памешчыцкіх фальваркаў.

У сваёй біяграфіі і творчасці Янка Купала як бы спалучае два стагоддзі — XIX і XX. Дзяцінства і юнацтва паэта прыпадаюць на 80—90-я гг. XIX ст.— змрочны перыяд расійскай гісторыі — перыяд, калі Беларусь афіцыйна іменавалася «Северо-Западным краем» царскай імперыі, а народ гэтага «краю» цягнуў надзвычай гаротнае існаванне. Адмена прыгоннага права (у 1861 г.) не вырашыла на Беларусі пытання аб зямлі і мала паправіла становішча сялянства. Была ж Беларусь краем пераважна сялянскім, гарадское насельніцтва складала тут нават пазней — 1913 г.— усяго толькі 4 %. Сялянства ў парэформенны перыяд па-ранейшаму бедавала ў галечы. Не палепшыла справы і

стварэнне земстваў, якія, хаця і прынеслі пэўную карысць, не толькі не спынілі злоўжыванняў з боку чыноўнікаў, але і спарадзілі новыя.

Пачатак 80-х гг. адзначаны агульным крызісам. У 1881 г. быў забіты цар Аляксандр II. Самадзяржаўе, тым не менш, не жадала здаваць пазіцый. Узмацняецца палітыка русіфікацыі. Яна не была навіною і прымянялася на беларускіх землях яшчэ пасля паўстанняў 1831 і 1863 гг. як пакаранне, якое накладалася на бунтаўнічы край. Цяпер русіфікацыя стала формай забароны і знішчэння нацыянальнай адметнасці, мовы, гісторыі... Таму пытанне «быць ці не быць» у якога іншага народа не стаяла так востра і драматычна, як у беларусаў. Гістарычныя рамкі сацыяльна-палітычнага ладу, якім ён усталяваўся к пачатку XX ст. у Расіі, перакрылі ім шлях да багацця і культуры, пазбавілі грамадскай справядлівасці, правоў і свабоды.

Дзяцінства Янкі Купалы прайшло ў вандраваннях па Міншчыне — ад фальварка да фальварка, ад пана да пана. У Косіне, калі Ясю споўнілася шэсць гадоў, ён упершыню пачаў вучыцца грамаце — сын аднаго з служачых маёнтка па прозвішчы Патаповіч (імя невядома) навучаў яго па-польску. Хлопчык рос добразычлівым, шчырым, разумным і, як успаміналі сёстры, вельмі спагадлівым. У Сенніцы бацька аддае сына ў мясцовае двухкласнае народнае вучылішча, дзе ён займаецца ў рускай настаўніцы Алімпіяды Сонцавай.

Вучыўся ён і ў вандроўных настаўнікаў, і сам пры магчымасці шмат чытаў у вольны ад работы час. Сярод тых, хто паўплываў на будучага паэта, быў Уладзімір Самойла — потым вядомы літаратар, які шмат дапаможа Янку Купалу на яго паэтычнай пуцявіне, а таксама Зыгмунт Чаховіч — удзельнік паўстання 1863 г. У яго маёнтку (у Селішчы) знаходзілася багатая бібліятэка.

У 1902 г. здарылася няшчасце, памёр бацька Дамінік Ануфрыевіч,— у чужой хаце, так і не прыдбаўшы ўласнага кавалка зямлі. Ясь — старэйшы з семярых дзяцей — застаецца за гаспадара. Праз паўгода памірае ад шкарлятыны малодшы брат — Казік, а яшчэ праз тыдзень — сёстры Сабіна і Гэля. Купала перажыў за сваё жыццё шмат глыбокіх і моцных узрушэнняў, якія адбіліся на яго творчасці. Смерць бацькі, брата і сясцёр скаланула яго да глыбіні душы. Адчуванне абдзеленасці шчасцем-доляю не пакідае на працягу ўсяго жыцця...

Каб карміць сям'ю, даводзіцца не толькі працаваць на гаспадарцы, але таксама шукаць работу ў іншых месцах — на пасадзе хатняга настаўніка, пісара ў судовага следчага і інш. Усё гэта садзейнічала набыццю жыццёвага вопыту, разнастайнасці ўражанняў і перажыванняў і, вядома, патрабавала нейкага выйсця. Купала рана адчуў вострую патрэбу ў тым, каб раскрыць сваю душу, падзяліцца вопытам перажытага, расказаць пра тое, што яго хвалявала.

Першыя творы былі напісаны па-польску. Беларуская мова на той час усё яшчэ знаходзілася пад забаронаю, і спадзявацца на публікацыю не даводзілася. Акрамя таго, малады паэт быў слаба знаёмы з беларускай літаратурнай традыцыяй. На працягу 1903—1904 гг. у польскім часопісе «Ziarno» ён надрукаваў некалькі вершаў на польскай мове. Праўда вымушае сказаць, што польскія вершы маюць даволі неакрэслены сентыментальна-рамантычны характар і ў многім пазбаўлены той самастойнасці і арыгінальнасці, якія ўласцівы для яго творчасці сталай пары. Малады паэт знаходзіўся ўсё ж такі ў беларускім моўным асяроддзі, якое падтрымлівала ўсё яго існаванне і духоўнасць, жывіла тыя псіхічныя параметры, якія фармуюць асабовы свет чалавека і кіруюць яго свядомымі і падсвядомымі ўчынкамі. Штуршком — каб пісаць па-беларуску — з'явіліся кніжкі выдатных беларускіх па-

этаў XIX ст. Ф. Багушэвіча («Дудка беларуская») і В. Дуніна-Марцінкевіча («Гапон»), выдадзеныя за мяжой. Здарылася гэта недзе ў 1904 г. Матчына мова, якая прамаўляла з аркуша белай паперы, зрабіла глыбокае ўражанне, дзякуючы ёй можна было душэўна паразумецца, адчуць цяпло роднасці, дабрыні і спагады. «Братцы мілыя, дзеці Зямлі-маткі маёй! — пісаў у прадмове да «Дудкі беларускай» Мацей Бурачок.— Вам афяруючы працу сваю, мушу з вамі пагаварыць трохі аб нашай долі-нядолі, аб нашай бацькавай спрадвечнай мове, каторую мы самі, ды не адны мы, а ўсе людзі цёмныя «мужыцкай» завуць, а завецца яна «беларускай»...»

А праз колькі абзацаў далей Бурачок засцерагаў: «Шмат было такіх народаў, што страцілі наперш мову сваю, так як той чалавек прад скананнем, катораму мову займе, а потым і зусім замёрлі. Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі».

Над гэтым варта было задумацца...

Адзін з першых вершаў, напісаных на роднай мове, так «па-багушэвічаўску» і называўся — «Мая доля» (ён якраз адзіны і захаваўся з усяго напісанага ў гэты час). Датуецца 15 ліпеня 1904 г. Верш цікавы як адпраўны пункт працяглай ідэйна-эстэтычнай эвалюцыі яго аўтара:

Мая доля, дык вось доля,
Каб ты лопнула была!
Каб у чыстае дзе поле,
Ад мяне ты ўцякла!..

Не даеш ты мне спакою
Ані ўночы, ані ўдзень,—
Усё ходзіш ты за мною,
Як нябожчыка той цень...

Сапраўдная паэзія, як вядома, пачынаецца з біяграфіі, характару, жыццёвага вопыту паэта. «Маёй долі» ўсяго гэтага ў поўнай меры не ставала. Гэта — узор міфатворчага мыслення ранняга Купалы, пераймання ім не толькі паэтычных матываў Ф. Багушэвіча, але і традыцый фальклору, у якім чалавечым паводзінам звычайна надаецца характар усеагульнасці.

Варта адзначыць таксама, што верш «Мая доля» чымсьці блізкі і хрысціянскаму пункту гледжання (Купала быў каталікам па веравызнанню), згодна якому зло, ліхая доля заключаны не ў чалавеку, а ў больш магутных сілах, што знаходзяцца недзе па-за ім, вакол яго, у тым свеце, у якім ён жыве. Як бы там ні было, народны характар верша відавочны. Праз голас з народнага хору ён праўдзіва перадае псіхалагічна-эмацыянальнае самаадчуванне чалавека з народа, яго духоўную прыгнечанасць і зададзеную жыццёвую наканаванасць, своеасаблівы фаталізм. Па сутнасці, паэт паказаў тыранічную залежнасць асобы ад асяроддзя, характару ад абставін і поўную немагчымасць якога-небудзь выбару.

Узнікла пытанне: ці магчымы для чалавека іншыя сацыяльныя і псіхалагічныя нормы і тыпы паводзін, як толькі заставацца рабом сваёй долі? Гэтае пытанне знаходзіцца ў цэнтры ўсяго пачатковага этапу творчасці Купалы.

Матыў пошукаў чалавекам самога сябе, сваёй сапраўднай долі чырвонай ніццю праходзіць праз усе першыя яго кнігі.

Між тым узмежжа XIX — XX стст. было эпохай прадчування вялікіх перамен, сацыяльных зрухаў, часам надзей і спадзяванняў.

Імкненне «пісаць па-беларуску» супала з уздымам хвалі рэвалюцыйных настрояў, што ў многім было выклікана паражэннем у руска-японскай вайне, якая паказала адсталасць Расіі і няздатнасць самадзяржаўя кіраваць імперыяй. Ажыўляецца нацыянальна-вызваленчы рух і на Беларусі, узнікае палітычная партыя — Беларуская сацыялістычная грамада (БСГ), якая, дарэчы будзе сказаць, звярнулася да

беларускага чалавека ў сваіх адозвах на яго роднай мове. Сярод яе арганізатараў былі вельмі вядомыя потым дзеячы: браты Луцкевічы, А. Бурбіс, К. Каставіцкі (Карусь Каганец), В. Іваноўскі, В. Ластоўскі, А. Пашкевіч (Цётка), Ф. Стацкевіч, А. Уласаў, Ф. Умястоўскі (Дзядзька Пранук), А. Смоліч і інш. На гэты актыўны і свядомы нацыянальна-дэмакратычны рух і абапіраўся паэт у сваіх ідэйных і мастацкіх пошуках. У 1904 г. ён упершыню знаёміцца з пракламацыямі на беларускай мове, якія ён атрымліваў (як і нелегальную літаратуру для распаўсюджвання) ад актыўнага ўдзельніка рэвалюцыйнага руху ў Вільні, будучага грамадскага дзеяча паслякастрычніцкай Беларусі Алеся Бурбіса. Вясною 1905 г. Купала і сам удзельнічае ў маёўцы рабочых гуты «Залессе» (цяпер Вілейскі раён), а 15 мая гэтага ж года ў мінскай газеце «Северо-Западный край» публікуе славуты свой верш «Мужык», падпісаны псеўданімам «Я. Купала». Гэта і было першае выступленне ў друку. Газета выходзіла на рускай мове, але купалаўскі верш быў апублікаваны ў арыгінале — ды ён таго і заслугоўваў. Ад «Маёй долі» яго аддзяляе ўсяго толькі год, але розніца відавочная.

У «Мужыку» Купала адыходзіць ад фальклорна-міфалагічнага мыслення і, гаворачы пра рэальнае становішча беларуса, звяртаецца да больш канкрэтных індывідуалізаваных сродкаў мастацкай тыпізацыі. Гэтаму спрыяла новая, больш актыўная канцэпцыя купалаўскага героя, які ўпершыню кідае выклік свайму лёсу:

Але хоць колькі жыць тут буду,
Як будзе век тут мой вялік,
Ніколі, браткі, не забуду,
Што чалавек я, хоць мужык.

Гэта быў верш-учынак. Людзі пачулі ў ім голас беларускага селяніна. І паэт, і яго герой — мужык — адчулі, што свет уступіў у новую паласу гістарычных зрухаў. Настала пара, каб вярнуць мужыку яго чалавечае «я», грамадскую свядомасць, родавую пэўнасць і адметнасць. Сучаснікі ўбачылі ў гэтым творы вострую і эстэтычна пераканаўчую крытыку таго спаконвечнага песімізму, якім былі акутаны лёс і само існаванне беларускага народа. З гонарам сапраўднага дэмакрата Купала сцвярджае павагу да простага чалавека, права змагацца за сваё чалавечае званне. Менавіта такім чынам ён вяртаў беларусу сэнс жыцця, які, па сутнасці, быў для яго страчаны.

У характары верша і ўсім яго кампазіцыйна-стылявым ладзе адчуваліся спакойная ўпэўненасць, эпічная ўгрунтаванасць, тая духоўная нерастрачанасць і моц, што ідуць ад беларускай літаратуры XIX ст. і нават ад больш старажытных эпох і сведчаць аб яго прыналежнасці да глыбокай нацыянальнай традыцыі. Якой бы цяжкай ні была доля беларуса, яна дазволіла яму выпрацаваць свой асаблівы менталітэт і захаваць нацыянальную адметнасць, што ён і падкрэсліваў, называючы сябе *тутэйшым*. Вядома, многае, асабліва любоў да зямлі, радніла беларускага селяніна з суседзямі, напрыклад, з рускім селянінам, над таямніцаю душы якога шмат думаў вядомы знаўца народнага характару Глеб Успенскі. Аднак рускі мужык і беларускі пры ўсёй супольнасці іх сацыяльна-эканамічнага становішча мелі даволі істотныя гісторыка-тыпалагічныя адрозненні. Руская вёска жыла пераважна абшчынаю. Іншая справа — беларуская. «Общины» як пэўнай формы землекарыстання на Беларусі,— піша А. Цвікевіч у сваёй працы «Западно-руссизм»,— ніколі не было; тут спрадвеку былі развіты індывідуальныя, падворныя формы сялянскага землекарыстання, так што не было жаднай прычыны распаўсюджваць на Беларусь гэтую

спецыфічна велікарускую адзнаку. Не было дзеля гэтага рацыі бачыць у беларускім жыцці тыя сацыяльныя ды палітычныя элементы, якія славянафільства, а з ім і «западно-русізм» выводзілі з «общинного порядка» Расіі: так зв. «уладу зямлі», сувязь народа з уладай і тую «ўнутраную праўду» Расійскай дзяржавы, якую шукалі славянафілы. Індывідуальна-парламентарны лад Беларусі эпохі Літоўскага статуту з дамешкай феадальна-арыстакратычных элементаў пазнейшага беларуска-польскага перыяду рэзка адрознівалі Беларусь ад Расіі на працягу шмат вякоў»[1].

«Абшчынная» структура рускай вёскі аб'ектыўна была скіравана супраць любога праяўлення свабоды, волі. Фактычна яна ўмацоўвала «роевую свядомасць», калі чалавек страчвае здольнасці да самастойнага дзеяння, губляе сваю індывідуальную непаўторнасць, пераўтвараецца ў функцыю. У беларускай вёсцы не было сляпога падпарадкавання асобы групе, супольнасці. Купала гэта ведаў і таму стаяў не за «саборнасць» і калектывізм, а за індывідуальнасць уласніка, якую паказваў яму вопыт беларускага сялянства. У перыяд першай рускай рэвалюцыі палітыкі-сацыялісты з БСГ абмяркоўвалі ідэю калектывізацыі зямлі, імкнучыся надаць ёй статус праграмнага палажэння. Купала не падзяляў гэтай думкі пра неабходнасць абагульнення зямлі і правядзення калектывізацыі сельскіх гаспадарак. Ён гранічна ясна і прадметна сфармуляваў патрабаванні бяднейшага сялянства. Палітычная эканомія пры гэтым, не страціўшы сваёй канцэптуальнасці, стала пад яго пяром «эканоміяй» паэтычнай:

Ад свету, ад бога
Жадаю нямнога:
Зямелькі з валоку,
К ёй шнур неўдалёку,
З святлічкай хацінку,
За жонку дзяўчынку,
Кусок салца к хлебу,
Рубля на патрэбу,
Здароўя чым болей,
Крыху долі, волі —
І ўсё! больш нічога...
Ну, ці ж гэта многа?!

*(«Ці ж гэта многа?!»)*

Гэта не наіўны русаізм, а імкненне дасягнуць гармоніі на шляхах развіцця чалавечай і грамадскай культуры.

Поспех «Мужыка» ўзбадзёрыў і акрыліў паэта, ён піша вершы, паэмы, перакладае, але працуе, як цяпер бы сказалі, «у стол»: друкаваць не было дзе... Між тым жыццёвая адысея паэта працягваецца. Восенню 1905 г. ён паступае практыкантам на бровар Сёмкава Мінскага павета (16 км ад Мінска), дзе, аднак, фактычна працуе чорнарабочым. Затым была праца памочніка вінакура ў Яхімаўшчыне Вілейскага павета і ў маёнтку Дольны Сноў Навагрудскага павета. Гэта былі своеасаблівыя універсітэты жыцця. Ён на ўласныя вочы бачыў, што ўсюды патагонная сістэма працы, што людзі працуюць доўгія гадзіны і цяжка, а харчуюцца вельмі дрэнна, умовы жыцця невыносныя.

Рэвалюцыйныя падзеі 1905 г. прымушаюць царызм дазволіць беларускі друк. У Пецярбургу ў 1906 г. ствараецца выдавецкае таварыства «Загляне сонца і ў наша аконца». З лістапада гэтага ж года ў Вільні пачынае выдавацца штотыднёвая газета «Наша ніва», якая на працягу свайго існавання адыграла выключна вялікую ролю ў грамадскім жыцці беларускага народа і яго нацыянальным развіцці і аказала значны ўплыў на асабісты лёс Я. Купалы і яго творчасць. У «Нашай ніве» 11 мая 1907 г. ён надрукаваў верш «Касцу», які стаў першым

[1] Спадчына. 1992. № 2. С. 44.

выступленнем паэта ў беларускім друку. Газета ўсур'ёз зацікавілася маладым паэтам, і з ліпеня па верасень таго ж 1907 г. на яе старонках, услед за вершам «Касцу», з'яўляюцца новыя творы: «Лета», «Ці ж гэта многа?!», «Вучыся...», «Былі ў бацькі тры сыны...» і інш.

Па часе адказваючы на пытанне аб вытоках сваёй творчасці, Купала пісаў: «Якімі былі паэтычныя штуршкі? Усё, што акаляла: і сацыяльная, і нацыянальная крыўда, і беларуская прырода, і песні, пачутыя на полі, на вяселлі, на вечарынцы і г. д.». І сапраўды, вершы сведчылі, што паэт добра ведае патрэбы і спадзяванні селяніна, умее маляваць вясковы побыт, працоўнае жыццё земляроба. Паэзія Купалы адкрывае беларусу яго прыроднае ўлонне, гісторыю, лёс. Тое, што каму-небудзь іншаму па даўняй звычцы здавалася бедным і сціплым і не вартым нават увагі, у паэта выклікае глыбокае душэўнае ўзрушэнне. У яго паэзіі фарміруюцца эмацыянальна-вобразныя структуры, у якіх адлюстроўваўся нацыянальна-псіхалагічны архетып судакранання чалавека і прыроды. Купала ўспрымае прыроду не толькі з духоўна-эстэтычнага боку, але і з пункту гледжання той ролі, якую яна адыгрывае ў жыцці селяніна. Гэта добра відаць у вершы «Хлеб» (1906):

Мы і з сошкай ішлі, і з баронкай ішлі
Заслужыцца на ласку ў цябе,
І гной везлі, траслі на пусцейшай раллі —
Сеяць шлі аж па трэцяй арбе.

І свянцілі цябе, ідучы засяваць,
Выбіралі к сяўбе лепшы дзень,
А на лета цябе ўсёй сям'ёй шлі збіраць,
Сцераглі хмары, ўбачыўшы цень.

Канкрэтнае апісанне сельскагаспадарчай працы і клопатаў вясковых людзей надзіва дынамічнае, рухомае:

У калядны ж мароз, як шум дзікай зімы,
Слаў пракляцце і нам, і жыццю,
Шлі, не гледзя на ўсё, на ток досвіткам мы,
Шлі з цапамі па плату сваю.

І ўсё шчыра табе паслугоўвалі так,
Каб на воку нас, бедных, ты меў...
А ты што нам зрабіў, адплаціўся ты як?
Ці ты нас хаця чуць пажалеў?

У гэтым вершы Купала выяўляе дысгармонію жыцця, якая, аказваецца, ахапіла не толькі сацыяльны бок чалавечага існавання, але і ўсю сферу зямнога быцця. Кола спасціжэння навакольнага свету становіцца шырэйшым. Паэт пераконваецца, што ўзаемадзеянне чалавека і асяроддзя, у якім ён існуе, мае складаны, востраканфліктны характар. Справа, як бачым, не толькі ў сацыяльных нягодах і бяспраўі — нават у самой прыродзе маюцца нейкія брутальныя сілы, жорсткія і бязлітасныя, якія спараджаюць зло.

Малады Купала актыўна звяртаецца і да жанру паэмы. 1 лютага 1906 г. завершана паэма «Зімою», а праз некалькі месяцаў другая — «Нікому». У наступным, 1907 г. напісана яшчэ адна — «Адплата кахання» (увайшла ў зборнік «Жалейка»). На працягу гэтага года створана таксама паэма «Калека». З'яўляюцца яны адна за другой, без доўгага перапынку. Матэрыялам для паэм паслужылі рэальныя зда-

рэнні, пра якія паэт мог даведацца з судовых спраў пад час службы пісарам судовага следчага ў Радашковічах (1903), а таксама з жыцця наваколля. У іх сюжэтах і жывых дэталях адлюстроўваюцца канкрэтныя грані чалавечых характараў. Гэтым раннія паэмы блізкія да паэтыкі Я. Коласа: і там, і тут устаноўка на факт, падрабязнасць, апісанне. Але ў Купалы нават у ранніх яго рэчах угадваецца востры разлад з рэчаіснасцю, драматызм, рамантычны прынцып светаадчування. Героі Купалавых паэм адчуваюць сябе вельмі самотна, няўтульна і безабаронна. Усё адступае ад іх — людзі, суседзі-аднавяскоўцы, бацькі, нават сама навакольная прырода. Сувязь чалавека і прыроды інтэрпрэтуецца тут у духу старажытнага антрапамарфізму, які дапамагае адчуць глыбінны трагізм быцця. Ім адзначана, напрыклад, падзейная канва паэмы «У піліпаўку», герой якой — селянін — накіроўваецца ў далёкую дарогу па лекі для свайго адзінага хворага сына і замярзае ў зімовым полі пад суцяшальныя песні мяцеліцы. Удава хавае адначасова і сына, і мужа.

Сходзіўся ўдоўку пацешыць народ,
Братнім слаўцом адзываўся:
«Маеш адзін хоць расход і заход,
Крыжам адным абышлася!»

Сурова паставіўся лёс — у асобе пана — і да сям'і Юркі Дзягеля, сагнаўшы арандатара з апрацаванай ім зямлі і пусціўшы з жабрачымі торбамі па свеце (паэма «За што»). Паэма «За што», апрача ўсяго, яшчэ і водгук сямейнай драмы паэта, якую ён праз колькі год шырока разгорне ў п'есе «Раскіданае гняздо». Узнікае пытанне, ці варта ўвогуле жыць у гэтым жорсткім свеце. Адкрыта аўтар яго не ставіць, аднак яно адчуваецца ў глыбіні, у змрочным рамантычным падтэксце.

Паводле свайго светапогляду Я. Купала, як і многія іншыя беларускія пісьменнікі таго часу, быў пераважна асветнікам, які імкнуўся далучыць свой народ да культуры і цывілізацыі. Ён лічыў, што прыкрым нечаканасцям і злу, стоеным у самой прыродзе і навакольным асяроддзі, сярод якіх існуе чалавек, можна супрацьставіць навуку, асвету, вопыт, а як быць з сацыяльным злом, з жахлівай несправядлівасцю маральна-прававой практыкі грамадства? Купала быў непрымірымы да непрасветленага ў чалавеку, да неабуджанасці ў ім чалавечых якасцей, да таго пракаветнага цярпення, якое праявіў беларус у адносінах да свайго становішча.

Намаганні беларускай інтэлігенцыі адрадзіць нацыянальную культуру, абудзіць народ ад сну сустракалі значнае процідзеянне з боку польскіх і рускіх шавіністаў. Уладныя структуры, панства і чыноўніцтва, рабілі ўсё, каб народ страціў сваю нацыянальную аўтэнтычнасць і прымкнуў да нейкага — усходняга ці заходняга — боку. У 1907 г. Купала стварае знакамітае сваё «Ворагам Беларушчыны» — водпаведзь рускім і польскім шавіністам, якія без канца нападалі, паводле выразу паэта, «на ўсё беларускае»:

Чаго вам хочацца, панове?
Які вас выклікаў прымус
Забіць трывогу аб той мове,
Якой азваўся беларус?

Гэта адзін з самых выдатных узораў ранняй купалаўскай лірыкі, дзе знайшоў адэкватнае самавыяўленне той неўтаймоўна-бурлівы стан, у якім знаходзіўся ў той час паэт, прамоўніцкім пафасам і тэмпераментам нагадваючы біблейскага Іезікііля.

Чаму вам дзіка яго мова?
Паверце, вашай ён не ўкраў,
Сваё ён толькі ўспомніў слова,
З якім радзіўся, падрастаў...

Царкоўна-кніжная мова ў духу старога тастамента знітавана тут з народна-бытавым, размоўным словам і інтанацыяй. Верш «Ворагам Беларушчыны» ўзнавіў і развіў патрыятычныя традыцыі палемічнай беларускай літаратуры XVI — XVII стагоддзяў — А. Філіповіча, М. Сматрыцкага, С. Зізанія і іншых пісьменнікаў, якія стаялі на варце нацыянальных інтарэсаў свайго народа і не давалі яго ў крыўду розным непрыяцелям і нядобразычліўцам.

У вершы «Ворагам Беларушчыны» Купала, па сутнасці, выступае спадчыннікам традыцый беларускага барока, пра што сведчыць павышаная экспрэсіўнасць твора і эмацыянальнасць, якая ўзнімаецца да патэтыкі.

## 2

Гісторыя літаратуры сведчыць, што вершы сапраўднага паэта нашмат выйграюць, калі іх збіраюць разам. Гэтую ісціну пацвердзіла і «Жалейка» — першы купалаўскі зборнік, які з'явіўся на свет у 1908 г. у выдавецтве «Загляне сонца і ў наша аконца». Кнігу прыхільна сустрэлі грамадскасць і літаратурная крытыка, на якіх яна зрабіла вялікае ўражанне. «Жалейка» населена беларускімі тыпамі. Гэта — мужык-земляроб (у розных іпастасях), пан (ці «панічок», як называе яго паэт) — уладальнік маёнтка, шматлікія падпанкі, жнеі, рамеснікі, «бабулька — прадаўшчыца зёлак», старцы. «Сорка, што соль прадае»...

Вось яны — жнеі:

Пагнуўшы ў крук худыя спіны,
Сярпом махаючы крывым,
Мы, жонкі, ўдовы і дзяўчыны,
Пры доўгай постаці стаім.
І дружна жнём,
І паддаём
Адна адной
Ахвоты больш,
І песню жаласна пяём.

Купала добра ведаў беларускую вёску XIX ст., бачыў, што з прыходам новага стагоддзя ў ёй нічога не памянялася.

Асобна кожную загонам
Нас надзяліў пан-дабрадзей,
А над усімі злы аконам
Стаіць, ганяе жаць бардзей...

(*«Песня жней»*)

Рытмічнае поўнагалоссе верша даносіць да чытача не проста дынаміку жніва, але і працоўную злосць жней, апантанасць працай, напал іх пачуццяў і іронію аўтара, які і тут непахісна стаіць на варце справядлівасці, на баку «бедных і загнаных».

У «Жалейцы» мастацка-паэтычнай увагай і прызнаннем песняра адзначаны самыя звычайныя прадметы сялянскай працы і побыту: саха, каса, тапор, лапці, хатка, дрэвы — вольха, ліпа, бяроза... Яны ўвасабляюць яго жыццёвую долю, аднак у гэтых дэталях раскрываецца

і замацоўваецца не столькі рэальна-побытавыя падрабязнасці сялянскага жыцця ў натуральнасці іх зместу (як гэта было ў творах беларускай літаратуры да Купалы), колькі вобразныя згусткі паэтычных эмоцый аўтара.

«Жалейка» пацвердзіла, што прырода мастацкага метаду яе аўтара — рамантычная, аднак дэталі і абставіны жыцця тут нярэдка яшчэ ўзвышаюцца над асобай лірычнага героя. Рэальнасць навакольнага існавання ў «Жалейцы» яшчэ не поўнасцю падпарадкавана ідэальнаму, суб'ектыўнаму свету, у якім жыве лірычны герой паэта-рамантыка. Так будзе далей, у «Гусляры», калі канкрэтыка адсунецца на задні план, а на першым акажацца самацэннае быццё асобы.

Аднак ужо і ў «Жалейцы» многія вершы сведчылі пра ўменне аўтара зазірнуць за гарызонт будзённага жыцця, узвысіць духоўны пачатак. Адным з такіх твораў было яго славутае «А хто там ідзе?»:

А хто там ідзе, а хто там ідзе
У агромністай такой грамадзе?
— Беларусы.
А што яны нясуць на худых плячах,
На руках ў крыві, на нагах у лапцях?
— Сваю крыўду.

Гэты верш, створаны ў духу старога біблейскага тастамента, дае важныя падставы, як і многія іншыя творы Купалы, гаварыць пра сувязь яго з Бібліяй. Як паэт-прарок, вяшчун Адраджэння, ён свядома і інтуітыўна адчуваў патрэбу абапірацца не толькі на навукова-асветніцкія ідэі, але і на ўвесь вопыт чалавецтва, у тым ліку і рэлігійны. Прарочы дар Купалы якраз выявіўся ў тым, што праблемам беларускай гісторыі ён надаваў абагульняючы характар, паказваючы іх як праблемы агульначалавечыя. Біблія давала яму магчымасць глабальнага погляду на гісторыю свайго народа. Не забудзем, што з Бібліі пачынаў некалі і Францішак Скарына — нястомны перакладчык старазапаветных тэкстаў, якія ў беларускай трансфармацыі павінны былі ўзняць духоўны ўзровень нацыянальнага этнасу, садзейнічаць ідэйнамаральнаму вызначэнню свядомасці народа, выхаванню ў ім стойкасці, моцы і трываласці. За ўзор ім браўся прыклад старажытнаіудзейскай гісторыі яўрэйскага народа.

Біблія стымулявала думку. Тагачасная духоўная сітуацыя, якую Купала бачыў у навакольнай паўсядзённасці і што адбілася ў «Жалейцы», нагадвала яму тую, у якую трапіў старажытнаяўрэйскі народ, калі апынуўся ў егіпецкім палоне, страціўшы свабоду і самастойнасць. Разам з іншымі фактарамі Біблія дапамагала беларускаму паэту пачатку XX ст. адчуць прызванне прарока нацыянальнага Адраджэння, будзіцеля народных мас. Зразумела, паэт не дамагаўся нейкай прывілеяванай выбранасці для свайго народа — месіянізм быў для яго сродкам супрацьстаяння нацыянальнай асіміляцыі і дапамагаў увасобіць у слове тытанічны змест, здольны абудзіць народ на барацьбу за сваю чалавечую годнасць.

Пэўнае месца ў «Жалейцы» заняла інтымная і пейзажная лірыка.

Восенню 1908 г., пасля трохгадовай службы на броварах у маёнтку Дольны Сноў, па запрашэнню беларускай інтэлігенцыі, знаёмай з яго вершамі, Я. Купала прыязджае ў Вільню. Уладкоўваецца на працу бібліятэкарам у прыватнай бібліятэцы «Знание» Б. Л. Даніловіча і адначасова супрацоўнічае ў газеце «Наша ніва».

У Вільню Купала прыехаў не з пустымі рукамі — сярод творчых здабыткаў была драматычная паэма «Адвечная песня», напісаная

яшчэ ў жніўні 1908 г. у Бораўцах (дзе ў той час сям'я арандавала фальварак). Выдадзеная ў 1910 г., «Адвечная песня» сведчыла пра новыя павевы ў яго творчасці. У жанры паэмы праглядваліся рысы своеасаблівай сацыяльна-бытавой драмы, у якой аўтар — мастак новага часу — дасягнуў высокай ступені эстэтычнага абагульнення з'яў жыцця. Постаці і сітуацыі ў гэтай паэме пераносяцца з побытавага плана ў іншае — філасофска-светапоглядкае — вымярэнне, набываючы пераносна-метафарычны сэнс. Герой «Адвечнай песні» — Мужык — у сваёй жыццёвай сутнасці не столькі селянін, колькі універсальны чалавек увогуле. За рэалістычным сюжэтным покрывам у паэме тоіцца абагульненне амаль касмічных абсягаў, якое цалкам увабрала ў сябе жыццёвы вопыт купалаўскага героя і паставіла пытанне аб сэнсе чалавечага быцця наогул.

Англійскі эстэтык і філосаф Кодуэл (XX ст.) лічыў, што ў аснове мастацтва знаходзіцца канфлікт паміж «чалавекам натуральным» і «чалавекам грамадскім». Інакш кажучы, з аднаго боку, чалавек цар прыроды, з другога — раб існуючага становішча рэчаў, якое прымушае яго падпарадкоўвацца сабе. Трапляючы пад уладу абставін і сітуацый, ён вымушаны расстацца з уласным характарам. Нешта такое і адбываецца з Мужыком — героем «Адвечнай песні», на якім ляжыць пячатка бяссілля і адсутнасці. Светам — паводле законаў энтрапіі — кіруюць Смерць, Час, якія абыходзяцца з Мужыком асабліва жорстка,— яго жыццёвае становішча вядзе да хуткага і поўнага вычэрпвання ўсіх духоўных і фізічных сіл. Вядома, у ім пазнаецца перш за ўсё беларускі селянін, дух якога абмярцвеў, заціснуты ў самім сабе.

У апошняй сцэне «На могілках» над магілай узнімаецца цень Мужыка, якому хочацца даведацца, што ж адбываецца ў свеце пасля яго смерці. Але яго ізноў чакае расчараванне: няма «сцежкі і прасвету», усё «чахне без сіл». І вось — апошні жахлівы акорд, якога, магчыма, не ведала сусветная літаратура:

Раскрыйся нанова, магіла:
Страшней цябе людзі і свет.

Гэтымі словамі галоўнага героя — Мужыка — заканчваецца «Адвечная песня».

Памылкай было б нават на ранніх этапах творчасці лічыць Янку Купалу толькі вясковым, сялянскім паэтам — яго творчасць уключала агульначалавечую праблематыку. «Адвечная песня» малюе немэтазгоднасць зямнога жыццеўладкавання чалавека. Нават больш таго. Паэт бачыць, што рэальнае яго жыццё не проста неўладкаванае і трагічнае — яно абсурднае. Бо якім жа яшчэ можа быць існаванне чалавека, пазбаўленага правоў і асабістай годнасці, як не абсурдным па самой сваёй сутнасці? У жыцці і смерці Мужыка Купалу бачыцца універсальная мадэль чалавечага лёсу. Усё гэта сведчыць, што мастацка-вобразная структура «Адвечнай песні» ўзбагацілася за кошт тагачасных мадэрнісцкіх уздзеянняў. На фарміраванне задумы «Адвечнай песні» аказала ўплыў, як гэта лічаць многія купалазнаўцы, п'еса Л. Андрэева «Жыццё чалавека». У купалазнаўстве гэта ўжо адзначалася. Такую ж ролю, думаецца, магла адыграць і другая п'еса Л. Андрэева — «Цар-Голад», пабудаваная на сходных драматургічных прынцыпах. Рысы тыпалагічнай супольнасці з творчасцю Л. Андрэева 1892—1906 гг. намеціліся ўжо ў ранніх паэмах Я. Купалы. У «Адвечнай песні» яны ўзраслі. Па сутнасці, ён, як і рускі пісьменнік, за паўстагоддзя да экзістэнцыялістаў паставіў пытанне аб абсурдным характары чалавечага існавання, у многім апярэдзіўшы іх мастацкія адкрыцці.

Але гэта была і спрэчка з Л. Андрэевым. Тут маем справу з паэтычнымі элементамі мадэрнізму, пераасэнсаванымі, аднак, у духу рэалізму, у выніку чаго яны атрымалі новую мастацкую функцыю. Яны не закрэсліваюць усіх спадзяванняў на лепшае. У паэме, як бы там ні было, адчуваецца прысутнасць думкі, заключанай у старажытным народным выслоўі: паміраеш, [redacted] жыта — сей!

Купалу ўсё менш задавальняе такое адлюстраванне рэчаіснасці, якое абмяжоўваецца яе непасрэдным капіраваннем або эмацыянальным выяўленнем,— паэт імкнецца тварыць свой арыгінальны мастацкі свет, які, адпавядаючы сваёй жыццёвай сутнасці, знаходзіцца ўсё ж такі ў больш складаных і апасродкаваных адносінах са сваёй рэальнай першаасновай. Ён звяртаецца да звышпрыроднага, пазапачуццёвага, што не дадзена чалавеку ў яго рэальных адчуваннях.

У вершы «Чорны бог» ён па-свойму інтэрпрэтуе апакаліптычны вобраз звера, які выходзіць з бездані.

У караўніцах амшалых
З галавы да ног,
З дзікіх багнаў, паравалаў
Выбрыў чорны бог.

Чорныя багі — у беларусаў гэта Мар, Марока (іх яшчэ называлі «дзівамі») — не абяцалі людзям дабра. Старажытныя міфы паэт выкарыстоўвае для выражэння сучасных ідэй: улада звера бачыцца яму ў бязлітаснай уладзе чалавека над чалавекам...

У снежні 1909 г. Купала з Вільні падаўся ў Пецярбург, дзе год назад убачыла свет яго «Жалейка». Цяпер ён меў пры сабе стос новых вершаў — аснову будучага зборніка «Гусляр».

У Пецярбургу Купала стаўся сваім у асяроддзі беларускай студэнцкай і рабочай моладзі, наведвае навукова-літаратурны гурток, створаны па ініцыятыве Б. Эпімах-Шыпілы, знаёміцца з прадстаўнікамі сталічнай інтэлігенцыі.

13 кастрычніка 1910 г. друкарня Пянткоўскага выдала тыраж зборніка «Гусляр».

Адной з іманентных заканамернасцей літаратурнай творчасці з'яўляецца тое, што пісьменнік ва ўсіх сваіх новых здабытках у той ці іншай форме працягвае і развівае сваю першую кнігу. «Гусляр» у гэтым сэнсе не з'яўляўся выключэннем, але ў ім было шмат новага. У лірычным перажыванні ўсё больш адлюстроўваецца ўнутраны стан паэта, верш вызваляецца ад традыцыйнай для беларускай паэзіі сюжэтнасці і апісальнасці. Адна з цэнтральных тэм зборніка — мастак і свет, мастак і народ. Яна гучыць у вершы «Сон» («Дарогай змучаны далёкай...») і ў шэрагу іншых твораў. «Сон» аўтар прысвяціў свайму настаўніку У. Самойлу:

Я лесам шоў, якаясь змора
Вяла па ім мой сячы дух,
А лес быў цёмны, як дно мора,
Як мора дно, быў нем і глух.

Я заблудзіў, і страшна стала
Мне ў гэтай пушчы аднаму;
Ды бурай неба рагатала...
І ўздумаў я: памру вазьму!

Надзея з вераю нямелі...
Тады, як з неба ці зямлі,
Якаясь цень падходзе ў белі,
Такая, быццам знаў калі...

У вершы Купалы таксама адбілася напружанасць духоўных пошукаў паэта, якія дапамагаюць яму зразумець сучасныя сілы жыцця, пазнаць яго сэнс, далучыцца да ісціны.

Купалаўскі «цень у белі» нагадвае пушкінскага «шасцікрылага серафіма»:

І кажа мне: «Чаго, сын міра,
Упаў так сэрцам і душой?
Я — песня, а во мая ліра.
Бяры нас! Хочам быць з табой.

І страх жыцця цябе аставе,
І бор пачне шумець жыццём;
Мы след праложым табе к славе,
Чаго жадаў, мы ўсё дадзём».

І дзіва! Блуд і страх мой зломан:
Лес прасвятлеў, загаманіў,
Мне стаў паняцен пушчы гоман...
Тут я збудзіўся, недасніў.

Праграмныя вершы «Сон», «Гусляр» і некаторыя іншыя былі, думаецца, напісаны не без уплыву У. Самойлы, эстэтычныя погляды якога фарміраваліся пад уздзеяннем рускага сімвалізму. Рэцэнзуючы зборнік «Жалейка», ён знаходзіў у Купалы празмерны «палітычны ўхіл». Цяпер, у новай кнізе паэзіі, Купала, услед за сваім настаўнікам, лічыць паэта не толькі дзіцем свайго часу і асяроддзя, але і сынам вечнасці, «сынам міру», адзначаным пячаткай прагістарычных і касмалагічных сувязей. Сваю самастойнасць Купала ўсведамляў і перажываў як абранасць. Паэта — гусляр — сын міру — абраннік. І гэта фундаментальная ўласцівасць яго паэтычнага светапогляду не толькі не аддаляла песняра ад сацыяльнага накірунку творчасці, а наадварот — узмацняла яго ролю як званара, прарока, будзіцеля народных мас. У «Гусляру» знаходзім глабальнае адчуванне эпохі, глыбіні і маштабу яе канфліктаў і катаклізмаў.

Паэт высока цэніць пачуццё асабістай свабоды. У дачыненні да зборніка «Гусляр» гаворка можа ісці нават не толькі пра свабоду, а пра свабоду як неабмежаваную волю. Аўтар «Гусляра» пратэстуе супроць усялякага прыгнёту і ўціску — гаворка ідзе не толькі пра ўціск грамадства і дзяржавы, але і аб саміх асновах светаўладкавання. У сваіх духоўных памкненнях купалаўскі лірычны герой перасягае сацыяльна-палітычныя і побытава-эканамічныя межы і ўяўленні і набывае касмаганічныя рысы.

Дайце разгону, прастору
Дрэмлючым песням і сілам,—
Дрогне запор наймацнейшы,
Мы ўскалыхнём і магілай.

Продка адвечную думу
Праўнук санлівы пачуе;
Што ўзяць курган нам маніўся,
На кургане адбудуем.

Шлях залаты працярэбім,
Зорна ўзнясёмся ў высоты
Вышай няpraўды, няславы,
Вышай пакутных балотаў.

*(«Песня і сіла»)*

Пясняр прагне стварыць сваю паэтычную мадэль светабудовы, якая павінна даць чалавеку схрон і ахову ад зла і безвыходнасці, што

акружаюць яго сярод зямной юдолі. Касмізм Купалы — гэта яго балючае рэагаванне на трагічную алагічнасць жыцця. За гэтым, трэба думаць, стаіць і горкае расчараванне ў спадзяваннях на хуткія рэвалюцыйныя перамены і крызіс веры ў мажлівасць такіх перамен...

У касмізме праявілася таксама, думаецца, антыбуржуазнасць паэта, які выступаў супраць неабуджаных, супраць тых, хто спіць, супраць чыноўніка і мешчаніна. У самазадаволеным абліччы мешчаніна бачыўся яму чалавек, што адпаў ад вечнага ідэалу, плоскі і шэры, заклапочаны ўсяго толькі матэрыяльнымі інтарэсамі штодзённага жыцця. У паэта ж — супрацьлеглыя інтарэсы. Узбуйненне постаці лірычнага героя надае незвычайны размах вобразна-эмацыянальным абагульненням, пашыраючы іх да філасофскіх абсягаў. Філасафічнасць пошукаў паэта абумоўлена імкненнем заглянуць у таямніцу часу, зразумець рух гістарычнага працэсу. У некаторых момантах ён наследуе біблейскаму Эклезіясту, які канстатаваў бяссілле чалавека перад тварам Часу. Гэта тычыцца такіх вершаў, як «Ноч за ночкай...», «Адцвітанне», «Воўк», «Грабар», «Запушчаны палац», «За годам год» і іншых з іх высокім рамантызмам, абумоўленым не толькі сваім нацыянальным болем, але і тым, што пецярбургскія сімвалісты называлі «мировой скорбью».

Нічога вечнага на свеце
Няма для шумнага жыцця;
Здарэнні, многія сталецці
Ідуць пад века забыцця.

*(«Кругаварот»)*

Чалавек падпарадкаваны гэтаму вечнаму кругазвароту, і ніпто, здаецца, не дае яму магчымасці ўзняцца над ім — ні сіла духу, ні высакароднасць, ні дабрыня. Аднак нагадвае пра сябе думка, падказваемая ўсё той жа светабудовай, якая так блізка падпусціла паэта-касміста да разгадкі сваіх таямніц:

Плача сонца маладое
Над планетай над старою,
Іскры сыплюцца цурком,
Што не тымі пуцінамі
Ходзяць леты за лятамі
У вечным зладзе з курганом.

*(«Знямога»)*

Сонца плача іскрамі — цікавы, адраджэнскі па сваёй паэтычнай энергетыцы вобраз. І вельмі хацелася Купалу верыць у прадказанні гэтага іскрыстага сонца, якое абяцала шчаслівыя змены і ў сацыяльна-гістарычным абліччы.

Вось такія «перапады» ў амплітудзе паэтавых адчуванняў — ад расчаравання ў гістарычным прагрэсе да надзеі на магчымасць усё ж такі прывесці яго ў чалавечую норму...

## 3

Пасля «Жалейкі», «Гусляра» і «Адвечнай песні» ўсім стала зразумела, што ў асобе Я. Купалы беларуская літаратура набыла выдатнага паэта-рамантыка. Рамантызм — заканамерная з'ява літаратурнага працэсу, і, здаецца, ніводная літаратура свету яго не абмінула. У Заходняй Еўропе ён узнік на ўзмежжы XVIII — XIX стст. на глебе адыходу ад рацыяналістычнага светапогляду. У немалой ступені ён паўплы-

ваў таксама і на развіццё новай беларускай літаратуры, якая заявіла аб сабе ў пачатку XIX ст., але, у сілу вядомых прычын, як след сябе не праявіў. Давялося чакаць яшчэ сто гадоў, і ў пачатку XX ст. М. Багдановіч з поўным правам пісаў: «Наша пісьменнасць яшчэ толькі зараджаецца, рамантызм для яе — не пройдзеная ступень, як у іншых літаратурах, а рэч зусім свежая». Гэта быў, нагадаю, пераломны час, час тэктанічных зрухаў у свядомасці народных мас і іх сацыяльным становішчы, у развіцці навукі, тэхнікі, мастацтва. Многія буйныя мастакі і інтэлектуалы заўважылі на пачатку XX ст., што далёка не ўсе дзеянні і ўчынкі асобы вызначаюцца яе свядомасцю і ўласцівай для яе логікай сацыяльна-псіхалагічнага дэтэрмінізму і што сам дэтэрмінізм не заўсёды дастатковы для вытлумачэння думак і паводзін чалавека. Унутраны свет купалаўскага героя з уласцівымі для яго магчымасцямі выбару і самавыяўлення фарміруецца не толькі рацыянальна-лагічнымі ведамі і вопытам, але й ірацыянальным пачаткам (эмацыянальна-вобразнымі, асацыятыўнымі, інтуітыўнымі і іншымі ўяўленнямі). Гэта давала паэту магчымасць адысці ад паўсядзённасці, захоўваючы ў той жа час шырокія сувязі з жыццём, знайсці шляхі выйсця з тупіковага становішча, адкрыць патаемныя сілы чалавечага духу, невядомыя ці недаацэненыя раней, але вельмі неабходныя герою ў самасцвярджэнні свайго «я».

Адно з вышэйшых дасягненняў купалаўскага рамантызму — паэма «Курган» (1910). У цэнтры твора — гераічны вобраз безыменнага гусляра, у якім увасобіліся рысы народнага характару і духоўны ідэал паэта. Трэба сказаць, што Купалу заўсёды і вельмі моцна хвалявала спрадвечная праблема мастака і ўлады. Яе вастрыню ён зведаў на асабістым вопыце. Цяпер мы можам сказаць, што яна неадчэпна праследавала паэта праз усё жыццё і ён вельмі часта з ёю сутыкаўся. Сюжэт паэмы — паядынак Гусляра і князя, канфлікт паміж якімі аўтар імкнецца ўзняць на вышыню вечных катэгорый. У глыбінях нацыянальнай гісторыі ён знаходзіць матэрыял для пастаноўкі праблем, якія мелі і маюць агульначалавечую значнасць.

Характар Гусляра рамантычны па сваёй прыродзе: паэт разумеў рамантызм як самаахвярнае служэнне ідэі. Купалаўскі рамантызм бунтарны, узнёслы і ваяўнічы, для яго ўласціва ўзбуйненне асобы, цікавасць да магчымасцей чалавека, вера ў яго сілы. Таму «Курган» часам называюць паэмай-баладай, і ў гэтым шмат праўды, бо балада — гэта спрэчка чалавека з лёсам, сцвярджэнне высокіх духоўных каштоўнасцей, гераізму. Гусляр у «Кургане» адчувае сябе пасланцом неба. Як рамантык, віцця, ён не кіруе самім сабою, не мае ўлады над тымі глыбока стоенымі ў ім унутранымі сіламі, якія стыхійна выбухаюць у яго свядомасці.

Гераічнае ў Купалы звязана з трагічным. Трагічнае ў «Кургане» нараджаецца на падставе выяўлення чалавекам сваіх гераічных якасцей, на аснове сутыкнення яго з жорсткасцю і антычалавечнасцю варожага свету. Заклікаючы людзей ачнуцца і скінуць з плеч ненавіснае ярмо прыгнёту, Гусляр прапаноўвае ўласны прыклад. За свой смелы ўчынак ён паплаціўся жыццём, прыняўшы страшную смерць — па загаду князя музыку жывым закапалі ў магілу. Зло, жорсткасць, антычалавечнасць увасоблены ў постаці князя, які зацікаўлены, каб народ не ведаў свайго імені, каб ён вечна знаходзіўся ў пакоры і духоўным ярме. Паводле сучасных паняццяў, ён стварыў свой культ. Перад намі тыран, у вобразе якога адлюстраваліся не толькі антынародныя і антыдэмакратычныя сілы, але і сілы антынацыянальнай здрады і нігілізму. Пазіцыі князя і мастака несумяшчальныя.

Пра гэта, праўда, з іншай нагоды, напамінае сучасны пісьменнік Васіль Быкаў: «Відаць, творца асуджаны на сталае супрацьстаянне з Уладаю. Для сумленнага мастака гэта, мабыць, непазбежна...»[1]

Трагічныя ноты, якія гучаць у паэме «Курган», пакідаюць глыбокае ўражанне, аднак не даюць падстаў, каб гаварыць пра песімістычны характар светаўспрымання аўтара. У князя шмат сіл і магчымасцей, але скаваць ланцугамі вольныя думы не ў стане нават ён.

* * *

Да буйнейшых выяў купалаўскага рамантызму належыць таксама драматычная паэма «Сон на кургане». Задумаў ён гэту рэч яшчэ ў Вільні, а скончыў у Пецярбургу ў 1910 г. Твор напісаны ў перыяд інтэнсіўнага асэнсавання толькі што адгрымеўшых рэвалюцыйных падзей, і ў ім не мог не адбіцца пакутлівы роздум паэта над складанымі шляхамі сацыяльнай і нацыянальна-вызваленчай барацьбы і лёсам яе ўдзельнікаў.

Ідэйна-эстэтычная прырода гэтага твора, якая выявіла сябе ў алегарычна-сімвалістычнай форме, патрабуе актыўнасці чытацкага ўспрымання. Цэнтральная постаць паэмы — Сам, у вобразе якога адлюстраваўся цяжкі і пакутлівы лёс беларускага народа ў пошуках шляхоў сацыяльнага і духоўнага адраджэння. На прыкладзе Сама паэт раскрывае асабістую драму свайго сучасніка-аднадумцы — рэвалюцыянера-адраджэнца.

Гаворачы пра «Адвечную песню», мы ўспаміналі п'есы Л. Андрэева «Жыццё Чалавека» і «Цар-Голад», тыпалагічна блізкія купалаўскай драматычнай паэме. «Сон на кургане» прымушае згадаць яшчэ адзін твор рускага пісьменніка — напісаную ў 1907 г. аповесць «Цемра». Герой «Цемры» — эсэр-тэрарыст, г. зн. вельмі актыўны прафесійны рэвалюцыянер, якім авалодвае сумненне ў магчымасці што-небудзь змяніць у гэтым жыцці. Як і ў «Адвечнай песні», Купала і на гэты раз таксама ў нечым лічыцца, пагаджаецца, а ў нечым і спрачаецца з Андрэевым, даючы сваё разуменне постаці змагара за народную справу. Вобраз Сама шматзначны. Ён акружаны арэолам духоўнай значнасці і маральнай прыгажосці. Гэта не толькі рэвалюцыянер — сацыяльны барацьбіт, а рэвалюцыянер — адраджэнец. Розніца, трэба сказаць, істотная. «У барацьбе з царызмам,— пісаў пазней Я. Лёсік,— рэвалюцыянер знаходзіў сабе спачуццё збоку хоць некаторай часткі грамадзянства, а з адраджэнца насьміхаліся ўсе, пачынаючы з папа і канчаючы хамам, не кажучы ўжо пра тое, што яму паграджала кара і за рэвалюцыйную дзейнасць, бо адраджэнец парушаў інтарэсы ўсяго нацыянальна-каманднага грамадзянства... Нават сацыялісты не паважалі адраджэнца, бо лічылі работу яго шкадлівай для адзінства класавай барацьбы»[2].

Адасоблены ад мас сцяною неразумення, пазбаўлены падтрымкі аднадумцаў і паплечнікаў, Сам — фігура трагічная і, можна сказаць, асуджаная на паражэнне, нягледзячы нават на асабістыя высокія маральныя якасці. У вытлумачэнні гэтага вобраза Купала ізноў-такі арыентуецца на постаці біблейскіх прарокаў, якія заўсёды займалі духоўна актыўную пазіцыю, але лёс іх складваўся трагічна...

Нацыянальна-адраджэнская тэма заняла галоўнае месца ў творчасці Я. Купалы, пра што сведчыць і паэма «На куццю», упершыню

---

[1] Літаратура і мастацтва. 1992. 7 лют.

[2] Навіны Беларускай акадэміі. 1992. 30 кастр.

надрукаваная ў «Нашай ніве» ў канцы 1911 г. Пачуццё гісторыі ў ёй узмоцнена рамантызмам з уласцівым для яго абагульненым поглядам на гістарычную мінуўшчыну. Паэтыка тут грунтуецца на ўмоўна-міфалагічнай аснове. Аўтар адкрывае заслону часу, ажыўляе мінуўшчыну, героі глядзяць на нас з глыбіні гісторыі. Дзея адбываецца ў калядны вечар на старажытным «адвечным замчышчы», дзе наладжана святочная вячэра — «куцця». Куцця — кут — блізкія словы. Покуць — самае ганаровае месца за сталом, дзе звычайна садзілі дзядоў. У купалаўскай паэме на покуці — князь з княгіняй, вакол — княжацкая дружына. Аўтар не даследуе псіхалогію сваіх герояў, а малюе перад чытачом незвычайнае відовішча, засмужаную туманам часу карціну таго, як князь кліча ганцоў і загадвае ім агледзець «усе пагранічныя капцы». Ганцы, каб выканаць загад князя, адольваюць не толькі адлегласць у прасторы, але і ў часе: князь пасылае іх з свайго часу ў наш.

І што на паверку аказваецца? Аказваецца, народ яшчэ жывы. Выканаўшы заданне, ганцы вяртаюцца, каб расказаць аб гэтым князю:

Не ўмруць, не ўмруць ужо яны,
Раз хочуць сонца, славы, песні,
Заб'юць ім зычныя званы
Прабудным звонам на прадвесні...

На дзеле — кожны йшчэ слугой,
У думках — вольныя ўжо людзі;
Над сэрцам іх, над іх душой
Наш дух лунаці вечна будзе[1].

Прадметна-рэалістычнае напаўненне паэмы зведзена да мінімуму. Абмеркаванне нацыянальнай праблемы адбываецца на такіх вышынях духу, на якія ўваход усяму матэрыяльнаму забаронены. Умоўныя сродкі выразнасці атрымліваюць тут паэтычнае, філасофскае і драматычнае абгрунтаванне.

Устанаўленне духоўнага кантакту са старой літоўскай спадчынай азначала для Купалы вырашэнне праблемы нацыянальнай ідэнтыфікацыі, атрыманне адказу на пытанне «Хто мы?».

## 4

На лета паэт імкнуўся з Пецярбурга ў Беларусь. Так было ў 1911 і 1912 гг., калі Купала наведаў маці і сясцёр, якія перабраліся к таму часу з Бараўцоў у Акопы, і пазней. Тут добра пісалася. З чэрвеня 1912 г. у Акопах ён завяршыў свой першы сцэнічны твор — камедыю «Паўлінка», якая неўзабаве была пастаўлена на сцэне (спачатку ў Вільні, затым у Пецярбургу, а летам таго ж 1913 г. і на радзіме — у Радашковічах), што з'явілася вялікай падзеяй у гісторыі нацыянальнага тэатра. На спектаклях прысутнічаў сам аўтар.

І яшчэ адна значная падзея 1912 г.— першая сустрэча з Якубам Коласам, які вярнуўся з мінскага астрога пасля трох год зняволення. Спатканне адбылося 26 ліпеня на хутары Смольня, каля Мікалаеўшчыны,— у родным гняздзе Коласа. Знаёмства і першыя сустрэчы паклалі пачатак вялікай творчай дружбе на ўсё жыццё.

Вясной 1913 г. у Пецярбургу ў суполцы «Загляне сонца і ў наша

---

[1] Наша ніва. 1911. 22 снеж.

аконца» выйшаў з друку трэці зборнік — «Шляхам жыцця», які пераконвае, што паэзія для Купалы па-ранейшаму заставалася фенаменальнай магчымасцю далучэння да ўсёй паўнаты чалавечага быцця. Ён разглядае не толькі ценявыя бакі тагачаснай рэчаіснасці. Каб пераканацца ў гэтым, дастаткова прачытаць верш «Жняя», у якім намаляваны надзвычай прывабны — зямны і ўзнёсла-адухоўлены — партрэт простай жанчыны-працаўніцы:

Як сама царыца
Ў залатой кароне,
Йдзе яна ў вяночку
Паміж спелых гоняў.

Верш «Жняя» прымушае ўспомніць словы А. Бабарэкі пра беларускую літаратуру пачатку XX ст.: «Літаратура ў гэты час і слуга адраджэння, і слуга красы і хараства беларускага»[1].

Прыгажосць і маральная вабнасць у Купалы неаддзельныя ад дзеяння, руху, стваральнай скіраванасці чалавека — у гэтым змест і логіка яго паэтычнай думкі.

Каласкі хінуцца
Перад ёй паклонна,
Дзівіцца ігруша
На мяжы зялёнай.

А яна — царыца —
Весела, шчасліва
Карануе песняй
Залатое жніва.

Смела йдзе у сонцы,
Ўся сама — як сонца,
Гэта жнейка наша
Ў нашаей старонцы.

Хораша — ці не праўда?

«Шляхам жыцця» — адна з вяршыняў беларускай паэзіі пачатку XX ст. Аўтар пацвердзіў, што адраджэнская мара яго і нацыянальны ідэал застаюцца ранейшымі — вярнуць свой народ з шляху смерці на шлях жыцця. «Зварухнуўся Лявон, // Як вада, як агонь, // Пазнаў сілу ў сабе небывалую» («На папасе»). Вада і агонь для паэта — сімвал беларускага Адраджэння. У вершы «Прарок» чуем заклік:

Пара у рукі браць паходні,
Ўставаць, ісці, ноч рассвятляць!
Бо што не возьмеце сягоння,
Таго і заўтра вам не ўзяць.

Назло крывавым перашкодам
Скідайце ёрмы, клічце сход,
І дайце знаць другім народам,
Які вы сільны йшчэ народ!

У гэтых радках, здаецца, упершыню ў Купалавай творчасці прагучала ідэя вялікага ўсенароднага сходу. Аднак «Прарок», як вядома, заканчваецца на горка-іранічнай ноце: народ з недаверам глядзіць на сваіх пракопаў, сумняваецца ў іх закліках. З неразвітасцю народнаю, нацыянальнай свядомасці мы звычайна звязвалі асноўны сэнс купалаўскага «Прарока». У гэтым шмат праўды, аднак не ўся. На нашу думку, верш аб'ектыўна перадае і больш шырокія адчуванні чалавека на пачатку XX ст., калі стварылася новая духоўная сітуацыя, якая азначала не што іншае, як вычарпанасць і крах традыцыйнай гуманістычнай свядомасці, расчараванасць у жыцці, асуджанасць усялякіх

[1] Узвышша. 1927. № 3. С. 138.

спроб змяніць становішча да лепшага. У паэзію Купалы таксама шырока ўвайшло адчуванне катастрафічнасці перажываемай эпохі, маральнай неўладкаванасці і дэгуманізацыі свету і чалавека.

Мы часта, гаворачы пра Купалу, параўноўваем яго з Пушкіным, Міцкевічам, Шаўчэнкам. Вядома, падставы для такой тыпалогіі ёсць. Купала захапляўся Пушкіным і Міцкевічам і асабліва Шаўчэнкам, у якім адчуваў шмат роднага і блізкага. Аднак усе пералічаныя паэты жылі і тварылі ў XIX ст., Купала ж — сын XX ст. Гэта і спадчыннік Ф. Багушэвіча і пачынальнік новага гістарычнага этапу. У творчасці Я. Купалы, як і ў той ці іншай ступені ў Коласа, Багдановіча, Гарэцкага, адначасова спалучыліся дзве эпохі развіцця літаратуры — XIX і XX стст.

Як гэта адлюстравалася ў іх мастацкай практыцы? Вельмі разнастайна. Многія ідэі, формы і вобразы дасталіся Купалу ў спадчыну ад мінулых вякоў. Аднак яго ўжо не мог задаволіць стары, Багушэвічаў пазітывісцкі рэалізм. Больш смела, у параўнанні з папярэднікамі, заглыбляецца ён ва ўласную прыроду чалавека, шукаючы ў ёй апору для сваіх творчых азарэнняў. XX ст. несла шмат новага. Светапогляд людзей XIX ст. абапіраўся на дакладную навуку і пазітыўныя веды. Аказалася, што магчымасці асветніцка-разумовага вытлумачэння навакольнай рэчаіснасці недастатковыя, каб спасцігнуць усе яе відочныя і нябачныя глыбіні і супярэчнасці.

Гэтае адчуванне перададзена ў зборніку «Шляхам жыцця», пра што сведчыць не толькі «Прарок», але верш «Чалавеку» і іншыя:

Ты і ў прышласць рад глянуць зарання,
Змёў бы пыл забыцця з прошлых дней,
Ўсё ж бяссілен твой розум і знанне
Перад голасам духу начэй.

Ты дрыжыш перад нечым, як глянеш
Ў гэту цем, падслухаеш яе;
Як дзіцё, як матыль, слабым станеш...
А ноч тайна а дзівах пяе.

Мае свет неадкрытыя сілы,
Што людское ўсёзнанне прайшлі.
Гэтых сіл не пазнаць да магілы
Табе, думнаму цару зямлі.

*(«Чалавеку»)*

Своеасаблівасць Купалы як паэта-рамантыка ў тым, што яму давялося жыць і тварыць у пострамантычную эпоху. Самыя верхнія рэгістры яго рамантызму ўступалі ў сугалоссе з тагачаснымі мадэрнісцкімі павевамі. Уласна кажучы, мадэрнізм — гэта і ёсць рамантызм XX ст., або пострамантызм (у адрозненне ад рамантызму XIX ст.), абумоўлены новым разуменнем чалавека ў яго суадносінах з жыццём, прыродай, космасам.

У творчасці Купалы і іншых беларускіх пісьменнікаў настойліва сцвярджае сябе той разнастайны мастацка-суб'ектыўны стыль, без якога нельга потым уявіць літаратуру XX ст. Мадэрністы падыходзілі да жыцця, прызнаючы ўласцівую яму ірацыянальнасць і непазнавальнасць. У гэтым сэнсе Купала, Гарэцкі, нават Колас у шмат якіх творах звяртаюцца якраз да звышпрыроднага, пазапачуццёвага, «патаемнага», што не дадзена чалавеку ў яго рэальных адчуваннях. Розум, інтэлект падспудна адчуваюць перавагу стыхійных сіл жыцця, бесперспектыўнасць спробы падпарадкаваць іх сабе. Рацыянальна-абстрактную

думку замяняюць творчыя сполахі, усплёскі фантазіі, велічныя ідэі і сімвалы. Актыўна развіваецца індывідуальны пачатак, пашыраюцца далягляды асобы з уласцівым ёй пачуццём унутранай свабоды. Як паэзія, так і проза ўзбагачаюцца рысамі рэфлексіі, настраёвасці.

Разам з тым Купала, як і яго паплечнікі, не адрываецца ад зямлі, ад рэалізму з яго «здаровым сэнсам», дапаўняючы апошні элементамі падсвядомага, інтуітыўнага, шырока ўводзячы ірацыянальныя моманты ў сваю паэзію. Традыцыі «старога» рэалізму, такім чынам, не паміраюць у яго творчасці, таму што ў рэшце рэшт рэалізм і мадэрнізм маюць пільную патрэбу адно ў адным. У гэтым сэнсе вельмі адметны ў зборніку «Шляхам жыцця» раздзел «Па межах, па родных...» (вершы «Ваўкалак», «Хохлік», «Ў вечным боры» і інш.):

Як змеркне, як ноч дзень звае
І зораў паявіцца знак,
Па нівах, па сёлах шнуруе
Туды і сюды ваўкалак.

У поўнач на пні і на сталі
Знімае, ўздзявае свой від,
Не кеміць ні крыўды, ні жалю,
Ні наспаў магільных, ні пліт.

*(«Ваўкалак»)*

Ваўкалак — чалавек-воўк, нешта як бы звышпрыроднае, пазаяўнае, што, аднак, незразумелым чынам уплывае на нашы думкі і ўяўленні. Тут шмат эмацыянальна-няўлоўнага — ад намёкаў, зацемненых сэнсаў і адценняў у гучанні слоў. Ствараецца нават уражанне, што быццам сціраецца мяжа паміж свядомасцю паэта і навакольным светам, які становіцца функцыяй гэтай свядомасці і адначасова яе адлюстраваннем. Мадэрнізм, такім чынам, дапамагае перадаць адчуванне неўладкаванасці свету, яго супярэчнасці і няўстойлівасці.

* * *

Лета 1913 г., праведзенае ў Акопах, аказалася асабліва плённым у творчых адносінах. Купала ў гэты час надзвычай шмат пісаў — з'яўляліся новыя вершы, паэмы, п'есы, артыкулы, у якіх выявіліся новыя сацыяльныя і духоўныя акцэнты купалаўскага гуманізму, сцвярджаемай ім канцэпцыі свабоды. Ідэя свабоды працягвае заставацца цэнтральнай у яго паэзіі, аднак цяпер ён разглядае яе не толькі ў агульнанацыянальным плане, але і ў плане чалавечай адзінкі.

У чэрвені была завершана паэма «Бандароўна», у аснову якой пакладзены гістарычны сюжэт. Падзеі, якія згадваюцца ў ёй, адносяцца да XVII ст. Паэт бачыў пільную патрэбу ў героях, якія б паспыталі смак свабоды. Свабодны чалавек, на думку Купалы, ужо не згодны будзе ізноў трапіць пад уціск. Адна з такіх гераінь — Бандароўна, якая ў паэме Купалы кідае выклік самому пану Патоцкаму.

Услед за «Бандароўнай» тым жа летам з'явілася «Магіла льва». Герой гэтай паэмы — разбойнік Машэка. Купала спрабуе пранікнуць у морак і сутонне чалавечай натуры, у яе цёмныя глыбіні. Ён адзін з першых у беларускай літаратуры заўважыў, што чалавек — істота даволі недасканалая ў маральным плане.

У пакутлівым роздуме над пытаннем, як усталяваць на зямлі свабоду, роўнасць і братэрства, беларускі паэт шукаў парады ў шматлікіх мысліцеляў і інтэлектуалаў свайго часу, а часам, як мастак, спрачаўся з імі. Калі вы ўважліва прачытаеце «Магілу льва», дык без асаблівых намаганняў знойдзеце ў гэтай купалаўскай рэчы водгук ніцшэанскіх ідэй. Цікавасць да гэтай філасофіі, асабліва сярод моладзі, была тады літаральна ўсеагульнай. Не абмінуў яе і Купала. Яго

Машэка жыве і дзейнічае ў несвабодным свеце. Калі героі ранніх паэм Купалы ахвяры сусветнага зла, дык Машэка, здавалася б, яго вораг. Ён паўстае супраць абману і няпраўды, упэўнены, аднак, што ва ўсім вінаваты самі людзі, што ўвесь свет такі. Ён адкідае чалавечыя перакананні — мараль, веру, законы, эстэтычныя ўстанаўленні. Вышэй за ўсё Машэка ставіць самога сябе, сваю крыўду і ў душы лічыць, што яму ўсё дазволена. Ён не д'ябал, але і не анёл, чорнае і белае перамешана ў ім, але не гэта галоўнае. Галоўнае ў тым, што гэта — індывідуаліст, яму цяжка суіснаваць з падобнымі сабе. Машэка хоча вызваліць сябе ад якой бы ні было залежнасці і становіцца, па сутнасці, ахвярай сваіх эгаістычных імкненняў. І ці варта гаварыць пра тое, наколькі адмоўна гэта адбілася на гістарычным лёсе народа, з асяроддзя якога з'яўляліся падобныя «волаты», на фарміраванні яго духоўнай супольнасці. Купала, будучы пабornікам ідэі асабовай свабоды чалавека, рашуча не прымаў індывідуалізму. Машэка нагадвае пушкінскага Алека (паэма «Цыганы») з уласцівым для яго свядомасці крайнім індывідуалізмам: «Ты для себя лишь хочешь воли», але па шляху злачынства ідзе куды далей за яго. Тут ужо адчуваецца подых навальнічнага XX ст., крушэнне традыцыйных гуманістычных ідэалаў, абсалютызацыя таталітарнай варожасці і падазронасці.

Сваімі паэмамі Купала ў значнай ступені вырашаў задачу стварэння нацыянальнага рамантычнага эпасу. Пра гэта сведчыць яшчэ адна яго старонка — паэма «Яна і я», створаная тым жа багатым ліпенем 1913 г. «Яна і я» ў пэўным сэнсе працяг паэмы «Магіла льва». Гэты твор называюць паэмай-ідыліяй. Мы б назвалі яго своеасаблівым пастаральным раманам, вытрыманым у духу букалічнай традыцыі, якая ў сусветнай літаратуры ўзыходзіць ажно да антычнасці. Я і Яна — гэта беларускія Тэлемон і Баўкіда пачатку XX ст. Калі ў «Магіле льва» Купала асудзіў ірацыянальнасць згубных пачуццяў, то ў паэме «Яна і я» ўславіў дабрыню, хараство і маральны абавязак чалавека. «Яна і я» раскрывае паэтычны свет зямнога існавання чалавека, радасць гаспадара і працаўніка. Аўтар паэтызуе жыццё і працу чалавека на зямлі, захапляецца вабнасцю шчырага кахання, услаўляе непасрэднасць пачуцця прыроды, хараство прыроднага ўлоння. Зямное быццё прадстае тут прыўзнятым на крылах мары. Напачатку рукапіс меў падзагаловак: «Песня зямлі і жыцця», аднак потым патрэба ў тлумачэнні адпала: карціны, намаляваныя ў паэме, гавораць самі за сябе:

І выйшаў сеяць я. Яна стаяла
Непадалёк мяне, на ўзмежку;
У высях сонца золатам зіяла,
Ўнізу плыў вецер сваёй сцежкай...

Яна, як ніцая бярозка тая,
Стаяла, за сяўбой слядзіла,
І як бы багародзіца святая —
Здавалася мне — блаславіла.

*(З раздзела «Сяўба»)*

Купала-рамантык, як бачым, выкарыстоўвае рэалістычныя сродкі — дакладныя дэталі, узятыя з паўсядзённай рэчаіснасці. Думкі і паводзіны герояў выяўляюць глыбокае ўнутранае высакародства іх натур. У іх вобліку спалучаецца хараство і маральнасць. Звычайна Купала пазбягаў ідылічных, пастаральных фарбаў у абмалёўцы сялянскага жыцця і побыту. На гэты ж раз, паўтараем, ён свядома робіць стаўку на ідылію.

Ідылічнасць у паэме, такім чынам, ёсць, але няма саладжавасці, хадульнасці і рэзанёрства, якія часам спадарожнічаюць рамантызму. Няма таксама ўласцівага яго ранейшым героям тытанізму і імкнення да абсалюту. Яна і Ён — нармальныя, сярэднія людзі, звычайныя

сяляне. Звычайныя, але свабодныя! Свабодны чалавек, паводле пераканання аўтара, ужо не захоча быць ні панам, ні рабом.

Ці можна ў дадзеным выпадку гаварыць пра своеасаблівы русаізм паэта?

Думаецца, што можна. У прыродзе ён бачыць яе цэласнасць, гарманічнасць і прыгажосць. Прырода, на яго думку, здольна абараніць ад жыццёвага зла. Купала здымае адчужанасць чалавека і прыроды, сцвярджае еднасць людзей і таго прыроднага ўлоння, у якім яны жывуць. Беларускія сяляне — Яна і Ён — перажываюць такую паўнату спалучэння са светам прыроды, на якую здольны быў хіба што засцянковы шляхціц Завальня з вядомай кнігі пісьменніка XIX ст. А. Баршчэўскага.

Клопат і трывога паэта ў тым, каб людзі не здрадзілі зямлі, якая дадзена ім для жыцця. Ён распрацоўвае своеасаблівую экалогію чалавечага існавання і сужыцця на зямлі, прыходзячы да думкі, што забыццё запаведзяў сціпласці і ўстрымання, ненасытная прага ўлады не вядуць да дабра. А прыкметы былі відавочнымі — пра іх нагадвала навакольная рэчаіснасць.

## 5

Творчасць Купалы, узрастаючы на глебе нацыянальнага Адраджэння, становіцца вельмі разнастайнай у ідэйна-эмацыянальных і жанрава-стылявых адносінах. Адчуваючы, напрыклад, патрэбу публікі і маладога беларускага тэатра ў лёгкай камедыі, ён піша жарт-вадэвіль «Прымакі» (ліпень 1913 г. ). У верасні 1913 г. Купала завяршыў яшчэ адзін сцэнічны твор — драму «Раскіданае гняздо». Упершыню яна была пастаўлена на сцэне толькі пасля лютаўскай рэвалюцыі Першым беларускім таварыствам драмы і камедыі ў Мінску ў ліпені 1917 г., а надрукаваць драму аўтар змог у 1919 г., у Вільні.

Сярод тых зерняў, з якіх узнікла задума вершаванага апавядання «За што?», а затым і драма «Раскіданае гняздо», была і даўняя родавая крыўда Луцэвічаў на паноў Радзівілаў, якія сагналі сям'ю арандатараў-чыншавікоў з абробленай імі зямлі. Дзед Ануфрый Дамінікавіч доўга судзіўся з панам за роднае гняздо, што адняло ў яго шмат сіл і здароўя і скараціла век,— унук жа Янка Купала, на пачатку XX ст., вынес сямейную крыўду «на свет цэлы». Сваю сямейную трагедыю аўтар асэнсоўвае як эпахальную, агульнанародную, за якой стаяла ўсё тое ж пытанне — быць ці не быць беларускай нацыі. Драма «Раскіданае гняздо» адлюстравала цярністы шлях беларускага беззямельнага сялянства ў пошуках страчанай Бацькаўшчыны і лепшай долі.

Купалаўская тэма «раскіданага гнязда» адгукнулася затым у драме Тодара Лебяды «Загубленае жыццё», створанай у гады вайны і прысвечанай перыяду калектывізацыі беларускай вёскі. Тэма «раскіданага гнязда» ў беларускай літаратуры вядзе далёка — ажно да аповесці В. Быкава «Аблава», напісанай у 1989 г.

У верасні 1913 г. Купала зноў пераязджае на сталае жыхарства ў Вільню, дзе працуе спачатку сакратаром Беларускага выдавецкага таварыства, затым пісьмаводам у газеце «Наша ніва», а крыху пазней — яе рэдактарам-выдаўцом, замяніўшы на гэтай пасадзе Уласава. З 7 сакавіка 1914 г. «Наша ніва» выходзіць за подпісам Янкі Купалы як рэдактара (хаця фактычна гэтыя абавязкі ён выконваў значна раней). Новы рэдактар узмацніў дэмакратычны накірунак газеты. На гэтай пасадзе Купала працягвае вострую барацьбу з вялікадзяржаўнымі

шавіністамі за раўнапраўнасць беларускай мовы і культуры, з'едліва выкрывае адшчапенцаў і «перакінчыкаў», што здрадзілі роднаму народу і цяпер выступаюць супраць яго.

У жніўні 1914 г. пачалася першая імперыялістычная вайна, якая стала цяжкім горам для многіх народаў і прадвызначыла далейшыя падзеі XX ст. Купала востра адчуў антынародны, разбойніцкі характар гэтай сусветнай бойні, якая ўзнікла і вялася ў інтарэсах самадзяржаўя, капіталістаў і памешчыкаў. Ён аказаўся сведкам масавай чалавечай жорсткасці. Будучыня, паводле яго ўяўленняў, не абяцала нічога доб-рага — паэт бачыць сваю радзіму на грані катастрофы.

У адносінах да «Нашай нівы» ўзмацняюцца цэнзурныя праследаванні. У студзені 1915 г. за антываенны артыкул «Думкі» рэдактара прыцягваюць да судовай адказнасці.

У вершах 1915 г. («Таварыш мой», «Сыйду...» і інш.) думка Купалы, скіраваная ў глыбіню ўласнага асабовага свету паэта, на самапазнанне, набывае востра рэфлектыўны характар. Аднак асабістыя перажыванні былі для яго нішто ў параўнанні з тым, што перажывалі «мільёны». Гэта выразна адчуваецца ў санеце «Маё цярпенне»:

Маё цярпенне, мой крывавы боль —
Што значаць перад мукамі мільёнаў,
Дзе безнадзейны стогны родзяць стогны,
А слёзы грызуць вочы ўсім, як соль![1]

Ахвярай вайны стала і «Наша ніва». Я. Купала — як яе рэдактар,— пазбегшы суда, які яму пагражаў, у пачатку верасня 1915 г. у сувязі з эвакуацыяй горада пераязджае з Вільні ў Акопы, да маці. У канторскай кнізе «Нашай нівы» (апошні, 31-шы нумар выйшаў у свет 7 жніўня 1915 г.) застаўся запіс: «8 жніўня. Купале на дарогу 5 р.».

У канцы верасня 1915 г. ён ужо ў Маскве — вучыцца ў Народным універсітэце імя А. Л. Шаняўскага. Тут, у Маскве, адбываецца вельмі важная падзея ў Купалавым жыцці: ён жэніцца з Уладзіславай Станкевіч і па часе пераязджае ў Мінск.

З Уладзіславай Станкавічанкай (як называлі тады У. Ф. Станкевіч) ён быў знаёмы даволі даўно — менавіта ёй прысвечаны вершы «Ўспомні!..», «Гэй ты, дзяўчына, кветка-лілея», «Мусіць, трэба было».

У студзені 1916 г. Купала прызываецца ў царскую армію і трапляе ў дарожна-сапёрны атрад Варшаўскай акругі шляхоў зносін. Атрад знаходзіўся ў Мінску, непадалёк ад лініі фронту. Заходняя частка Беларусі была акупавана кайзераўскімі войскамі, Мінск, перапоўнены бежанцамі і рускімі вайсковымі часцямі і ўстановамі, з'яўляўся, па сутнасці, прыфрантавым горадам. Летам 1916 г. атрад, у якім служыў Купала, пераводзяць у Полацк.

Кастрычніцкі пераварот 7 лістапада 1917 г. адбыўся ў Петраградзе і амаль адначасова ў Мінску, дзе бальшавіцкія камісары перахапілі кіраўніцтва з дапамогай дэмаралізаванай расійскай арміі. За тагачаснымі падзеямі, якія ўражвалі і хвалявалі сваімі гістарычнымі маштабамі, паэт сачыў з Смаленска, куды ён пераехаў пасля Полацка. 15 снежня 1917 г. у Мінску пачаў работу Усебеларускі з'езд, на якім прысутнічала амаль дзве тысячы дэлегатаў з усёй Беларусі — сяляне, вайскоўцы, інтэлігенцыя. Ганаровым старшынёй з'езда быў абраны вучоны з сусветным імем — акадэмік Яўхім Карскі. Ёсць меркаванні, што на з'ездзе мог прысутнічаць і Купала, прыехаўшы ў Мінск са Сма-

[1] Наша ніва. 1915. 16 студз.

ленска. Душою, прынамсі, ён быў на гэтым прадстаўнічым Сходзе, пра які столькі марыў і на які вельмі спадзяваўся...

Барацьба беларусаў за незалежнасць нарэшце ўсё ж такі прывяла к таму, што 25 сакавіка 1918 г. у Мінску была абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка (25 сакавіка на Беларусі, па даўняй традыцыі,— першы дзень вясны).

Успаміны пра смаленскі перыяд жыцця засталіся змрочныя: «Там, жывучы праз увесь цяжкі і жудкі 1918 г., я папраўдзе быў, як непрытомны». Яго можна зразумець. Рэвалюцыя ўзняла з дна чалавечай душы шмат пачварнага, злога, нізіннага. Людзей ахуталі цёмныя хмары ўзаемнага азлаблення, раўнадушша і жорсткасці[1].

Не давала спакою пытанне аб тым, што чакае Беларусь, якая была акупавана кайзераўскімі войскамі. Доўгі час, пачынаючы з гнятлівага 1916 г., ён наогул маўчаў, нічога не пісаў. Калі што і друкавалася, дык з напісанага раней. З восені 1918-га — пачаў пісаць. Станоўчае значэнне ў гэтым сэнсе мела новая хваля падзей: нямецкія войскі вымушаны былі пакінуць Беларусь, якая, пасля абвяшчэння БНР, у вачах суседзяў выглядала ўжо па-іншаму ў параўнанні з ранейшымі часамі. І гэта, вядома, не магло не адбіцца на купалаўскай песні.

У кастрычніку — снежні 1918 г. ён стварае вялікі цыкл вершаў, якія з'явіліся не толькі водгукам на падзеі рэвалюцыі і грамадзянскай вайны, але і кардыяграмай духоўнага самаадчування самога аўтара — грамадзяніна і патрыёта: «Для Бацькаўшчыны», «На сход!», «Час!», «У вырай», «Пчолы», «Сон», «Званы», «Млечны шлях», «Удосвітак», «Забытая карчма», «Буралом», «Рунь», «Першы снег», «Паязджане» і інш., якія ўвайшлі затым у зборнік «Спадчына». У гэтым лірычным цыкле думка Купалы выявіла сябе як думка народная на пакручастых дарогах гісторыі. Паэт асуджае братазабойчы характар грамадзянскай вайны, не тоіць расчаравання ў рэвалюцыі, шукае шляхі выжывання для свайго народа. Купалаўскі герой ізноў ахоплены прагай падзей і хваляванняў. Ізноў у яго паэтычных прароцтвах, як некалі ў вершы «Прарок» і драме «Раскіданае гняздо», паўстае ідэя «вялікага сходу», які павінен вырашыць лёс Беларусі. Пасля вызвалення ад нямецкай акупацыі такі час, здавалася, надышоў.

Час склікаці ўжо грамаду
На вялікую нараду,
На вялікі сход!
Хай рассудзіць, хай разважаць,
Слова цвёрдае хай скажаць,
Скажаць сам народ!

*(«Час!»)*

Народ для Купалы заўсёды быў носьбітам высокіх маральных прынцыпаў. Голас народны — голас божы. Паэт хацеў, каб народ заявіў аб сабе рашуча і смела:

На сход, на ўсенародны, грозны, бурны сход
Ідзі, аграблены, закаваны народ! —

заклікае ён у вершы «На сход!» (25.X.1918). Нацыянальны фактар набывае ў яго паэзіі акрэсленае ідэйна-палітычнае гучанне. Купала не ўтойваў свайго расчаравання ў рэвалюцыі і бальшавіках, якія не

---

[1] Пра тое, што дзеялася ў гэты час на Смаленшчыне, падрабязна расказваецца ва ўспамінах рускага пісьменніка-смаляніна І. С. Сакалова-Мікітова, які жыў там у гэты час і ўсё бачыў на свае вочы («Русская литература». 1992. № 1).

змаглі спыніць беды вайны, што ператварылі родны край ў руіны, і вырашыць нацыянальнае пытанне. Паэт кідае кліч: «Ці доўга будзе нам заломам Варшава панская і царская Масква?!» («Наша гаспадарка», 1918) Навокал адбывалася шмат дзіўнага і незразумелага. В. Г. Кнорын — сакратар Мінскага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў, а пазней кіраўнік Часовага рабоча-сялянскага ўрада Беларусі і сакратар ЦК КП(б)Б — пісаў у газеце «Звязда» 6 кастрычніка 1918 г.: «Мы считаем, что белорусы не являются нацией и что те этнические особенности, которые их отделяют от остальных русских, должны быть изжиты. Нашей задачей является не создание новых наций, а уничтожение старых националистических рогаток. Белорусское же движение является таким строительством новых национальных рогаток, каких не было до этого, а поэтому коммунисты не могут в каком бы то ни было виде принимать участие в этом движении».

Канкрэтна гэтыя радкі Купала, магчыма, і не чытаў, аднак агульную атмасферу, што складвалася вакол беларускага пытання, ён адчуваў. 29 кастрычніка 1918 г. напісаны кароткі верш «У дарозе» (потым пра яго яму напомняць маладнякоўцы):

Еду, пхнуся бітым шляхам,
Па балоце конь плюскоча,
А ноч крадзецца паціху,
Сыпле чары ўлева, ўправа.
Пхнуся ўдвойчы з жуткім жахам,
Злыдні зіркаюць у вочы...
Ах, хаця б не дацца ліху!
Но, мой косю!.. Стой!.. Канава!..

Вобраз шляху ўзнікае ў многіх вершах як пошук выйсця з таго скрутнага становішча, у якое трапіў абяздолены беларускі народ. У лірыцы Купалы ўзмацняецца баладны пачатак (спрэчка чалавека з лёсам) і з незвычайнай сілай гучыць тэма народных пакут. Адзін з такіх вершаў —«Паязджане», створаны ў канцы 1918 г. Ён палоніць чараўнічай плынню музычных сугуччаў:

Распаўзлася па абшары
Сцюжным пухам, сцюжнай марай
Папаўзуха-завіруха —
Злога духа злыбядуха.

Ў полі дымна, ў полі цёмна,
Беспатольна і заломна,
Ні пуціны, ні упыння,
Як у вечнай дамавіне.

Як у моры, ў белым снегу,
Без днявання, без начлегу,
Ў бездарожжа, ў беспрыстанне
Едуць, едуць паязджане.

Музычнасць «Паязджан» нібыта прэтэндуе на сваё самастойнае значэнне, здзіўляючы фанетычным багаццем паэтычнага слова. Сказалася, відаць, школа мадэрнізму, з вопыту якога многае пайшло на карысць паэту. «Паязджане» навеяны падзеямі першай сусветнай і грамадзянскай войнаў, аднак у ім прысутнічае даўняя тэма пошукаў беларускім народам свайго гістарычнага лёсу. Больш таго, у гэтым купалаўскім творы можна пачуць таксама і прадчуванне будучых блуканняў Беларусі па горкіх шляхах гістарычнага бездарожжа. «Паязджане» перадаюць адчуванне катастрафічнасці перажываемай эпохі.

1 студзеня 1919 г. у Смаленску было абвешчана ўтварэнне БССР. Зроблена гэта было хутчэй за ўсё ў тактычных мэтах. Утвараючы БССР, бальшавікі, мяркуючы па ўсім, цвёрда верылі, што руская рэвалюцыя неўзабаве мае перарасці ў рэвалюцыю сусветную, якая сама сабой зруйнуе межы, і ад створанай БССР нічога не застанецца...

У студзені 1919 г. Купала пераязджае ў Мінск, дзе спрабуе знайсці сябе на ніве культурна-асветніцкай дзейнасці.

Недзе ў гэты час, ужо пасля абвяшчэння БССР, пад кіраўніцтвам бальшавікоў быў скліканы І з'езд Саветаў Беларусі, які, як пісалі газеты, «подтвердил, что потуги белорусской националистической интеллигенции ■ созданию «своего» белорусского языка, «своей» национальной культуры напрасны... Пусть примут это к сведению белорусские писатели»[1].

Гэта, вядома, было адрасавана ўсім беларускім пісьменнікам, але, можа, найперш самаму вядомаму з іх — Янку Купалу, які тут жа адказаў на гэты ганебны выпад бальшавікоў супраць беларускай мовы і літаратуры надрукаваннем 7 лютага 1919 г. у газеце «Грамадзянін» верша «Свайму народу», напісанага ў стылі палемічнага купалаўскага прамоўніцтва.

Табе, народ мой, згібнуты ў аковах,
З-пад сэрца песню гэтую пяю,
І, ускрашаючы мінуўшчыну нанова,
Выказваю цяпершчыну тваю...

Якой жа бачыў паэт гэту бальшавіцкую «цяпершчыну» свайго народа? Незайздросны яна мела выгляд (частка ўсходніх беларускіх земляў адышла да Расіі):

Чужак-дзікун, крывёю ўпіўшысь свежай,
Запрог цябе ў няволю, ў батракі
І тваю маці-Бацькаўшчыну рэжа,
Жывую рве на часці, на кускі...

Словам, хаця Купала і пераехаў у Мінск, устаноўленыя тут бальшавікамі парадкі не спрыялі творчаму настрою. З вершаў нічога не пісалася — муза ізноў яго надоўга пакінула...

Між тым з Захаду насоўвалася новая навала, на Беларусь ішлі легіёны Пілсудскага. У красавіку 1919 г. палякі занялі Вільню і рыхтаваліся ісці на Мінск.

Цяпер, пасля паражэння кайзераўскіх войскаў, беларуская карта разыгрываецца паміж бальшавікамі і пілсудчыкамі. Купала, як нам здаецца, не адразу гэта ўсвядоміў у поўным аб'ёме. Знаходзячыся на Смаленшчыне і ў Беларусі, ён глыбока пераканаўся ў антынароднай палітыцы бальшавікоў, а чаго можна было чакаць ад палякаў? 22 красавіка 1919 г. Пілсудскі выдаў адозву да жыхароў былога Вялікага княства Літоўскага, у якой абяцаў ім вырашыць усе нацыянальныя і рэлігійныя пытанні так, як захоча само насельніцтва.

«Стан безупыннай няволі,— гаварылася ў адозве Пілсудскага,— які я, нарадзіўшыся на гэтай нешчаслівай зямельцы, добра ведаю, павінен нарэшце быць знішчан і ўжо раз і назаўсёды ў гэтай, быццам праз Бога забытай старонцы, павінна запанаваць свабода і права вольнай, нічым не звязанай гутаркі аб сваіх патрэбах. (...) Хачу вам даць магчымасць развязаць унутраныя нацыянальныя і рэлігійныя

[1] Звѣзда. 1919. 5 лют.

справы гэтак, як самі таго захочаце, без ніякага гвалту або нацiску з боку Польшчы»[1].

У сувязі з гэтай заявай некаторыя беларускія арганізацыі і асобныя дзеячы віталі прыход легіёнаў. Тлела, відаць, нейкая надзея і ў душы Купалы. Прынамсі, новыя, больш жыццесцвярджальныя інтанацыі ўпершыню прагучалі ў вершы «Світае», надрукаваным у газеце «Беларуская думка» 31 мая 1919 г. Аўтар і на гэты раз звяртаецца да сродкаў звыкла-сімвалічнай, хаця і вельмі празрыстай па свайму сэнсу вобразнасці:

Ўжо годзе, ўсю ночку праспалі,
Ўжо годзе, у цемры былі;
Глядзіце — ноч скрылась удалі,
Свет сонца царыць на зямлі.

Між тым гэта была ўсяго толькі ілюзія, кіраўнік новай польскай дзяржавы выношваў свае, як кажуць, далёка ідучыя планы, што стала ясна пасля таго, як Мінск аказаўся ў яго руках. «Начэльнік паньства» спрабаваў утварыць федэрацыю Польшчы, Літвы, Беларусі і Украіны як фарпост супраць бальшавісцкай Расіі.

8 жніўня 1919 г. польскія інтэрвенты захапілі Мінск. Праўда патрабуе адзначыць, што былі зроблены некаторыя «паслабленні» ў сферы культуры: адкрыўся гарадскі нацыянальны тэатр, пачалі выходзіць перыядычныя выданні на беларускай мове.

25 жніўня 1919 г. выйшаў першы нумар рэдагуемай Я. Купалам газеты «Звон».

Разам з тым меў месца і ўціск. Вядомы, напрыклад, грамадскі дзеяч А. Уласаў (заснавальнік і рэдактар «Нашай нівы») за спробу адкрыць у Радашковічах беларускую гімназію трапіў у канцэнтрацыйны лагер у Стшалкове[2].

Польская цэнзура перашкаджала беларускаму тэатру ў фарміраванні нацыянальнага рэпертуару (пра вастрыню ідэалагічнай барацьбы гэтага часу сведчыць верш «Паэта і цэнзар»).

Можа стварыцца ўражанне, што ў палітыку Купала не ўмешваецца, абыходзіць яе. Ён часта наведвае маці Бянігну Іванаўну, якая жыла ў фальварку Акопы, сястру Леакадзію ў Калісбергу (недалёка ад Акопаў). Тут былі напісаны вершы «З павяўшай славы...», «На нашым...», «Мая навука», «Паўстань...», шматстайны змест якіх прасякнуты пафасам патрыятызму і неўміручасці ідэі адраджэння Бацькаўшчыны. Аднак усе яны сведчаць, што аўтар не ўхіляецца ад грамадска-палітычных пытанняў нацыянальнага жыцця. Яго паэзія палітызуецца, у ёй моцна гучыць тэма беларускай дзяржаўнасці. Настаў момант, калі беларускі Народ, на думку Купалы, абавязаны вылучыць з сваіх шэрагаў лідэра, здольнага сабраць «у адну ўсю Беларусь сям'ю». На чале дзяржавы павінен стаяць гаспадар, што адпавядала б нацыянальным традыцыям і ўяўленням народа. Гэты заклік на ўсю сілу гучыць у вершы «Паўстань...»:

Паўстань з народу нашага, Прарок,
Праяваў бураломных варажбіт,
І мудрым словам скінь з народу ўрок,
Якім быў век праз ворага спавіт!

---

[1] Ніва (Беласток). 1990. 11 лют.
[2] Ніва (Беласток). 1991. 10 лют.

Біблейскі вобраз Прарока, які выразнай лініяй праходзіць праз усю Купалаву творчасць, надае паэтычнай гаворцы асаблівую значнасць і ўзнімае яе на агульнанацыянальны ўзровень.

Паэтыка Купалы ў гэтым вершы, як і ў многіх іншых, свядома арыентуецца на пералічэнне, каб ахапіць з'яву шматбакова, нічога не прапусціць, не забыць.

Паўстань з народа нашага, Ваяк,
І волатам на вогненным кані
Народ аграблены — бы з торб жабрак,—
За бацькаўшчыну павядзі ў агні!

На Ўладара жджэ Беларусь даўно,
І жджэ цябе ўладарства Божы дар,
Вялікае, магутнае яно!..
Пад беларускі сцяг прыдзі, Ўладар!

Аднак сапраўднага нацыянальнага лідэра не было.
Роспаччу поўніцца верш «На нашым...»:

У нашай хаце
Тчэ кросны павук,
А вонкі пагнаці
Не знойдзецца рук...

Паэт смела карыстаецца гаваркім народным словам, якое гучала на вуліцах і дарогах. Гэты верш, калі б ён быў надрукаваны адразу ж пасля напісання, стаў бы, напэўна, выклікам акупацыйным уладам, аднак ён з'явіўся ў друку пазней...

Дзяржаўнае мысленне Купалы асабліва шырока адлюстравалася ў яго публіцыстычнай творчасці. Пачынаючы з восені 1919 г., ён друкуе ў беларускай перыёдыцы, што выдавалася ў Мінску, шматлікія артыкулы, адозвы, фельетоны, у якіх выступае па найбольш актуальных пытаннях адраджэння нацыянальнай дзяржаўнасці і адбудовы Беларусі. Пра надзённасць яго выступленняў сведчаць ужо назвы гэтых матэрыялаў: «Адбудова Беларусі» («Звон», 1919, 19 кастр.), «Зямельная спекуляцыя» («Беларусь», 1919, 24 кастр.), «Беларускае войска» («Беларусь», 1919, 26 кастр.), «Моладзь ідзе!» («Беларусь», 1919, 15 лістап.), «Торжышча» («Беларусь», 1919, 20 лістап.), «Незалежная дзяржава і яе народы» («Беларусь», 1919, 28 лістап.), «Антанта. Маленькі фельетон» (1919, 27 лістап.) і інш.

Купалаўскі адраджэнскі ідэал шматгранны і гарманічны. Публіцыстыка перыяду грамадзянскай вайны перадае яго канкрэтныя рысы. У артыкуле «Незалежнасць», апублікаваным у газеце «Беларусь» за 28 лістапада 1919 г., Купала задумваецца над тым фактам, што апошнім часам узнікаюць і атрымліваюць прызнанне ўсё новыя дзяржавы — Польшча, Літва, Украіна, Латвія і інш., якія, зразумела, маюць поўнае права на незалежнасць.

«А вось загаварыце вы аб беларускай незалежнасці...— працягвае далей Купала.— Тут вам цэлую кучу нагавораць усялякіх перашкод, недарэчнасцяў, што аж вушы вянуць слухаючы. На ўсякую іншую незалежнасць кожны з вамі згодзіцца, абы толькі не на беларускую.

Чаму гэта так?

Беларускі народ самабытны — гэта прызнаюць ужо нават і нашы праціўнікі з польскага ці расійскага лагера. Беларуская дзяржаўнасць таксама мае сваю гісторыю — маю тут на ўвазе Вялікае Літоўска-Беларускае княства. Геаграфічнае палажэнне Беларусі таксама не горшае, як у людзей, ну, хоць бы як палажэнне Швейцарыі. Мы крыху

адсунуты ад мора, але і Швейцарыя не мае мора. Дык чаму ж так страшна наша незалежнасць?

А гэта вось чаму.

Наша незалежнасць соллю ўваччу для незалежнасці нашых суседак — Польшчы і Расіі, бо і адна, і другая хацелі б нашу незалежнасць утапіць у лыжцы вады сваёй незалежнасці.

Для адбудавання вялікай Польшчы «ад мора да мора» трэба пераступіць Беларусь; для адбудавання вялікай Расіі ад Белага да Чорнага мора таксама трэба растаптаць Беларусь.

Вось і выходзе, што трэба Беларусь выкінуць з гісторыі, з геаграфіі, і наогул калі не цалкам прылучыць яе к адной з суседніх дзяржаваў, то разрэзаць напалавіну, але так зрабіць, каб яе не было і звання.

А Беларусь, як і кожная іншая дзяржава, мае права і даб'ецца раней ці пазней гэтага права стаць роўнай і вольнай дзяржавай паміж суседзямі»[1].

Гэтак яно і было: паабяцаўшы беларусам федэрацыю, палякі далучылі беларускія землі да Польшчы, аб'яднаўшы іх у адзінай Рэчы Паспалітай, аб адраджэнні якой абвясцілі свет. Беларусь ізноў апынулася ў ярме прыгнёту і несвабоды, і паэт на гэты конт не цешыць сябе ніякімі ілюзіямі.

Заставалася апошняя інстанцыя — Бог.

Вярні нам Бацькаўшчыну нашу, Божа,
Калі ты цар і неба, і зямлі!

Гэтыя радкі з верша «Цару неба й зямлі», надрукаванага ў газеце «Беларусь» 11 студзеня 1920 г., гучалі як малітва, звернутая да Неба ад імя ўсіх насельнікаў беларускай зямлі.

У студзені — сакавіку Купала цяжка хварэе, але ўжо 24 сакавіка 1920 г., напярэдадні другой гадавіны абвяшчэння БНР, быў напісаны верш «25.III.1918—25.III.1920. Гадаўшчына-памінкі», у якім аўтар як бы падводзіць вынік гэтым двум цяжка пражытым гадам:

Не свята светлае спраўляці
Сягоння будзе наш народ,
А трызну па айчызне-маці
Ён справе ў гэты цяжкі год.

У гэту нашу гадаўшчыну
Звініць ланцуг, як і звінеў,
І там, і тутка безупыну
Шалее катні здзек і гнеў.

У вершы «25.III.1918—25.III.1920. Гадаўшчына-памінкі» Купала падтрымлівае БНР, асуджае і савецкую, і польскую акупацыю, не шкадуючы фарбаў для праўдзівага паказу карціны нацыянальнай трагедыі. Гісторыя — на яго вачах — развівалася як барацьба за ўладу з усімі вывадамі, якія з гэтага вынікалі. Няволя, жалоба, курган...

Аднак час ішоў, нёс новыя павевы і новыя надзеі: легіёны Пілсудскага збіраліся пакідаць Беларусь, і ў сувязі з гэтым ён звяртаецца да беларусаў — «патомкаў крывічаў» з заклікам стаць «пад сцягі красы і свабоды» («У вырай!»). Ясней сказаць было б цяжка — не дазволіла б цэнзура.

15-годдзе літаратурнай творчасці Янкі Купалы адзначалася яшчэ пры паляках — 24 чэрвеня 1920 г. Быў наладжаны банкет, на якім юбіляр выступіў з прамовай, у якой між іншым казаў:

«На беларускай зямлі было і цяпер ёсць шмат фальшывых прарокаў, шмат рэнегацкіх душ, што за лыжку поснай паліўкі з чужой міскі

[1] Спадчына. 1990. № 2. С. 14.

запрадаюць сябе і свой народ у рабства чужынцам, але гэтага няма чаго баяцца. У адным з псалмоў біблейскіх сказана: «Стануў Бог у зграмаджэнні Багоў і паміж Багамі суды судзіць». Будзем верыць, што і ў нас, беларусаў, прыйдуць новыя людзі, новыя прарокі і будуць пабожаму над фальшывымі прарокамі і прадажнымі душамі суды судзіць, з пакалення ў пакаленне праклянцямі ўспамінаць.

Дык не зважайма на здраду, а пойдзем далей сваім хоць цярністым, але святляным шляхам, па якім дагэтуль ішлі; з верай і надзеяй к таму вечнаму сонцу праўды і справядлівасці для ўсіх і для кожнага паасобку, і будзе на Беларусі не такое свята, якое мы цяпер святкуем.

Верце, што мы з'яўляемся дзейнымі асобамі-героямі чараўнічай песні, чудатворнай містэрыі, якую тварыць на Беларусі паклікала нас само жыццё. У гэтых чарах, у гэтым выяўленні бяссмертнага чалавечага духа — наша пабеда, наша слава і шчасце — цяпер і ў будучыні.

Перуновым голасам будзем гаварыць з суседзямі сваімі, бліскавічнымі літарамі будзем упісваць сваю гісторыю ў векавечную кнігу гісторыі народаў.

З квяцістымі сонечнымі думкамі, з нязломнай верай у лепшую долю і волю пойдзем усё наперад і наперад пад святым сцягам вольнай Беларусі.

Змагайся і стань вольным, Беларускі Народ!»[1]

Не быў бы гэта паэт — у прамове іскрыцца купалаўская вобразнасць, метафарыка, яго незраўнаны стыль паэта-адраджэнца, паэта-прарока!

Польскай акупацыі трываць засталося нядоўга — яна працягвалася да 11 ліпеня 1920 г., пасля чаго ізноў была абвешчана БССР.

Бальшавікоў і іх рэжым Купала ведаў і, мусіць, не надта здзівіўся, што тыя пачалі са стварэння пад Мінскам канцлагера для «прадстаўнікоў эксплуататарскіх класаў» — так званых «былых» (дробныя ўласнікі, чыноўнікі, святары і інш.). «Без массовых репрессий и расстрелов нам коммунизма не построить»,— якраз ў гэты час, яшчэ не таячыся, пісаў у сваёй рабоце «Экономика переходного периода» М. Бухарын (1920).

Пачыналіся доўгія гады пострэвалюцыйнага «будаўніцтва», працяглая эпоха таталітарызму.

Было б, аднак, несправядліва ўспрымаць усё тое, што адбывалася ў гэты час на Беларусі, толькі ў змрочных танах. Не. 17 верасня 1920 г. на сцэне толькі што адкрытага Беларускага дзяржаўнага тэатра адбылася прэм'ера «Паўлінкі», а ў канцы года той жа тэатр паставіў «Раскіданае гняздо», упершыню камедыю «Прымакі». У наступным, 1921 г. святло рампы ўбачыла «Адвечная песня».

На III з'ездзе Саветаў у Мінску ў лютым 1921 г. былі ўжыты захады па пашырэнню абсягаў выкарыстання беларускай мовы, якая становіцца важнейшым фактарам культурнай рэвалюцыі. А ў сакавіку 1921 г.— яшчэ большая нечаканасць: Х з'езд РКП(б) абвяшчае лозунг: «Вялікадзяржаўны расійскі шавінізм — найвялікшая небяспека на дадзеным этапе». Што, якія партыйныя гульні стаялі за гэтымі лозунгамі, паэт, магчыма, не ведаў, але затое напэўна ведаў, хаця, можа, і не ў дакладных лічбах, што ўжо ў 1921 г. у рэспубліцы працавала шэсць тысяч школ, у якіх вучыліся 450 тысяч дзяцей і выкладалі 11 тысяч настаўнікаў. Нацыяналізацыя зямлі, абвяшчэнне раўнапраўя нацый, замена прадразвёрсткі прадуктовым падаткам (нэп) сведчылі ў карысць таго, што камуністычная канцэпцыя жыццёвага ладу як быццам

[1] Літаратура і мастацтва. 1988. 7 кастр.

бы здольная была на дабратворныя адносіны да чалавека. Паэту, які звязаў свой лёс з ідэяй адраджэння роднай старонкі, вельмі хацелася верыць, што новы лад сапраўды дасць беларускаму народу магчымасць будаваць вольную і шчаслівую Бацькаўшчыну.

Прасавецкія сімпатыі астудзіў Рыжскі дагавор 1921 г. з Польшчай. Перамовы праходзілі без удзелу прадстаўнікоў Беларусі. Кіраўнік савецкай дэлегацыі Іофэ па загаду Масквы не дапусціў беларусаў да ўдзелу ў перагаворах, цынічна папярэдзіўшы пры гэтым, што Савецкая Расія, калі спатрэбіцца, можа аддаць Польшчы ўсю тэрыторыю БССР. Усю тэрыторыю ўсё ж такі не аддалі: Беларусь была падзелена на дзве амаль роўныя палавіны, і пад уладай Польшчы апынулася заходняя частка. Адбылося дакладна так, як Купала прадказваў паўтара года назад у артыкуле «Незалежнасць» (вышэй мы яго цытавалі).

Беларускія пісьменнікі адмоўна паставіліся да Рыжскага дагавора. Многія з іх бачылі, што рэвалюцыя была і застаецца далёкай ад нацыянальных інтарэсаў беларусаў, што яна ператварыла народ з мэты гістарычнага развіцця ў сродак маніпуліравання бюракратычных вярхоў — бальшавіцкай алігархіі, якая праследавала свае карысталюбівыя, эгаістычныя планы. Тэма падзелу Беларусі на Усходнюю і Заходнюю балюча адгукнулася ў творчасці многіх паэтаў і пісьменнікаў.

Пасеклі наш край папалам,
Каб панскай вытаргаваць ласкі.
*(А. Дудар)*

Не быў выключэннем і Я. Купала. Тэма Заходняй Беларусі праходзіць праз усю яго творчасць.

У 1922 г. выйшаў нарэшце зборнік «Спадчына», у якім паэт на матэрыяле нацыянальнага жыцця даў глыбокае мастацка-філасофскае асэнсаванне асноватворных праблем чалавечага існавання: асоба — народ — гісторыя — дзяржава. Зборнік, складзены на працягу драматычнага часу рэвалюцыі і грамадзянскай вайны, сведчыць, што развіццё паэта ішло шляхам бясконцага вяртання да старых пытанняў, якія заставаліся незагойнымі ранамі на целе народа: свабода, дзяржаўнасць, незалежнасць.

**6**

Напрамак развіцця літаратуры з пачатку 20-х гадоў вызначыла новая грамадская ідэалогія, якая ў Купалы і ў яго паплечнікаў не заўсёды выклікала згоду, а многае проста абурала.

Складаным выглядала пытанне аб нацыянальнай гісторыка-культурнай спадчыне. Упэўнена сцвярджаў сябе погляд на мінулае як на нейкую прыкрую недарэчнасць, якая павінна як найхутчэй забыцца, сысці ў бяспамяцтва. Рэвалюцыя не прызнавала пераемнасці, адмаўлялася ад яе, стваралася ўражанне, што жыццё пачынаецца нанава. Купала і літаратары яго пакалення былі глыбока здзіўлены рэзкім узрастаннем працэсу уніфікацыі ідэалагічных каштоўнасцей, якія ў новых, паслякастрычніцкіх умовах звужаліся да падкрэсленай тэндэнцыйнасці, партыйнасці і класавасці. Былі практычна забаронены паняцці «беларускае адраджэнне», «беларускія нацыянальныя інтарэсы», «беларуская свядомасць», «нацыянальная культура». У ход пайшлі новыя словы: сусветная рэвалюцыя, інтэрнацыянал, дыктатура, сацыялізм, пралетарыят і інш.

І Купала не маўчаў. 24 студзеня 1922 г. з'явіўся славуты верш «Перад будучыняй», у якім ва ўмовах савецкай рэчаіснасці знайшла працяг і развіццё даўняя тэма лёсу народнага, распачатая яшчэ ў «А хто там ідзе?». На гэты раз паэт бачыць, што гістарычны поступ народа прыпыніўся, што яго чакае невядомасць.

Стаім мы перад будучыняй нашай
І ўсёварожым, сочым ейны ход...

Ці ўскрэснем мы, душою ўпаўшы, звяўшы,
Каб выйсці ў свет, як нейкі здольны род...

У вершы праўдзіва адлюстравалася асабістае самаадчуванне аўтара, яго заклапочанасць тым, што адбывалася навокал. Слова вырастала з непасрэдна перажываемага.

Становішча выглядае нават горш, чым у «А хто там ідзе?».

Вострае адчуванне нацыянальнай абдзеленасці і несправядлівага ўшчамлення ізноў выступае ў Купалы — галоўнай рухаючай сілай паэтычнага перажывання і лірычнай рэфлексіі.

Там чутна: Беларусь! Там — Незалежнасць!
А там — «Паўстань пракляццем...». Ну, а мы?
Мы ў страху... дум крутня... разбежнасць...
Без толку крыллем лопаем, як цьмы.

Фальклорную паэтыку ў гэтым вершы, як бачым, значна пацясніў стыль газетнай гаворкі і прамоўя.

Аграбленыя з гонару й кашулі,
З свайго прыпынку выгнаныя вон,
Мы дзякуем, што торбы апранулі
На нас ды з нашых нітак-валакон.

Вядома, такія творы не маглі спадабацца савецкай уладзе, аднак бальшавікі не трацілі надзеі перавыхаваць аблуднага паэта, які аказаўся далёкім «ад пралетарскіх мэтаў класавай барацьбы» (В. Кнорын).

31 жніўся 1922 г. у Акопах была завершана трагікамедыя «Тутэйшыя», падзеі якой разгортваюцца ў Мінску ў складаны, драматычны час — 1918—1920 гг. Аўтар выступае як супраць нацыянальнага рэнегацтва, так і супраць польскага і велікарускага шавінізму. У вобразе Мікіты Зносака ён едка высмейвае людзей, што здрадзілі народу, адарваліся ад нацыянальнай глебы, гатовы прыстасавацца да любога рэжыму ўлады. У залежнасці ад гэтага ён называе сябе то на рускі манер Нікіціем Знасілавым, то на польскі — Нікіціўшам Знасілоўскім. Яго жыццёвая філасофія простая да прымітывізму. «А ў мяне... душа рэальная,— гаворыць Мікіта,— хто мне больш плаціць, таму і служу, чхаць хацеў на ўсякія ідэі». У камізме і трагічнасці гэтай постаці праглядваецца старое, заснаванае на сацыяльным і духоўным уціску і эгаізме грамадства, якое нясе сваю долю адказнасці і віны за з'яўленне такога чалавечага феномена — хама і нягодніка. Заснавальнікам нацыянальнай самабытнасці і духоўных асноў асобы з'яўляецца Янка Здольнік, ідэалам якога з'яўляецца працоўная, дэмакратычная Беларусь, без цара, паноў і чыноўнікаў.

Афіцыйная крытыка абвінавáціла аўтара «Тутэйшых» у недаравальных памылках. Крытык-вульгарызатар Бэндэ пісаў: «У першыя

гады мірнага будаўніцтва Купала, асеплены буржуазным нацыяналізмам, усё яшчэ актыўна супрацьстаўляецца ў сваёй творчасці пралетарскай дыктатуры. Найбольш характэрным і буйным творам для гэтага часу з'яўляецца яго п'еса «Тутэйшыя» 1922 г., а таксама вершаваны твор «Перад будучыняй»[1].

З іншых падзей канца 1922 г., якія мелі непасрэдныя адносіны да Купалы, трэба адзначыць выхад першага нумара новага літаратурна-мастацкага часопіса «Полымя», які фактычна замяніў сабой часопіс «Адраджэнне», першы нумар якога, ужо набраны і аддрукаваны, цэнзура канфіскавала з-за таго, што ў ім быў змешчаны верш Я. Купалы «Перад будучыняй».

Новая ўлада зрабіла стаўку на моладзь, якая ў новых умовах пачувала сябе гаспадаром становішча. Маладымі авалодала пачуццё рэвалюцыйнага месіянства. Прадстаўнікі маладзейшага пакалення 20-х гг., кіруючыся ідэаламі сусветнай рэвалюцыі, жаданнем усё перайначыць, перарабіць на новы лад, часам ішлі занадта далёка, адмаўляючыся ад свайго, роднага, ігнаруючы нацыянальную спадчыну, малюючы перад сабой сацыяльныя міражы, спараджаючы шчодрыя ілюзіі блізкага шчасця і ўсеагульнага задавальнення. Нашаніўская паэтычная традыцыя стала лічыцца старой і не прыдатнай у новых умовах, ■ мэты і задачы адраджэння ўжо дасягнутымі і выкананымі. Маладнякоўцы (арганізацыя «Маладняк» была заснавана ў 1923 г.) трымаліся той думкі, што Я. Купала, Я. Колас і некаторыя іншыя старэйшыя пісьменнікі па-ранейшаму знаходзяцца на варце адраджанізму, стаяць перад гістарычнай «канавай» паміж старым і новым, якую не ў стане перайсці і наблізіцца да будучыні. У паэмах «Босыя на вогнішчы», «Сон на балоце» М. Чарот — лідэр «Маладняка» — палемізуе з Я. Купалам — аўтарам паэмы «На куццю» і іншых твораў, бо не можа ў старасвецкім князю прызнаць духоўнага лідэра сучаснасці.

Вядома, у 20-я гг., калі пачалі актыўна сцвярджаць сябе новыя ідэі і творчыя прынцыпы, свядомасць чытача ўжо не магла задаволіцца нашаніўскім бачаннем жыцця. Дарэчы, Купала адчуваў гэта, можа, нават і лепш, чым хто-небудзь ■ маладых. Добрае сведчанне таму — кніга «Спадчына», вельмі сучасная як па змесце, так і па форме Аднак яна засталася незразумелай для сучаснікаў.

Многае праясніў верш «Арлянятам» (1923) — паэтычны зварот да моладзі, наказ свята захоўваць гераічныя традыцыі мінуўшчыны і заклік будаваць новую Бацькаўшчыну.

Вам на памяць Серп і Молат
Даравала доля,
Каб з вас кожны быў, як волат,
Не гнуў плеч ніколі.

Серп і молат, што красаваліся на савецкім гербе рэспублікі, Купала ўспрыняў як алегарычнае ўвасабленне традыцыйных нацыянальных каштоўнасцей свайго народа, які заўсёды разумеў жыццё як стваральную дзейнасць. У падтэксце гучала думка аб непрыняцці паэтам разбуральнага характару рэвалюцыі, яе негатыўных адносін да мінулага.

Такім чынам, узаемаадносіны Купалы і савецкай улады, якая ўвасабляла ў сабе ідэалы Кастрычніцкай рэвалюцыі, з самага пачатку складваліся не проста. Мелі месца і напружанасць, і падазронасць, і цэнзурныя рэпрэсіі, і недавер. Паэт жыў і працаваў з думай аб Бацькаўшчыне.

---

[1] Маладняк. 1931. № 5. С. 106.

У 1924 г. Купала надрукаваў паэму «Безназоўнае». Назва, на першы погляд, як бы і крыху дзіўнаватая. Чаму — «безназоўнае», калі тое, пра што ішла размова, мела для свайго вызначэння даўняе і любімае паэтам слова *адраджэнне*. Назва, такім чынам, была, але ўжываць паняцце *«адраджэнне»* ў дачыненні да навейшай беларускай гісторыі было забаронена. Тым не менш у «Безназоўным» аўтар застаецца верны сваёй адраджэнскай прыродзе. Задума нарадзілася з канкрэтна-гістарычнага факта — рашэння Масквы ў 1923 г. аб тэрытарыяльным пашырэнні БССР у яе этнаграфічных межах. РСФСР вярнула беларусам некаторыя землі Віцебскай, Смаленскай, Магілёўскай губерняў. Аднак сама тэма — тэма дзяржаўнага і духоўнага самасцвярджэння беларускага народа — ад самага пачатку купалаўская. Яна ўзыходзіць да перыяду дарэвалюцыйнай творчасці (верш «Маладая Беларусь» — 1912 г. і інш.). Беларусь прадстае ў паэме ў сімвалічным вобразе святочна апранутай нявесты. Аўтар інтэнсіўна шукае і знаходзіць сродкі, разлічаныя на самы шырокі маштаб абагульнення, не адмаўляючыся пры гэтым ад традыцыйнай паэтыкі народна-песеннай вобразнасці, ад алегорый і сімвалаў, як, напрыклад, той «чырвон паясок» на вясельным убранні нявесты.

У пачатку 1925 г. выйшаў у свет зборнік «Безназоўнае», у які акрамя аднайменнай паэмы ўвайшлі творы, напісаныя ў асноўным за перыяд 1919—1924 гг. Маладняковец А. Бабарэка, разглядаючы зборнік «Безназоўнае», прызнаў, што аўтар «пачынае абмяркоўваць ролю і значэнне сучаснай гістарычнай пары, пачынае шукаць пераходу цераз «канаву», перад якой апынуўся»[1]. «Канаву» А. Бабарэка прыгадаў, успомніўшы купалаўскі верш 1918 г. «У дарозе», дакладней — апошні яго радок: «Но, мой косю!.. Стой!.. Канава!..» У цэлым жа маладняков коўцы к гэтаму часу ў адносінах да Я. Купалы памянялі думку ў лепшы бок.

Аднак многае, што адбывалася ў рэспубліцы, трывожыла. Купала не мог не заўважыць, што тое, што выдавалася за камуністычную ідэю, у сапраўднасці было адчужэннем чалавека ад уласнасці і ўлады, ад права распараджацца плёнам сваёй працы, вяло да самавольства і беззаконнасці. Бачыў ён і тое, што да новай улады прымазваюцца выпадковыя і маральна неахайныя людзі, якія, апантана ажыццяўляючы бальшавіцкую праграму, праяўлялі нацыянальны нігілізм, рэлігійную нецярпімасць, чынілі ўціск і нават здзек над чалавекам[2]. Не мала было такіх і сярод беларусаў. Купала называў іх адшчапенцамі. Менавіта ім ён прысвяціў у 1925 г. верш «Адшчапенцам (заходнім)». Давесак у дужках «заходнім» — гэта толькі для зману цэнзуры, бо відавочна, што гаворка ідзе пра з'яву «мясцовага» характару, ды і назва: «Адшчапенцам (заходнім)» — лагічна дапускала, што, акрамя адшчапенцаў (ці «адменцаў», як іх называе паэт) «заходніх», існуюць яшчэ і «ўсходнія».

Летам 1926 г. была створана і надрукавана ў «Полымі» і іншых выданнях надзвычай цікавая нізка вершаў «І што я ёй зрабіў такое?», «Па даўгінаўскім гасцінцы», «І прыйдзе», «За ўсё...», «Царскія дары», «У лесе», «Вецер», «Маладая ачуняла», «На пагранічы» і інш., у тым ліку «Каб...», «Акоў паломаных жандар...», «Ёсць жа яшчэ...», якія пазней апынуліся пад строгай забаронай.

У вершах 1926 г., што даволі нечакана для Купалы дакастрычніц-

---

[1] Маладняк. 1925. № 7. С. 11.

[2] М. Гарэцкі паказаў гэты тып у вобразе Гаршчка (аповесць «Дзве душы»).

кага і цалкам звычна — для паслякастрычніцкага, шмат характэрных, непрыдуманых дэталяў і падрабязнасцей тагачаснага жыцця і побыту. Ёсць тут, безумоўна, цэлы шэраг аўтабіяграфічных матываў. Хаця, як вядома, Купала ў сваіх творах, свядома ці несвядома, ухіляўся прамой аўтабіяграфічнасці, псіхалагічныя перадумовы яго творчасці складваліся, несумненна, пад уплывам жыццёвага лёсу. Так, у вершы «І прыйдзе» ўвасобіўся, на думку Р. Бярозкіна, пакутлівы роздум Купалы над праблемай «мастак і народ, абавязак пісьменніка перад народам і часам»[1]. У пэўнай ступені з гэтым можна згадзіцца.

І прыйдзе новых пакаленняў
На наша месца грамада
Судзіці суд, ці мы сумленна
Жыццё прайшлі, ці чарада
Зняваг мінулых нас не з'ела,
Пакінуўшы свой дым і чад,
І мы па-даўняму нясмела
Жылі не ў лад і неўпапад?..

Пра які суд ідзе гаворка? Вядома, гэта глабальна-асацыятыўны вобраз біблейскага паходжання, аднак калі шукаць жыццёвую падаснову верша, штуршок для яго стварэння, то можна меркаваць, што ён быў напісаны пад уплывам суда над Уладзімірам Лістападам — удзельнікам Слуцкага паўстання 1920 г. Сведкам абвінавачання на судзе выступіў Цішка Гартны (можа, гэта і ўлічваў Р. Бярозкін, калі вызначаў праблематыку верша?). Вядома, калі Купала і меў тут на ўвазе пралетарскага пісьменніка Цішку Гартнага, дык не яго аднаго: верш атрымаўся значна шырэйшым па маштабах лірычна-спавядальнай думкі і шчырасці паэтычнага пачуцця. Пра гэта сведчыць яго заключныя строфы:

І засумуецца патомак,
Калі дазнаецца аб нас,
Што нейкі з нас хоць быў не зломак,
А плечы гнуў у крук не раз;

Не йшоў з адкрытымі вачыма
У свет і сцежкі не прастаў,
А ўсёй магчымасці магчымай
Таптаў сляды, сябе таптаў.

У творчасці паэта ўзмацняецца трагічны разлад паміж нядаўнімі спадзяваннямі і нават рэчаіснасцю, якой яна прадстае перад яго вачыма. Не было недахопу ў фактах, якія сведчылі, што новы лад у адносінах да беларусаў ажыццяўляў старую русіфікатарскую палітыку, якую праводзіў некалі царызм. Камуністычная ідэя, такім чынам, на практыцы аказалася ідэяй імперскай, паводле якой рускі народ стаў «старшым братам», усе астатнія — «малодшымі». Нацыянальная годнасць «малодшых братоў» — асабліва такога, як беларускі,— ігнаравалася і прыніжалася. БССР не мела ніякай палітычнай самастойнасці і поўнасцю залежала ад Масквы, царскае ярмо ўсяго толькі памянялася на бальшавіцкае. Гэта думка вынікала, па сутнасці, з падтэксту напісанага ў тым жа 1926 г. верша «Царскія дары», які меў падзагаловак «З мінулага», а на самай справе непасрэдна суадносіўся з сучаснасцю. 5 чэрвеня 1926 г. з'явіўся забаронены пазней верш «Акоў паломаных жандар», які меў тлумачэнне: «На палеміку ў «Савецкай Беларусі» аб беларускай мове».

[1] Бярозкін Р. Свет Купалы // Звенні. Літаратурная крытыка. Мн., 1981. С. 173.

У гэтым жа шэрагу антышавінісцкіх твораў — верш «Каб...», які ўвайшоў у тую ж знакамітую нізку 1926 г. Публіцыстычны па зместу, ён увабраў у сябе рэдкасныя па інтанацыі, рытмах, вобразнасці россыпы вуснай народнай творчасці. Купала тут увесь у дзеянні, у дынаміцы, яго вобразнасць мае яскрава выяўлены кантрастны характар:

Каб таму маланкай
Асляпіла вочы
І блукаў абмацкам
Ён удзень і ўночы,—
Хто для нашых дзетак
Хоча асляплення,—
Бэсціць чужаніцай
Думак прасвятленне.

Верш гаварыў пра жывучасць фальклорных традыцый, пра трывушчасць самога беларускага народа (нездарма ў «Царскіх дарах» ён быў названы «Беларусам нямрушчым»).

Паэт не збіраўся здавацца, яго аўтарытэт у народзе быў надзвычай высокі. У вядомым дакладзе Затонскага «Об обследовании практики нацработы в БССР», заслуханым на пасяджэнні Бюро ЦК КП(б)Б 27 чэрвеня 1929 г., гаварылася: «В школах, везде рядом с портретом Ленина обязательно имеется портрет Янки Купалы, того самого, что рекомендует доктрину Монра («Америка для американцев») для Белоруссии и вообще, везде — в академии, школе, на советском съезде проводится своеобразный культ Купалы»[1].

У дзяржаўным і грамадскім жыцці ў гэты час усё больш сцвярджаліся метады грубага адміністравання. Месца на вяршыні ўлады заняў Сталін.

Купала быў вялікі і шыракавядомы паэт, і з гэтым нельга было не лічыцца, таму з боку ўлад было затрачана шмат намаганняў на яго «перавыхаванне», ужыты ўціск. У 1927 г. на адной з сустрэч са студэнтамі ён выбраў для чытання даўнюю сваю паэму «Курган», і гэта невыпадкова[2].

У паэме «Курган» на ўсю моц гучыць, як мы помнім, тэма «паэт і ўлада», і гэтым чытаннем паэт намякаў, што перад ім стаў выбар такі ж, як некалі перад яго героем — Гусляром з паэмы «Курган» і што яму гэтак жа нялёгка. Трэба сказаць, што ў адрозненне ад свайго рамантычнага героя Купала другой палавіны 20-х гадоў у некаторых выпадках вымушаны быў здаваць пазіцыі, услаўляць захады новага ладу па будаўніцтве «раю на зямлі».

У 1928 г. Сталін канчаткова прыпыніў нэп, выступіўшы за ўсеагульную роўнасць, якая на практыцы, будучы рэалізаванай, выглядала як усеагульная беднасць. З магазінаў знікалі прадукты харчавання, пусцеў рынак, з'явіўся прывід голаду. Затое набіраў сілу так званы «сацыялістычны наступ па ўсяму фронту». Першая пяцігодка абвясціла лозунг: «Тэхніка вырашае ўсё!» Эканоміка краіны па-ранейшаму мела пераважна аграрны характар, і індустрыялізацыя праводзілася перш за ўсё для ўзмацнення ваеннай магутнасці Савецкага Саюза. Бальшавікі фактычна ўсё яшчэ працягвалі курс на сусветную рэвалюцыю, хаця рэвалюцыйная хваля на Захадзе даўно пайшла на спад.

У паэзіі Купалы ўсё часцей даюць сябе знаць рысы рытарычнасці, ілюстрацыйнасці. Прыклад — вершы «Дыктатура працы» і «Сыходзіш, вёска, з яснай явы...», напісаныя ў 1929 г. Ствараецца нават уражанне, што аўтар як бы паверыў у бальшавіцкую рыторыку і дэмагогію, бо па-

---

[1] Неман. 1992. № 9. С. 144.
[2] Такі ён быў: Успаміны пра Я. Купалу. Мн., 1975. С. 180.

няцце «дыктатура працы» ў дачыненні да той рэчаіснасці, якая мела месца ў СССР, з'яўлялася ўсяго толькі ідэалагічным падманам. Ад верша веяла халоднай газетнай рыторыкай, якую не мог сагрэць нават традыцыйна купалаўскі вобраз: «А ў ясным сонцы, як у байцы».

Купала аказаўся ашуканым, як пераважная большасць тагачаснай творчай інтэлігенцыі — і савецкай, і той, што вярталася з-за мяжы, паверыўшы ў гуманны характар сацыялістычнага ладу. Яны зблыталі міраж з сапраўднасцю.

## 7

З восені 1929 г. у СССР разгарнулася шырокая кампанія па калектывізацыі, «ліквідацыі кулацтва як класа». Сялянства павялі па шляху пралетарызацыі.

Ідэя калектывізацыі зямлі не была для Купалы новай. Яна, як помнім, абмяркоўвалася палітычнымі — сацыялістамі з БСГ яшчэ ў перыяд першай рускай рэвалюцыі. Паэт не падзяляў іх думкі пра неабходнасць абагулення зямлі і правядзення калектывізацыі сялянскіх гаспадарак, скептычна глядзеў на магчымасць калектывісцкага гаспадарання. І, трэба сказаць, на Беларусі, дзе сельскай «абшчыны» ніколі не было, арганізацыя калгасаў ішла асабліва цяжка.

Па ўсім адчуваецца, што сваё вядомае «Сыходзіш, вёска, з яснай явы...» (1929) ён напісаў пад нейкім прымусам. Верш, прынамсі, прасякнуты супярэчлівымі пачуццямі. Пра гэта сведчыць нават тое, што рытміка верша збліжана з рытмікай тых твораў, у якіх паэт кляйміў некалі перыяд сталыпінскай рэакцыі («У ночным царстве» і інш.).

30-я гг. з'явіліся працягам і ўзмацненнем рэпрэсій і тэрору, не аціхалі арышты. Працэс калектывізацыі, з ужываннем усіх сродкаў прымусу, дасягнуў свайго апагея. Высяляліся сем'і так званых кулакоў, скідваліся крыжы з царкоўных званіцаў, храмы станавіліся клубамі, складскімі памяшканнямі, а то і проста разбураліся. Пад раскулачванне трапілі маці Бянігна Іванаўна і сястра Леакадзія, якія жылі ў Акопах. Пасля адпаведных захадаў цягнік з раскулачанымі, які вёз іх у Котлас, удалося дагнаць у Барысаве, маці і сястра былі вызвалены, але, як аказалася, гэты крайне прыкры, абуральны выпадак не быў выпадковым. Хмары навісалі над галавой самога паэта.

У друку з'явіўся артыкул Л. Бэндэ «Шлях паэта», у якім Я. Купала абвяшчаўся «ідэолагам буржуазнага нацыянал-адраджанізму»[1]. А што з такім рабіць — разумелася само сабой... Улетку 1930 г. сярод беларускіх пісьменнікаў, дзеячаў навукі, культуры, асветы пракацілася хваля арыштаў. Многія беларускія літаратары, дзеячы мастацтва і навукі былі абвінавачаны ў «адкрытай контррэвалюцыі», «сувязі з кулакамі», «фашызмам», у «шпіянажы» і г. д. П. Мядзёлка, успамінаючы 1930 год, калі яна сядзела ў перапоўненых падвалах Мінскага ДПУ (яе прывезлі сюды з Масквы, з Бутырак), пісала:

«Цікава, ці застаўся хто ў Мінску на волі? Усе беларускія культурныя дзеячы — навукоўцы, пісьменнікі, акторы,— усе за кратамі. Што гэта робіцца на белым свеце?»[2]

У гэтай атмасферы Купала адчуваў сябе зацкаваным, над ім навісла рэальная небяспека арышту. Праўда, за краты яго пакуль не бралі, але пачалі рэгулярна мучыць допытамі ў ДПУ аб нібыта існую-

---

[1] Маладняк. 1930. № 6—7. С. 110.
[2] Полымя. 1993. № 3. С. 219.

чай контррэвалюцыйнай арганізацыі «Саюз вызвалення Беларусі», лідэрам якой з'яўляецца не хто іншы, як ён — «ідэолаг буржуазнага нацыянал-адраджанізму». 20 лістапада 1930 г., каб пазбегчы здзекаў і знявагі, паэт робіць замах на ўласнае жыццё, аднак лёс і на гэты раз быў да яго літасцівы. Першы сакратар ЦК КПБ(б) К. Гей паведамляў у Маскву:

«Считаю необходимым сообщить Вам, что вчера, 20 ноября утром, покушался на самоубийство Янка Купала — народный поэт Белоруссии. Покушение было несерьезным. Купала ударил себя перочинным ножом в правый бок, жизнь его вне опасности, и если не будет сепсиса или других осложнений, то дней через пять он будет здоров.

Янка Купала входил в руководящий центр «Саюза Вызвалення Беларусі», как о том свидетельствуют показания Лесика, Некрашевича и других. Янка Купала являлся идейным центром нац.-демовской контрреволюции, что нашло отражение и в его творчестве. Наряду с произведениями вполне советскими у него имеются стихотворения и кулацкого и прямо контрреволюционного содержания.

Приглашенный для переговоров в ГПУ, Янка Купала упорно отрицал свою принадлежность к какой бы то ни было контрреволюционной организации и не обнаружил ни малейшего желания пойти на встречу (так у арыгінале.— *У. Г.*) нам в смысле хотя бы осуждения контрреволюционной деятельности своих друзей — участников и руководителей СВБ...»[1]

Пасля замаху на самагубства Купала некалькі тыдняў пад нядрэмным вокам ДПУ праляжаў у бальніцы. Улады прымусілі яго зрабіць самаагавор — з'явіўся так званы «Адкрыты ліст Я. Купалы», у якім паэт адракаўся ад нашаніўскіх традыцый, ад «адраджэнства» і «незалежніцтва», ад «нацыянал-дэмакратычнага асяродзішча». «Пакаянны» ліст пісаўся, кажуць, пад дыктоўку Л. Бэндэ.

Пасля гэтага Купала быў ужо канчаткова зломлены. Бальшавікі, можна сказаць, дамагліся свайго. У 1931 г. ён піша шэраг амаль безжыццёвых, рытарычных вершаў, у якіх апявае сацыялістычную яву як нешта незвычайнае, што па-сапраўднаму можна будзе ўславіць толькі пасля прыходу новых, па-асабліваму таленавітых «летапісцаў». Новыя «летапісцы» прыходзілі, але іх тут жа «падмяталі» — накіроўвалі ў ГУЛАГ. Цэлы шэраг пісьменнікаў (Лукаш Калюга, Максім Лужанін, Сяргей Астрэйка, Уладзімір Сядура, Масей Сяднёў і многія іншыя) былі пасаджаны па справе так званага Саюза вызвалення Беларусі (які на самай справе, як з цягам часу стала вядома, увогуле не існаваў). Будаўніцтва сацыялізму вялося, па сутнасці, на чалавечых касцях.

У літаратурна-мастацкім працэсе ўсё больш вызначаюцца тыя партыйна-ідэалагічныя патрабаванні, якія пазней сталі вядомы як творчыя прынцыпы сацыялістычнага рэалізму. Пісьменнікі абавязаны былі выконваць «сацыяльны заказ партыі» — пісаць пра тое, пра што загадаюць. Адна з самых распаўсюджаных і ўхваленых зверху формаў паэтычнага асваення рэчаіснасці 30-х гадоў — непасрэдны водгук на падзеі, адлюстраванне жывой канкрэтыкі сацыяльна-грамадскіх працэсаў. Звычайна гэта былі творы ілюстрацыйнага плана, адзначаныя публіцыстычнасцю і дакументалізмам. Яны ствараліся ў форме лірычнага дзённіка ці рэпартажу, вытворчага нарыса або замалёўкі працоўных будняў. Сярод такіх твораў была паэма Я. Купалы «Над ракою Арэсай», надрукаваная ў газеце «Звязда» 29—30 чэрвеня 1933 г.

Пасля стварэння адзінага Саюза савецкіх пісьменнікаў (1934)

[1] Спадчына. 1990. № 1. С. 20.

спектр творчай свабоды мастака яшчэ болей звузіўся. Жорсткія рамкі сацыялістычнага рэалізму строга рэгламентавалі літаратурны працэс і пошукі пісьменніка. Купалу практычна ўжо не хапала сіл, каб выбавіцца з уласцівай 30-м гадам сістэмы ідэалагічных каардынатаў. Тым не менш ён заставаўся вядомым нацыянальным паэтам. Сведчанні таму — лепшыя вершы, якім нельга адмовіць у высакароднасці і патрыятызме, прыярытэце агульначалавечага над вузкакласавым. Праўда, такіх твораў не шмат, але яны ёсць. Прыгадваюцца, напрыклад, паэма «Тарасава доля», верш «Генацвале» і некаторыя іншыя. Гэтымі творамі паэт, здавалася б, аддаваў даніну часу — тэма дружбы народаў была ў 30-я гады афіцыйнай, санкцыянаванай зверху. Аднак Купала здолеў пераадолець яе казённы статус, асэнсаваць вельмі асабіста, узняць на вышыню сэрца.

Да нядаўняга часу вяршыняй лірыкі Купалы 30-х гадоў лічыўся вядомы «ляўкоўскі цыкл», напісаны ў вёсцы Ляўкі Аршанскага раёна, дзе паэт любіў праводзіць свой летні адпачынак. Гэта вершы «Здаецца, было гэта ўчора...», «Беларусі ардэнаноснай», «Сонцу», «Алеся», «Хлопчык і лётчык», «Лён», «Вечарынка», «Сыны», «Старыя акопы», «Партызаны», «Госці», «Дарогі», «Сосны» і інш., створаныя ў чэрвені — жніўні 1935 г. У беларускай паэзіі сярэдзіны 30-х гг. яны для многіх прагучалі вельмі нечакана. Раўніцелі артадаксальнага напрамку развіцця савецкай літаратуры (г. зн. сацыялістычнага рэалізму) гатовы былі крытыкаваць Купалу за адыход ад магістральных тэм будаўніцтва сацыялізму, класавай барацьбы, выкрыцця так званых ворагаў народа ў сферы штодзённага існавання чалавека, побыт, нават «інтым».

Ляўкоўскія вершы Купалы звернуты пераважна да ідэальнага боку жыцця. Аўтар, мяркуючы па ўсім, свядома ішоў на гэта, мудра адчуваючы прызванне мастака бараніць жыццё, стваральны пачатак, уносіць у навакольную рэчаіснасць гармонію і згоду. Савецкая дзяржава разглядала чалавека ўсяго толькі як суб'ект класавай барацьбы, як будаўнічы матэрыял для светлай будучыні, а ў «ляўкоўскім цыкле» ён раптам трапіў у цэнтр паэтычнай канцэпцыі жыцця.

Творы, што ўваходзяць у «ляўкоўскі цыкл», далёка не раўнацэнныя. Скажам, верш «Алеся» хвалюе да гэтага часу, у ім Купала расказвае пра новую долю моладзі. Як паэт ён валодаў дарам узняць простую з'яву да завоблачных вышынь, і ў вершы «Алеся» гэтае ўменне праявіла сябе ў поўнай меры. Купалаўская «Алеся» — гэта ўслаўленне неадольнай сілы жыцця, часу, перамога агульначалавечага ў свядомасці паэта і ў яго творчасці.

Да «Алесі» тэматычна прымыкае верш «Хлопчык і лётчык», герой якога таксама захоплены марай адкрыць для сябе шырокі свет з усімі яго таямніцамі. Гэта жаданне блізкае і зразумелае паэту, якому яўна падабаецца цікаўнасць хлопчыка, яго прага ведаў, здольнасць да духоўнага росту.

Купалу — аўтару «ляўкоўскага цыкла» — нельга адмовіць у высакароднасці і патрыятызме, што выявілася ў славутым вершы «Лён», які ўвасобіў у сабе істотныя рысы беларускага народнага характару — прыгажосць душы, працавітасць, добразычлівасць, адданасць у каханні.

Можна, вядома, папракнуць аўтара ў недахопе праўды жыцця, і гэты папрок будзе ў многім справядлівым, аднак варта ўлічваць і традыцыйную своеасаблівасць паэтыкі Купалы, уласцівую яго стылю сказавасць, схільнасць да рамантычна-ідэалізаванага бачання свету. Зразумела, многае ў «ляўкоўскім цыкле» патрабуе крытыкі і перагляду, аднак «Алеся», «Хлопчык і лётчык», «Лён» і нават «Госці» свед-

чаць, што нацыянальны характар паэзіі Купалы, яго герояў аказаўся шырэй прымітыўна зразуметай сацыяльнай псіхалогіі, адлюстравання якой патрабавалі ідэйныя натхніцелі савецкай літаратуры.

Больш строгай ацэнкі патрабуюць вершы «Сонцу», «Здаецца ж, было гэта ўчора...», «Беларусі ардэнаноснай», «Як я молада была...», «Дзве дзяўчыны» і інш., у якіх аўтар напрамую ўслаўляе пабудаваны бальшавікамі новы, сацыялістычны лад жыцця. Бальшавікі, як вядома, сацыялізму не пабудавалі, аднак тое, што ў выніку іх намаганняў атрымалася, прымусілі называць і лічыць сацыялізмам. Між тым гэта была ўсяго толькі сістэма фікцый: «новы чалавек», «вольная праца», «права на працу і адпачынак», «маладым — дарога, старым — гонар» і г. д.,— якая ні ў якой ступені не адпавядала рэальнаму становішчу рэчаў. Названыя вышэй вершы — мастацкая ілюстрацыя да гэтых фікцый. І гэта не проста творчая няўдача паэта. Калі будзем разважаць такім чынам і на такім узроўні, дык нічога не зразумеем у яго жыцці і творчасці. Гэта трагедыя нацыянальнага прарока і паэта, які, па сутнасці, страціў усю некалі так уласцівую яму нацыянальную пасіянарнасць. Ад былога Купалы застаўся адзін цень, і ўсё ж нават такі паэт не задавальняў афіцыйныя ўлады. Не падабалася тое, што ў ім не выветрылася да канца нацыянальная своеасаблівасць, уласцівае яму самабытнае мысленне. Таталітарная сістэма рабіла ўсё, каб Купала з паэта нацыянальнага ператварыўся ў паэта савецкага. Шмат што, як бачым, ім удалося. Пра гэта сведчаць зборнікі «Песня будаўніцтву» (1936), «Беларускі ардэнаноснай» (1937), «Ад сэрца» (1940), якія можна разглядаць як праяўленне характэрнай для савецкай літаратуры 30-х гадоў татальнай эстэтызацыі рэчаіснасці. Купала, як і ўсе (ці пераважная большасць), трапіў у сталінскі палон і заставаўся бездапаможным вязнем вялікага — на ўсю краіну! — ГУЛАГу.

«Пісалася ўсё гэта,— так лічыць У. Калеснік, і з ім нельга не згадзіцца,— як спазмы віны і спробы адкуплення, як магічныя заклінанні ўласнай душы ад тугі і пакуты смяротнай. Купала ніколі ўжо не вырваўся з кіпцюроў дэпрэсіі, можа, часам паддаваўся ілюзіі, што яго місія народнага паэта, ахоўніка і творцы скарбаў беларускай культуры ўсё ж патрэбная. Магло яму здавацца, што няма ў народзе сілы, якая здольна спыніць эксперыменты па інтэрнацыяналізацыі, што тварыліся зверху. Ён мог хоць часткова стрымліваць закусы інжынераў уніфікацыі свету самім фактам прысутнасці ў літаратурна-творчым жыцці Беларусі»[1].

Ад Купалы патрабавалі ўсё новых і новых сведчанняў аб «благонадежности», самакрытыкі, паэт павінен быў пастаянна каяцца ў неіснуючых грахах мінулага.

Буйная падзея канца 30-х гадоў — уз'яднанне Заходняй Беларусі ў адзінай БССР (1939). Купала вітаў гэтае аднаўленне гістарычнай справядлівасці і выступіў з цыклам вершаў «На заходнебеларускія матывы»...

А далей выбухнула Вялікая Айчынная вайна. Купала быў эвакуіраваны на ўсход. Ён верыў у перамогу свайго народа і змагаўся за яе.

Памёр паэт 28 чэрвеня 1942 г. Апошні акт жыццёвай драмы вялікага беларускага нацыянальнага паэта да гэтага часу пакрыты таямніцай. Ёсць небяздоказныя меркаванні, што Купала памёр не сваёй смерцю, што яго ўсё ж такі нагнала няўмольная сталінская «ласка» і сістэма жорстка расправілася з варожым ёй «элементам». Пахавалі

[1] Літаратура і мастацтва. 1993. 12 лют.

Янку Купалу 1 ліпеня 1942 г. на сціплых Ваганькаўскіх могілках. Праз дваццаць год прах паэта быў перавезены ў Мінск і пахаваны тут, на Вайсковых могілках,- побач з Якубам Коласам.

Творчасць Купалы ад першага і да апошняга верша належыць Беларусі і яе нацыянальнай культуры. Як аўтарытэтна сказаў Якуб Колас: «Нельга ўявіць беларускі народ без такой велічнай постаці, як Янка Купала». У ім, як і ў самім Коласе, Багдановічу, Гарэцкім, Гаруне, выявіўся духоўны вынік пэўнага этапу гістарычнага развіцця беларускага народа. Яго паэзія дае яскравае ўяўленне аб самых істотных рысах беларускага характару — яго чалавечай годнасці, духоўнасці і талерантнасці.

Пранікнёна сказаў пра Купалу рускі паэт А. Т. Твардоўскі: «Лірык па складу свайго цудоўнага таленту, пясняр Беларусі, які выявіў сэрца яе з незвычайнай сілай, ён усёй сваёй паэтычнай існасцю як бы сімвалізаваў творчую моц народа».

З шэрагу іншых паэтаў-сучаснікаў і папярэднікаў Купалу вылучае магутнасць пясняярскага тэмпераменту, незвычайная сіла лірызму, напор унутранай энергіі, шырыня ахопу жыцця. Купала адкрыў самыя разнастайныя бакі і праявы чалавечага існавання, асоба паэта ўвабрала ў сябе прасторы сусвету. Маштаб чалавечай асобы ў яго вызначаецца ў барацьбе з сіламі зла і прыгнёту. Ён рана зразумеў, што ўсякі ўціск над асобай — злачынства, і ўсё жыццё змагаўся з крыўдай, несправядлівасцю і адступленнямі ад глыбінных законаў жыцця.

Янка Купала — паэт трагічнага лёсу. Прызначаную беларускаму народу чашу пакут ён выпіў да дна. Можа, яшчэ і таму сёння яго слова ўспрымаецца асабліва глыбока і блізка, яно дапамагае будаваць жыццё, вартае свабоднага чалавека. Яно здольна адарыць чалавека зарадам духоўнай энергіі, верай у будучыню, у творчыя сілы народа.

*Уладзімір Гніламёдаў*



# 1904

## МАЯ ДОЛЯ

Мая доля, дык вось доля,
Каб ты лопнула была!
Каб у чыстае дзе поле
Ад мяне ты уцякла!

Чаму ж, доля, ты цяжкая,
Тут мне шчасця не даеш?
Чаму ж, горкая такая,
Смерць мне лепей не пашлеш?

Гэтак цягам мяне мучыш,
Як душу у пекле чорт;
Гэтак сэрца маё сушыш,
Што аж сам я ссох, як хорт!

Не даеш ты мне спакою
Ані ўночы, ані ўдзень,—
Усё ходзіш ты за мною,
Як нябожчыка той цень.

Куды толькі ні парвуся,
Каб хоць троха лепей жыць,
Дык калі не аглянуся,
Мая доля тут бяжыць.

І усё мне скруціць, змуціць,
Як хто дзе калом ваду.
І душу маю засмуціць,
І нашле злую бяду.

І жыццё не міла стане,
Згінуць хочацца зусім.
І як бы хто сэрца зране,—
Нейкі боль чуваць у ім.

І так хочацца зваліцца
У глыбокі дзе ручэй,
Каб не бачыць — утапіцца —
Ані сонца, ні людзей.

Дык вось, доля, мая доля,
Каб ты лопнула была!
Каб у чыстае дзе поле
Ад мяне ты уцякла!

*15 ліпеня 1904*



# 1905

## МУЖЫК

Што я мужык, усе тут знаюць,
І, як ёсць гэты свет вялік,
З мяне смяюцца, пагарджаюць,—
Бо я мужык, дурны мужык.

Чытаць, пісаць я не умею,
Не ходзіць гладка мой язык,
Бо толькі вечна ару, сею,—
Бо я мужык, дурны мужык.

Бо з працы хлеб свой здабываю,
Бо зношу лаянку і крык,
І свята рэдка калі знаю,—
Бо я мужык, дурны мужык.

Галеюць дзеці век без хлеба,
Падзёрты жончын чаравік,
Не маю грошы на патрэбу,—
Бо я мужык, дурны мужык.

Заліты потам горкім вочы;
Ці я малы, ці я старык,—
Працую, як той вол рабочы,—
Бо я мужык, дурны мужык.

Як хвор ды бедзен — сам бяруся
Лячыць сябе: я чараўнік!
Бо я без доктара лячуся,—
Бо я мужык, дурны мужык.

Што голы я, павінен згінуць,
Як той у лесе чашчавік,
І, як сабака, свет пакінуць,—
Бо [illegible] мужык, дурны мужык.

Але хоць колькі жыць тут буду,
Як будзе век тут мой вялік,
Ніколі, браткі, не забуду,
Што чалавек я, хоць мужык.

І кожны, хто мяне спытае,
Пачуе толькі адзін крык:
Што хоць мной кожны пагарджае,
Я буду жыць! — бо я мужык!

[*1905*]

## ВОДКЛІК З 29 КАСТРЫЧНІКА 1905 г. У МІНСКУ

Божа наш, Божа, што гэта будзе,
Што гэтак сталі таннымі людзі?
Царскія слугі б'юць іх, страляюць
І сваіх брацціяў за сабак маюць.
А за што ж гэта? — ўсё за свабоду,
Што ў моры фальшу йшлі шукаць броду.
Люд збудзіць хоча праўду з магілы,
Каб не марнелі думкі і сілы,
Меў бедны ўволю грошы і хлеба,
Бо й бедным такжа шмат чаго трэба,
Дарма, што бедны, дарма, што ўбогі,—
Трэба капоту, лапаць на ногі,
Пачак запалак, пачак табакі,
Чарку гарэлкі зглуміць усякі,
Булку і скварку трэба на свята
Пачаставаці кума ці свата...
Шмат чаго трэба. Цар жа бічуе,
А бедны з гора бічу не чуе.
Росціць надзею рай мецъ за слёзы.—

Што вясна будзе, знікнуць марозы.
І хоць за праўду гіне нявінна,
Смела йдзе ў бойку... Так быць павінна.

Вось як анэгдай бліз было вакзала:
Крыві нямала зямля папівала;
Трупаў, калекаў няшчасных без ліку
К зямлі прыпала, а з енку і крыку
Вокал гудзела, як дзе на пажары,
Аж нават сонца схавалася ў хмары.
Сышліся цешыцца з царскага ўказу,
Што ўсім свабоду прыносіў адразу.
Кожны па-свойму судзіць стаў аб гэтым:
Ці ўказ праўдзівы, ці будзе прасветам
У нашым горы, у нашай няволі,
Ці ўжо кайданаў не ўзложаць ніколі?..
І ў гэтым, можа, сказаў хто замнога...
Аж тут зброд царскі, забыўшыся Бога,
Дай жа страляці, як па скаціне,—
За пробліск волі няшчасны люд гіне.

Вось тут пазнай, ці свабоду нам далі,
Ці ашуканствам у бойню загналі?
Цяпер жа ўсякі па-свойму тут судзе:
Адны талкуюць, што горш яшчэ будзе,
Што — цяпер стрэльбы грымяць каля хатаў —
Будуць жа потым паліць і з гарматаў.
А іншы кажа, што цар нацарыўся,
Што досыць крыві ён нявіннай напіўся,—
Нібы без цара абыцца ён можа.

А хто ж драць будзе, як цар голаў зложа?
Цяпер жа ты цвярозы ці упіўся,
Цар ёсць з табою, ва ўсё ён убіўся.
Калі ў свабодзе такой пажывецца,
То і за сонца плаціць давядзецца.

[*1905*]

## У ЗЯЛЁНЫМ САДОЧКУ

Ой, не раз удваёчку
Пад шырокай вярбой,
У зялёным садочку,
Мы сядзелі з табой.

Друг на дружку глядзелі
Па днях цэлых, даўгіх,
Салаўі песні пелі,
А мы слухалі іх.

Вецер шумны у поле
Песні гэтыя нёс,
Нёс у поле, дзе воля,
Дзе няма гора, слёз.

І з табой мы кляліся
Дружку друг век любіць,
Хоць бы людзі ўзяліся
Нашу любасць згубіць.

Ой, так думкі снавалі
Залацістыя мы,
Покуль нам не сагналі
Беды гэтыя сны.

Цябе выгнала з хаты
Ведзьма-мачыха вон;
Мяне ўзялі ў салдаты,
У чужацкі палон.

Так навек адляцела
Любата ў неспадзеў,—
Ты мяне больш не стрэла,
Я цябе больш не стрэў.

*1905*

## ЧАГО Б Я ХАЦЕЎ

Мне не трэба багатых другоў:
Даўно знаю пахлебствы я іх,
Іх малітвы да ўсякіх багоў
І з пагардай пагляд на другіх!

Не хачу з імі быць за сталом,
На сваё паніжэнне глядзець,
Як, мінаючы чаркай з віном,
Ад парогу накажуць сядзець.

Не хачу я дзявочай красы,
І пяшчот іхніх белых грудзей:
Рэжа сэрца мне горай касы
Зменнасць, хітрасць агністых вачэй!

Не магу я цярпець, паглядаць,
Як іх сталасць знікае, што мгла;
Тут душу табе рада аддаць,
Тут другога шчырэй абняла!

Не хачу я гуляць, дзе народ
Толькі гора цярпіць на вяку,
Дзе сіротка стаіць ля варот,
Есці просіць, падняўшы руку.

Не хачу весяліцца, гуляць,
Дзе бяда, слёзы, скаргі ўвакруг,
Дзе другія ў няволі сядзяць,
Дзе замёрлі і сіла, і дух!..

Эй, сказаць жа, чаго я хачу?
За што нават бы сэрца аддаў?
З чаго твар я слязамі мачу?
Ці ж хто з вас калі гэта згадаў?

Дык жа знайце, чаго б я хацеў,
Аб чым думачкі толькі мае:
Каб мой люд маю песню запеў
І пазнаў, аб чым песня пяе!

*1905*

## ДУМЫ МАРКОТНЫЯ...

Думы маркотныя,
Думы гаротныя,
Труціце быт мой сірочы,
Смех стогнам крыецца,
І ў сэрцы ныецца,
І плачуць жаласна вочы.

Сны неспакойныя,
Нядолі поўныя,
Спаць не даюць мне начамі.
Зданні спужаныя,
Зданні загнаныя
Цэлымі бачу палкамі.

Там працавітыя,
Хлебам не сытыя,
Снуюцца людскія цені,
На кій успёртыя,
Босы, абдзёртыя,
Трасуцца рукі, калені.

Адно з іх жаліцца,
Адно з іх хваліцца,
А тое дзіка смяецца,
І неадзетыя
Нелюдзі гэтыя
Стаяць жывымі, здаецца.

А далей гляну я —
Там закаваныя
Такія ж сходзяцца мары,—
Звоняць кайданамі,
Сталяй каванымі.
Раны на целе, на твары.

Ланцуг ім колецца,
Галосяць, моляцца,
Вырваць іх з путаў, з няволі.
І так здаваецца —
Стогн падымаецца,
Як бы не змоўкне ніколі.

І глянуць смутненька,
І жыці трудненька,
Здаецца б, згінуў з душою,
Бачу бяздольнае,
Бачу бязвольнае
Над сваёй беднай зямлёю.

У сэрцы ныецца,
Смех стогнам крыецца,
І плачуць жаласна вочы...
Думы маркотныя,
Думы гаротныя,
Труціце быт мой сірочы.

*1905*



# 1906

## НУДА

Будзь ты дуж, як вада,
Як жалеза, цвярды,—
Калі ж нойдзе нуда,
Ты не зможаш нуды!

Як благая напасць,
Атуманіць сабой
І спакою не дасць,
Аж заныеш душой,

Аж заплачаш душой,
Жаль ахопе такі!
І не прыйдзе спакой
Да магільнай даскі.

На свет будзеш глядзець
Ашалелым ваўком;
Песні ўздумаеш пець,—
Адазвешся выццём.

Стане пеклам жыццё,
Людзі — горш ад звярэй;
Думаць будзеш усё,
Як памерці скарэй.

Эй, дзянькі каратаць
Трудна з ёю, бяда! —
Не дасць ночкаю спаць
Усё гэта нуда!

Змуча, хоць ты вазьмі
І не пі, і не еш;
Вочы зойдуць слязьмі,
І свой лёс праклянеш.

Адно шчасце людзей,
Толькі змога тады,—
Калі працай сваей
Зваляць камень нуды;

Калі мысль адна іх
У жыцці павядзе:
Працаваць за траіх,
Каб не дацца нудзе.

*10 сакавіка 1906*

## КАРШУН

Пад небам высокім лётаў каршун,
З пагардай на рой пазіраў чалавечы,—
Аж бачыць — пад плотам ходзіць пявун —
Махнатая шыя, злацістыя плечы.

Як віхар, як куля, імчыцца каршун
І певеня тут жа насмерць забівае,—
У бойцы няроўнай гіне пявун,
У бойцы няроўнай жыццём накладае.

З трыумфам каршун пад неба ляціць,
Пад небам крумчыць над здабычай сваею,
Ды зноў, каб дзе пажывіцца, глядзіць,—
Забіць яшчэ й курку — не траціць надзею.

Але скуль тут ні вазьміся стралец.—
Прыцэліўся. Раптам, як гром, стрэл раздаўся,—
Ўзмахнуўшы ў паветры крыллем ледзь-ледзь,
Зляцеў каршун з неба і болей не ўзняўся...

*12 сакавіка 1906*

## НЯБОЖЧЫК

Надаела чалавеку
Жыці, пажываці;
Пекаў сваё гора, пекаў,
Дый трэба ўміраці.

Хоць хацеў бы, можа, трошка
Жыць, павесяліцца,—
Смерць благая кладзе ў ложка,
Кажа не будзіцца.

І памёр. Цяпер шчаслівы,
Не баіцца ліха...
Эй, глядзіце: дзівы, дзівы!
Спіць спакойна, ціха...

Але везць гной трэба з хаты,
Каб чэрві не елі;
Скідай, браце, свае шаты!
Вады ўжо нагрэлі...

Змылі троху вочы, спіну,—
Што болей наразе?!
Палажылі ў дамавіну,
Як пана, як князя.

З дамавінай на калёсы
Нясуць, як святога;
Разявякаў, салапякаў
Сабралася многа.

Кожны стогне, уздыхае,
Галосе, заводзе,—
Нібы плача, сэрца мае...
Годзе лгаці, годзе!

Ну, кабыла, ну, худая,
Паволі цягніся!
Ты, істота нежывая,
Ляжы, не зваліся!

Вот і цэрква, поп з крапілам
Чакае на ўзятку,

Пакурыў труну кадзілам,
Дзяк запеў ў астатку.

І на могілкі панеслі
Труну, як павалу;
Ой, ой, каб жа не растрэслі!
Нясіце памалу!

Званы гучна загудзелі
Галасістай песняй;
Ой, сколькі б вы там ні пелі,
Нябожчык не ўскрэсне!

Ну, грабару, капай яму
Локцяў тры без мала;
Пахаваем тут мы краму,
Што труд прадавала.

Ужо выкапаў? — ну, ладна!
Труп спускаць пачалі,
І спусцілі так парадна,
Зямлёй закапалі;

Насып вылажылі дзёрнам,
Крыж на ім — з каменняў.
Вот і меней непакорным,
Адным меней, меней.

Праплывае многа летак,
Няма чалавека...
І пляцецца у нас гэтак
Ад веку да веку.

Як смерць возьме, усё гіне:
Нядоля, няволя,—
Спакой толькі ў дамавіне,
Ў дамавіне доля!

*18 сакавіка 1906*

## З ПЕСЕНЬ А БІТВАХ

Іграюць сурмы баявыя,
Віхор разносе іхні звон,—
І песні дзіўныя такія
Ад іх лятуць да ўсіх старон.

Аб славе цуднай граюць сурмы,
Аб шчасці люду усяго;
Завуць змагаць няволі штурмы,
Завуць... ой, многа да чаго!..

Дый дарма звоняць сурмы гулка,
Народ абманены прыціх,—
Той спіць, той ходзе без прытулка,
А жаль і роспач ува ўсіх.

Мучыцель толькі рад, снуецца,
Як шакал дзікі па трупах,—
З ахвяр сваіх ваўком смяецца,
З ахвяр, што мруць у ланцугах.

І відзець страшна ў путах сілу,
Людскі ўвесь з жалю енк і плач,
Аж хоць кладзіся у магілу
І свету гэтага не бач.

І ходзіш так, як пагарэлы,
І хочаш людзям скаргі слаць,
Азвацца крыкам на свет цэлы:
Дзе праўды, волі дзе шукаць?!

А сурмы граюць баявыя,
Віхор разносе іхні звон,—
І песні дзіўныя такія
Ад іх лятуць да ўсіх старон.

*30 сакавіка 1906*

## ПАЭТАМ

Паэты вучаць месты, вёскі,
Як трэба жыць, багатым быць,
А самі ж часта на падноскі
Не ўмеюць грошы зарабіць.

Пяюць аб шчасці, добрай долі,
Аб волі шчырай для людзей,
Пяюць, не помняць, што ніколі
Не будзеш песняй сыт аднэй.

Спявайце ж, мілыя паэты,
Дый трэба сціха, меру знаць,—
Бо хіцер, хіцер наш век гэты —
Гатоў вам песню апляваць.

*31 сакавіка 1906*

## НЕ КЛЯНІЦЕ МЯНЕ

Не кляніце мяне,
Што так смутна пяю,
Бо і так там на дне
Душу змучыў сваю.

Бо і так, бы ў агні,
Кроў у сэрцы кіпіць,
Мукаў сцелюцца дні,
Сон аб шчасці бяжыць.

Цяжкіх дум, горкіх дум
Зваяваць не магу,
Людскі плач, скаргаў шум
Ловіць мысль на бягу.

Не магу маску ўздзець,
Крывіць роднай душой,
Песні весела пець,
Калі смуцен брат мой.

Калі столькі бяды,
Столькі гора і слёз
Бачу ўкруг заўсягды,
Столькі й сам перанёс!

Вось стаіць удава,
Лахманы на плячах,
У шрамах галава,
Туман нейкі ў вачах.

Працягае руку:
«Дайце хлебачка мне,
Пашкадуйце ўдаву,
Згінуў муж на вайне».

А тут слёзы кап-кап!
Абмахнула рукой...
Ну, будзь, браце, не слаб,
З бяды смейся чужой!

Вось гуляе багач,
Аж палац той дрыжыць,
А пад брамаю плач —
Там сіротка стаіць.

Не уздойме ўжо рук,
Мароз целам трасе,
Ногі гнуцца у крук,
Вецер скаргі нясе:

«Раз ішоў тут народ,
Песні дзіўныя пеў,
Пеў ісці напярод,
Смерці ў вочы глядзеў.

Тата з імі пайшоў —
І дагэтуль няма,
А тут холад тне кроў,
Сыпе снегам зіма.

З хаты выгналі вон;
Няма есці чаго,
Правясці ночку, сон
Няма дзе у каго».

І тут слёзы кап-кап!
Абмахнула рукой...
Ну, будзь, браце, не слаб,
З бяды смейся чужой!

Вось зноў нешта чуваць,—
Стаў дзядок пад акном,
З плечаў торбы вісяць,
Бок падпёр кастылём.

І так песню вядзе —
Голас хрыплы такі —
Аб сваёй аб бядзе,
Рукі жме ў кулакі:

«Сорак год я служыў,
Сілу змог без пары,—
Стаў служыць — молад быў,
Цяпер гляньце — стары.

Эх, служыў пану я,
Працаваў за пяцёх,
Працаваў за каня,
Рана ўстаў, позна лёг.

І араў, і касіў,
І канавы капаў,
Пушчу сек і вазіў,
Не раз поўху дастаў.

Шла работа агнём...
Пан жа, ведама, жыў:
Багацеў з кожным днём,
Смачна еў, смачна піў.

А я чахнуў, бядак,
Галадаў, мёрз, як воўк,
І служыў верна так,
А цяпер»... І замоўк.

Толькі слёзы кап-кап!
Абмахнуў іх рукой...
Ну, будзь, браце, не слаб,
З бяды смейся чужой!

Дый не смейся з мяне,
Што так смутна пяю,
Бо і так там на дне
Душу змучыў сваю.

*15 красавіка 1906*

## ШТО ТЫ СПІШ?..

Што ты спіш, што ты спіш,
Беларускі мужык?
Глянь! Усталі усе,
Як свет божы вялік!

Толькі ты, брат, адзін,
Як забіты, ляжыш
І на долю сваю
Не ўстаеш, не глядзіш.

Няўжо мала яшчэ
Катавалі цябе?
Няўжо мала яшчэ
Слёз і гора табе?

Апаследненькі грош
З цябе лупіць казна,
Хоць у хаце дзяцям
Хлеба, солі няма.

Хоць заклаў ты кажух,
Абы чынш заплаціць,
Хоць у лапцях ты з лык
Мусіш вечна хадзіць...

Хоць кароўку сваю
За падаткі прадаў,
Хоць апошні ўмалот
Магазыннік забраў.

Ты астатні свой дух
І свае жылы рвеш,

Як калоду пудоў
Са сто ў места вязеш.

А у печцы тваёй,
Хоць мароз, хоць зіма,
Агонь тры дні не быў,
Дроў паленца няма!

А к вяселлю рубель
Часам трэба калі,
Дык хоць з торбай ідзі,
Каб капейку далі!

А не грошы ж тваё
Там у банку ляжаць?
Не за грошы ж тваё
Цар ідзе ваяваць?

Не за грошы ж тваё
Цэркаў гэта стаіць?
Не за грошы ж тваё
Яна срэбрам блішчыць?

Не за грошы ж тваё
Цар палац свой зрабіў?
Не за грошы ж тваё
Ён чыноў насадзіў?

Не за грошы ж тваё
Караблі на вадзе?
Не за грошы ж тваё
І чыгунка ідзе?

Не твой сын на вайне
Без галоўкі ляжыць?
Не сіротка твая
Пад варотмі стаіць?

Дык прасніся ўжо,
Беларускі мужык!
Глянь! Усе устаюць,
Як свет божы вялік!

Глянь! Усходзіць ужо
Зорка праўды святой

І няволю-бяду
Сваёй зніме рукой!

Толькі ты мусіш, брат,
Уставаць, памагаць
І за долю сваю
Ваяваць, ваяваць!

Калі стрэльбу ў цябе
Адабралі тваю,
Ты з застрэшку вазьмі
Касу вострy сваю!

І ідзі, і крычы
Прагавітым людзям,
Няхай хлеба даюць
Табе, жонцы, дзяцям!

Няхай знімуць з цябе
Чынш, падаткі, налог,
Бо бясплатна для нас
Даў зямлю гэту Бог!

Што табе трудна жыць,
Дзецям хлеба няма,
Што не топлена печ,
Хоць мароз, хоць зіма!

І ідзі, і крычы,
Што пот вочы заліў,
І ідзі, і крычы,
Што з табой цар зрабіў!

Няхай бача ўвесь свет
Цяжку долю тваю,
Няхай бача ўвесь свет
Злое гора тваё!

Дык прасніся хутчэй,
Беларускі мужык!
Глянь! Усталі усе,
Як свет божы вялік!

[*Да 7(20) красавіка
1906*]

## НЕ РВІСЯ К БАГАТЫМ

Ці пойдуць пажары, хваробы пад стрэхі,
Ці голад, ці холад, ці смутак у хаце,—
Не йдзі да палацу шукаці пацехі! —
Там толькі пачуеш зласлівыя смехі.
Ой, раю — не рвіся к багатым, мой браце!

Не рвіся к багатым ты, доляй убогі,
Не пойдзеш сэрц братніх, дзе толькі багацце!
Там будзеш сабой выціраці парогі,
Табе, як сабацы, косць кінуць пад ногі...
Дык слухай! — не рвіся к багатым, мой браце!

Багаты гуляе, адзеты і сыты,
Багатаму цэлы век свята па свяце,—
Ты ж вечна працуеш, век потам абліты!
Дык будзь чалавекам, бо ты ж не забіты!
Падшэптаў багацця не слухай, мой браце!

[*Да 7(20) красавіка 1906*]

## ПАШКАДУЙ МУЖЫКА!

Пашкадуй мужыка-бедака,
Ты, што вечна адзеты і сыт,
Пашкадуй — не адсохне рука,
Бо яму свет да шчасця закрыт.

Як асенняя ноч, як туман,
Цёмны сам, цёмна ў хатцы крывой;
На плячах абарваны лахман,
Ногі ўкручаны цвёрдай лазой.

Холад, голад, хваробы цярпіць
Ён за кроў і за працу сваю.
Прыйдзе ў хату — ў парозе стаіць,
За сталом яго месца — з краю.

І ласкавых ён слоўцаў нідзе
Не пачуе, не кінуць яму;

Не ўспаможа ніхто у бядзе,
Не дасць хлеба і дроў на зіму.

Пашкадуй жа ты, брат, мужыка,
Каб было яму жыць весялей!
Пашкадуй — не адсохне рука,
Пашкадуй, не чакай, а хутчэй!

Пашкадуй, бо з яго цемнаты
Кожны рад карыстаць заўсяды;
Пашкадуй ты яго, сіраты,—
Бо на свет многа прыйдзе бяды.

Бо за крыўду сваю адамсціць,
Свінням будзе крыві не пабраць!—
Адамсціць, аж зямля задрыжыць,
Аж віхры зашумяць, загудзяць.

[*Да 7(20) красавіка 1906*]

## ТАМ

Там кроў ліецца, там за волю
Барцы на вісельні ідуць,
А вы, вы мучаны найболей,
Спіцё, хоць вас даўно там ждуць.

Скажыце мне, а за каго йны
Пайшлі на смерць, пайшлі вайной?
Хто ёсць на свеце так дастойны,
Што трэ ахвяры аж такой?

Га, з вас ніхто таго й не знае,
Што йдуць за тых на бітваў жар,
Хто труд свой потам аблівае,
Над кім стаіць з нагайкай цар.

Што йдуць за тых на катні здзек,
Хто сваёй працай горкай, цяжкай
Свет корміць,— сам галодны век,
Адзеты лапцямі, сярмяжкай.

Што йдуць, каб бедным і галодным
Дзянькі сыцейшы зацвілі,
Зрабіць нявольніка свабодным,
Даць беззямельнаму зямлі.

Дык вось, на смерць ісці іх змусіў
Найнешчасліўшы чалавек.
А вы, адродкі Белай Русі,
Спіцё, як быццам кат засек!

До спаць! Паўстаньце грамадою
І йдзіце ім там памагаць,
Паўстаньце крэпасцю такою,
Каб вораг вас не мог зламаць.

Паўстаньце, покуль цар звыродны
Крыві ўсяёй не выссаў з вас!
Паўстаньце! Край ваш стогне родны,
Заве збаўляць, як зваў не раз.

Паўстаньце, гляньце, Божа мілы,
Свабода, сонца вас заве!
Крыху адвагі й дружнай сілы,
А шчасце вечна зацвіце.

Зганіце сон, аслепны сон,
Збудзіце дух прыбіты свой,
І ўдарце ў згоды гучны звон,
І сабярыцесь грамадой!

І йдзіце, йдзіце вы туды,
Дзе ўжо даўно кроў льюць за вас,
Нясіце веліч слёз, бяды,
Нясіце крыўды напаказ!

Хай кроў пальецца дзень, другі
Варожым трупам на падсціл,
Хай у няволі ланцугі
Спадуць ад грому вашых сіл!

*1906*

## І ЯК ТУТ НЕ СМЯЯЦЦА...

На нашым хітрым свеце
    Ўсяляк жыве народ:
Адзін жыве па-людску,
    Другі жыве, як скот.

Адзін другім гандлююць,
    Купляюць, як той квас,—
Падноскі падбіваюць
    Стаячаму не раз.

І як тут не смяяцца
І праўды не сказаць:
Варон на свеце многа,
Ды некаму страляць.

*

Вось мчыцца пан на парцы,
    Упражка зіхаціць!
І конікі абмыты,
    І панскі лоб блішчыць.

На цэлы свет з пагардай
    Дзікім глядзіць казлом,
А быў жа ён нядаўна
    Авечак гандляром.

І як тут не смяяцца
І праўды не сказаць:
Варон на свеце многа,
Ды некаму страляць.

*

Вось хцівец грошы многа
    З працэнтаў назбіраў
І фабрыку паставіў —
    Людзям заробак даў.

Працуе душ галодных
    Там соценькі са дзве,
А ненасытны хцівец
    Крывавы пот гняце.

І як тут не смяяцца
І праўды не сказаць:
Варон на свеце многа,
Ды некаму страляць.

*

Вось доктар, пан вяльможны,
  Лякар мужчын, кабет,
Вядзе убогіх, хворых
  Ў асобны кабінет.

Пукнýў, паслухаў троху
  І кажа рубля даць,
А сам, як быў студэнтам,
  Шоў бедным памагаць!..

І як тут не смяяцца
І праўды не сказаць:
Варон на свеце многа,
Ды некаму страляць.

*

Вось ксёндз, служэбнік божы,
  Ўвесь навучае люд,
Каб у касцёл хадзілі,
  Каб не грашылі тут.

Каб к жонкам на вячоркі
  Не бегалі чужым,
Бяднейшым памагалі;
  А сам?.. ну, Бог і з ім!

І як тут не смяяцца
І праўды не сказаць:
Варон на свеце многа,
Ды некаму страляць.

*

Вось аканом пузаты,
  На чым ёсць свет, раве,
Хоць клёку за капейку
  Не мае ў галаве.

І лае так сусветна
Вясковых ён людзей;
А пасвіў жа нядаўна
У вёсцы той свіней.

І як тут не смяяцца
І праўды не сказаць:
Варон на свеце многа,
Ды некаму страляць.

*

Вось шляхціц, марны шэршань,
Той выскачак адзін,
Душу заціркай муча,—
Ужо ён гаспадзін!

Бяднейшаму ўжо брату
Рукі не падае,
Хоць сам такія ж лапці
На ногі надзяе.

І як тут не смяяцца
І праўды не сказаць:
Варон на свеце многа,
Ды некаму страляць.

*

Вось мужычок быў хітры,—
Абралі старшыной;
Як чорт перамяніўся,
І свой яму не свой!

З ураднікам у шайцы
І з пісарам у лад
Ён мужыкоў, як ліпак,
Абдзёрці ва ўсім рад.

І як тут не смяяцца
І праўды не сказаць:
Варон на свеце многа,
Ды некаму страляць.

*

Цяпер свае прыпеўкі
Я кіну да пары,
Бо шмат каму, напэўна,
Яны не па нутры.

Бо, як там кажуць: шапка
На злодзеі гарыць
Ці — парасё хто ўкрадзе,
Таму ў вушах пішчыць...

І як тут не смяяцца
І праўды не сказаць:
Варон на свеце многа,
Ды некаму страляць—

*12 мая 1906*

## АДЗІН

Ці йду я вясёлай дзянінай
З касой ці з сахой за сяло
Й не бачусь з пахілай хацінай,
Пакуль чую сонца цяпло,
І ў полі, працуючы ў поце,
Бядую над горам сваім,—
Дарэмна шукаю, хто шчыра б
Пацешыў ў цярпенні цяжкім.

Душа мне і шэпча, і плача:
Адзін ты, адзін, небарача!

Ці з поля гадзінкаю шэрай
Вярнуся, сяджу за сталом,
Краплюся паціху вячэрай,
Лучынка міргае агнём,
А з'еўшы адно, паглядаю,
Ці хто больш чаго падліе,—
Дый дарма!.. Пры лаве, пры печы
Ўсё твары снуюць не свае.

Душа мне і шэпча, і плача:
Адзін ты, адзін, небарача!

Ці ночкай панурай к падушцы,
Ўвесь змучан, прыльну аддыхнуць,
А сэрца, як ліст той на грушцы,
Трасецца, калышацца грудзь.
І жду так — вось прыйдзе хтось любы,
Абніме, атуліць сабой;
Дый дарма!.. Нікога, нікога,—
Хтось кажа,— няма тут з табой!

Душа мне і шэпча, і плача:
Адзін ты, адзін, небарача!

Ці йду ў беларусаву хату
Са сну прывітаць на зары,
І рукі там выцягну к брату
І кіну вачыма к сястры,
Ці, ўсеўшыся ціха на прызбе,
Зайграю там песню сваю,—
Дарэмна прывету чакаю,
Дарэмна вітаю, пяю.

Душа мне і шэпча, і плача:
Адзін ты, адзін, небарача!

*28 мая 1906*

## ЗАШУМЕЎ ЛЕС РАЗГУКАНЫ

. . . . . . . . . . . . .

Зашумеў лес разгуканы,
Нівы задрыжалі,
Задрыжалі і тыраны,
Што бяду стваралі.

Зашумелі, загрымелі
Магутныя песні:
«Доўга, доўга мы цярпелі,—
Доля, воля, ўскрэсні!»

І глядзіце, што за дзіва!
Наракаць не трэба —
Буйна ўзойдзе наша ніва,
Будзе волі, хлеба.

Дзе ляжалі дзірванамі
Панскія абшары,
Дзе казённыя вякамі
Пусцелі гушчары,

Дзе была адна пустыня —
Елкі ды бярозкі,—
Поле будзе, пушча згіне,
Стануць хаты, вёскі.

Загарыцца сонца смагай,
Дух люду і сіла,
Доля, воля ясным сцягам,
Зоркай ўзыйдзе мілай.

. . . . . . . . . . . . . .

Верце песні — скора, скора
Гэты дзень настане,—
Ўжо ўздымае людаў мора
Праўды панаванне.

Паўставаць будуць тыраны,
Але мы не зляжам,
Крывёй збрызгаем паляны,
А свайго дакажам.

Наша гора, нашы слёзы,
Кроў і пот крывавы
Стануць ў спёкі і марозы
За нашыя правы.

З грудзей нашых панясецца
Віp песень грымучых
І ў адзін голас зліецца,
У адзін магучы.

«Смерць таму, хто хлеб астатні
Бедным выдзірае!
Смерць таму, хто на люд братні
Кайданы ўздзявае!»

*2 чэрвеня 1906*

## ДЛЯ КУСКА ХЛЕБА

Для куска хлеба, чорнага хлеба
Бядак прадаецца з душой,
Вольную волю, светлыя думы
Ў нядолі ён топіць цяжкой.

Каб як пражыці, голад змагаці,
Павінен забыцца на ўсё —
На светляныя душы парывы,
На ўсё чалавецтва сваё.

Царскі нявольнік, панскі нявольнік,
Нявольнік — слуга абадвух,—
Цару — салдатам, парабкам — пану,
А кепска, ох, жыці для слуг.

На другіх мусіць век працаваці,
А дзе што не так, не ўгадзіў,—
Плюнуць пагардай, выганяць з хаты,
Ідзі ў свет, бядак, як хадзіў...

Музыка, песні чутны з палацу —
Гуляюць за труд бедакоў,
Мучыцца ж бедны думкай штодзённай,
Каб голад са свету не звёў.

*11 чэрвеня 1906*

## МАЯ ЭПІТАФІЯ

Тут ляжыць Янук Купала,
Што песні складаў,
Плакаў шмат, смяяўся мала,
Часта галадаў.

Быць благім чорт часам плутаў,
Ды не быў ён катам,
Хоць не знаў прыгону путаў,
Мужыка зваў братам.

Без зямлі ўвесь век цягаўся
Горш якой скаціны,
Вось нарэшце дачакаўся —
Далі тры аршыны.

Надпіс гэты хто прыкмеце,
Хай Бога папросе,
Каб яму хоць на тым свеце
Лепш, як тут, жылося.

*12 чэрвеня 1906*

## ПЕСЕНЬКА ДЛЯ НЕКАТОРЫХ МАЛАДЫХ ЛЮДЗЕЙ

У нас маладых людзей дужа вучоных
Цяпер надта шмат развялося,
Праўд нейкіх шукаюць на свеце няснёных,
Над бедным з іх кожны галосе.

Да працы да роўнай, да волі шырокай
Ахвочы крычаці, ўзываці;
Іх шумныя песні нясуцца далёка,
Што ўсе людзі — родныя брацці.

Як дзіўна, як складна бразджыць усё гэта!
Шмат праўды, а шмат тут і жартаў;

Пакуль песня іхніх хаценняў не спета,
Прыгледзецца к ім самім варта.

Адзін з вас, паночкі, хітрыя галоўкі,
На доктара выйдзе і будзе
З няшчасных схварэлых цягнуць паўрублёўкі,
Лячыцца ў яго будуць людзі.

Другі будзе з вас брахунцом-адвакатам,
Як трэба судзіцца, парадзіць,
А больш каб карысці мець, брата ён з братам
За нібыта праўду павадзіць.

А трэці, што больш усіх рваўся к свабодзе,
Напэўна, ён будзе йнжынерам,
Як ставіць астрогі, планы павыводзе,
Збагаціцца гэткім манерам.

Чацвёрты з між вас, вальнадумцы, у судзе
Рассядзецца членам вяльможным,
Галодных, нявольных судзіці ён будзе,
Караці Сібірам марозным.

Во, пяты банкірам, а той зноў суддзёю,
А той там аптэку заложа,
І кожны сыт будзе, багацце чужою
То крыўдай, то працай размножа.

Так будзе з вас кожны слядамі йсці дзедаў,
Не знаючы гора ніколькі,
І ўсе вы, і ўсе вы палкі дармаедаў
Сабой павялічыце — й толькі.

І скажаце гэта вы некалі самі,
Як вам спухнуць каркі ад сала,
Што песенька песняй, чужымі ж трудамі
Жыць лёгка дый чэсць і пахвала.

*24 чэрвеня 1906*

## НАД КАЛЫСКАЙ

*(Наследаванне)*

Спі, маленькі мой сыночак!
    Вочкам не міргні;
Свеціць месяца кружочак,
    Ты ж аб долі сні.

Спі і слухай песні гэтай,
    Ды ўспомні калі;
Спі, пакуль не знаеш свету,
    Люлі, люлі, спі!

Падрасцеш, дазнаеш гора,
    Папіваеш слёз,
Твае сілы зломіць змора,
    Спёка ды мароз.

І спаткаешся на свеце
    З няпраўдай, з людзьмі.
Спі, сыночак! Месяц свеце,
    Люлі, люлі, спі!

Падрасцеш — і мусіш ногі,
    Як кожны мужык,
Укруціць ва ўбор убогі,
    Ўбор з ліповых лык.

У ім помачы папросіш
    Для сябе людской;
Спі, пакуль лапцей не носіш,
    Люлі, родны мой!

Павяду цябе да пана,
    Пастаўлю служыць.
Там ад вечара да рана
    Будзеш ты рабіць.

За свіньмі ды за сахою
    Будуць пхнуцца дні;
Спі, пакуль ты не слугою,
    Люлі, люлі, спі!

Хлеба, грошы ты слугою
Мала будзеш мець,
Аплявухаў жа затое
Не будуць жалець.

Крывёй вочы заліюцца,
Ты ж працуй, цярпі!
Спі, пакуль не здзекуюцца,
Люлі, люлі, спі!

З часам пойдзеш у салдаты —
Слуга ўжо цару,
За трыццатую ад хаты
Загоняць гару.

На вайнє ж, як забіяка,
Паліеш крыві;
Спі, пакуль ты не ваяка,
Люлі, люлі, спі!

Дамоў вернешся да бацькі,
Бацька бедзен сам,
Пойдзеш зноў на хлеб батрацкі
Служыці панам.

Штось не ўгодзіш, пан багаты
Гікне: вон ідзі!
Спі, пакуль не гоняць з хаты,
Люлі, люлі, спі!

Ты ж не рынешся ў канаву
З гора ды з бяды,—
Красці выўчышся на славу,
Пан будзеш тады...

Што? з напасці не прапасці...
Гулі, гулякі!
Спі, пакуль не ўмееш красці,
Люлі, люлі, спі!

У вялікія ты людзі
Выйдзеш з беднаты,—
Шаблю звесіш цераз грудзі,
Стражнік будзеш ты.

Будзеш катам ты над братам,
Без жалю ані!
Спі, пакуль яшчэ не катам,
Люлі, люлі, спі!

Будзеш пан вялікі з віду
І шэльма душой,
Спатыкаць цябе я выйду,
Ты махнеш рукой.

Чужаком будзеш ты ў хаце,
На роднай зямлі.
Спі, пакуль ты тут пры маці,
Люлі, люлі, спі!

*26 чэрвеня 1906*

## МАЯ МАЛІТВА

Я буду маліцца і сэрцам, і думамі,
Распетаю буду маліцца душой,
Каб чорныя долі з мяцеліцаў шумамі
Ўжо больш не шалелі над роднай зямлёй.

Я буду маліцца да яснага сонейка,
Няшчасных зімой саграваць сірацін,
Прыветна па збожных гуляючы гонейках,
Часцей заглядаці да цёмных хацін.

Я буду маліцца да хмараў з грымотамі,
Што дзіка над намі гуляюць не раз,
Каб жаль над гаротнымі мелі беднотамі,
Градоў, перуноў не ссылалі падчас.

Я буду маліцца да зорак і жаліцца,
Што гасяць сябе надта часта яны,
Бо чуў, як якая з неба з іх зваліцца,
З жыцця хтось сыходзе на вечныя сны.

Я буду маліцца да нівы ўсёй сілаю,
Каб лепшаю ўродай плаціла за труд,

Збагаціла сельскую хату пахілую,
Надзеі збытымі убачыў наш люд.

Я буду маліцца і сэрцам, і думамі,
Распетаю буду маліцца душой,
Каб чорныя долі з мяцеліцаў шумамі
Не вылі над роднай зямлёй, нада мной.

*5 ліпеня 1906*

## ОЙ, ЧАМУ НА ХАТЫ ГЭТЫЯ?..

Ой, чаму на хаты гэтыя
Сышла восень з халадамі,
Калі людцы несагрэтыя
Трасуцца пад лахманамі?!

Ой, нашто, нашто няшчаснага
Парадзіла мяне маці,
Калі долі, шчасця яснага
Не магла з жыццём мне даці?!

Цяжка з віхрам жыцця біціся,
Горш, як з бурай хвойцы ў полі,
Дый цяжэй жыцця пазбыціся,
А яшчэ цяжэй — нядолі!

*26 ліпеня 1906*

* * *

Вось так хлопец, вось так ён,
Слухай яго, голь!
На славах — магутны слон,
А на дзеле — моль.

Праўда, што не ўмее красць,
Дык лжэ горай баб,—
Абяцанак горы дасць,
А выканаць слаб.

Пражыве ён многа лет,
Вечна сыт і рад,
І пяройдзе нават свет,
Дый не вернецца ж назад.

*26 ліпеня 1906*

## ДЗЕ НІ ВЫЛЕЦІ З НЯВОЛІ...

Дзе ні вылеці з няволі,
Ад пачатку да канчатку,
Ўсюды ўбачыш сваё поле,
Ўсюды ўбачыш сваю хатку.

Ўсюды ўбачыш чалавека,
Што цямнотай цябе разіць,
З слязой вечнай пад павекай,
Вечна ў лапцях і сярмязе.

Хоць жа сэрца, што за сэрца!
Лгання, хцівасці не знае,
Жывучы ж у паняверцы,
Толькі гора к збыццю мае.

Горам чорным, ой, багата
Надарыла люд наш доля;
Гора ў хаце і за хатай,
Гора ў полі і за полем.

Вецер хаткаю калоце
І па шчылінах галосіць,
Гаспадар злёг ад калоцця,
З дзяцьмі жонка есці просіць.

Пустка ў свірні і ў адрынцы,
Свінка хоча штось здыхаці,
Вые сучка на дзядзінцы —
Памрэ нехта ў гэтай хаце.

А у полі на загонах
Аруць віхры, барануюць,
Хутка, дружна, не натужна
Шнуры вузкія руйнуюць.

Далей — паркай сытай шпарка
Праляцеў пан у карэце,
А за ім паштовай паркай
Прэ чыноўнік на рассвеце.

А на пустцы апаўночы
Ведзьмы, чэрці пяюць, граюць,
То смяюцца, то рагочуць,
Знахароў-вужоў склікаюць.

І ўсё гэта, хеўра гэта:
Ветры, віхры і сабакі,
Ведзьмы, чэрці з таго свету,
Пан, чыноўнік, ваўкалакі,—

Ўсе навыперадкі пруцца,
Гікам, смехам чартаўскімі
Заліліся і нясуцца,
Аж зямля стогне пад імі.

А за імі, нібы хмара,
Йдзе мужыцкае ўслед гора,
Праз пасевы, праз папары,
Так сягоння, як учора.

І мужык — пан у старонцы —
Гора гэта вечна бача,
Бача, што толькі ў карчомцы
І ў магіле ён не плача.

*10 жніўня 1906*

## ВОЛЬХА

Шуміць маркотна вольха
Над рэчкаю бурлівай,
Аброслая на доле
Бадылямі, крапівай.

Над ёй сінее неба
І сее непрыветы:
То студзяць яе зімы,
То паляць яе леты.

Абломлівае вецер
Галіны без сумлення,
Падточывае рэчка
Жылястае карэнне.

Пацешыцца, як птушкі
Пяюць вясной агнісце;
Жалобу жаляў носіць,
Як раздзяецца з лісцяў.

Дні многія праходзяць,
Найбольш непагадліва,
Шуміць маркотна вольха
Над рэчкаю бурлівай.

*14 жнівня 1906*

## Я БАЧЫЎ

Я бачыў, як вецер па полі гуляў,
Зямлю ўзрываў і бярозкай хіляў,
Заносіў пяском сенажаткі, лагчынкі,
Ламаў на бярозцы жывыя галінкі.

Я бачыў, як ястраб галубку забіў,
І выклеваў сэрца, і цёплу кроў піў;
Віхор яе пер'е і косці развеяў;
Галуб варкаваў, галасіў без надзеі.

Я бачыў дзяўчынку няшчасну адну,
Як бегла да рэчкі, нырнула ў ваду!
Нагнаў вецер хвалі і след той загладзіў;
На беразе вольхі шумелі аб здрадзе.

Я бачыў ўсё гэта й душою цярпеў,
Застыў смех на губах і песні не пеў,
Заплакаў, заліўся маркотнай слязінкай
Адзін над бярозкай, галубкай, дзяўчынкай.

*15 жніўня 1906*

## ЛІПА

Высока, разлажыста
Расселася пры хаце
Стара-старая ліпа,
Паважная, як сваццця.

Сто лет ужо старусе,
А можа, нават болей,
Ад віхраў і ад бураў
Не мела век патолі.

Сто лет — кавалак часу,
Не сто дней, не сто тыдняў,
Якіх зайшло праменаў,
Збадаці ўсё абрыдне.

Няшчасцяў, кляцьбы, плачу
Было, што, Божа мілы!
Нябожчыкаў без ліку
Сыходзіла ў магілу.

А ліпа ані дбае,
Жыве, стаіць пры хаце
Высока, разлажыста,
З павагай, нібы сваццця.

*15 жніўня 1906*

## ШЧАСЦЕ

Мы гонімся часта за мараю блуднай,
Якая ў нас шчасцем завецца.
Дый трудна яе нам злавіці, ой, трудна,
Хоць блізка, туж блізка, здаецца...

Аднымі рай-шчасце завецца багацце,
Што свеціцца грошы машонкай;
Другімі — парадак і згода у хаце,
А іншымі — ўдалая жонка.

Той рвецца да славы шырокай, вялікай.
Той — жыці нязнатна, як дзеці;
Той — песняй азвацца нясвойскай і дзікай,
Той — родную думку запеці...

І роім у думках так цэлымі днямі,
Ды шчасце не роіцца ройна...
А слёзы другіх, што ліюцца прад намі,
Ці ж могуць даць спаць нам спакойна?..

*18 жніўня 1906*

## НАД СВАЁЙ АЙЧЫЗНАЙ

Божа! гэткі свет тут
Моц стварыла твая!
Дзе ж мой дом, дзе мой люд?
Дзе айчызна мая?

Дзе той час, у яком
Тут кіпела жыццё?
Свой народ быў кругом
І любіў сваё ўсё!

Сваю песню ў лад свой
Не стыдаўся запець
І сярмяжкі сівой
Не стыдаўся надзець!

Весяліўся народ,
Аж грымела сяло!
Ва ўсіх светлы паглёд,
Ва ўсіх шчасце цвіло.

А цяпер, а цяпер
Не відаць ясных зор,
Хоць сабе сам не вер,—
Знікла ўсё, як віхор!

Знікла ўсё, як імгла,
Няма славы таей;
Злая доля змагла
І мой край, і людзей!

Адны ў шар курганы —
Сведкі бітваў — стаяць;
Косці к ім груганы
Прылятаюць збіраць.

Прашмыгаюць вужы,
Канюх моліцца «піць»,
Воўк прабег па мяжы,
Далей спіць усё, спіць!

*28 жніўня 1906*

## ПЕСНЯ ЖНЕЙ

Пагнуўшы ў крук худыя спіны,
Сярпом махаючы крывым,
Мы, жонкі, ўдовы і дзяўчыны,
Пры доўгай постаці стаім

І дружна жнём,
І паддаём
Адна адной
Ахвоты больш,
І песню жаласна пяём.

Асобна кожную загонам
Нас надзяліў пан-дабрадзей,
А над усімі злы аконам
Стаіць, ганяе жаць бардзей.
І мы ўсё жнём і г. д.

Агніста сонца прыпякае,
Ў губах язык засох, як косць,
Пот горкі вочы залівае,
Змачыў кашулю ўсю як ёсць.
А мы ўсё жнём і г. д.

Серп прыбаўляе ранаў косых,
Павеку рэжуць асцюкі,
Як п'яўкі, смокчуць кроў з ног босых
Аржоння вострыя сукі.
Але мы жнём і г. д.

Мы жнём, растуць снапы і мэтлі,
Мы жнём людзям, адно пабач:
Гаротным нам хоць лезь у петлі,—
Працуй на полі — дома плач.
І ўсё ж мы жнём і г. д.

Гэй, жнема, бабкі і дзяўчынкі,
Гаруйма: гора — не напасць;
Пан справіць гучныя дажынкі:
За пот, кроў, слёзы — водкі дасць!

Мы будзем піць,
Як гора п'ём,
Паноў хваліць
І дружна ім
Скрозь слёзы песню прапяём.

*2 верасня 1906*

## СПРАСОННЯ

...Не! досыць, досыць! трудна далей
Цярпець, ціхія слёзы ліць!
Нічога мне, ой не, не далі,
А ўзялі ўсё, чым мог бы жыць.

Нявольнік, кланяцца век трэба
Людзям; век з потам кроў цячэ,
Няма патолі і ад неба:
То студзе, то спекай пячэ.

Пярун у хатку б'е крывую,
Пасевы нішчыць суш і град,
Авечку воўк задраў старую,
Скрыпіць нямазан панарад.

Худзее жонка ў слёзах, працы,
Трасе дзюравым каптаном...
Гэй, ты, што песцішся ў палацы,
Меў ж літасць над маім жыццём?!

Я сам... мне ногі гное лапаць,
Аборы ўелісь да крыві...
О, кроў! калі ж ты кінеш капаць?
О, доля, раны зажыві!

Грызецца зрэбная кашуля,
З сярмяжкай трудна пагадзіць,—
Зімой ад сцюжы не атуле,
А ўлетку горача хадзіць.

Аблазяць спрэўшыя ад поту
Пад шапкай дрэннай валасы,
Нажыў удушша і ламоту
Ад тапара, сахі й касы.

На ўгры пабіў мазоль мне рукі,
Век цэлы пыл за акрыццё...
О, колькі гора, колькі мукі
Нясеш, паганае жыццё!

Ніхто й пацех мне не гавора
За долю горкую маю,

Нясецца толькі рэха з бору,
Як песню скрозь слёзы пяю.

Гэй, растлумач, выроддзе ўражжа,
Трутні, зладзеі пчольных прац!
Чаму, дзе труд крывавы ляжа,
Цвіце загон, стаіць палац?

Чаму я сею, а другія
З сяўбы маёй збіраюць плён?
...О, досыць, досыць! сэрца ные,
Грыміць пагудкі новай звон.

Чакаў і днём, чакаў і ночай,
І ўжо абрыдала чакаць,
Ўстаю, іду, куды йдуць вочы,
За крыўды плату адшукаць.

*10 верасня 1906*

## НЕ ТУЖЫ

Эй, дзяцюк малады, не тужы,
Не глядзі ты скрозь слёзы на свет,—
Ідзі ў двор і там пану служы,
Як служыў і твой бацька, і дзед.

Там працуй і гаруй, маладых
Сваіх сіл на чужых не жалей,
Мазалёў не жалей ты сваіх,
Як крыві не жалеюць тваей.

На багатых папекайся век,
Век сваёй цемнаты знось глушу,
І забудзься, што ты чалавек,
І забудзься, што маеш душу.

Хай палац за твае за труды
Гучнай музыкаю загрыміць,
Хай сагнуцца сталы ад яды,
Песня п'янае ўцехі хрыпіць.

Хай твой пот, якім росіш зямлю,
З сытых твараў пальецца цурком,
Хай за горкую долю тваю
Вінаградным уп'юцца вінам.

Дык, дзяцюк малады, не тужы,
Не глядзі так скрозь слёзы на свет,—
Ідзі ў двор і там пану служы,
Як служыў і твой бацька, і дзед!

*16 кастрычніка 1906*

* * *

Пакіньма напуста на лёс свой наракаць,
Скрозь слёзы скаргі сеяць па зямлі,—
Нам трэба жыць і долю папраўляць,
Каб нас патомкі з часам не клялі.

Блудныя сцежкі цёмнага жыцця
Навукі сонцам мусім рассвятліць,
Каб мы і наша ў прышласці дзіця,
Не блудзячы, маглі свой век дажыць.

Штандар свабоды хай вядзе усіх
У свет на бітву з цемрай і са злом,
А гікі грозьб мучыцеляў глухіх
Глушыма вольнай песні перуном.

Навукай, воляй зможам стогн бяды,
Засеем долю на роднай зямлі,
І зажывём шчасліва мы тады,
Як прадзеды век нашы не жылі.

*22 кастрычніка 1906*

## ЗА ШТО?..

Маці мая, маці,
Што ж ты мне зрабіла,—
За што гараваці
На свет парадзіла?

За што, за што
Твой сын бядак,
За што, за што
Ён плача так?
— Скажы!

Плача твой дзяціна,
Ты й сама не скачаш,—
За сябе і сына
Плачаш, маці, плачаш.

За што, за што
Твой сын бядак,
За што, за што
Ты плачаш так?
— Скажы!

Тваё гора знае
Сын твой ад пачатку,
Бядуе, ўздыхае
За сябе і матку.

За што, за што
Наш лёс такі,
За што, за што
Мы бедакі?
— Скажы!

Маці мая, маці,
Крыўды з нас смяюцца
І твае, й дзіцяці
Горка слёзы льюцца.

За што, за што
Лье не адзін,
За што, за што —
І маці, й сын?
— Скажы!

*31 кастрычніка 1906*

## З ЛЮДЗЬМІ

Трудна, крыўдна жыць на свеце
Між нячулымі людзьмі,
Не раз вочы маладыя
Заліваюцца слязьмі.

Не раз сэрца затрасецца
Ад няпраўды векавой,
Не раз так яны дадзенуць,
Што расстаўся б і з душой.

Адных выракся б навекі,
Кляцьбой плюнуў бы другім,
За дазнаныя ўсе крыўды,
Эх, і мсціў бы, мсціў усім!

*9 лістапада 1906*

## ПОЙДЗЕМ...

Пойдзем, сушачы вечных крыві й слёз разводдзе,
К лепшай долі з вялікай надзеяй,
Пойдзем, пойдзем туды, адкуль сонца ўзыходзе,
Адкуль вецер прыветлівы вее.

Пойдзем, кінуўшы скаргі, а дружна і смела,
Вайну ворагам выдадзім дужым,—
Пойдзем, пойдзем усе на вялікае дзела,
Досыць гніць у сне марным, ланцужным.

Пойдзем шчасце сабе будаваць небылое,
Пакуль крэпкі і вера, і сілы,—
Пойдзем, пойдзем крышыць ўсё абманнае, злое,
Будзіць праўду паўстаці з магілы.

Пойдзем, ўзяўшы за сцяг свой і роўнасць, і згоду,
Жыцця лепшага покуль не знойдзем,
Пойдзем, пойдзем сабе здабываці свабоду,
Як адзін, як адзін дружна пойдзем!

*27 лістапада 1906*

## ДА N.

Нядаўна з табой мне спаткацца прыйшлося,
Нядаўна са мной першу спрэчку вяла,
А вызнаў, што ўжо табой шмат пражылося,
Шмат мела пацех і шмат слёз праліла.

Калі да мяне далятае ўздыханне,
Якое тваёю душою трасе,—
І ў ясныя вочы гляджу твае, пані,
То бачу, што іншая ты, як усе.

На воблік твой глянуўшы мужскі, спакойны,
На збор дружкоў, жданых табою ў глушы,
Я пэўны: дружкі ўсе цябе не дастойны,
Цябе і тваёй справядлівай душы.

Я сам яшчэ гэтага добра не знаю,
Што творыцца ў яве са мною падчас,
Вакол разглядаю, думак пытаю,
Ды ўспомню цябе мімаволі не раз.

І соладка сэрцам сваім не раз чую,
Што я не жадаю цябе, я люблю.
Люблю, як сястрыцу сваю дарагую,
Шаную, як родную матку сваю.

*8 снежня 1906*

## РОДНЫЯ ПЕСНІ

Гэй, родныя песні! Вы ў суме і ў горы,
Ці ночка пануе, ці сівер дзьме зімны,—
Для роднай зямелькі вы — светлыя зоры,
Для роднага краю вы — райскія гімны!

У вас адаб'ецца нядоля і доля,
Ўздыханні, што ходзяць з сахою, з сякерай,
І холад, і голад, няволя і воля,
І ў будучнасць ясну надзея і вера.

На свеце на белым і праўдай, і чэсцяй
Гандлююць, збываюць за фальш і няславу;
Вы ж, песні, і светам маглі бы затрэсці,
Паклікаць к змаганню за добрую справу.

На рукі людскія наложаць аковы,
Край стопчуць, заграбяць чужыя народы,—
У песнях жа родны край, родныя словы
Жылі, і жывуць, і жыць будуць заўсёды.

Гэй, песні, гэй, звон Беларусі загнанай!
Зайграйце пацехай на родным загоне,
Што ўжо няма болей няволі, кайданаў
І людзі не стогнуць, як стогнуць сягоння!

*1906*

## ДУБ

Калыханы ветрамі
Дый на ўсе староны,
Стогне дуб сярод поля,
Стогне дуб зялёны.

Стогне, квола трасецца,
Карані трасуцца,
Галлё ломіцца з трэскам,
Лісці ў свет нясуцца.

Рухне дуб гэты скора,
Рухне дупляняты,
І ўзыходзіць дасць месца
Жалудам-зярнятам.

Гэй, на дубным кургане
Дуброва паўстане,
І зямлі песняй новай
Зашуміць жа дуброва!

*1906*

## УСЕ РАЗАМ

Гэй жа, брацці, ўсе мы разам,
Песню запяём,
Дружна, смела, на свет цэлы
Аб жыцці сваём!

Аб тых хмарах, што так ходзяць
Над нашай зямлёй,
Аб той хатцы, што дзюравай
Свеціцца страхой.

Аб той зорцы, што так часта
Ажыўляла нас
І душу надзеяй светлай
Вабіла не раз.

Вабам шчасця і дастатку
Падклікала ўсяк,
Аж ізноў тачыць стаў сэрца
Нядолі чарвяк.

*

Гэй жа, брацці, ўсе мы разам
Песню запяём,
Дружна, смела, на свет цэлы
Аб жыцці сваём!

Аб той славе небывалай
Нашае зямлі,
Дзе мы долю пахавалі,
Скуль бяду ўзялі;

Аб той працы неаплатнай,
Крыўдзячай не раз,
Што так потам, мазалямі
Пацяшае нас.

Як нядолю сваю бачыць,—
Не магчы ж змагаць,—
Думы, сілы маладыя
Дарма марнаваць.

*

Гэй жа, брацці, ўсе мы разам
Песню запяём,
Дружна, смела, на свет цэлы
Аб жыцці сваём!

Хай імчыцца наша песня
Птушкай па-над гай,
Дзе бяжыць бурлівы Нёман,
Дзе наш родны край!

Хлопец стройны коні пое
Тамака ў браду,
А прыгожая дзяўчынка
Чэрпае ваду.

І адно так на другое
Міленька глядзяць,
Аж іх вочкі, быццам зоркі,
Ясна мігацяць.

*

Гэй жа, брацці, ўсе мы разам
Песню запяём,
Дружна, смела, на свет цэлы
Аб жыцці сваём!

Даляціць мо наша песня
Да забытых сёл,
Дзе яе сусед пакліча,
Павядзе за стол.

Хлебам, соллю прывітае,
Чарку паднясе...
Будзе песня красавацца,
Як жытцо ў красе.

Нам тады ўсім будзе слава,
Не было якой...
Дык запейма, хай імчыцца
Нашых песень рой!

*1906*

## З СІРОЦКАЙ ДОЛІ

Блудзіла сіротка па полі,
Блудзіла, шукаючы долі,
    Якой яна зроду не мела.
І дарма бядачка хадзіла,—
Забрала сіротку магіла;
    Так долі пабачыць не ўспела.

Нічога ўжо беднай не трэба:
Ні хаты, ні світкі, ні хлеба,
    Ні людскага жалю, прывету.
Не крыўдзіць жыццё ў беспрытонні
Сіроткі гаротнай сягоння,
    Ўдалі ад няпраўды, ад свету.

Спі ў вечнай, сіротка, хатулі,
Дзе тата спіць твой і матуля,
    Ты лепшай не мела пасцелі!
Ой, каб ты ў дамоўцы не спала,
Цябе я, мяне б ты пазнала,
    Мы роўную песню б запелі.

Запелі б так шчыра, балесне,
А гулка сіроцкая песня
    Па свеце нясецца з трывогай.
Мы пелі б, маліліся смела,
Каб наша малітва ўзляцела
    Аж там, аж пад неба, да Бога!

Ў малітве ляглі бы ўсе справы,
Якія стварае крывавы
    Наш быт у жыццёвым пакосе;
Малілі б, прасілі, каб болей
Шукаці не трэ было долі,
    Каб лепей сіроткам жылося.

*1906*

## ХАЙ ЖА ВАМ
## ТАК НЕ ЗДАЕЦЦА...

Хай жа вам так не здаецца,
Што бяда ўжо і зацісне.
Знайце, ліха ператрэцца
І маланкай доля блісне.

Праўда, поўны сумаў весці
Буйны вецер нам прыносіць,
Што як з гора, як з балесці
Каля нашых хат галосіць —

І галосіць, і заводзе,
Плача, як па дзетках маці,
Аж бы крыкнуў: годзе, годзе!
Годзе сэрца жалем рваці!

Але ўсё ж, хай не здаецца,
Што бяда ўжо і зацісне,—
Наша ліха ператрэцца,
І маланкай доля блісне.

*1906*

## ВЯСНА

Згінулі сцюжы, марозы, мяцеліцы,
Болей не мерзне душа ні адна,
Сонейкам цёпленькім, зеленню вабнаю
Абдаравала зямельку вясна.

Рэчкі бурлівыя, ўчора санлівыя,
Сёння усталі, плывуць і бурляць;
Рыбкі шмыглівыя скачуць, купаюцца,
К небу прыветна з вадзіцы глядзяць.

Пушчы паважныя, зімку праспаўшыя,
Радасна песні зайгралі свае;
Лісці зашасталі, птушкі зачыркалі,
Свішча салоўка, і дзяцел клюе.

Поле травіцаю сочнай адзелася,
Выйшла скацінка і дружна скубе,
Каля скацінкі падпасвіч з жалейкаю
Ходзіць навокал ды йграе сабе.

Грай, грай, жалеечка! грай, грай, вясёлая!
Выйграй з вясною і долечку мне;
З пушчаю, з птушкамі, з вольнымі ветрамі
Грай мне аб шчасці, грай аб вясне!

*1906*

## ВІХОР ЗАГУЛЯЎ

Гэй, шумна у боры
Віхор загуляў;
Аб слёзах, аб горы
Завыў, запяяў.

Аж хіляцца сосны,
Аж стогнуць дубы
Ад гэтай жалоснай
Віхорнай кляцьбы.

Ваверкі-грызухі
Заселі ў дуплох,
Мядзведзь ад разрухі
Палез у бярлог.

А людзі, што бор той
На дровы сяклі,
З душою раздзёртай
У хаты ўцяклі.

І пуста, і дзіка
Пад борам кругом,
Як помсты вялікай
Заплёў хто залом.

Як дзе па пажары —
Жыцця ані чуць...

Касматыя хмары
Па небе паўзуць.

Віхор жа у боры
Гудзе і гудзе
Аб слёзах, аб горы,
Аб людскай бядзе.

*1906*

## ПЕРШЫЯ ПЕСНІ

Першыя песні — першыя чуткі
Шчасце зазнаці хаценкі нясмелай,
Першыя думкі вольнай мінуткі
Птушкамі вымкнуць на свет гэты белы.

Што іх чакае, што іх спаткае,
Чым блаславяць маладога музыку:
Ці прыгалубіць ласка людская,
Ці заплююць яго смехам, прытыкай?

Грошы за песню рэдка хто плаце,
Часта акінуць нямілым паглёдам;
Песня паэту ўсё тут багацце,—
Цешыцца, плача у песні з народам.

Што людзі скажуць, што зробяць з песняй,
Бог з іхнім судам, насмешкай, пахвалай!
Зганяць — дык будзе трохі балесне,
Выхваляць — шчасце хоць раз бы спаткала.

Вечна рвучыся думкай да сонца,
Кепска нікому не думаў ніколі,
А калі й кінуў лішняе слоўца,—
Гэта знак толькі жыцця у нядолі.

Смерць пяўца возьме мо і сягоння,
Чорнай зямелькай накрыюць павекі,
Песня жыць будзе, ў магіле не ўтоне,
Блага ці добра — жыць будзе навекі!

*1906*

## КУДЫ НІ ЎЦЯКАЮ...

Куды ні ўцякаю
Ад долі сваей,
Усюды спаткаю —
Раней ці пазней.

Надзеі ўсе скруціць,
Засвішча бядой,
І сэрца засмуціць,
І ліне слязой.

Магільную песню
Ў душы запяе,
Нашле нуды плесню
На думкі мае.

І б'юся ж напрасна,
Як рыба аб лёд,
Ад долі няшчаснай
Няма мне варот!

*1906*

## З ПЕСЕНЬ НЯДОЛІ

Колькі жудкага,
Колькі горкага
Зла ўсялякага
Ходзіць, поўзае!

І як цяжанька
Сэрцу чуткаму
З гэтай брыдасцю
Сустракаціся!

Вось канвой брыдзе,
Шаблі бліскаюць,
Людзі бедныя
Звоняць путамі.

Вось сіротанька
Пад варотамі
Плача з голаду,
Стыне з холаду.

Там над працаю
Бескарыснаю
Сілы губяцца
Неакрэпшыя.

Там збыдлеўшыя
Брацці родныя
Забіваюцца,
Рэчкай льецца кроў.

А там дзеванька,
Хлопцам-зменнікам
Ашуканая,
Прэцца к поламцы.

Чутны воклікі
Ўсё хаўтурныя,
Совы толечы
Свішчуць радасна.

Эх, і як тут жыць
Сэрцу чуткаму,
Адчуранаму,
Адзінокаму!

*1906*

## НЕ ГЛЯДЗІ...

Не глядзі на мяне, не глядзі, адыйдзі,
Не чаруй так сабой і на яве, і ў сне!
Ты смяешся з мяне... Дык ідзі ж, не глядзі,
Бо замучыш, загубіш навекі мяне!

Погляд вочай тваіх душу змучыў маю,—
Праз яго я сябе не змагу аніяк:

То я рвуся к табе, то, як слуп той, стаю,
То жалею цябе, то кляну горка так.

Ты ж не любіш мяне, ты шукаеш другіх,
Туды пнешся, дзе звоняць дукаты, рублі...
А што я табе дам? я ж бядней ад усіх,
У бадзянні цяжкім жывучы на зямлі.

Бедзен я, дык чым я за цябе заплачу?
Знаю — мала табе душы, сэрца майго:
Ты за грошы сябе прадасі панічу,—
Будзеш блізкай яму, будзеш жонкай яго.

Будзеш паняй ты жыць: смачна есць, доўга спаць,
Шапкі будзе знімаць прад табою народ,
А я буду цярпець і свой дзень праклінаць,
Праклінаць і цябе, і твой гэты паглёд.

Дык ідзі, не глядзі! Я баюся цябе;
Не мая ты цяпер і не будзеш маей.
Дык ідзі, бо загубіш мяне і сябе,
Бо кіпіць мая кроў, сэрца рвецца з грудзей!

*1906*

## ПАЭЗІЯ

Праўду з няпраўдай,
Цноту з гарэзіяй
Вымешай спрытам,—
Будзе паэзія.

Лета, ноч, месяц,
Клёнік, чарэсня,
Хлопец, дзяўчына,—
Вось вам і песня.

Шэпты, прысяга,
Вечная згода,
Вечная любасць,—
Вось вам і ода.

Пуня, дзяўчына,
Сена-прынада,
Хлопец пад пуняй,—
Вось серэнада.

Пуня падперта...
Голас: сусед я!
Бацька з дубінай,—
Вось вам камед'я.

Зімка. Знік хлопец,
Дзеўка ўжо «мамай»,
Слёзы... Палонка,—
Вось вам і драма.

Свет, людзі-шэльмы
Крадуць, лгуць шчыра,
Чэсны паэта,—
Вось вам сатыра.

Двор, хорам панскі;
Рада-парада,—
Добрасць, пачцівасць,—
Вось вам балада.

Свінні, падпасвіч,
Лапаць, парцянка,
Непагадзь, золка,—
Вось і сялянка.

Добры пан, пані;
Корміць іх ласка
Бедных, галодных,—
Вось вам і казка.

Пан, хам і поле,
Праца, нястатак...
Тры аплявухі,—
Вось і канчатак.

*1906*

## ЯНКА КАНЦАВЫ

Янка Канцавы —
Гаспадар не злом,
Гэткай галавы
Пашукаць з агнём.

Што ні зробіць ён —
На дзівы усім:
Дзівіцца Лявон,
Дзівіцца Яўхім.

Сонца на паўдня —
Ён тады ўстае,
Рухне, як свіння,
Сядзе — пазяе.

Змыўся, рукавом
Выцер нос і, вот,
Бульбай з праснаком,
Надзяе жывот.

Сяк ды так пад'еў,
Вылез з-за стала,
Вопратку ўздзеў,
Шапку зняў з кала;

Падышоў к вадзе —
Хочацца, знаць, піць —
І к рабоце йдзе,
Чуць нагой вурзіць.

«Слепака» запрог
У саху з дугой,—
Пугай шлёг ды шлёг,—
Ну, ваўкі з табой!

Як шнур запахаў
Гэты наш Янук,—
Не знаць, ці араў,
Ці парыў парсюк.

Вытухшых зярнят
Па раллі патрос;
Будзе збожжа шмат —
Мо і больш за воз.

Ну, во ўжо і час
Выбрысці з касой,—
Хто ж ахвоцен з нас
Уставаць з зарой?

Янка ж — маладзец!
Рана рад устаць.
Каб — пусты канец!
Не цягнула спаць.

Як там ні было —
Неяк пакасіў;
Жніва навярзло —
Зжаў і павазіў.

Янка сяк, то так
Лета прамадзеў,
Стаў жыць не 'бы як,—
Стаў есць больш, як еў.

Хутка, да Пакроў,
Збожжа змалаціў,
Але чорт падвёў —
Чыншу не плаціў.

Стараста, як кнут,
Хоць як ні прасі,—
Штодня тут і тут:
Чынш плаці, нясі.

Магазыннік, той —
Ані адагнаць:
— Ссып мне, што вясной
Браў шнур засяваць.

Янка рад, не рад,
А дыхнуць ані,
Быццам той скурат,—
Круціцца ў агні.

Толькі ўсё яму
Гора як ні ў чом:
Прэцца у карчму
З поўненькім мяшком.

Еўна — хітры жыд,
Шмат жыў на вяку...
Цэлы рай адкрыт
Янку-бедаку.

Шумна ў карчме,
Янка водзе рэй,—
Гэтым рукі жме,
Тым піць лье скарэй.

Тыча пад бакі
Сойкі для другіх;
Весялы такі,
Абдымае ўсіх.

Лоўка падгуляў,
Выбрыў за карчму;
Гразі і канаў
Ўжо няма яму.

Мчыцца, быццам пан,
Колы трах-тарах!
У вачах туман,
Немач у нагах.

Прыляцеў на двор,
Злез, у хату йдзе,
Дзверы ўжо адпёр,
Песню ўжо вядзе,

Песню-крык гу-га!
Увайшоў, глядзіць,
Аж тут качарга,
Як з нябёс, ляціць.

Не ўспеў што сказаць,—
Трудна,— хлоп ды хлоп!
Ой, шалёны, знаць,
Хрысціць бабаў поп!

Нeяк жонку змог,
Выгнаў дзеці вон,
Спаць на печы лёг...
Май жа райскі сон.
. . . . . . . . . . .

Дзівіцца ўвесь свет,
Што так гол Янук,
Дзіваваўся дзед,
Дасца дзіву ўнук.

*1906*

## ПРЫ ВЫПІЎЦЫ

Вось і карчомка —
Вясёлы наш край!
Жыва, гэй, Шлёмка,
Гарэлкі давай!

Што там марудзіш
Ты, гэткі, такі?
Ў крыўдзе не будзеш,
Як п'юць бедакі!

Наша багацце
Нямоцна ні ў чым,—
Грошы не хваце —
Заставу дадзім.

Толькі нам водкі
Давай, не жалей!
Век наш кароткі,
Зато п'ём часцей.

Дарма мы рвёмся
Нядолю змагаць,—
Водкі нап'ёмся,
І гора не знаць.

Там каля хатаў
Плач ходзіць з бядой...
Мінск наш багаты —
Ён збавіць, як стой.

Возік каменняў —
Тры злоты ўжо ёсць,

Воз дроў, паленняў —
Рубельчык — як госць.

Вось і няскупа
Ўскашэліцца голь,—
Ёсць штось на крупы,
А трохі на соль!

Рэштку ў сівусе
Мы ўтопім навек;
З чаркай, з Марусяй
Вясёл чалавек.

П'ём водку, браце,
П'ём не 'бы як,—
Мей больш багацця —
Пілі бы не так.

Жыва ж, гэй, Шлёмка,
Гарэлку стаўляй,
Чаркай ды ёмкай
Ты нас надзяляй!

Весела, гучна
Час будзе ляцець,
Будзем піць дружна
І песенькі пець.

Ночка за чаркай
Пяройдзе, як стой,
Раніца ярка
Зардзіць над зямлёй.

Дымкай чырвонай
Зара замігціць,
Чарку чароўна
Святло развагніць.

*1906*

## БЛАГАЯ ЖОНКА...

Апляла мяне нядоля
З неспакойнай бабай;
Ледзьве цягне ногі з поля,—
Вадзіцца ж не слаба.

Хоць яе мужык и родны,—
Цягам мучыць звадай;
Ці то годны, ці нягодны,—
Прычапіцца рада.

Як даўгі язык разваліць,—
Сам чорт не запрэча;
Век радню сваю ўсю хваліць,
А маю нівеча.

Што яна мяне здатнейшай,—
У адным б'е чыне,—
Разумнейшай, дасціпнейшай,
Лепшай гаспадыняй.

Часта паласаваў пугай,
Валасы патузаў;
Скураной не раз папругай
Наляпіў ёй гузаў.

Стану біць, запёршы ў клеці:
Дружна поўха скача;
І што ж? Плачуць толькі дзеці,
І сама ўсцяж плача.

І нічога, ой, нічога
Ёй не памагае,—
Век брахання абрыднога
Баба не кідае.

Слухай, малец, будзь прыкладным,
Раджу не за грошы,—
Не паддайся вочам здрадным
Дзеўчыны харошай!

Не бяры жонкі выбрэднай
Ды ў багатай скуры,
Хай сабе ўжо будзе беднай,
Ды добрай натуры!

*1906*

## КАЦЯРЫНА

Ох, як гэта Кацярына
  Спрытная ўдава,
Дык другая і дзяўчына
  Пры ёй дрэнь-трава!

Кожны хлопец аж трасецца,
  Вокам як міргне,
А як губай засмяецца —
  Доўга не засне.

Кацярына — гаспадыня,
  Словам — баба-зух!
Мае ўсякае начынне
  І курэй катух.

Не якая там няздара
  На руку яна:
Пале ў печы, есці вара
  І усё адна.

Наварыла чамярухі,
  Ладак напякла,
Паляцела і сівухі
  Пляшку прынясла.

Маладзенькага Захарку
  Садзіць за сталом,
І гарэлку чарка ў чарку
  П'юць сабе ўдваём.

Закурылася чупрына...
  Спаці хоча госць.
Знае дзела Кацярына...
  Дзе ж такая ёсць?

Госцю ложак памасціла
  Наша удава;
Пад акном жа, колькі сілы,
  Гукае сава.

*1906*

## ПРЫПЕЎКА

Нашто бабе агарод,
Калі баба стара,
Калі бабе са сто год,
Кіпне пэўна зара.

Лепш аддаць гэты садок
Дзяўчынцы прыгожай,
Хай гусценькі вішнячок
У садку размножа.

Будзе надна у цяньку
Летам паляжаці,
З пекным хлопцам пад руку
Ўдвойчы пагуляці.

Будзе вішанькі зрываць
Дзяўчынка наспелы
І дружочка частаваць
І туліць нясмела.

*1906*

## ХЛЕБ

Мы і з сошкай ішлі, і з баронкай ішлі
Заслужыцца на ласку ў цябе,
І гной везлі, траслі на пусцейшай раллі —
Сеяць шлі аж па трэцяй арбе.

І свянцілі цябе, ідучы засяваць,
Выбіралі к сяўбе лепшы дзень,
А на лета цябе ўсёй сям'ёй шлі збіраць,
Сцераглі хмары, ўбачыўшы цень.

У калядны ж мароз, як шум дзікай зімы,
Слаў праклянцце і нам, і жыццю,
Шлі, не гледзя на ўсё, на ток досвіткам мы,
Шлі з цапамі па плату сваю.

І ўсё шчыра табе паслугоўвалі так,
Каб на воку нас, бедных, ты меў...
А ты што нам зрабіў, адплаціўся ты як?
Ці ты нас хаця чуць пажалеў?

За наш труд над табой, за пот, кроў над табой,
Як прыйшлося ды легчы на стол,—
Ты спынуўся ад нас за дзесятай гарой,
Ты счураўся замучаных сёл.

*1906*

## НА СЛУЖБЕ

Эх, праклятая доля мая,
Ненавісная служба — прыгон!
Смокча кроў з мяне пан, як змяя,
Ды йшчэ грозіць, што выганіць вон.

За ліхую заплату з душой
Маю радасць, быдлё, абакраў,
І, ў палон мяне звабіўшы свой,
Крыві мала — жыццё б адабраў.

Ці нядзелька, ці свята мне ёсць,
Ці як людзі гуляў я калі,
Ці ў мяне пагасціў добры госць,
Ці мне добрае слоўца далі?

А не з дзерава сэрца маё,
Не вада ў маіх жылах плыве,
Мае вочы і твар не трухлё,
Замест дум не смяццё ў галаве.

Як і людзі, хацеў бы я так
Пагуляць, на бяседзе пабыць,
Паспяваць аб жыцці небарак
І з дзяўчынай-красой падружыць.

Ды праклятая доля мая,
Ненавісная служба — прыгон!
Смокча кроў з мяне пан, як змяя,
Ды йшчэ грозіць, што выганіць вон.

*1906*

## З ПЕСЕНЬ БЕДАКА

Ой, кепска жыці
На свеце гэтым,
Долю зрабіці
З ясным прасветам.
Цяжанька мне.

Моладасць, радасць,
Думкі, надзеі
Злажыў навекі
Праз жыцця веі
Ў сэрцы на дне.

*

Хлеба шукаю,
Чорнага хлеба,
З краю да краю
Цягацца трэба,
А гора жме.

Дый калі хлеба
Потам здабуду,
Сільныя вырвуць
Злосцю прыблудаў
Хлеб у мяне.

*

Працай крывавай,
Крыўдай людскою,

Лжывай няславай
Змушан з душою
    Ў жыццёвым сне,—

Гляну — і стольki ж
Хатаў ды поля...
Дзе ж маё месца? —
З маёю доляй? —
    Няма нідзе.

*1906*

## ВЫ КАЖАЦЕ...

Вы кажаце: надта пяю я нявесела,
Пацехаў ніякіх не бачу ў людзей...
Пакіньце смяяцца! Вас праўда не ўсцешыла,
Няпраўды ж не знаю ў душы я сваей.

Як пеў я дагэтуль, так пець не сцураюся,
Жальбою маркоцячы песню сваю;
Я ў долю народа свайго узіраюся
І толькі аб гэтым для вас тут пяю.

Няхай свет пазнае ўсе песні бяздольніка,
Хай вораг-мучыцель дрыжыць з праўды слоў,
Быць вольным хай родзяцца думкі ў нявольніка,
Хай быць чалавекам захоча брат мой.

*1906*

## БЫВАЮЦЬ ХВІЛІ...

Бываюць хвілі горкіх жаляў,
    Душа і ные, і баліць;
Агонь пякельны грудзі паліць,
    І нечым той агонь заліць.

У гэткай хвілі цяжкай, труднай
Нямілым робіцца жыццё,
Пракляў бы цэлы свет зялюдны
І сэрца роднага біццё.

Пракляў бы свет, і быт, і долю,
Усё б на лес сухі паслаў
І даў бы думам спаць уволю
І сам бы спаў, навекі спаў.

*1906*

## ДУМКІ ПЕРАД ВЯСНОЙ

Штодзень вышэй, штодзень цяплей
Глядзіць з-пад неба сонца нам,
Сплывае радасць да людзей,
Чуваць і песні там ды сям.

Вяселіць сонца цэлы свет
Надзеяй блізкае вясны,
З якой зімы загіне след,
Зямелька скіне свае сны.

Зазелянее лес і лог,
Забурліць звонка ручаёк,
Па вёсках возьмуцца да сох,
Задзьме ў жалейку пастушок.

Так будзе блогасна усім,
Надзеі поўны ўсе такой...
А мне ж і думачкам маім
Чаму так смутна, браце мой?

Чаму так сэрца мне баліць,
Маркотна чахну наяву;
Як той канюх галосіць «піць!»,
Так — шчасця! Шчасця! я заву.

Марнее моладасць мая
У беспрытуллі, ў беднаце,
Нуда — нямручая змяя —
Дух мучыць, а бяда гняце.

І жудка мне, хоць і вясна
Ўжо да людзей з цяплом ідзе;
Як бы пустынь вакол адна,
Не чуць прывету ад людзей.

Гэй, хіба ты, мой цёмны бор,
Мой зразумееш боль і жаль
І шумам гулкім аж да зор
Ускалыхнеш прыспану даль.

Гэй, хіба вы, зоркі мае,
Заглянеце ў душу маю
І далям скажаце, як мне
Жыць трудна, як горка цярплю.

*1906*

## СПРОБА АКТАВЫ

Удар, душа, удар ты, сэрца,
Па струнах думак-весялух!
Збудзіце ўспаны ў паняверцы
Жыцця змянлівага мой дух.
Хай думкі лягуць на паперцы
І цешаць братні погляд, слух,
 Народу прыйдзе хай пара
 Успомніць часам песняра!

Да шчасця нам так мала трэба —
Прывецік добры з стараны,
І ўжо мы чуць аж не пад небам —
Ужо смяемся, роім сны!
І вы, барцы за кусок хлеба,
Што ўцех не знаеце вясны,
 Прыкмецце, што душы за йгра,
 Прыкмецце словы песняра!

Мы плачам, змучаныя доляй,
Над хмарай толькі сваіх бед,
Пясняр жа зрэнкаю саколяй
Ўвесь аблятае белы свет,
І за ўсіх выцерпіць найболей,
І звяне, як той ўвосень цвет.
А мелі ж ласку брат, сястра
Над гэтай мукай песняра?

Мяшку, набітаму рублямі,
Б'е кожны нізенькі паклон,
Хоць бы зладзейскімі рукамі
Быў напаўняны з крыўдаў ён...
Хто ж бедных бача паміж намі,
Хто чуў няшчасця плач і стогн?
Хто, хоць пачуці ўжо пара,
Паслухаў песню песняра?!

Стаіць палац высокі, белы,
Збудован роўна, ўсё пад шнур,—
Жывуць жа тыя ў ім, што ўмелай
Рукою ўзнеслі гэты мур?
О, не! Іх доля акалела,
Ад жыцця зменных гінуць бур.
Як слуг, праводная зара
Вядзе таксама песняра.

Ўсё сходзіць з свету доўга-скора,
Нішто не вечна на зямлі,
Хоць чалавечы слёзы, гора
Заўсёды вечнымі былі.
Памрэ пясняр,— хоць так пеў ўчора,—
Дружкі паплакаць, бач, прыйшлі...
Людцы, смяяцца не пара
Хоць над магілай песняра!

*1906*

## ПРАЗ ВАЙНУ

Зіма. На дварэ мяцеліца вее,
Халодныя песні заводзіць віхор,
Зоркі не свецяць і сонца не грэе,
Аж вылезці страшна і глянуць на двор.

А снег усё сыпе болей і болей,
Страляе ў сцены сцюдзёны мароз,
І вецер шалёны вые у полі,
Ўсе гурбамі снегу ён хаткі занёс.

Пад борам зялёным вёска стаяла,
А бедная надта, ах, надта была,
Мяцеліца стрэхі яе пазрывала
І дзіка па сценах дзюравых гула.

У хатцы старой у гэту завею
Лучыначка свеціць святлей то цямней,
Там дзеткі малыя з маткай сваею
Льюць горкія слёзы з бядачых вачэй.

Памерзлі з марозу дзеткі у хатцы,
А шэсцера, бедных, там іх было,
Трасуцца і лезуць на грудзі к матцы,
Як птушкі да маткі сваёй пад крыло.

Ой, гэтых сіротак цяжкая доля,
Хоць маці і ёсць, але бацькі няма,
А тут яшчэ гэты холад-няволя,
Праклятая сцюжа, мароз і зіма.

Іх бацьку з японцам біцца забралі,
Бо ён запасны у цара быў салдат,
Вінтоўку і шаблю там яму далі
І стары салдацкі пацёрты халат.

Пакінуў ён дзетак бедных без хлеба
І хворую жонку без хлеба сваю,
А тут і падаткі яшчэ аддаць трэба,
Падаткі і чынш у казну за зямлю.

Кароўка раве не еўшы у сенцах,
Авечка у хаце з ягняткам бляе,

Нятоплена печка, дроў ні паленца,
А ў коміне жудасна вецер пяе.

Ой, бедныя дзеткі, як па пажары,
Хто ж вас тут накорміць, дроў насячэ?
Хто печку падпаліць, хто есці навара?
Хто хлеба вам булку, праснак хто спячэ?

Нямашака бацькі, хворая матка,
Няма каму бедным тут вам памагаць,
Ад ветру трасецца старая хатка,
Ратунку для вас ніадкуль не відаць.

А там на дварэ мяцеліца вее,
Халодныя песні заводзіць віхор,
Зоркі не свецяць і сонца не грэе,
Аж вылезці страшна і глянуць на двор.

*1906*

## ДОЛЯ ЎДАВЫ

Як гляну я, гляну ў свет зрэнкай хмурлівую,
Ў свет гэты, што поўны няпраўды благой,—
Злятаюцца думы ў душу нешчаслівую,
І вырвецца песня, абліта слязой.

Дарэмна на долю гляджу чалавечую,
Не бачу шчаслівых ў жыццёвым кругу,
А долю ўдавы ды і кожну кабечую
Найгоршай з найгоршых назваць я магу.

Ніхто за сіротку-ўдаву не заступіцца,
Ад злосці і крыўд не бароніць ніхто,
А крыўдзіць жа сільныя слабых не скупяцца
Людскому сумленню і праўдзе назло.

Расце сярод поля сасонка высокая,
І віхры, і хмары шалеюць над ей;
Жыве без апекі ўдава адзінокая,—
Як хвойка ад бураў, цярпіць ад людзей.

Не знала яна з мужам шчасця вялікага,
Не раз аблівалася сэрца крывёй,
Цяпер жа ад ворагаў пошасці дзікае
Не знае спакойнай часінкі адной.

Падобная ў полі нязжатаму коласу,
Змагацца прымушана з зменным жыццём.
І скаргаў яе справядліваму голасу
Няма рэха чулага ў сэрцы людском.

Сваймі мазалямі — адвечна крывавымі —
Павінна на хлеба кусок зарабляць
І з крыўдамі, з здзекамі біцца няправымі,
Аб прышлых днях думаць, дзяцей гадаваць.

*1906*

## ШУМІЦЬ ШУМНЕНЬКА ГАЁК

Шуміць шумненька гаёк,
Галейкам махае;
Любі мяне, дзецючок,
Бо я маладая.

Я прыгожая дзяўчына,
Ніхто не зжахнецца,
Твар чырвоны, як маліна,
Сэрца б'ецца, б'ецца.

Сэрца б'ецца, любіць хоча,
Сэрца жджэ другога,—
Не магу я спаці ночай,
Як з жалю якога.

Ўсё к падушачцы тулюся,
К грудзям прыціскаю,
То смучуся, то смяюся,
То кагось чакаю.

Ой, чакаю, што ж марудзіш,
Дзецючок, са мною?
Прыйдзі толькі — шчасліў будзеш
З дзеўкай маладою.

*1906*

## АЎТАРЦЫ «СКРЫПКІ БЕЛАРУСКАЙ»

Чутка йграеш, гулка йграеш
Ты на скрыпачцы сваей,
К небу з думкай падлятаеш,
Шчасця зычыш для людзей.

Ўперагонку з салаўямі
Пайсці голас можа твой.
Грай жа, грай жа паміж намі!
Ваюй песняй з цемнатой.

Крэпкі струны тваёй скрыпкі,
Ў тваёй скрыпцы душа ё,
Ў руцэ сільнай смычок ліпкі
Лёгка ходзіць, як пярцо.

Павядзеш ты ім, і песня
Льецца — проста б слухаў век:
Неяк шчасна, то балесна
Сябе чуеш, чалавек.

Аб чымсь светлым, аб чымсь новым
Твая скрыпка грае нам;
Грае, грае, а ў ёй мова
Наша чуецца без плям.

Беларуса й яго жонку
Называеш ты людзьмі,
Беларусь, яго старонку,
Славіш песнямі сваймі.

Аж так хочацца, хоць сціха,
Тваёй скрыпцы ўтараваць,—
Піць з таго, што й ты, кяліха,
Аб чым граеш, апяваць.

Гэй, пяснярка, болей, болей
Нам на скрыпцы сваёй грай!
Прывітаем хлебам-соляй,
Дзякуй скажа родны край.

Бедна нашая старонка,
Яе ж люд бядней яе:
Не апеты песняй звонкай,
І цяпер хто ж апяе?

Хто? — як кінеш так прыгожа
Для сваіх ты йграць людзей.
...Эх! іграй жа той, хто можа:
Плакаць будзе весялей.

[*1906*]

## «НАШАЙ ДОЛІ»

*(Першай беларускай газеце)*

Гэй! ўсе разам без патолі,
    Беларусы-дзеці!
Пашлём дзякуй «Нашай долі»,
    Родненькай газеце.
Нам яе, радзімай, далей
    Не будзе ўжо браку;
Шмат гадкоў шчыра чакалі,
    А цяпер — ой, дзякуй!
Дзякуй тым, хто нашу мову
    Родную ўскрашае;
Хто цямноты ў родным слову
    Нашы распрашае.
Дзякуй! і хай «Наша доля»
    Часцей к нам прыходзе;

А з ёй праўда і з ёй воля
Зажыве ў народзе.
Праўда, шмат расце бадыляў
Нам на сцежцы нашай;
А магіла пры магіле
Дзікай пусткай страша;
Але «Доля» хай адважна
Ляціць к нам, загнаным,
К грамадзе нашай сярмяжнай,
К горам гартаваным.
Ўрагоў нашых рык шакалі
Не страшан і ўгрозы,
Бо, бо нас узгадавалі
Кнут, кроў, пот і слёзы.
Прыкупіўшы солі, хлеба,
Прывітайма «Долю»,
Як анёла Бога з неба,
Як святую волю!

[*1906*]

## БЕЛАРУСКАЙ ВЫДАВЕЦКАЙ СУПОЛЦЫ «ЗАГЛЯНЕ СОНЦА І Ў НАША АКОНЦА»

Прывет вам, прывет з найцямнейшай старонкі,
Ад брацціяў, ад сёстраў загнаных сваіх,
Шлю радасці поўны, шлю з песняю звонкай:
Вітайце, сяўцы, нам збажынак такіх!
Мяцеліцы нашу айчызну зглушылі;
Найлепшых авечак уносяць звяры;
Жыццё тут заціхшы, як сон у магіле:
Тут цёмна, не знаці ні дня, ні зары.
Тут крыўды няшчасных галосяць а мшчэнні;
Для духа і цела бракуе тут хлеба.
А мора слёз вечных, гэй, вечных цярпенняў,
Пажараў — сто сонцаў, каб высушыць, трэба!
Хоць сілаў гартоўных не стаць тут не можа:
Іх голад, і холад, і кнут гартаваў;
Но сон іх, ах! крэпкі, хто смелы стрывожа:
Сябе хто б такім усясільным назваў?..

Вы зоркаю яснай над гэткай зямлёю
Усходзіце сцежкі цямнот асвятляць;
Выходзіце з светлага знання сяўбою,
Вы хочаце ўспёных будзіць, паднімаць,
О, каб жа цяпер вы, яснеючы зоркай,
Мільёнамі сонцаў зардзелі для нас!
І гэтыя сонцы ды ў нашы аконцы
Унеслі з сабою шчаслівасці час.
Нас восем мільёнаў! — эх! бі нам паклоны,
Чужнік ўсяк, прыліпшы да нашай зямлі!
Нас восем мільёнаў... злічы хто, шалёны!
А гора чаму ж мы й кайдан не змаглі?!
Но досыць нарэкаць, як калісь за прыгону!
Зычэння да вас лепш адно йшчэ ляці:
Каб гэтыя восем і з чымсь мільёнаў
Ўсе ў вашай Суполцы сябрамі былі.
Гэй, дзівы над дзівы, мкне гоман грамлівы!
Глядзіце, ўстае беларускі народ;
Айчызну будуе на борах, на нівах.
Што гэта? — то йдэі, то праўды прыход.

[*1906*]



# 1907

* * *

Цяжка мне, цяжка, слузе беспрытоннаму,
Жыцця свайго смутнага дні каратаць,
Сэрцу, ад жалю і слёз неўгамоннаму,
Ой, цяжанька верыць і шчасця чакаць!

Цяжка мне, цяжка за сошкай-крывуляю
Загон выйсці ў поле араці чужы,
Пот абціраці парванай кашуляю
Дый плакаць, прыпаўшы грудзьмі да мяжы!

Цяжка мне, цяжка маркотнымі думамі
Бязмернае гора адчуці сваё,
Слухаць бяды песню з віхраў пашумамі,
Што ніва, што сошка, што ўсё не маё!

Цяжка мне, цяжка гумно, пуню панскія
Дабром, злітым потам маім, напаўняць,
Знаць, што ўсіх кормяць труды мае хамскія,
А сам мушу з голаду век паміраць!

*29 студзеня 1907*

## СОН

Не помню дня і той мінуты,—
Днём толькі, помню, ўсё было,
Як змучан доўгаю пакутай
Пакінуў я сваё сяло.

Пуцінай плёўся камяністай
Паміж кустоў, папарных ніў,
Глядзела сонца. Пот краплісты
Худы мой твар мачыў, слязіў.

Я змогся. Ногі больш служыці
Мне не хацелі, чуць цягнуў.
І ўсеўся на курган спачыці,
І на кургане я заснуў.

І ўбачыў вобраз векапомны,—
О, ўбачыў відаў я са сто!
Сам тросся ўвесь, як непрытомны,
Ішла адвага за нішто.

Я сніў. А ўсё як бы наяве
Кругом мяне жыло жыццём:
Той абымаў, той нож крывавіў,
Той спаў летаргу зводным сном.

Збуджэння дух махаў крыламі,
Няпамяць свой скідала пыл,
Вякі пражыты за вякамі
Ўставалі з попелаў магіл.

Спіхала ў долы праўду здрада,
За быт, за шчасце йшла вайна,
Парад цягнуўся за парадам,
Жыла, ўмірала старана.

І бачыў я ваякаў сільных,
І бачыў подлых я трусоў,
І чуў кайданаў звон магільны,
І чуў я вольных кліч сыноў.

Душа і рвалася, й цярпела,
Ў халодным поце віўся я;

Хацела крыкнуць — і не смела
Натура вольная мая.

Збудзіўся я. Жыцця крыніца
Зноў панясла ў сваім кругу...
Я йшоў, іду, але забыцца,
Што сніў, не мог і не магу...

*21 сакавіка 1907*

## КАСЦУ

Стукі, стук, стук, малаток!
Кляпі коску, мужычок,
Кляпі востранька сваю,
А я песеньку спяю.
Гоп, гоп, гоп!
Я табе спяю.

Быў даўней народ хітрэй,
Не знаў стрэльбаў, дык аей!
Коскі шаблямі былі,
Ваяваць з імі ішлі.
Гоп, гоп, гоп!
Ваяваць ішлі.

Касу ў шыйцы адагне,
І насадзіць, і махне;
Смерць таму, хто не сышоў:
Касой рэзалі ўрагоў.
Гоп, гоп, гоп!
Рэзалі ўрагоў.

І гарматаў быў не страх,
Грамада вялікі гмах:
Адзін ляжа, сто ідзе,
А хто ж роўны грамадзе?!
Гоп, гоп, гоп!
Роўны грамадзе?!

Дык і ты касу вастры,
І так хутка — раз, два, тры!
Ідзі з ёю на вайну,
А я йначай пець пачну.
Гоп, гоп, гоп!
Пець інакш пачну.

На вайну з травой ідзі,
Касі гладзенька, глядзі!
Перуны, грымоты б'юць,—
Ты касі, адважным будзь.
Гоп, гоп, гоп!
Ты адважным будзь.

Пяюць птушкі пад акном,
Лепшай долі даўно жджом...
Ну, досць коску ўжо кляпаць,
Час з калодкі уставаць.
Гоп, гоп, гоп!
Час ужо ўставаць!

[*1907*]

## ВОРАГАМ БЕЛАРУШЧЫНЫ

Чаго вам хочацца, панове?
Які вас выклікаў прымус
Забіць трывогу аб той мове,
Якой азваўся беларус?

Чаму вам дзіка яго мова?
Паверце, вашай ён не ўкраў,
Сваё ён толькі ўспомніў слова,
З якім радзіўся, падрастаў.

Цяпер і вы загаварылі,
З апекай выйшлі, як з зямлі;
А што ж дагэтуль вы рабілі?
А дзе ж дагэтуль вы былі?

Ваш брат і цёмны, і галодны;
Хацінка свой зжывае век;
І век не знаў ён дум свабодных,
І крыўдзіў свой брат — чалавек.

Вам страшна нашай слёзнай песні
І жальбы страшна вам глухой?
Вам жудка сонца напрадвесні?
Мілей вам холад з цемнатой?

А што ж вам беларус такога
Пасмеў зрабіць, пасмеў сказаць?
Эх, трэба ўчыць яшчэ вас многа,
Як свайго брата шанаваць!

Эх, кіньце крыўдамі карміцца,—
Кожны народ сам сабе пан;
І беларус можа змясціцца
У сям'і нялічанай славян!

Напасцю, лаянкай напраснай
Грудзей не варта мазаліць!
Не пагасіць вам праўды яснай:
Жыў беларус і будзе жыць!

Не столькі «хамскія» натуры
На карках вынеслі сваіх!
І свіст даносчыкаў пануры,
Паверце, не запудзіць іх!

К свабодзе, роўнасці і знанню
Мы працярэбім сабе след!
І будзе ўнукаў панаванне
Там, дзе сягоння плача дзед!

*1907*

# Я НЕ ДЛЯ ВАС...

Я не для вас, паны, о не,
Ў час вольны песенькі складаю,—
Што спала ў сэрцы там на дне —
Буджу і ў свет на суд пускаю.
Я не для вас, паны, о не!

Я не для вас, паны, о не,
Падчас збываюся спакою,
Калі ў вачах сляза блісне,
Маркотнай вызвана душою —
Я не для вас, паны, о не!

Я не для вас, паны, о не,
Свае дні лепшыя марную,—
У вечнай з мукамі вайне
Жыву і радасці не чую —
Я не для вас, паны, о не!

Я не для вас, паны, о не,
Падняць скібіну слова рвуся
На запусцелым дзірване
Сваёй старонкі Беларусі,
Я не для вас, паны, о не!

Я не для вас, паны, о не,
Над доляй плачу свайго люду,
З гразёй змяшалі б вы мяне
Сваёй нікчэмнасцю прыблудаў...
Я не для вас, паны, о не!

Я не для вас, паны, о не,
Пяю. Вам не паняць мучэння;
Вам ваша сэрца не дрыгне
На голас братняга цярпення,
О, не дрыгне, паны, о не!

Я не для вас, паны, о не!..
Адною ўцехаю жыццё вам,
Znячулі ў сытасці, віне,
Вас не разжаліш праўды словам,
О, не разбудзіш вас, о не!

Я не для вас, паны, о не,
А я для бедных і загнаных,
Я з імі мучуся ўраўне,
Ў адных закут з імі кайданах...
Я не для вас, паны, о не!

Я не для вас, о паны, не!..
Я — для тых цёмных, нешчаслівых,
Ад іх і водгаласак мне
Прымчыцца па лясах, па нівах,
А не ад вас, паны, о не!

*8 чэрвеня 1907*

## ПЕРАД СЁМУХАЙ

Гаю, гаю, гаю,
Схаджу да дубровы,
Насяку там маю
Ахапак здаровы.

Будзе тут бярозка,
Будзе тут рабінка,
Будзе клёну горстка,
Будзе і калінка.

Перад хатай нізкай
Пасаджу я дрэўцы,
Ад аконцаў блізка
Падбяру ім месца.

Ой, кумы, кумочкі,
Міла паглядзеці,
Як пачнуць лісточкі
Трэсціся, шумеці,

Шаптаць, гаманіці
Ціха між сабою,
Галоўкі хіліці
Тут жа нада мною.

І мне здасца ў хаце,
Што дрэўцы бясконца
Раяцца, як даці
Долю мне й старонцы.

*9 чэрвеня 1907*

## ПЕРАД БУРАЙ

Што бачу? — ўсё ціха, ўсё спіць пад няславай...
Ці ж праўда? — няўжо гэта вораг асіліў?
Няўжо ўсе байцы за народную справу
Тыранамі зможаны, леглі ў магіле?

Няўжо ўвесь народ упаў гэтак нікчэмна
І даўся без голасу дэспату ў рукі?
Няўжо дух свабоды, дух сілы мяцежнай
Замёр і не ўскрэсіш ніякай прынукай?

Ці ж мала няшчасцяў, ці ж мала слёз мора?
Ці ж мала кайданаў, мучэнняў не ў меру?
О, не! Штосьці сэрца іначай гавора,—
Я гэтакай цішы не веру, не веру!

Так толькі бывае прад летняю бурай —
І птушка замрэ, й пагляд сонца нясмелы,
На небе ж збіраюцца хмура за хмурай,
І гром заграхоча, і дрогне свет цэлы!

*14 чэрвеня 1907*

## НЕ ЧАКАЙ...

Не чакай пацехі скорай,
Думкам дай заснуць,
Што паспагадае гору
Твайму хто-нібудзь.

Не чакай ты ласкі братняй,
Што можа калі
Добравольна і бясплатна
Дастанеш зямлі.

Не чакай, што ржа з гадамі
Паесць ланцугі,
Што мінуцца сабой самі
Нагайкі, штыхі.

Не чакай... Знай, да магілы
Жывеш з сілы рук,—
Павер сіле, толькі сілай
Збудзешся ўсіх мук!

Рухне ўсё, што з веку сходзе,
Ляжа к шчасцю след;
Так з зімы вясны разводдзе
Аднаўляе свет.

*14 чэрвеня 1907*

* * *

Калі ў свет я ні гляну прыгожы,
Кожны раз штось хвалюе душу,
Чуласць дзіўная грудзі трывожа,
Не любіў бы — любіці спяшу.

І людзей, што ў трудзе, бы мурашкі,
Плечы гнуць, як братоў бы туліў,
У нядолі, у працы іх цяжкай
Пацяшаў, песні пеў, весяліў.

Але толькі ці ж хопіць мне сілы
Перажыць, не ахутацца ў цьму,—
Калі замест грудзей братніх, мілых
Я да сэрца гадзюку прыжму?!

*16 чэрвеня 1907*

## НЕ ЧАПАЙСЯ, ПАНІЧОК!..

Не чапайся, панічок!
Жартуй, але ў меру,
Шэпты лісія — набок!
Я табе не веру.

Не чапайся ты, аса!
Багацтв не ўдзялю я,—
Ёсць дзявоцкая краса,
Ўзяць хочаш і тую.

Не чапайся! Не раўня
Табе я, мужычка,
Цябе жджэ недзе твая
Панна-белалічка.

Не чапайся! Ідзі к ей,
Шапчы, весяліся,
З ёй і песенькі ты пей,
З ёй і абніміся.

Не чапайся! Вы паны —
Ты з жонкаю сваею,
Ўзялі скарб мой вы адны —
Веру ды надзею.

Не чапайся! Ўжо сынка
Песціш з беларучкай,
А мужыцкая дачка
Хай гіне, як сучка.

І я згіну сіратой,
Ты, паніч, не згінеш...
Не чапайся!.. Што з табой?
Стой!.. Куды?.. Што чыніш?!

*19 чэрвеня 1907*

## З БЯДЫ І НУДЫ

Не даеш ты, бяда,
Мне спакойна цярпець,
Не даеш ты, нуда,
Песні весела пець.

Мучце ж, мучце мяне,
Не баюся я вас,—
Хай свет цэлы дрыгне,
Я ўжо выжыў свой час.

Не разбудзіць мне дум
Ні слязіна, ні смех,
Зменнай радасці шум
Не навее пацех.

Сіратой па зямлі
Снуючы беспуцця,
Мяне путы змаглі
Абрыднога жыцця.

Мая моладасць спіць
Пад пялёнкаю мук,
Аджывіць, узманіць
Няма чым думак, рук.

Дык жа мучце мацней
Ты — бяда, ты — нуда!
З вамі дружбы маей
Не размые вада.

Сейце кожнай парой
Больш цярпення, трывог,
Снуйце зданьмі за мной —
Па маіх па слядох.

Забірайце ў мяне —
Як вам думкі ўзбрыдуць,—
Калі можна яшчэ
Ў мяне ўзяць што-нібудзь.

Не баюся я вас...
А прыйдзе бедаку
Надта трудненькі час —
Я ў магілу ўцяку.

*4 ліпеня 1907*

## ЛЕТА

Эх ты, лета гарачае, бурнае!
Ажыўляеш ты поле і луг.
Люба, думкі пакінуўшы хмурныя,
На свет выйсці ды глянуць вакруг.

Шум стаіць над лясістай дубровзю,
Быццам рада аб нечым ідзе;
Рэчка, ў прысадзь схаваўшысь альховую,
Бурліць; рыбка плюскоча ў вадзе.

Ў збожжа ўсякае ніва прыбралася —
Хараства там якога няма! —
Як зялёны дыван, распласталася;
Шопат нейкі плыве ад жытца.

Колас з коласам гутарку дзіўную
Завялі, бы на хмары злуюць;
Песні жаваранкаў пераліўныя
Замаркоціцца, спаць не даюць.

А лагі, а гумнішчы, аселіцы?
Вось абняў, прытуліўся, ляжы...
Хто з вас, хто не любіці асмеліцца
Ўлетку свет ад мяжы да мяжы?..

Дай жа, лета, мне веру магучую,
Што калісь сваю долю знайду,
Дай мне песні пець сілу жывучую,
Дай працівіцца крыўдзе і злу!

[*1907*]

## ЦІ Ж ГЭТА МНОГА?!

Ад свету, ад Бога
Жадаю нямнога:

Зямелькі з валоку,
К ёй шнур неўдалёку,
З святлічкай хацінку,
За жонку дзяўчынку,
Кусок салца к хлебу,
Рубля на патрэбу,
Здароўя чым болей,
Крыху долі, волі —

І ўсё! больш нічога...
Ну, ці ж гэта многа?!

*[1907]*

## УСТАНЬ

Устань!
Ўсе, глянь,
Пайшлі...
І вот —
Свабод!
Зямлі!
А ты —
Святы —
Закіс,—
Звёў хлеб,
Аслеп,
Азыс.

Эх, бой,
Як стой,
(Зазлуй),
Злаўчы,
Крычы,
Ваюй!
Ці так
Бядак
Прапаў,
А мо
Ты б што
Дастаў?!

*15 ліпеня 1907*

## ДАЛЕЙ І БОЛЕЙ...

Далей і болей рвуцца і хочуць
К нечаму, нечага людзі,
Знойдуць, што хочуць, думкі зноў точаць:
А мо не то яшчэ будзе?

Дзіўныя людзі! Проста, смех толькі,
Лезуць, куды ні папала,
Вечна іх мучаць нейкія болькі,
Вечна ім нечага мала.

Хай жа якому ў зубы смерць гляне,—
Чорт за душу упляцецца,—
І ўсё яго тут — дамоўка паняй,
Спіць, ані-ні зварухнецца.

*20 ліпеня 1907*

## ПОКУЛЬ СОНЦА ЎЗЫЙДЗЕ...

Покуль сонца ўзыйдзе,
Блудзіць цяжка ночай;
Той нас тут не крыўдзе,
Хто толькі не хоча.

Колькі поля, колькі
Ў тых, каму не трэба!
А ў нас гэтак мала,
Што няма і хлеба.

Колькі лесу, колькі,
Дзе б вокам ні кінуў!
А мы нат не маем
І на дамавіну.

*

Свеціць сонца, свеціць
Падчас і ў аконца,—
Бядак за слязамі
Не бача і сонца.

Ой, ліюцца слёзы
І ў дзяцей, і ў маткі...
Не плачце, працуйце
На чынш і падаткі.

Не плачце вы, дзеці,
Не плач і матуля,
Ў бядзе вас пацешыць
Ці астрог, ці куля...

*26 ліпеня 1907*

## ВУЧЫСЯ...

Вучыся, нябожа, вучэнне паможа
Змагацца з нядоляй, з няволяй...
Што мучыць сягоння, што думкі трывожа,—
Збяжыць і не прыйдзе ніколі.

Жаль згіне, як мара; не будзеш нязДарай,
Нідзе і ні ў чым не заблудзіш;
Ты праўду ў няпраўдзе, як сонца між хмараў,
Спазнаеш, раз цёмен не будзеш.

Такая прынука, як труд і навука,
Ці ж можа нам сіл не дадаці?
З такімі сябрамі, знай, будзе не штука
І гора сваё зваяваці.

Паўнейшай адрынка, сыцейшай скацінка,
Ой, будзе — а толькі вазьміся!..
І знойдзецца ў працы аддыхі часінка,
І ў крыўду ўрагом не дасіся.

Крыўдзіцеляў зможаш, след вечны пралoжыш
І к долі, і к волі, і к славе...
Адно ты прачніся, вучыся, як можаш,
Ці дома, ці на школьнай лаве.

Ўсе людзі значэнне пазналі вучэння,
Адзін толькі ты ані дбаеш!
Цямней, беларусе, ад ночкі асенняй,
І шчасце ж такое ты маеш...

[*1907*]

## БЫЛІ Ў БАЦЬКІ ТРЫ СЫНЫ...

Былі ў бацькі тры сыны,
Ды ўсе ж яны Васілі.

Адзін служыць у дварэ,
Поле панскае арэ;

Другі стражнікам з іх стаў,
Куляй, шабляй засвістаў;

Трэці згінуў у баю
За свабоду і зямлю.

Бацька ў вёсцы сваёй спіць,
І дуда пры ім ляжыць;

Ён часамі дзьме ў яе,
Песню нудную пяе:

Ой ты, дудка, ой, дуда!
Бяда жыці мне, бяда!

Не вяселіш ты мяне
У маёй беднай старане.

[*1907*]

## ЧАРЫ

Покі світкі не стыдаўся,
Світкі бацькаўскай, сівой,
Хоць на ўзгляд няўдал здаваўся,—
Чыст быў сэрцам і душой.

А шнуркамі абчапляўся,
Апнуў спіну чарнатой,—
Чысцей з скуры паказаўся,
Гад стаў сэрцам і душой.

[*1907*]

## ПРЫЙШЛА ВОСЕНЬ...

Прыйшла восень, мужычок,
Ой, прыйшла!
Глянь, што ў пуню і тачок
Прынясла.
Працаваў ты, працаваў
Круглы год,
Разліваў ты, разліваў
Кроў і пот,—

Надзяліў жа малайца
Труд вялік:
Налажыў куток сянца
Наш мужык.
Злажыў торпамі ў таку
Скарб — снапы:
Акалоту у кутку
З паўкапы;
З копку грэчкі і аўса
Ў другі кут.
Вось і плата табе ўся
За твой труд.
Ідзі ў ток, ідзі да дня
Цэпам бі
І кароўку, і каня
Накармі.
Адбяры, што ўзяў вясной,
Ў магазын,
Насып мех ты збажыной,
Вязі ў млын...
Прыйшла восень, мужычок,
Ой, прыйшла!
Глянь, што ў пуню і тачок
Прынясла.

*1907*

* * *

Легла на сэрцы гора нядольнае,
Легла і мучыць, гняце,
Ў думках замёрла жальба нявольная,
Боль неспажыты цвіце.

Дзе я ні кінуся, з песняй ні вылету,—
Выхаду, сцежкі няма...
Лёдам гасцінец мой выбіты, выліты,—
Лёд — як магіла сама.

*1907*

## З ПЕСЕНЬ АБ НЯВОЛІ

То не свісты зімовай мяцеліцы
Над зямлёю шумяць і гудуць,—
Гэта дзікім мучыцелем сеецца
Сяўба — ў путы працоўных закуць.

То не рой груганоў падымаецца,
Дзе зваёваных трупы ляжаць,—
Гэта гурты казакаў злятаюцца
Закаваны народ катаваць.

То не рэчак паводкі бурлівыя
Затапляюць зямельку вадой,—
Гэта, ў бойцы мручы, нешчаслівыя
Залілі свет нявіннай крывёй.

Дый над гэтай крывёю магільныя
Расплываюцца енкі сірот,
Плачуць цяжанька людзі бяссільныя,
Плача змучаны ўвесь мой народ.

А мучыцеляў смех над скаванымі
Разлягаецца страшным выццём...
Завываюць ваўкі над курганамі,
Свет заліты крывавым агнём.

*1907*

## ПОЛЕ РОДНАЕ

Ты і пелікай,
Ты і каменем
Апрыгожылась,
Поле роднае.

Ты і вёскаю,
Ты і горадам
Абнядолілась,
Поле роднае.

З непагодаю
І з няўродаю
Ты змагаешся,
Поле роднае.

Хоць куды, куды
Ты багатае,
Ты і ўбогае,
Поле роднае.

Ты багатае
Горам, слёзамі,
Ты убогае
Шчасцем, доляю.

Ашалелыя
Віхры носяцца
Над табою век,
Поле роднае.

Людзі мучацца
Беспрасветнасцю,
Праклінаючы
Поле роднае.

Гэй, папраўся ты,
Адмяніся ты,
Разбудзіся ты,
Поле роднае!

*1907*

## КУДЫ ТЫ РВЕШСЯ!..

Куды ты рвешся ў знемажэнні,
Дзіцё нядолі, цемнаты!
Цярпі, няшчаснае стварэнне,—
Цярпець бо толькі ўмееш ты!

Забудзься бацькаўскіх наказаў,
Што шчасце будзеш калісь меці,—

Як ты радзіўся, ты адразу
Асуджан доляй век марнець.

Цягай ты зрэбную кашулю,
Цягай ты лапаці з лазы;
Зімы не слухай грозных гуляў,
Ад летняй спекі не бяжы!

Працуй ярэмнаю скацінай
На сытых ворагаў тваіх;
Хай сохнуць грудзі, чахне спіна,
Забудзься думак удалых!

Ідзі схварэлы на работу,
Гаруй, бядуй, як год вялік;
Маўчы, хоць слепнуць вочы з поту,—
Замрэ твой, як у пушчы, крык.

Гавораць — ноч, хоць дзень на свеце,
І ты з усімі так крычы:
Крычаць: галей! Ідзі галеці,
Крычаць: маўчы! І ты маўчы.

Ідзі, куды нядоля гоне,
Рабі, што скажа ўсё яна;
Будзь рад, калі пад'еў сягоння;
Мучэння чарку пі да дна.

Павер папам, што там па смерці,
За мукі рай мецьмеш свае,
Бо пекла лепшага і чэрці,
Як тут, не вынайдуць нідзе!

*1907*

* * *

Сумна, сумна жыць на свеце,
Жыць, не меўшы долі;
Ой, сумней жа долю меці,
А не меці волі!

Дык завабма ў нашы сеці
    Ясназорку волю,
Што людзям, як сонца, свеціць
    Ў радасным прыволлю.

Аб нядолі тады пеці
    Ўжо не будзем болей,
І так шчасце будзем меці:
    Воля будзе доляй!

*1907*

## ДАЙЦЕ МНЕ...

Дайце мне волю, дайце арліную,
    Вырвіце з путаў, аковаў!
Душу напасціць перад сканчынаю
    Дайце шчаслівасці новай!

Дайце мне долю, дайце багатую,
    Вызвальце з горасці чорнай;
Дайце пацесе ў хаце, за хатаю
    Быці ўва ўсім мне пакорнай!

Дайце мне сонца, сонца агнёвае,
    Выведзьце з цёмнасці ночнай;
К знанню, к навуцы сцежкі шчаслівыя
    Мне пакажыце нязбочна!

Дайце мне праўду дня ясней яснага,
    Дайце прасветласці божай;
Выражце з сэрца, сэрца няшчаснага
    Ўсё то, што мучыць, трывожа!

*1907*

## ЗАБЫТАЯ КАРЧМА

Ля дарогі, ля далёкай,
Каля крыжавой,
Спіць карчма там адзінока
З злупленай страхой.

Пахілілась на старонку,
Прылягла к зямлі;
Невясёлыя карчомку
Думы прыгнялі.

Аб мінуўшай славе, дзівах —
Як была п'яна,—
Аб дзяньках былых шчаслівых
Думае яна.

Як не думаць пра былое,
Поўнае прыкрас!
Перайшло, і ўжо не тое,
Ўжо не той, ох, час!

Калісь гоманам шумела,
Людна ў ёй было,
Падарожных многа мела,—
Ўсё не раз сяло.

І жылося, і вялося,
Гэй, інакш карчме! —
Рэха рогату няслося
Ўлетку і ўзіме.

Адбываліcь вечарынкі
І вяселлі ўраз,
Захапляючы дзянінкі
Ў ночны добры час.

Рэжа музыка званліва,
Топат ног такі!
Разгуляліся надзіва
Дзеўкі, дзецюкі.

Кругам старшыя пры чарцы
Селі, люлькі цьмюць,

Аб пагодзе, гаспадарцы
Гутаркі вядуць.

А гарэлка рэчкай льецца,
Бегае шынкар,
Песня ўдалая нясецца,
З твару сыпле жар.

Ой, дзянёк так кожны праве
У карчме шум, крык...
Шчэзла доля па забаве!
Час вясёлы знік.

Ўсё прапала, згібла недзе,
Як сон, як туман;
У карчму ўжо не заедзе
Ні мужык, ні пан.

У стадоле не ржуць коні,
Коз не бэчыць зброд,
Не гамоніць пры шынкоўні
Выпіўшы народ.

Косці парыць у магіле
Ўжо шынкар даўно,
Аб нячыстай людзі сіле
Баюць на адно.

Кажуць: поўнач як настане
І сяло засне,—
Адбываецца гулянне,
Як здаўна ў карчме.

Чэрці, ведзьмы, ваўкалакі
Сходзяцца гуляць;
На стол з'явяцца прысмакі,
Музыка чуваць.

Бліск святла заблісне яркі,
Пойдзе ходам клум,
Звоняць міскі, пляшкі, чаркі...
П'янства, скокі, шум.

Жэняць ведзьму з ваўкалакам,
Сватае шынкар,

Попам — рабін, ведзьма — дзякам,
А чорт — гаспадар.

Так гуляюць, покуль недзе
Не кігне пятух...
Гіне ўсё, і па бяседзе
Пуста, сумна ўкруг.

Цень са сцен плыве пануры,
Як з якой турмы,
Кот здзічэлы ловіць шчуры
У сянях карчмы.

Крыллі ў цемнаце лапочуць
Кажаноў, начніц;
Віхры ў коміне хіхочуць —
Жудка без граніц.

Жах карчма ўвесь чуе гэты
І думу снуе
Пра мінуўшыя дні, леты
Лепшыя свае.

*1907*

## РАЗЛАД

Куды ні глянеш — людзі, людзі,
Куды ні глянеш — шэльмы, шэльмы,
Куды ні глянеш — б'юцца ў грудзі,
Што значыць: правільныя вельмі.

Адзін накраў — багацце ўмножыў,
Другі згалеў, галей сабакі...
Бяду нажыці ўсякі можа,
Бяды пазбыціся — не ўсякі.

Аслу з напоўненай машною
Леў акаваны лапы ліжа...
Рака затоўчана крывёю,
Ўдава заводзіць каля крыжа.

Дабро і зло — ў аднолькай мерцы;
Свіння святыя думы блоце,
Вужакі сыкаюць на сэрцы,
Душа валяецца ў балоце.

Крутым хвастом на ўсе староны,
Як сучка, доля меле, дзеле:
Адным спраўляе пахароны,
Другіх склікае на вяселле.

Няпраўда праўду акялзала
І едзе людскасці па спіне,
А чалавек — ком гною, сала —
Быдлём, сляпнём жыве і гіне.

Адзін чорт ве́сел, зубы скаліць,
Загаціў пекла даваротаў;
Рад шэльма: польку з ведзьмай валіць...
Такі разлад — яго работа!

*1907*

## ПРАСТУПНІК

Судзіце мяне ў ссылку,
Закуйце ў ланцугі,—
Праступнік я вялікі,
Папоўніў я грахі.

На хату сухастойку
У панскай пушчы ссек,
На дзірванок на дворны
Я ездзіў на начлег.

У валасць не аддаў я
Падаткаў у пару,
Схадзіць раз на абедню
Я не паспеў ў царкву.

Раз перад земскім шапкі,
Здурэў, забыўся зняць,

Ураднiку, падпiўшы,
Хацеў касцей намяць.

Чытаць люблю я кнiжкi,
Газетку раз знайшлi,
Крычаў з другiмi з гора:
Свабоды i зямлi!

Я грэшнiк, я праступнiк,
Мой Божа дарагi!
Судзiце мяне ў ссылку,
Закуйце ў ланцугi!

*1907*

## З НУДЫ

Нудна... Штосьцi ломiць косцi,
Ныюць жалем грудзi,
На надвор'е выйду, гляну,
Мо уцешней будзе.

Ўзяў апратку, кiнуў хатку,
На сяло выходжу,
Там-сям лажу, свата, сваццю,
То куму знаходжу.

Пад аконца, дзе больш сонца,
Дзевачкi сышлiся —
Дружка ў дружку, як сасонкi,
Пазiрай — дзiвiся!

Бровы, вочкi, губкi, шчочкi
Аж завуць к пакусе,
Грудзi пульхны, як пампушкi,
Не адходзь — любуйся!

Ой, дзяўчаткi! хоць вы гладкi,
Быццам маляваны,—
Не хацеў бы я папасцi
Ў вашыя кайданы.

З вамі жарты — не з паўквартай,
Згінуў — толькі глянуў,
Будзь пры памяці, цвярозы,—
З вамі будзеш п'яны.

З сэрца ранак і жаданак
Не збыць і сякерай;
Ці быў з вамі, а ўжо гінеш,—
Любіш вас без меры.

І ахвоты да работы
Не прыдбаці з вамі...
Ох, сваю вяліку сілу
Знаеце вы самі!

*1907*

## ЗГІНУЛА СОНЦА...

Згінула сонца. Белыя, грозныя
Насыпы снегу ляжаць на зямлі,
Б'ецца завея аб шыбы марозныя,
Ў коміне жудка віхры загулі.

Гасне лучына у нізенькай хатцы,
К матчыным дзеці льнуць грудзям худым;
Трудна са сцюжай дзікаю збратацца
Хатцы, і матцы, і дзеткам малым.

Чорная доля з чорнымі хмарамі
Жудка завіслі над гэтай раднёй;
Як груганы дзе па-над папарамі,
Носяцца ў хатачцы гора з бядой.

Там, дзе шалеюць вечна мяцеліцы,
Страшнай Сібіры дзе ўслаўся гушчар,
Дзе людзі з зверам нараўне дзеляцца,—
Бацька там, муж там — радні гаспадар.

*1907*

## НЕ ДРУЖЫ...

Не дружы з панамі,
Бедзен мужычок.
На дружбу з багатым
Вузак твой шнурок.

У палацы белым
Табе не гуляць,—
Там народ вясёлы,
Песенькі звіняць.

Там віно ліецца
Пеністай ракой,
Ад яды сталы там
Гнуцца дарагой.

Сядзяць за сталамі
Паны ў грамадзе,—
Сытыя ўсе твары.
Тваё ж месца дзе?

Стаіш у парозе
З шапкаю ў руках,
Прытухлыя вочы
Водзіш па панах.

Пазнаеш, гаротны,
Што ты не такі,
Не тваё тут месца,
Не твае дружкі.

*1907*

## ДАЎНЕЙ І ЦЯПЕР

Даўней мы пану
Рабілі дзела,
Дый вось казны «ўласць»
К нам падаспела.

І з клюшняў панскіх
Збавіла нібы,
Дала на ўласнасць
Поле, сялібы.

*

Даўней мы знаці
Мусілі пана,
Каб карыстацца
З нівы ўспаханай.

Цяпер жа ў двор сіл
Цягнеш астаткі,
Каб зарабіці
На ўсе падаткі.

*

Даўней у пана
Ў тагдышнім пекле
За правіненне
Розгамі секлі.

Цяпер жа земскі
Дый з казакамі
Чыніць расправу
Штодзень над намі.

*

Даўней нам «мамкай»
Двор быў з нагаем,
Цяпер казну мы
«Матушку» маем.

Ох, маем шчасце
На самым дзеле,
Век без апекі
Жыць не пасмелі!

*

Пейма ж, гуляйма,
Гулка, не слёзна!

Скрышаны путы
Паншчыны грознай.

І ўсё мінецца,
Народ, крапіся,
Крыўды галосяць:
Паўстань і мсціся!

*1907*

## З МАРКОТНЫХ ДУМАК...

Ці вымкну я птушкаю з думкай пралётнаю
На тое поле, на роўнае тое,
Ці ўгледжуся ў хату убога-маркотную,—
Смутна мне бачыці гора людское.

І жаль мне вас, людзі, што гэтак нявесела
Вам на радзімай зямельцы жывецца,
Што неба так хмары над вамі развесіла,
Што з вашых бедаў так кожны смяецца.

Хоць вас прыгнятае жыццё непрыветнае,
Парыце косці без часу ў магілах,—
Вы праз цемнату ўсю сваю непрасветную
Бачыць свайго паніжэння не ў сілах.

О, жаль мне праз гэта вас, людзі загнаныя,
Цёмныя людзі, гаротныя людзі,
Жаль, што вы такія, праз свет пагарджаныя,
Жаль, што так жыцца йшчэ доўга вам будзе.

*1907*

## ЗАМАЎЧЫЦЕ, ДУМЫ...

Як дуброваў шумы
Ўзімку ды ў марозы,—
Замаўчыце, думы,
Не наводзьце слёзаў.

Хоць так горка жыці —
Рэчкай гора льецца,—
Кінь, сэрца, тужыці,
Над чым свет смяецца.

Не ўслухайся, сэрца,
Не ўзірайцесь, вочы,
Што у паняверцы
Даць жыццё захоча.

Няпраўдай вялікай,
Душа, не смуціся,—
За агульным гікам,
Хоць і страшна, прыся.

Сэрцам к сэрцу пылка
Рынеш, небарака,
Дый цярпі — памылка,—
Там лёд ці вужака.

Ой, хоць так балесне,
Гаротнік, крапіся,
К канцу з думкай-песняй,
Як птушка, не рвіся.

Замрэ ж жалю голас,
Вораг паб'е крылле,
Будзеш, як той колас
Пасярод бадыляў.

Колас зломіць бура,
З зямлёю змяшае,
Табе жыццё збура
Нянавісць людская.

Дык замрыце, думы,
Сэрца не труціце,

Куды ветраў шумы —
Туды ў даль ляціце.

А далей ад свету,
Ад людзей найдалей,
І нясіце гэту
Песню майго жалю.

Там хоць вецер, можа,
Што гуляе ў полі,
Вас не патрывожа,
Пойме маю долю.

*1907*

## НА АДВІТАННЕ

Будзь шчаслівa, дзяўчынка, ў нядолі,
Хай пацеха цябе міне!
Мне з табой жыць не суджана болей,—
Гоніць доля адгэтуль мяне.

Будзь шчаслівa, дзяўчынка-галубка!..
Не крыўдую на гордасць тваю,—
Не чуў ласкавых слоў з тваіх губкаў,
Хоць так шчыра любіў і люблю.

Усё пекла я зведаў кахання,
Усе мукі яго скаштаваў,
А ўсю радасць і рай мілавання
Недруг вырваў, спаганіў, стаптаў.

Я так шчасця на свеце знаў мала
І прывету не знаў ад людзей,—
Цябе ўбачыў — і весела стала,
І ты стала за ўсё мне мілей.

Як слуга, як нявольнік, табе я
Так стараўся служыць, дагадзіць!
Так любіў цябе шчыра, з надзеяй,
Што ўзаемнасцю будзеш плаціць.

Ты ж, дзяўчынка, за гэтую дружбу
Не жалела мяне анічуць,—
За прывет мой, за любасць, за службу
Слова ласкі не ўмела шапнуць.

Эй, дзяўчынка, дзяўчынка, свет відзе
Усю праўду, няпраўду усю,
І хто знае, ці часам не прыйдзе
Слушны дар за нядолю маю.

Будзь шчаслівa, дзяўчынка! Любіся
З тым, хто толькі зняславіў цябе,
І, пазнаўшы ману ўсю, не гніся,
Бо тады ўжо не жыць лепш табе.

Мяне, знаю, дзяўчынка, забудзеш,—
Ці ж на памяць слуга зарабіў?
Але хоць мо і верыць не будзеш,
Цябе першую я так любіў.

Яшчэ раз будзь шчаслівa, дзяўчынка,
Хоць не лёгка нам шчасце спаткаць!
Я ж адзін, як над рэчкай вярбінка,
Буду жыць і цябе ўспамінаць.

І на памяць, што ў сэрцы мне ўскрэсне,
Чым я жыў так і мучыўся чым,
Злажу самую лепшую песню
Аб табе і каханні тваім.

*1907*

## НА БЕЛ<АРУСКУЮ> ВЫД<АВЕЦКУЮ> СУПОЛКУ «ЗАГЛЯНЕ СОНЦА І Ў НАША АКОНЦА»

1

Што і мы аб чымсь дбаем,— выдавецкую маем
Суполку ад прошлага лета,
Дый ажно «Загляне сонца і ў наша аконца»
Таварыства ахрышчана гэта.

Але ўсё йшчэ цямноты... Як да кожнай работы,
Не надта спяшыць мы ахвочы;
Знаць, пакуль гэта «сонца» гляне ў наша аконца,
Начная раса выесць вочы.

2

Горы абяцаці —
Не споўніць крыхі —
Не святыя лепяць
Гэткія гаршкі.

Ёсць у нас «суполка» —
Цешся, беларус,
Тваёй мовай кніжак
Надрукуе стус.

Ой, спяшыць суполка
Кніжкі выдаваць,
Хіба на тым свеце
Будзем іх чытаць.

*1907*

* * *

Мо чалавекам з рук, з вачэй
Цябе, панок, і дражняць недзе,
Дый людскага ў душы тваей
Не чуў, каб хто калі што ўгледзеў.

*1907*

## НЕ ДАЙЦЕ ЗГІНУЦЬ...

Не дайце згінуць песняру
Ў нязнанні, ў беднасці, ў глушы,
Стварыце радасці зару,
Зганіце сум з яго душы,—
Не дайце згінуць песняру.
Ён так цярпіць за крыўды ўсе,
Ён пеці выйшаў у пару,
Вам толькі слухаць, што пяе,
Не дайце згінуць песняру.
Аб вашай долі ў свету даль
Скіруе струн сваіх ігру,
Вы ж толькі за ўсе песні, жаль,
Не дайце згінуць песняру.

*1907*

## ТКАННЕ НАМЁТКІ

Угнявілі, знаці,
Бога грэшны людзі:
Засухай караці,
Як відаць, іх будзе.

Чатыры нядзелі,
Як дажджу ні капкі,—
Ўсходы пажаўцелі,
Вянуць кветкі, траўкі.

Зямелька сухая —
Нарога не ўбіці,
Сонца не кідае,
Як агнём, смаліці.

З чалавечых твараў
Пот цурком ліецца,
Здаецца — ўсё з жару,
Свет гарыць — здаецца.

Быці неўраджаю,
Быці галадусе,
Для цэлага краю
Цяжка быці мусіць.

Чым-небудзь, а трэба
Ублагаці Бога,
Каб дожджыку з неба
Ён паслаў хоць троха:

Бярымось намётку
Ткаці гурмай, жыва,
Спагонім ахвотку
Над працай дляніваў!

Кабеты, дзяўчаты,
Борздзенька збірацца
Да аднае хаты,
Да супольнай працы!

Ты бяры, Маланка,
Мяліцу лён цёрці,
Трапло бяры, Ганка,
Кастрыцу абдзёрці!

Данілісе шчоткі
Лён часаць прынесці,
Дзвюх дачок Дароткі
Мусяць прасці сесці.

Ды хай кожна зносіць
Што-небудзь — сказаці!
Кросны мае Зося —
Там і будзем ткаці.

І вось усёй вёскай
Сабраліся ўрэшце.
Нуце, ласкай боскай
Свет, бабы, пацешце!

Дружна і ахвотна
Бяруцца за дзела:
Трэба, каб намётка
К вечару паспела.

Адна ломіць жмені,
Чысціць іх другая,
Трэцця трэпле ў сенях,
Кастру выбівае.

Увязваюць тыя
Да прасніц кудзелі,
К гатовым другія
Прасці жыва селі.

Вось трохі напралі,—
На маткі звіваюць,
Калкі паўбівалі,
Снаваць пачынаюць.

Спралі ўсё, што спрасці
Ў дзянёк мелі гэты,
Сталі ў бёрда класці
Аснову кабеты.

На навой праз бёрда
Аснову ўскруцілі,
А роўна і цвёрда
Ў чыны зарадзілі.

Да нітоў прыгналі
Панажы два ў доле,
Цэвак насукалі
І ткаць сталі зволі.

Паволі — спачатку,
Хутчэй — штораз далей,
Вось і ўсё! Ў канчатку
Губку адаткалі.

Губку не малую:
Локці два без мала! —
Колькі на такую
Сцяну пражы стала.

Памыць крыху ўрэшце —
Хай бялейшай стане,
Ды ў царкву занесці
І ждаць змілавання.

*1907*

## У ЗЯЛЁНЫМ САДОЧКУ

У зялёным садочку
Пад ігрушай ў цянёчку
Сядзіць хлопец з дзяўчынкай
І мілуецца з ёю,
З ненаглядкай сваёю,
Та гарыць, як лучынка.

І цалуе ж ён любай
Сваёй вочкі і губы.
Песціць, як не задуша.
Дружок з дружкай варкуе,
Салавей ім ўтуруе,
Шуміць над імі йгруша.

Вось прыціхлі, прымлелі,
Дрож прабегла па целе,
Ўсхваляваліся грудзі.
І забыўся ён з ёю,
З ненаглядкай сваёю,
Што ёсць свет, што ёсць людзі.

*1907*

## ВЕЦЕР, І СОКАЛ, І Я...

І вецер, і сокал, і я —
Сыны адной долі-жыцця,
Наводзім маркотныя мы
І думы, і песні адны.

*

Разняў вецер крыллі свае,
Ляціць, і шуміць, і пяе;
Пяе а свабодзе сваей,
Пяе а няволі людзей.

*

Як вецер, і я б такляцеў,
Як вецер, аб тым самым пеў,
Як вецер, свабодны мой дух,
Хоць рукі закуты ў ланцуг.

*

Пад зорамі сокал завіс,
Глядзіць па-арлінаму ўніз.
Там сокалу свету не жаль;
Мілей яму небная даль.

*

Як сокал, і я б мкнуў да зор:
Там сонца, раздолле, прастор;
Без жалю б пакінуў зямлю,
І хатку, і долю сваю.

*

І вецер, і сокал, і я —
Сыны адной долі-жыцця;
Наводзім маркотныя мы
І думы, і песні адны.

[*1906—1907?*]

# 1905—1907

* * *

Грай, мая жалейка,
Пей, як салавейка!
Апявай нядолю,
Апявай няволю
І грымі свабодна,
Што жыве край родны!

[*1905—1907*]

## Я НЕ ПАЭТА

Я не паэта, о крый мяне Божа!
Не рвуся я к славе гэткай німала,
Хоць песеньку-думку і высную можа,
Завуся я толькі — Янка Купала.

Славу паэтаў разносяць па свеце,
Вянкі ўскладаюць і звоняць пахвалай,
Я ж ціха йграю, хто ж ціхіх прымеце?
Ат! ведама, з вёскі — Янка Купала!

Кожны край мае тых, што апяваюць,
Чым ёсць для народа ўпадак і хвала,
А беларусы нікога ж не маюць,
Няхай жа хоць будзе Янка Купала.

Доляй убогі, ён ціхі, нясмелы,
Бяда, яго маці, узгадавала,
Слёзы пагарды п'е толькі век цэлы,
    От, ведама, просты Янка Купала.

Песні пачаў пець той мовай убогай,
Якой пагарджаюць горка, нядбала,
Пэўна і песняў счураюцца многа,
    От, ведама, здумаў Янка Купала.

Шчасце так рэдка над светам усходзе;
Усё ж досыць бывае меці хоць мала,—
Долю каб бачыў у родным народзе,
    А быў бы шчаслівы Янка Купала.

Эт, з часам людзі ўпадаюць на сіле,
Смерць скосе, глядзі — і больш крыжам стала;
Нехта спытае: хто ў гэтай магіле?
    А напіс пакажа: Янка Купала.

[*1905—1907*]

## КАМУ ВАС, ПЕСНІ?..

Каму вас, песні, я нясмелы
Тут буду пець, снаваць з душы,
З душы няшчаснай, набалелай,
Аж, змучан, згіну дзе ў глушы?

Ці для тых цёмных, нешчаслівых,
Што не патрапяць прачытаць,
Ці для тых светлых, а зласлівых,
Што не захочуць вас і знаць?

О! веру, веру, што загнаны
Мяне не здрадзіць мой народ,
Але ён цёмны й акаваны,
І бедны думак яго ўзлёт.

І вы, душы маёй тварэнні,
Ў нязнанні будзеце марнець;

Таптаць вас будуць без сумлення,
Пацук рукопісі патнець.

Аж нейкі ўчоны моль з прыпадку
Натрапіць, з пылу абтрасе,
Пачне чытаць вас ад пачатку
З-пад акуляраў на насе.

Прагледзе й скажа: «Матар'ялу,
Каб прасачыцi быт людзей
На Беларусі, тут нямала;
Жаль толькі, што няма усей,

Усей рукопісі панурай.
Хвалько паэта, знаць, не раз
Цаніць даваў яе для шчураў;
А шчуры — спраўджана і ў нас —

Істоты подлыя, нізкія,—
Пяўцоў ім думкі не ў карысць;
Ім праў навукі хоць якія,
Дабро чужое рады грызць.

Ды ўсё ж рукопісі я гэтай
Так не астаўлю і вазьму,—
Аб ёй і кім быў той паэта,
Складу артыкул па-свайму.

Часць вершаў ў друку апыніцца,
Не знішчаць мышы іх зусім;
Пясняр «з народа» ўзвесяліцца,
Што ё ў газетах і аб ім»...

Так будзе думаць моль вучоны
I рэшты аркушаў шукаць.

. . . . . . . . . . . . . . . .

Спалі вас, песні, дым чырвоны,
Чым мае гэткі лёс спаткаць!

*[1905—1907]*

## З МАІХ ПЕСЕНЬ

Што нахлыне ў душу,
Што сасню вечаром,
Праз што вочы рашу,—
Усё выллю пяром.

Усё выллю і ў свет
Песняй лётнай пашлю,—
Няхай з віхрам услед
Аблятае зямлю!

Хай лятае ўвакруг
Над скаванай зямлёй,
Дзе спяць сіла і дух,
Дзе брат свой, як не свой!

І тых будзіць, хто спіць,
Хто цярпіць без віны;
Няхай гулка грыміць,
Як званы, перуны!

Можа, гэтакі звон
Даляціць да нябёс,
Аддасць Богу паклон,
Скажа, колькі лью слёз!

[*1905—1907*]

## ДА ПЕСЕНЬ

Песні мае, песні!
Смуткаў маіх дзеці,
Калі ж вам час прыйдзе
Весела запеці?

Ой! сваю ды з вашай
Роўну долю бачу:
Плачаце вы, песні,
І я з вамі плачу.

Хацеў бы вас, песні,
Зрачыся, пакінуць,—
Сілачкі ж мне мала,
Буду ўжо так гінуць.

Выплакаў вас сэрцам,
Высніў вас душою,
Б'ючыся з нядоляй,
Б'ючыся з бядою.

І цяпер за мною
Ходзіце вы ўсюдах —
І вясной па траўцы,
І ўвосень па грудах,

Па снягу зімою,
Па загонах летам;
Вы мяне спазналі
З горам, з людчым светам.

Шмат чаго нагналі
Мне ў душу смутную,
І йшчэ знаю, знаю,
Шмат чаго пачую.

І так мне здаецца,
Колькі ні тужыці,
Са мной вы, я з вамі
Вечна будзем жыці.

Толькі, мае песні,
Смуткаў маіх дзеці,
Калі ж вам час прыйдзе
Весела запеці?!

[*1905—1907*]

## ДА СВАІХ ДУМАК

Думкі, думкі-весялушкі!
Скуль вы узяліся,
Што ў душы, як тыя птушкі,
Песняй азваліся?

Ці навеяў вецер вольны,
Што па горах скача,
Што у плоце, як бяздольны,
Па сіротках плача?

Ці бурлівыя паводкі
З вадой вас прыгналі,
Што вясною час кароткі
Зямельку змывалі,

Затаплялі, залівалі
Даліны і горы,
Аж сябе ў моры схавалі,
У глыбокім моры?

*

Думкі, думкі-весялушкі!
Скуль вы узяліся,
Што ў душы, як тыя птушкі,
Песняй азваліся?

Ці зрадзіў вас дух збадзяны
У хатцы дзюравай,
На зямельцы акаванай,
Бязвольнай, бяспраўнай?

Ці ў калысцы у ліповай
Са мной узраслі вы,
Як дзіцём вучыўся мовы,
Вясёлы, шчаслівы?

Свет здаваўся ясным раем,
Людзі — без аблуды,
Не калолі у няволі
Жыццявыя груды!

*

Думкі, думкі-весялушкі!
Скуль вы узяліся,
Што ў душы, як тыя птушкі,
Песняй азваліся?

Ці навеяў віхар з поля,
Як лісткі з бярозы?
Ці зрадзіла вас няволя,
Ці гора, ці слёзы?

Ці прыгожая дзяўчынка
Ў вуха нашаптала,
Што вачыма, як лучынка,
Міленька міргала?

І бажылася кахаці,
Век не пакідаці,
Разам гора гараваці,
А потым... ну, што там?!

*

Думкі, думкі-весялушкі!
Скуль вы узяліся,
Што ў душы, як тыя птушкі,
Песняй азваліся?

Ці вас выараў сахою
На шнуры вузенькім?
Ці вас выкасіў касою
На сіўцы сівенькім?

Ці вас выкапалі людзі,
Як праўду хавалі?..
Ачарнілі фальшам грудзі
І помстай шакаляй.

Відмы смерці і разлукі
На скаваных сеюць,
Ў крыві братняй мочаць рукі,
На трупах шалеюць!..

*

Думкі, думкі-весялушкі!
Скуль вы узяліся,
Што ў душы, як тыя птушкі,
Песняй азваліся?

Гэй жа, думкі, громка пейце,
Покуль сэрца б'ецца!
Громка пейце, не жалейце,
Што там хто смяецца!

Прыйдзе хвіля, і вас міла
Нехта прывітае,
Можа, хоць дзяўчынка тая,
Што мяне любіла!

Прыйдзе хвіля,— поймуць людзі,
Дзе праўда зарэе...
Пейце ж, думкі, шчасце будзе,
Ночка разаднее!

[*1905—1907*]

## ДУМКІ

З неспакоем думкі роем
Верцяцца ў душы,
На свет божы, свет прыгожы
Рвешся ўвесь з глушы.

За высь гораў, за цьму бораў,
Там за рэчкі шум
Мкнуў бы птушкай-весялушкай
За палётам дум.

Сэрца б'ецца, к жыццю рвецца,
К нейкім светлым снам;
Гэй ты, гора! скора ж, скора
Цябе ў брак я здам?

К долі, к волі, гэт, па полі,
Як леў, пабягу;
Спаці, ждаці ў курнай хаце
Ўжо больш не магу.

Свет вялікі, песні, крыкі
Мкнуць з усіх старон;
Звоніць штосьці,— к славе ў госці
Кліча гэты звон.

Ідуць людзі, ў крыві грудзі,
Паходні ў руках,
Няма ночаў, жарам вочы
Ззяюць, ажна страх!

Са сну будзяць, душу цудзяць
Надзеяй старой,
Узнімаюць, зазываюць,
Гэй, на нейкі бой!

Думкі ходзяць, чымсьці зводзяць,
Тым, што долю дасць...
Згіне гора і слёз мора,—
Не вечна напасць!

Пакірую думкі ў тую
Старонку свае,
Скуль з прасветам мне прыветам
Праўда запяе.

Далей, вышай памкну, гэй жа:
Ўжо пралажан след;
Трудна, маці, ў курнай хаце,—
Паляту у свет!

[*1905—1907*]

## Я НЕ СОКАЛ...

Я не сокал зоркавокі,
Не арол адважны,
Што так думна за аблокі
Ўзносіцца з іх кажны.

Нават я не салавейка,
Што пяе так слаўна,
А я толькі верабейка,
Ўзрошчаны пад Гайнай.

Як ён, край шаную родны,
Не ляту ў чужыя,
І з зімой б'юся халоднай,
Хоць-та сэрца ные.

Як ён, сеў бы дзе на плоце
І песні чырыкаў,
Людцаў родных бы ахвоціў,
К лепшай славе клікаў.

Як ён сад — я хатку, поле
Люблю, хоць не маю,
З верабейкавай і доля
Мая роўна, знаю.

Верабейку стужа змора
Або ястраб схваце,
Мяне ж зломе маё гора,
Ў зямлю кіне спаці.

Над магілаю крыж з хаткай
Паставяць мне людзі,
Верабейкава ж дзіцятка
Нада мной пець будзе.

І мне будзе смуткаў меней,
Лежачы ў заперці...
За жыцця — слёзы, цярпенне,
А песні па смерці.

*[1905—1907]*

## ЗМАЧУ ПЁРКА...

Змачу пёрка ў атрамэнту
Ды як чыркну па паперы,—
Крэнту-мэнту, крэнту-мэнту,—
Як быкі, стаяць літэры!

Глянем, у адной з іх кучы
Прачытаем: «усе брацці!»
У другой — гоман траскучы:
«Няма невукаў у хаце!»

А ўжо ў трэцяй дык свабоду
Бачыш вольную пад неба;
А ў чацвёртай — «для народу
Досыць грошы, досыць хлеба!».

А хто гэта прачытае,
Скажа: добра напісана;
Скажа: нешта й мужык знае,
Дарма, што бядней ад пана!

Дык калі вось атрамэнту
Крыху выллю на паперы,—
Крэнту-мэнту, крэнту-мэнту,—
Як быкі, стаяць літэры.

[*1905—1907*]

## ПЕСНЯ АБ ПЕСНЯХ

Туды-сюды, там ды сям
З думкай злётаў ўслужнай,
Во й гатова песня вам!
Пейце толькі дружна.

А жыла ж каб век вяком,
Спішу на паперы,
Бо што спісана пяром,
Не выйме й сякера.

Песні, знайце,— сэрца дар,
Шанаваць іх трэба;
Кепскі з нас той гаспадар,
Што не мае хлеба;

І без песень жа народ
Што ён варт быць можа?
Ён і цёмны, як той скот,
І бяды не зможа.

Газет, кніжак мовай чэй
Найболей друкуюць,
Паважаюць тых людзей,
Любяць і шануюць.

Так і вы ж, людцы мае,
Ўстаньце, ачуняйце,
Аб чым песенька пяе,
Хутка пераймайце.

Пейце, пейце а дружней,
Брацці-беларусы,
Барукайцеся смялей
З няпраўдай, з пакусай.

Блізкі той дзянёк, калі
Шчасна запануем,
Станем самі мы людзьмі
І край адбудуем.

[*1905—1907*]

* * *

Хоць ты, сэрца, лопні, трэсні,
Хоць ты выгані, пан, з хаты,—
Буду пець я свае песні
Ці то ў будні, ці то ў святы!

Думкі, оды пець я буду,
Каб усякі весяліўся,

Каб для гэтага тут люду
Свет інакшы адчыніўся!

Каб на полі ці на лузе,
Ці працуючы ля дому,
Ці у лесе, ці пры плузе
Пеў ён песні па-сваёму!

Каб ніколі не чураўся
Сваёй родненькае мовы,
У якой узгадаваўся,
Хоць забыўся дзеля новай.

Дык пець буду табе, людзе,
Каб працёр свае ты вочы! —
А шмат лепей табе будзе,
Як адрозніш дзень ад ночы.

Бо ты ж надта цёмны, браце,
Як тытун у табакерцы,—
Хоць не воўк — жывеш у хаце,
Хоць ты маеш душу, сэрца.

О, я знаю: сэрца маеш,
Бо па свінцы нават плачаш,—
А што мовай пагарджаеш,
Дык ты гэтага не бачыш.

Гэй, прасніся, беларусе!
Усе людцы паўставалі.
Гэй, прасніся, беларусе!
Усе праўдачку пазналі.

*[1905—1907]*

## ПЛАЧУЦЬ МАЕ ПЕСНІ

Жудка стогнуць рэкі,
Ўзбураны вясною;
Плачуць мае песні,
Галосяць са мною.

Не стагніце, воды
Паводкі бурлівай,
Кіньце плакаць, песні,
Горка, нешчасліва.

Хто ўстрымаў паводак
Разгульнае мора?
Хто заглуша песні,
Як іх вызве гора?

Вялікае ж гора
Часам людзей муча,
Наўча ненавідзець
І плакаць навуча.

Як дубок, з карыцы
Пастухом абдзёрты,
Як той салавейка,
У клетку запёрты,—

Так я прападаю,
Не маючы долі,
Як дуб, усыхаю,
Плачучы ў няволі.

Не дало жыццё мне
Ні поля, ні хаткі,
Па чужых кутах век
Сіл гублю астаткі.

Там, гэт, за гарамі,
Дзе памчыцца вока,
Свет гучны, вялікі
Сцелецца шырока.

Сокалам бы вольным
Паляцеў ў свет гэты,

Дый мне крыллі ўцяты!..
Доля, дзе ты, дзе ты?

Так бы весяліўся,
Пеў аб шчасці песні,
Як той верабейка
Ў садзе на чарэшні.

Гулка стогнуць рэкі,
Ўзбураны вясною;
Плачуць мае песні,
Галосяць са мною.

*[1905—1907]*

## ГЭЙ, ТЫ, СЭРЦАЙКА...

Гэй, ты, сэрцайка,
Не тужы, замры!
Душа смутная,
Песень не твары!

Бо каму ж, каму
Ў жалю запяю?
Хто паслухае
Песню-жаль маю?

Можа б, выслухаў
Мяне ўбогі брат,—
Не да песенек,
Горам хто багат.

А шчаслівы хто,
Хто багат ва ўсім,—
Песня жальбная
Не пад мысль такім.

Дык каму ж, каму
Гулка запяю?

Хто паслухае
Песню-жаль маю?

Перад кім, ой, кім
Расчыню душу?
Стогн бяды, нуды
Ў думках заглушу?

[*1905—1907*]

## АДПОВЕДЗЬ

Вы, паны, мяне з песняй к сабе прызываеце,—
Майго люду апець справядлівую справу;
Рай, ніколі няснёны, вы мне адкрываеце:
Знайду, кажаце, ў гэтым і долю, і славу...

Шумна вецер пяе песню дзікую, жвавую
Над зямлёй, злітай потам людскім і крывёю;
Не ганюся, паночкі, ой не, я за славаю:
Чую — доля не ўзыйдзе мне светлай зарою.

Чую я, чуе сэрца маё жаласлівае,
Душа ные, а болем здымаюцца грудзі:
Як радзіўся, ішло ўсё са мной нешчаслівае,—
Не пацешылі ў смутку і добрыя людзі.

Мяне маці мая не пацешыла родная:
Над калыскай пяяла аб цяжкай нядолі;
Яе песням зіма ўтуравала нягодная,
Віхар гэтыя песні разносіў па полі.

Як падрос, дужы стаў, пазнаў свет, не пацешыла
Мяне моладасць, поўная зводных надзеяў:
Холад, голад, бяду на маіх плячах вешала,
Ласк за гора сваё з ёй не бачыў нідзе я.

Не было для мяне на куце месца вольнага,
На маю беднату паглядала з насмешкай,
У парозе было маё месца, бяздольнага,
За парогам калючкамі слалася сцежка.

Не пясцілі мяне ручкі дзевачак белыя,
Не шаптала мне слоўцаў сардэчных каханне;
Як пустэльнік, забыты людзьмі, я дні цэлыя
Жыву так і маркочуся з рання да рання.

Як цыган той, па свеце век цэлы бадзяюся
Без прытоння, без родненькай, цёпленькай хаткі;
Над чужой працай з сіл маладых выбіваюся,
Светлай веры у будучнасць нікнуць астаткі.

Так, паночкі, у будучу славу не верыцца,
І пустых абяцанак мне слухаць няміла;
А што ў сэрцы маім і душы цяпер дзеецца,
Буду пець, громка пець, пакуль возьме магіла.

Буду пець не за славу, праз вас абяцаную;
Буду пець, бо люблю свайго краю паляны.
Буду пець, бо люблю сваю песню загнаную;
Буду пець, бо мне дар гэты доляй пасланы.

[*1905—1907*]

## ЯК ПАЙДУ Я, ПАЙДУ...

Як пайду я, пайду па загонах,
Па мазольным аратых сляду,
Па лугах і па борах зялёных,
І па сёлах убогіх пайду.

На жалейцы сваёй, на гудлівай
Там я песні пачну распяваць;
Прыслухайся, шчасліў, нешчаслівы,
Думкі лепшы хачу вызываць!

Я для нівы пагудку зайграю,
Каб радзіла спарней дабрыну,
Каб — баронку стаўляй к жытцу з краю —
І ўтрымала жытцо барану.

Я грудзямі прыльну к сенажатцы,
Маліць стану даваць больш сянца,

Вечна ў кветках каб ёй красавацца,
Кветкі шчасцем цвілі б для касца.

Пушчы гукну, каб гордай, скупою
Не была, дроў давала людзям,
Памагла ваяваць ім з зімою;
Шумаў бору падслухаю сам.

А прыйду к свайму ў вёсачку люду,
Пачну з хаткі да хаткі хадзіць,
Жалець сэрца, душы там не буду,
Буду пець, буду йграць і будзіць.

[*1905—1907*]

## ДЗЕ Б І ПРАЎДА ЖЫЛА...

Дзе б і праўда жыла, дзе б і доля цвіла,
Не стагналі б дзе людзі над горам-бядой,
Слёзаў дзе б не цякло, кроў бы дзе не плыла,—
Паляцеў бы туды, паляцеў бы з душой.

І запеў бы там песню, эй, думу сваю,
Нібы той салавейка у цёмным бары,
Каб той свет мяне чуў, як шчасліва пяю,
Слёз не лью, як цяпер, ад зары да зары.

Дый не мне сніці, пець аб шчаслівых краёх:
Кругом бачу і слёзы, і кроў, і бяду;
Неспакойнай душой надарыў мяне Бог,
І з такой у магілу, напэўна, сыйду.

Пакуль волі не ўбачу над роднай зямлёй,
Ці ж бы радасцяй песні азвацца маглі?
І пакуль буду бачыць, як плача брат мой,
Мне праўдзівага шчасця не знаць на зямлі.

Шуміць вецер, лісты абівае з бяроз,
Абламляе галлё, не цярпіць, і гудзіць.
Хто смяецца са слёз — сам прычынай тых слёз,
Хто не ўмее будзіць — сам зато крэпка спіць.

Прэч з дарогі, мужык, абарванец ліхі!
Што? паноў не пазнаў са двара ты сваіх?
Ну, хамула, набок! а што? выйшаў сухі?!
Чорт ляціць, і крычыць, і быдляча ўсё, ўсіх.

[*1905—1907*]

## РВУЦЦА СІЛЫ...

Сняцца слёзы, сэрца ные,
Пяюць ветры дзіка;
Рвуцца сілы маладыя
Да працы вялікай.

Рвуцца, як той сокал з клеткі,
Людзьмі закаваны,
Рвуцца, хоць лёс чорны гэткі
На душы тнець раны.

Рвуцца к бітвам з непагодай,
З няволяй, з нядоляй,
Туды рвуцца, дзе заўсёды
Слёз і гора болей.

Без упыння рвуцца сілы,
А вецер шумлівы,
Як падземны, як з магілы,
Вые ўсім надзіва:

«Эх, дарэмна гэтак рвешся
З маладой душою!
Аб няпраўду разаб'ешся
З сваёй барацьбою.

І так зробішся, як кажны,—
Будзеш спаці ў ковах,
Будзеш дужы і адважны,
Дый толькі на словах!»

[*1905—1907*]

## ПА ЖЫЦЦЁВАЙ ПУЦЯВІНЕ

Па жыццёвай па цярністай
Пуцявіне йду,
А за мной мая нядоля
Гоне ўслед бяду.

Бяда чорная такая
Сунецца, бяжыць,
Слёзы, жаласць насылае,
Аж трудненька жыць.

Смутна, смутна, цурком слёзы
Льюцца з-пад павек,
Хоць бы йшла ўжо смерць-магіла,
Чымся так жыць век!

Эй, пайду я ў бор шумячы,
Песню запяю,
Перад лесам выллю скаргу
Горкую сваю.

Дзе ты, доля, дзе ты, воля?
Не знаць, не чуваць;
Глуха стогнуць дубы, хвойкі,
Галіны трашчаць.

Каб, здаецца, абняў елку,
Сагрэў бы сабой,
А з людзьмі так нейк зімна,
Жудка, Божа мой.

Акавала сонца праўды
Няпраўды зіма,
І як жыці, што чыніці?
Разгадкі няма.

Толькі чорная нядоля
Сунецца, плыве,
Хоць змагаюцца з ёй, гоняць,
А яна жыве.

[*1905—1907*]

## З АСЕННІХ НАПЕВАЎ

Не гудзі так, восень,
Непагодай дзікай;
Не крываўся, сэрца,
З нядолі вялікай.

Цяжанька марнеці
Ў жыцця паняверцы;
І восень на свеце,
І восень на сэрцы.

Штогод вясну бачым,
Гуляючы ў полі,
Дый вясны на сэрцы
Не знаў я ніколі.

Не даў ты мне, Божа,
Зазнаць шчасця, волю,—
Забяры ж ты, Божа,
І маю нядолю.

Маладасць, вясёласць
Не жылі са мною;
Пейце ж хоць вы, песні,
З няшчаснай душою.

Не гудзі так, восень,
Непагодай дзікай;
Не крываўся, сэрца,
З нядолі вялікай.

[*1905—1907*]

## З ПЕСЕНЬ НЯДОЛІ

Шумныя бярозы
    Пабяліў мароз.
Хацеў бы я плакаць,
    Дый не маю слёз.

Хацеў бы я пеці
Аб сваёй бядзе,
Дый мне сэрца ные,
Песенька не йдзе.

Хацеў бы, каб зімаў
Срогіх не было,
Каб зарэла цягам
Летняе цяпло.

Хацеў бы, каб доля
У хатцы жыла,
Каб з бурлівай рэчкай
Нядоля сплыла.

Хацеў бы, каб воля
Гуляла са мной,
Каб сонейка грэла,
Як грэе вясной.

Але, Божа мілы!
Долі не відаць,—
Кайданы няволі
На руках звіняць.

Няма вясны, сонца,
Светлых дзён няма,—
Марозам марозіць
Срогая зіма;

Марозам марозіць,
Снегам адзяе,
На работу гоніць,
Есці не дае.

Эх, пайду я ў поле
Долечкі шукаць
З востраю касою,
Як на сенажаць!

Ой, пайду я ў поле,
Як бы на вайну,
Шукаючы волю,
Шаблячкай махну!

Ой, пайду я ў цэркаў,
Свечачку куплю,—
Можа, згіне гора,
Якое цярплю.

Можа, ўзойдзе доля
Ясненькай зарой,
Можа, блісне сонцам
Воля нада мной!

[*1905—1907*]

## З ПЕСЕНЬ АБ СВАЁЙ СТАРОНЦЫ

Невясёлая старонка
Наша Беларусь:
Людзі — Янка ды Сымонка,
Птушкі — дрозд ды гусь.

Поле — горы ды каменне,
Потам зліта ўсё,
Сенажаць — адно карэнне,
Сівец ды куп'ё.

Родзе шнур несамавіта,
Колькі б працы ўнёс,—
Ячмень з сажай, з званцом жыта,
З сірэпкай авёс.

Небагатыя і вёскі,
Садоў у іх не знаць,
Толькі часам дзе бярозкі,
Як тычкі, стаяць.

А па вёсках люд убогі,
Век бяда ў крук гне,
Вечна ў лапцях гное ногі,
Зрэб'е спіну тне.

Цёмны, цёмны народ гэты,
Трудна і сказаць,
Абарваны, неадзеты,
Не ўмее чытаць.

З яго кожны насмяецца,
Назаве дурным...
Бедны люд... так бы, здаецца,
Плакаў разам з ім.

Так няміла, як магілай,
Неяк выдае
Беларусь, мая старонка,
Дый люблю ж яе.

Я, калі б з ёй разлучыўся,
Плакаў з усіх сіл...
Эй, бо дзе воўк урадзіўся,
Яму куст той міл!

Дома голаду дазнаю,—
З'ем хлеба, вады...
Горай жыці ў чужым краю,
Болей слёз, нуды.

Там не знойдзеш братніх сэрцаў,
Там кожны чужым,
Будзеш жыць з нудой у спрэчцы
Ды адзін-адным.

Песню родную зацягнеш,
Хто пачуе, хто?
Там любіць свой край прысягнеш
Лепей, як жыццё.

[*1905—1907*]

## ГЭТА КРЫК, ШТО ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ

Ці завылі ваўкі, ці заенчыў віхор,
Ці запеў салавей, ці загагала гусь,—
Я тут бачу свой край, поле, рэчку і бор,
Сваю матку-зямлю — Беларусь.

Хоць гарыста яна, камяніста яна,
Вераб'ю па калена, што сею, расце,
Дый люблю ж я яе, шкода хаткі, гумна:
О, такіх няма, мусіць, нідзе!

З саламянай страхой мая хатка, гумно;
Непачэсна, што праўда, віднеюць яны,
Дый на іх жа сваёй клаў рукой бервяно
І зямлю раўнаваў пад звяны!

З саламянай страхой мая хатка, тачок!
Многа чутак наводзяць і дум на душу;
Я ў сне бачу іх, помню кожны разок
І у сэрцы, як веру, нашу.

Хатка сведкай была, як пазнаў божы свет;
З хаткі бегаў да школы вучыцца чытаць;
Пры лучыне не раз гаварыў казкі дзед;
У двор з хаткі хадзіў зарабляць.

У тачок збожжа, сена я клаў кожны год;
У ім першы раз Зосі сказаў, што люблю...
У ім з дзеткамі после збіраў умалот,
І цяпер пры ім лазню таплю.

А хоць гора зазнаў, знікла доля навек,
Зося парыць зямлю, у свет дзеці пайшлі,—
Тут жа неяк прывык да ўсяго чалавек,
Прырос неяк, як корч да зямлі!..

Тут усякая рэч як гавора з табой:
І крывая бярозка, і столетні дуб,
Снег халоднай зімой, траўка летняй парой,
І асвер, і абцінены зруб...

А бурлівы ручай і зялёненькі сад! —
Хоць, брат, сэрца аддай і душу хоць аддай!..

Сам садочак садзіў гадкоў дваццаць назад,
А цяпер жа вялікі, як гай!

З садам гэтым я зжыўся, як з хаткай сваей;
Знаю, колькі з яго маю яблык і сліў;
Ночак шмат скаратаў у ім з Зосяй даўней,
Шмат чаго у ім я перасніў!

Ой, бывала, як сонейка бліснe вясной,
То ж то рай, далібог! — захліпаецца дух,—
Як на ўсе на лады, на садок увесь той
Засвяргоча рой птушак-пяюх!

Тут кукуе зязюля, ці шмат пражыву;
Там чырыкае шпак, там пяе салавей;
Тут крычаць вераб'і і клююць крапіву;
А на ўсё сонца грэе цяплей і цяплей!..

Цяпер глянь, браце, вокам на поле, на луг,
На сівец-сенажаць, на вузкія шнуры,
Дзе свістала каса, барабаніў дзе плуг,
Дзе з зары працаваў да зары:

Тут даўгі-даўгі шнур зелянее з аўсом;
Бліжэй гоні адны, на іх — бульба у шар;
А там далей даўгі шнур віднее з жытцом;
А там голы, як бубен, папар.

Пасяродку аўса галавісты лянок
Зелянее, інакш адбівае сабой;
Там вусаты ячмень, а там далей набок
Ад ячменю — дзірванчык з лазой.

Ды і што гаварыць! — дзе я толькі гляджу,
Бачу родненькі край, сваю матку-зямлю;
Тут і людзі... ат... што!.. аб іх после скажу...
Долі іх надта ж я не люблю!..

А вот як не любіць гэта поле, і бор,
І зялёны садок, і крыклівую гусь!..
А што часам тут страшна заенча віхор,—
Гэта енк, гэта крык, што жыве Беларусь!

[*1905—1907*]

## А ХТО ТАМ ІДЗЕ?

А хто там ідзе, а хто там ідзе
У агромністай такой грамадзе?
— Беларусы.

А што яны нясуць на худых плячах,
На руках ў крыві, на нагах у лапцях?
— Сваю крыўду.

А куды ж нясуць гэту крыўду ўсю,
А куды ж нясуць на паказ сваю?
— На свет цэлы.

А хто гэта іх, не адзін мільён,
Крыўду несць навучыў, разбудзіў іх сон?
— Бяда, гора.

А чаго ж, чаго захацелась ім,
Пагарджаным век, ім, сляпым, глухім?
— Людзьмі звацца.

[*1905—1907*]

## МОЖНА...

Можна хатку убраць тынкаваннямі з плесні,
Можа віхар нядоляй заенчыць над ей;
Можна пець салаўіныя шумныя песні,
Што шчаслівы ўвесь свет, няма гора ў людзей.

Можна свет упрыгожыць у кроў і пажары,
Можа гром загрымець і паслаць перуны,
Могуць гінуць нявінныя ў бітвах ахвяры,
Можна слабым, нязбройным надзець кайданы.

Але ёсць жа вялікая праўда на свеце,—
Праўда, сілаю роўная сонца агням,—
Цяпер спіць, але ўстане і бляск свой расквеціць,
За сваё паніжэнне адплаціць людзям.

[*1905—1907*]

* * *

Я відзеў душы сільныя,
Якім віхры ўсміхаліся
І пелі песні дзіўныя,
Каб выйшлі і змагаліся;

Змагаліся з няпраўдаю,
Змагаліся з кайданамі,
З кайданамі пякельнымі,
З людскіх касцей каванымі.

І выйшлі людзі сільныя
На бітву на крываваю,
Дый смерцяю акрыліся,
Хоць несмяротнай славаю.

І толькі плакаць хочацца
Над гэтымі ахвярамі,
Над гэтым краем змучаным,
Над гэтымі цяжарамі.

І толькі плакаць хочацца,
Прад цэлым светам жаліцца,
Што так зямелька родная
З ног ад нядолі валіцца!

[*1905—1907*]

## ПЕСНЯ ВОЛЬНАГА ЧАЛАВЕКА

Дарэмна свістамі нагаек
Застрашыць хочуць тыраны,
Нагнаўшы чорных соцень шаек,
Акулі рукі ў кайданы,—
Душой я вольны чалавек,
І гэткім буду цэлы век!

Не страшны мне Сібір, астрогі,
Меч катні над шыяй маей,

Хоць і скуюць мне рукі й ногі,
Хоць зрэнкі выдзеруць з вачэй,—
Душой я вольны чалавек,
І гэткім буду цэлы век!

Нам есці хочацца тым болей,
Чым горай голад прыгняце,
Тым рвёмся больш мы і да волі,
Чым меней к нам яе ідзе.
Душой я вольны чалавек,
І гэткім буду цэлы век!

Дарэмна гіканне нясецца
Дэспатаў подлых над зямлёй,
Што воля ў путы акуецца,
Згняцецца сілаю, пятлёй.
Душой я вольны чалавек,
І гэткім буду цэлы век!

Ці ж людзі сонца згасіць могуць,
Згасіць, як свечку, яснасць дня?
І волі ж дэспаты не змогуць,
Бо воля сонейку раўня.
Душой я вольны чалавек,
І гэткім буду цэлы век!

[*1905—1907*]

## ВОЛЯ

І люблю ж я, люблю
Гэту волю сваю!
Зямлёй лягу ў зямлю —
Вазьму волю сваю.

Нашто сокалам быць,
Так высока лятаць,—
Толькі б воляю жыць,
Толькі б путаў не знаць.

Эх, каб так раскаваў
Петлі ўсе ў ланцугу,—
Я б усім паказаў,
Як быць вольным магу!

Зямлёй лягу ў зямлю,
Але перш прапяю,
Як я волю люблю,
Гэту волю сваю!

[*1905—1907*]

## З ПЕСЕНЬ БЕЛАРУСКАГА МУЖЫКА

Я — багач, я — магнат!—
Усім рад, усім сыт!
Што мне пан, што мне кат?! —
Цэлы свет мне адкрыт!

Я усё закляну,
Усё сілай папру,—
З гор зраблю даліну,
А з далінкі гару!

Затрымаю ваду,
Цёмны бор павалю,
А як з сошкай пайду,—
Увесь свет накармлю!

Кажуць, кволы дух мой...
А ўсё ж я маладзец:
Замахаю касой —
Трупам ляжа сівец!

Кажуць, крыўджу людзей...
Ах, каб іх жа багі! —
Ці ж не з працы маей
Карыстае другі?!

Эй, дуж я да ўсяго —
На раллі, на лугу!
Толькі гора свайго
Я змагчы не магу!..

Толькі шнур мой вузкі
Град аполе, пажне,
І залом ведзьмакі
Заплятуць на мяне.

Толькі ў хатцы маей
Зімой свішча віхор,
Хлябок вынесе змей,
Дроў не дасць панскі бор.

Толькі, як памру я,
Прападаю, як мыш,—
Няма хоць бы гнілля
На труну і на крыж...

Толькі, як памру я,
Не ўмірае бяда,—
Хоць з магілкі маей
Насып змые вада.

[*1905—1907*]

## Я МУЖЫК-БЕЛАРУС...

Я мужык-беларус,—
Пан сахі і касы;
Цёмен сам, белы вус,
Пядзі дзве валасы.

Бацькам голад мне быў,
Гадаваў і карміў,
Бяда маткай была,
Праца сілу дала.

Хоць пагарду цярплю,—
Мушу быць глух і нем;

Хоць свет хлебам кармлю,—
Сам мякіначку ем.

З цяжкай працы маей
Карыстаюць усе,
Толькі мне за яе
Няма дзякуй нідзе.

Глянь, высокенькі бор,
Вокам нельга прабіць;
Загудзеў мой тапор, —
Як блін поле ляжыць.

Сошку з вышак сцягнуў,
Кабылічку ўшчаміў,
Плечы трохі прыгнуў,—
Лес на пахань зрабіў!

Дый засеяў кусок,
Потым з жонкай пажаў...
Пан пшанічкі тачок —
Люба глянуць — наклаў.

Дык вось, людцы, які
Я мужык-беларус!
Пад ілбом сінякі,
Цёмен сам, белы вус.

Эй, каб цёмен не быў,
Чытаць кніжкі умеў,—
Я б і долю здабыў,
Я б і песенькі пеў!

Я б патрапіў сказаць,
Што і я — чалавек,
Што і мне гараваць
Надаела ўвесь век.

[*1905—1907*]

## НА СТАРУЮ НОТУ

Свеце месяц, свеце
З вечара да рана,
Арэ мужык поле
Не сваё, а пана.

Не сваё так поле
Мужычок пахае,
Бо сваёй зямелькі
Так нямнога мае.

Пахае, пахае
І галосіць песні,
Ўвесь потам пакрыты,
Ўвесь крывавай плесняй.

У даль у шыроку
Гоне думкі роем,
Гоне іх і ў прышласць
Глядзіць з неспакоем.

Вось надыйдзе восень,
Двор багацце зложа,
Будуць поўны торпы
І сена, і збожжа.

Весела пан з паняй
Едзе за граніцу,
Мужыку ж хоць зубы
Злажы на паліцу.

Аручы чужое
Ад Юр'я да Спаса,
Сабе й не згарусціў
К восені запасаў.

Бясхлеб'е глухое
На стале засядзе,
Яго з дзецьмі, з жонкай
Пасвара, павадзе.

У карчму загоне
На гора-забаву,

Кажушок, бравэрку
Даць скажа ў заставу.

Свісне ў хаце холад,
Свісне папацёмку,
А ў бары у панскім —
Сосна у сасонку.

І шумяць сасонкі
Мужычку над вухам:
Кінь смутныя думкі,
Кінь ды будзь ты зухам.

Надыйдзе гадзіна,—
Зямелькі прыбудзе,
Запануе доля
У бедным у людзе.

Мужычок сасоннік
Чуе і не чуе,
Арэ й ціха плача,
Аб долі бядуе:

Не шумі, бор панскі,
Так удзень і ўночы,
Пакуль сонца ўзыйдзе,
Раса выесць вочы.

Раса выесць вочы,
Пот цела паране,
Пакуль будзе ў хаце
Долі панаванне.

[*1905—1907*]

## АД РАНА ДА РАНА...

Ад рана да рана
Пейце, старцы, дзеці:
Добра мецi пана,
А лепей не мецi.

Пан за тваю працу
Нібыта й заплаце;
Знай плату з палацу!—
Збярэш з ёй багацце!

За гадзін семнаццаць
Працы ў дзень нязменне
Выйдзе грошаў дваццаць,
Або й таго меней.

Ой, ды лёгкай служба
Нідзе не бывае,
Бо служба — не дружба,—
Няволя цяжкая.

Трэба ведаць, знаці
Службы гараванне:
Позна легчы спаці,
А ўстаці заранне.

На слаце й марозе
Рабіціззіханым,
Дрыжаці ў парозе
Перад грозным панам.

Заціркай найболей
Гавець, разгаўляцца,
Як свінні, на полі
З блыхамі валяцца.

Лае пан багаты,
А ты цярпець мусіш,
Хоць не вінаваты,
Языка прыкусіш.

Горш якой скаціны
Спаганяць, зняславяць,
Кляцьбой без прычыны
Спаткаюць, адправяць.

Ой, позна і рана
Пейце, старцы, дзеці:
Добра меці пана,
А лепей не меці.

Ў службе гора болей,
Як якіх выгодаў;
Хто не любіць волі,—
Не нашага роду.

*[1905—1907]*

## ВОСЬ ТУТ І ЖЫВІ...

Няма хлеба, няма солі,—
Чужому рабі;
Няма шчасця, няма долі,—
Вось тут і жыві!

Во зіма,— мароз вялікі,—
Дровы ў Мінск цягні;
Дзеткі змёрзлі: енкі, крыкі,—
Вось тут і жыві!

Прайшла зімка, цёпла стала,
Вясна на зямлі,
А тут корму, хлеба мала,—
Вось тут і жыві!

Вясна, лета — час рабочы:
Ары, касі, жні;
Пот крывавы заліў вочы,—
Вось тут і жыві!

Прайшло лета, прыйшла восень,—
Падаткі нясі,
А дзяцей абдзёртых восем!—
Вось тут і жыві!

Вот і будзь шчаслівы, браце,
Долі не кляні:
Холад, голад, бяда ў хаце,—
Вось тут і жыві!

Працуй цяжка дні і ночы,
Пагарду цярпі;

Сказаў праўду — дзяруць вочы,—
Вось тут і жыві!

У палацы п'юць, гуляюць,
Свецяцца агні;
Мяне ж з хаты выганяюць,—
Вось тут і жыві!

[*1905—1907*]

## ГОНІШ МЯНЕ, ПАНІЧОК...

Гоніш мяне, панічок,
Ды не ў пору з хаты,
Што я бедны мужычок,
Доляй не багаты.

Гоніш з хаты, хаця я
Плаціў акуратне,
Хоць за гонькі, дом з гнілля
Драў ты грош астатні.

Ці ж на тое табе Бог
Даў багацця болей,
Каб ты бедных душыць мог,
Як быкоў у полі?

Гэй, з табой жа мы браты,
Як лічыць з Адама,
А ты гоніш?! Каб жа ты
Цягаўся таксама!

Каб цягаўся рабаком,—
Бо рабак ты з смецця,—
І пазнаў, як бедаком
Кепска жыць на свеце!

[*1905—1907*]

## А ТЫ, БРАЦЕ, СПІ!

Вясна. Сонца узыходзе,
Свеце на зямлі;
Дух збудзіўся у народзе,—
Усталі, пайшлі.

Ёсць і працы, ёсць і поту,—
Спаць няма калі!
Дружна валяць на работу,—
А ты, браце, спі!..

Спі, на слёзы і на гора
Рукою махай;
Хоць зрабіў бы ты з іх мора,
А кажы: няхай!

Няхай тыя устаюць
Рана да зары,
Што свабодачку кахаюць!—
А ты, браце, спі!..

Недастатак госце ў хаце,
З крыўдаў дух замёр;
Дзеці, жонка шлюць пракляцце...
Ты ж, як той тапор!

Дрэмле сошка, і адлогам
Шнур ляжыць даўгі;
Ржа касу есць над парогам...
А ты, браце, спі!

Спі, а можа, хто заблудзе
У твой бедны край
І цябе з душой разбудзе,—
Крыкне: «Уставай!»

Ты на гоман той народны
Паходню бяры
І другіх будзі з паходняй!..
А мо лепей... спі?!

[*1905—1907*]

## ЛЮЛІ, ЛЮЛІ, МУЖЫЧОК!

Шуміць шумненька барок
Песняй жаласнянай;
Люлі, люлі, мужычок!
Спі — ўставаць зарана!

Яшчэ поўнач,— петухі
Першыя не пелі;
Твае коні-валахі
Сена не паелі.

Шыпяць, свішчуць па лугах
Вужы, скарпіякі,
А па стайнях, па хлявах
Лазяць ваўкалакі.

Ведзьмы, совы, кажаны
Круцяцца, лятаюць,
На сваіх бацькоў сыны
Залом заламляюць.

Змей панёс чараўніком
Грошы ад скупога;
Ваўкі выюць пад лясом,
Аж ляціць трывога.

Шуміць шумненька барок
Песняй жаласнянай;
Люлі, люлі, мужычок!
Спі — ўставаць зарана!

Яшчэ вокал цемната
Над светам пануе,—
Яшчэ міласць, дабрата
Людзей не раўнуе...

[*1905—1907*]

## ЭЙ, СКАЖЫ, МУЖЫЧОК!..

Эй, скажы, мужычок,
Дзе ты долю падзеў?—
Ці ўтапіў у ручаёк,
Ці прапіў, ці праеў?

Ці змарозіў у мароз?
Ці у лапцях стаптаў?
Ці на рынак завёз,—
На хлеб дзецям прадаў?

Ці зарэзаў касой?
Ці сахой заараў?
Ці рыдлёўкай цяжкой
У зямлю закапаў?

Ці на жэрдку у плот
Спілавала піла?
Ці загрыз яе пот?
Ці сляза заліла?

Мо ў заставу аддаў,
Як падаткі плаціў?
Можа, пан не дадаў,
Як за працу плаціў?

Ці адбіў яе град,
Як жытцо адбіваў?
Ці табе яе Бог,
Як радзіўся, не даў?

Дык скажы, мужычок,
Дзе ты долю падзеў?—
Ці ўтапіў у ручаёк,
Ці прапіў, ці праеў?

[*1905—1907*]

## АХ, ЦІ ДОЎГА...

Ах, ці доўга, брацце, будзем
Пад няволяю стагнаць?
Ах, ці доўга сваё шчасце,
Сваю долю праклінаць?

Ці так цягам, як сягоння,
Цярпець будзем мы бяду?
Ці ж нам горкая нядоля
Напісана на раду?

Жыццё нашае, нас, бедных,
Заганяных мужыкоў,
Горш за ўсякае стварэнне,
За сабак і чарвякоў.

Хоць мазольнымі рукамі
Ты працуеш кожны дзень,
Хоць у гэтай цяжкай працы
Сохнеш з голаду, як цень,—

Але твае жонка, дзеці
Хлеба просяць у людзей,
Але тваім жонцы, дзецям
Няма чым прыкрыць грудзей.

Ці мароз, ці снег вялікі,
Басяком бяжыш на двор,
Бо такая твая доля,
Такі яе прыгавор.

Калі часам дзе двузлотку
Зарабіў ты ў пана дзе,
Дык на чынш і на падаткі
Яе воласць забярэ.

Хоць нам гэту зямлю-матку
Бог бясплатна даваў
І плаціць чыншоў, падаткаў
За яе нам не казаў,—

Дый на гэта тут не помняць
І, як могуць, так дзяруць,

Апаследнюю кароўку
За падаткі прададуць.

Хто тут вінен, разгадайце,
Ці тут Бог, ці чорт пракляты?—
Але толькі, што ні байце,
Самі ж многа вінаваты!..

[*1905—1907*]

## НА ДОБРЫ СТАРЫ ЛАД

Забудзься і працуй!
Ні сэрца, ні душы,
Ні дум сваіх не чуй;
Ці ў шуме, ці ў глушы,—
Забудзься і працуй!

Хоць хаткаю тваёй
Трасуць штодзень вятры
І песняю сваёй
Разносяць стогн стары
Над хаткаю тваёй,—
Забудзься і працуй!

Нуды пажар тушы,
На вір жыцця не злуй,
Ці ў шуме, ці ў глушы,—
Забудзься і працуй!

Хоць ночка цемнатой
Заслала сцежкі ўсе,
Праходзіш ты кудой
Па слёз сваіх расе
З адвечнай цемнатой,—
Забудзься і працуй!

Прашкоды ўсе крышы,
На долю не крыўдуй,

Ці ў шуме, ці ў глушы,—
Забудзься і працуй!

Хоць гора ўслед бяжыць,
А каменем-гарой
На сэрцы жаль ляжыць,
Хоць смутна, Божа мой,—
Забудзься і працуй!

Ні сэрца, ні душы,
Ні дум сваіх не чуй,
Ці ў шуме, ці ў глушы,—
Забудзься і працуй!

[*1905—1907*]

## ПРАЦУЙ

Працуй, бедачышча, гаротна,
Ці прэеш ад поту, ці мерзнеш!
Гні плечы свае ты ахвотна,
Бо прыйдзе гадзінка — і шчэзнеш.

Ой, шчэзнеш, а толькі не бойся,
Што ўжо і засыпяць зямлёю:
Як з горам у дружбу завёўся,
Яно йшчэ паходзіць з табою.

Цяпер, малады і ахвочы,
Ты рвешся, як птушка там з клеткі,
Да працы і ўдзень, і уночы,
Дый зможа крывавы труд гэткі.

Без часу прыжме, апануе
Цябе неадчэпная старасць
І моладасць скрыша ўдалую,
Адгоне ад працы няздарасць.

Пахіляцца плечы ад горбу,
Удушша дыхнуць не пазволе,

Надзенеш старэцкую торбу
І пойдзеш у свет, на прыволле.

А мусіш жа ўперад наўчыцца
Ты пацераў доўгіх, дзядоўскіх,
Бо як не патрапіш маліцца,
То выганяць гэткага з вёскі.

Ты мусіш наўчыцца, бо маці
Даўжэйшых наўчыці не ўмела,—
Ды ў беднасці часу ці ж хваце
За гэткае брацціся дзела.

Дык вось, як узброішся гэтак
У пацеры, торбы і пугі,
І ў рваны старэцкі адзетак,—
Павер, будуць брамы на ўслугі.

З пагардай, як лішняй сабацы,
Швырнуць табе лустаю хлеба;
Дзіця цябе будзе пужацца,
Пачне непагодай выць неба.

А ты?.. Ты цані й гэту працу,
Хоць збыцца яе і нялёгка;
Не йдзі жабраваці к палацу,
Бо стуль цябе выгане лёкай.

*[1905—1907]*

## ЯКІЯ

Сыты, раскормлены,
Вясёлы вечна,
Сільны над стан,

З трудоў слабейшага
Жыве бяспечна,—
Гэта — ваш пан.

Худы, прыгорблены,
Працай сцяганы,
Ў вобуві з лык,

Холадам, голадам
Век катаваны,—
Гэта — мужык.

[*1905—1907*]

## ДУЖЫЯ І СЛАБЫЯ

На балі жыцця шумнага
Не ўсім адзін абед,—
Для дужага і слабага
Не аднолькоў прывет.

Сядзіць дужы з павагаю
За бесядным сталом,
На куце ён пасаджаны
Жыццём-гаспадаром.

Прынукай, просьбай дужага
Частуюць у стале,
І чарка прад ім поўная,
І служаць яму ўсе.

Дзе ж месца, дзе слабейшага,
Загнаных месца дзе?
К парогу з страхам цiснуцца;
Яны — не ў грамадзе.

Аб'едкі з стала дужага
З пагардай ім швырнуць
І дужым недапітую
Ім чарку паднясуць.

Зайграла гучна музыка,—
Пайшоў дужы гуляць,
На гэта ж толькі слабыя
З па-за вуглоў глядзяць.

[*1905—1907*]

## КЕПСКА...

Кепска, браткі, жыць нам стала!
Няма шчасця, добрай долі;
Калі хлеб ёсць — няма сала,
Хоць гарэлкі дык даволі.

Ой, гарэлка, як з крыніцы,
Да нас цягам прыплывае;
І п'е кожны, не журыцца,
Хто які грош толькі мае.

П'юць усе, хоць бяда дома,
Хоць льюць слёзы жонка, дзеці,
Хоць хлеб — зёлкі ды салома,
І таго няма у клеці...

П'юць, хоць грош крывавым потам
На гарэлку здабываюць;
П'юць, хоць после дзе пад плотам
Сваю долю праклінаюць...

[*1905—1907*]

## ГАРЭЛКА

Атрутай маею
Хто стаў заліваоца,
Астаўце надзею
Мець шчасце у хатцы,

Мець шчасце, багацце,
Жыць згодна з раднёю,
Спакою зазнаці,
Не плакаць душою.

Я з дзеткамі, з жонкай
Дзень кожны паваджу,
Зазнацца з палонкай
Пад'юджу, параджу.

Маёй як атрутай
Душу атуманіш,
І мыслі паплутаў,
І светла не глянеш.

Ўсе людзі — дружочкі,
Не людзі — анелі!
Адрокся б сарочкі,
Каб толькі хацелі.

Такім добрым будзе
Той п'яны без меры,
Хоць будуць жа людзі
Глядзець, як на звера.

Хоць будзеш ты горай,
Як звер, выглядаці,
О, звер без пакоры,
Што шоў бы кроў ссаці.

На лоб павылазяць
Чырвоныя вочы,
І воблік твой сказяць,
Твар плямы абскочаць.

Расхрыстаеш грудзі
Ты, п'яны гуляка,
Язык жа твой будзе
Брахаць, як сабака.

О, дзікім, о, страшным
Зраблю без прагляду.
Га! бойся, няшчасны,
Быць пад маёй ўладай.

Сягоння шчаслівы,
Як мною зальешся,
А заўтра, о, дзівы!
Піць больш заклянешся.

І каяцца будзеш,
Мяне праклінаці,
І сам сябе злудзіш,—
Карчомкі не знаці.

Парвацъ жа не меціў
Маіх, брат, кайданаў,
Прыходзе дзень трэці,
Ты йдзеш ужо п'яны.

Атрутай маею
Хто стаў залівацца,
Астаўце надзею
Калі-будзь расстацца.

[*1905—1907*]

## ЧАГО НАМ ТРЭБА

Трэба нам, трэба перш-наперш хлеба,
Хлеба, каб стала на цэленькі год,
Дроўцаў палена, конікам сена,
Капейку якую сабе на зварот.

Трэба нам, трэба, як сонца з неба,
Лепшы, даўжэйшы зямелькі шнурок,
Сытай скацінкі, новай хацінкі,
Каб красаваўся пры хатцы садок.

На свята скварку, часам і чарку,
Булкі і сыра гасцей частаваць,
Цэлы адзетак, кніжак для дзетак,
Трэба нам школы па вёсках прыдбаць.

Роўнай дарогі, ботаў на ногі,
Мультану жонцы на лепшы каптан;
Жыць смела ў хатцы і не баяцца,
Каб не ганялі у воласць, у стан.

Доктара трэба, шпіталь нам трэба,
Дарма лячыліся б дзе бедакі;
З торбай жа ў старасць каб не цягацца,
Трэба устроіць прытулак такі.

Ой, многа, многа для вёскі ўбогай
Трэба ўчыніці, каб добра жыла,—

Не плакаць толькі, не раніць болькі,
Болькі, якую нядоля дала.

Працай ўсё зможам, новы быт зложым,
Гора затопчам сільнай нагой,
Зможам нядолю, зможам няволю,
Светач запалім шчасця свайго!

З'яснеюць ночы, высахнуць вочы,
Злітыя горкай бядноты слязьмі;
Голад загіне, бяда пакіне!
Долю мець будзем,— эй! будзем людзьмі!

[*1905—1907*]

## ЛЮБІМОСЬ, МАЕ СУСЕДЗІ!

Любімось, мае суседзі!
Кіньма сваркі, звадкі;
Жыйма, як родныя дзеці
Адной нашай маткі!

Што ты маеш з сваёй звадкі,
З дзікай ненавісці?
Людзі толькі насмяюцца,
І ўсёй той карысці.

Людзі толькі насмяюцца,
Ўрагі скарыстаюць,
Над душой чорт запануе,
Ўнукі цябе злаюць.

А пачнема жыці ў згодзе
Ў пачцівай, харошай,—
Знойдзем долю, знойдзем волю,
На зваротак — грошы.

Ўрагам нашым прыступіцца
Трудна тады будзе,
Ды ў суседзяў ласку маюць
Згодлівыя людзі.

Дык любімася, суседзі!
Кіньма сваркі, звадкі;
Жыйма, як родныя дзеці
Адной нашай маткі!

[*1905—1907*]

## ЗАСВЯЦІЛА ЦЯПЛО...

Засвяціла цяпло бляскам радасці яснай,
Разбудзіла ўвесь свет ад зімовага сну;
Эх, напрасна віхор енча ў плоце, напрасна:
Бачым светласць кругом, бачым сонца-вясну!

Як з вадзіцы свянцонай нячыстая сіла,
Паляцелі растаўшы і снег, і мароз;
Вясна холад змагла, вясна свет ажывіла,
З вясной меней на свеце і смутку, і слёз!

Ва ўсіх шчасце на твары вясёлкай гуляе
Ды ахвоціць да працы, да праўды святой,
Невясёлыя думы і сны разганяе,—
Аж так хочацца жыць усяёю душой!

Аж так хочацца жыць і жывую надзею
Калыхаць у душы, думку сніць аб адном:
Што вясна наша гора, як снег і завею,
Пахавае ў рацэ, спале сонца агнём!..

[*1905—1907*]

## ВЯСНА

Ой, вясна, ой, вясна!
За душу ты мілей,—
З табой доля ясна,
З табой жыць весялей!

Як з'явілася ты,
Лес іначай шуміць,
Узлажыўшы лісты,
Як пан, думны стаіць.

Ты зялёнай травой
Скрыла чорну зямлю
І прызвала сабой
Усіх к працы, к жыццю.

Гоман птушак-пяюх
Льецца ў вушы твае,
На жалейцы пастух
Галасіста пяе.

Чуць заняўся усход
Неба яснай зарой,
Прэ на поле народ
З бараной і сахой;

Працавітай рукой
Засявае шнурок...
Ой, радзі, Божа мой,
На пацеху хлябок!

А далей паглядзі,—
Там дзяўчаткі стаяць,
І з дзявочай грудзі
Песні громка ляцяць.

Адным словам, кругом,
Вясна, права тваё!
З цябе долю бяром
І салодзім жыццё.

Засвяці ж ты, вясна,
Сваім бляскам для нас,
Калі сэрца, душа —
Спяць у чорненькі час!

Засвяці, калі мы
Абліёмся слязьмі,
Разбудзі нашы сны!
Душу, сэрца вазьмі!

*[1905—1907]*

## З ПЕСЕНЬ АБ ВЯСНЕ

Свяціла сонца, птушкі пелі,
Была вясна ўжо дзве нядзелі,—
Гняздо клаў бусел-клекатун;
Лясы ўжо пукацца хацелі,
І песні весела шумелі;
Шукаў ахвяр сваіх каршун.

Але збірацца сталі хмары,
Крукі паселі на папары,
Запеў аполудні пявун;
І сівер з поўначы павеяў,
Снягамі ўсю зямлю абсеяў;
Азябшых птушак б'е каршун.

І будзе так са дзве нядзелі:
Заціхне птушчына капэля,
Замоўкне бусел-клекатун,—
Ажно устане зноў з пасцелі
Цяпло — і свет сабой засцеле,—
Загіне з выстралу каршун.

[*1905—1907*]

## ПАДАРОЖНЫ

Цягнецца, пляцецца
Падарожны ў даль,—
Няма дзе падзецца,
Душу муча жаль.

Ношка за плячыма,
Кіёк у руках,
Сінцы пад вачыма,
Млявасць у нагах.

Чакае з трывогай
Ночкі, летніх бур;
Сцелецца дарога,
Як вясковы шнур.

Па баках бярозкі —
Прысады стаяць,
Далей — поле, вёскі
Родныя відаць.

Там — плех сенажаткі,
Пасевы, папар;
Там, як бабкі, хаткі
Селі ў доўгі шар;

Там снуе араты
З крывуляй-сахой;
Там смычок зубаты
Скача над раллёй;

Там ходзіць скацінка,
Авечка бляе,
Там градкі дзяўчынка
Поле ды пяе.

Бача падарожны,
Бача гэта ўсё,
Думкаю трывожнай
Маркоціць жыццё.

Гэй вы, хаткі, поле!
Вы, людцы мае!
Гэй ты, доля, доля,
Дзе ласкі твае?

Мільёны загонаў
Зямелькі ляжыць,
Хацінак мільёны
На зямлі стаіць.

Чаму ж мне, калецы,
Лета ці зіма,
Чаму ж мне падзецца
Няма дзе, няма?

. . . . . . . . . . .

Цягнецца, пляцецца
Падарожны ў даль;
Сэрца плача, рвецца,
Душу муча жаль.

[*1905—1907*]

## ПРЫ СКАЦІНЕ

Яшчэ і сонца не ўзышло
Людзей на днеўны труд будзіць,—
Тру-гу, тру-гу! на ўсё сяло
Труба пастырская гудзіць.

Тру-гу, тру-гу! ўставай,
Хто жыў, адзін, другі,
Вароты адчыняй,
Скаціну выганяй!
Тру-гі, тру-гі, тру-гі!

Ўстае сяло на трубны гук,
Спяшыць к жывёліне сваей,
І вот раздаўся рык і грук
Кароў, авечак і свіней.

Тру-гу, тру-гу! ідзі
На поле, на лагі,
Скацінка, і глядзі,
Той тая не бадзі!
Тру-гі, тру-гі, тру-гі!

Ідзе ўсё войска на папар;
Прыйшло, скланіла галаву,
І дружна, дружна мал і стар
Скубець вільготную траву.

Тру-гу, тру-гу! дзяры
Травіцу з-пад нагі,
Даждаўшыся пары,
Нап'ешся ты вады.
Тру-гі, тру-гі, тру-гі!

Скубець скаціна, і пастыр
Пасе, пільнуе ад ваўка,
Снуе вакол, удоўж і ўшыр,
То цёлку злае, то быка.

Тру-гу, тру-гу! з трубы
На свет шырок, даўгі
Мкне адгалос грубы,
Аж стогне лес, дубы.
Тру-гі, тру-гі, тру-гі!

І вось наеўся ды ідзе
Рагаты сыты полк у хлеў,
Пастух за ім у грамадзе,
Але пастух ці сыт, ці еў?

Тру-гу, тру-гу! й не сніў...
Пастыр — слуга слугі,
Свой полк кармі-пасі,
Сам после пад'ясі!
Тру-гі, тру-гі, тру-гі!

[*1905—1907*]

## КАСЬБА

Бяжыць час дзень за днём,— скуль вазьміся Пятрок
Наляцеў і пагнаў к касьбе жыва людзей;
Пайшлі ў ход малаток, і каса, і брусок,—
Стукі-бразь, маху-шась, а дружней, а бардзей!

Свішчуць косы ў траве, проста дзіва, гульба;
Размахаліся рукі, ўзыгралася кроў,
Сонца паліць агнём, пот ліецца з ілба —
Абмахнуў рукавом ды і далей пайшоў.

І пракос у пракос вырастае, як стой,—
Пан з карэтай бы пэўна праехаў між іх.
Эх, аддаўся рабоце люд бедны з душой!
Калі есць — як Бог даў, як рабіць — за траіх.

Махай дружна касой, пакуль згіне раса —
Куй жалеза, пакуль не астыне яно!
Рэж аселіцу, брат, калі зрэзаў гумно,
А там далей — на лог няхай мчыцца каса.

Люба выйсці, прайсці па лагу, па гумне:
Гоман нейкі стаіць, сенам пахне укруг;
Ляжыць трупам трава, як народ на вайне,
А ў траве конік шастае, радуе слух.

Вось падвяла крыху. Жыва, бабы, на лог!
Трэба скошанае разбіваць, аграбаць.



Дамінік Ануфрыевіч Луцэвіч,
бацька паэта.
*Мастак Я. Раманоўскі.*



Бянігна Іванаўна Луцэвіч,
маці паэта.
*Мастак Я. Раманоўскі.*



Янка Купала.
1888 г.



Янка Купала.
1904 г.

Дуб.

Калыхаюць ветрамі
Дмуць на ўсе староны,
Стаіць дуб сярод поля,
Стаіць дуб зялёны.

Стаіць, ўвесь ён трасецца,
Корні трасуцца,
Вецьве ломіцца з трэскам,
Лісьця ў свет імчыцца.

Рухне дуб гэты скора,
Рухне дуплянаты,
І ўзыходзіць дасць мейсцэ
Жалудом-зернятам.

Гэй, на дубовым кургане
Дуброва паўстане,
І зямлі песьняй новай
Зашуміць-то дуброва!

Я. Купала

1906 г.

Аўтограф верша «Дуб».



Дуб у аколіцах вёскі Бараўцы.

№ 295/1908 архива №

# ДѢЛО

I Отдѣленія

Канцеляріи Главнаго Управленія по дѣламъ печати.

О брошюрѣ на бѣлорусскомъ языкѣ, „Жалейка" Янки Купалы

НАЧАЛОСЬ 5 Ноября 1908 года.

РѢШЕНО 19 года.

Справа
аб забароне зборніка Янкі Купалы
«Жалейка».

Сюды-туды!.. глядзі, ўжо пракосы ў валох;
Глядзь... і копамі ўбралі усю сенажаць.

А тым часам із неба пасыпаўся страх:
Дожджык пырскаць начаў, гром азваўся глухі.
Шчыра цешацца людзі, што сена ў капах,
Бо ў пракосах счарнела б, ды й спор не такі.

Сена кожны шануе, бо ведама ўсім,
Калі хлеба няхват, то знасіць ўсё ж лягчэй,
Чымся б корму не стала прадвеснем зімным
Для скацінкі; тады... хоць душой загавей.

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Дружна йдзі, бедны люд, калі сонца к касьбе
Кліча з неба ды голадам мучышся ты;
Рэж траву, дабывай долю сілай сабе,
З часам выйдзеш і ты з беднаты, з цемнаты.

Дружна йдзі, бедны люд, і з зары да зары
Працуй, біся, не гніся пад лямкай цяжкой,
І за праўду сваю, дачакаўшы пары,
З касой вострай сваёй дружна, смела пастой!

[*1905—1907*]

## ЗАХАД СОНЦА

За нязнаную
Даль пахмурную
Закацілася
Ясна сонейка.

Ой, пара, пара
Табе, добрае,
Адпачыць пайсці
После дня ўсяго.

Нахадзілася,
Нагулялася
Над зямелькаю
Па-над крыўднаю.

Бачыць трэ было,
Каб уродаю
Ніва ўбогая
Убіралася.

Сагрэць трэ было
Беспрытоннага,
Слёзы высушыць
Абнядоленым.

Усміхаціся
Ўсім замучаным
Доляй-радасцяй,
Воляй-сокалам.

После гэтакай
Працы-мачыхі
Спачынь, сонейка,
Там за горамі.

І назаўтра ўстань
З новай сілаю,
Узнімі агні,
Ў сэрцы стухшыя.

Распалі агні
Веры ў будучнасць,
Што дзён лепшых мы
Дачакаемся.

[*1905—1907*]

## ВЫЙДУ...

Выйду я, выйду
З лубкай сваею
І шнур вузенькі
Густа абсею.

Густа рассею
Збожжам зярністым

Па гэтым полі
Па камяністым.

Мо блісне доля
Над маёй нівай
І пагадліва,
І урадліва.

Агрэе ў холад,
Скропе ў пагодзе,
Буйна і спорна
Шнур мой уродзе.

Сажну увосень,
Як будзе спелы,
Хопіць мне хлеба
На годзік цэлы.

*[1905—1907]*

## СЯЎЦУ

Зблiжаецца лета к адходу,—
Дзе-нідзе зляцеў ліст чырвоны;
Павесіўшы лубку на шыі,
Выходзе сявец на загоны.

І поўнай мазолістай жменяй
Жытцо па раллі раскідае,
Хавае ў зямельку надзею,
Што возьме з сяўбы? — не згадае.

Ці, можа, цяпер вот, увосень,
Чарвяк яго працу падточыць,
Ці снег у разводдзе падпарыць,
Ці ўлетку грады падрузгочаць,

Ці знішчыцца ў пуньцы пажарам,
Ці так ад якой-будзь прыгоды.—
Такія, ах! горкія думкі
Сяўца абсядаюць заўсёды.

А ён не зважае на гэта,—
То ўвосень, то цёплай вясною
Арэ, барануе і сее
Сваёй мазалістай рукою.

Тут кожны, сяўца хто пабача,
Стары, ці малы, ці кабета,
— Радзі, памажы, Божа! — кажа,
А лёгка ж на сэрцы чуць гэта!

— Радзі, памажы, Божа! — скажам
І мы сяўцам ўсякага роду,
А з зерня, што добрага севу,
Збяруць яны й добрую ўроду.

[*1905—1907*]

## ВОСЕНЬ

Эй, восень, восень,
Скуль ты ўзялася?
Песняй няўдалай
Так разляглася?

Хоць адным шчасце,
Восень, прыносіш,
Для другіх жудка
Горам галосіш.

Для адных ясна
Цяпла навееш,
Лінуць багаццем
Не пажалееш.

Збожжам насыплеш
Поўна аруды,—
Будзе, ой, будзе
Золата груды.

Дзіка ж ты б'ешся,
Восень, аб шыбы
Беднай мужыцкай
Хаткі-сялібы.

Хатка старая
Стогне, трасецца,
Туж-туж бяссільна
Рухне, здаецца.

Бедныя людцы
Крыюцца ў хатцы,—
Страшна ім, страшна
З холадам знацца.

Дзеці худыя
Туляцца к печы:
Босыя ногі,
Голыя плечы.

Да іх палезла
Ніткі сукаці
Ў зрэбнай спадніцы
Хворая маці.

Ўсеўся на лаве
Згорблены бацька
І ўвесь аддаўся
Думцы бядацкай.

Вот нібы восень,—
Думае гэтак,—
А тут няма, бач,
Хлеба у дзетак.

Цэлае лета
Біўся, не жарты,
Ну і труды ўсе
Што былі варты?

Хоць шнур вузенькі
Не дасць шмат хлеба,
Ды чынш вялікі
Выбраці трэба.

З поля сабраў вось
Коп пяць без мала,
Як змалаціў жа,—
Воласць забрала.

Ну, засталося
Ад чыншу нешта,
Бач, магазыннік
Вывалак рэшту.

Вось і жыві тут,
Будзь ты шчаслівы,
Будзь ты багаты
Восеняй з нівы.—

Холад у хаце,
Голад у хаце,
Ды во й скацінцы
Корму не хваце.

Кепска, эй, кепска
Жыці ў няволі,
Не лепей жыці,
Як няма долі.

Гэткія думкі
Мучаць старога...
Бедны, гаротны,—
Шкода такога.

Каля хацінкі ж
Вецер заводзе:
Знай ты, няшчасны,
Стужа надходзе.

Знай ты, няшчасны,
Знай ты, убогі,
Будзеш марозіць
Рукі і ногі.

Да места возік
Дроў будзеш везці,
Сівер табою
Будзе ўсё трэсці.

Будзеш калеці
Ночкай у полі,
Каб здабыць дзеткам
Хлеба, круп, солі.

Вушы скастнеюць,
Плечы спацеюць,
Ногі у лапцях
Акачанеюць.

Будзеш ты сеяць
Слёзы па полю
Дый праклінаці
Горкую долю.

І змучан гэтак
Працай, марозам,
Знойдзеш магілу
Недзе пад возам.

[*1905—1907*]

## СПУСТАШЭННЕ

Га, чаго, вятрыска,
Так узбунтаваўся
І над вёскай блізкай
Ты не злітаваўся?

Ці цябе ўгнявілі
Людзі або неба?
Ці тваёй злой сіле
Выкупу патрэба?

Пазрываў салому
І шчыты з хацінак;
Зрабіў кучы лому
З хлеўчукоў, з адрынак.

Што цяпер пачаці?
Бедны люд вясковы!

Холад будзе ў хаце
Панаваць зімовы.

Будуць над калыскай
Плакаць бацька, маці
Дый цябе, вятрыска,
Праклінаць, пытаці:

Чаго, пеклаў цёзка,
Так узбунтаваўся
Дый над блізкай вёскай
Ты не злітаваўся?

*[1905—1907]*

## ЗІМА

Прыйшла зіма халодная,
Нягодная зіма,—
Цярпі, зямелька родная,
Няма жыцця, няма.

Прыцьмілась сонца яснае,
Прыціх шум баравы;
На полі пустка страшная —
Ні збожжа, ні травы.

Снег белы мёртва сцелецца
Пасцеляй грабавой,
Сапе, шуміць мяцеліца,
Мяце снег, як мятлой.

Мароз, як кат бязжаласны,
Ў лёд рэчкі акаваў,
Стральбой сваёй бязрадаснай
Па сценах біць пачаў.

Стральбой сваёй праклятаю
Ў лёт слабых птушак б'е,
Пры хаце і за хатаю
Спакою не дае.

Хаваюцца ў будоўліны
Жывёла і народ,—
У снег зямлі абноўленай
Не міл для іх паглёд.

Ваўкі па сцежках шляюцца
І ночкаю, і днём
І жудка разлягаюцца
Магільніцкім выццём.

О, гора падарожнаму
Іх стада напаткаць!
Не жыць неасцярожнаму,
Радні не аглядаць.

І вырвуць вочы ясныя,
І выхлебаюць кроў,
І пойдуць далей, страшныя,
Шукаць ахвяр ізноў.

Ой, жудасна-халодная
Ўзгулялася зіма,
Цярпі, зямелька родная,
Няма жыцця, няма.

Цярпі, старонка родная,
Мучэнне пі да дна,—
Міне зіма нягодная,
І ўскрэсне зноў вясна!

[*1905—1907*]

## МАЯ ХАТКА

І старая, і крывая
Хатачка мая,—
Уся злеплена, як будка,
З аднаго гнілля.

На страсе, як на балоце,
Зрос зялёны мох;

Каты, часам і сабакі
Лазяць па вуглох.

Па дзве шыбы у ваконцы,
І тыя з лучын,
Адны нізенькія дзверцы,
Ганачак адзін.

І ў сярэдзіне у хатцы
Бедна, хоць ты плач:
Непачэсна выглядае,
Бо [redacted] ж не багач.

Яе сцен не склютавана,
Няма ў ёй святліц,
З друзу выбіта падлога,
Столь яе з драніц.

Як увойдзеш — пры парозе
З гліны печ стаіць,—
На ўсю хату, якураднік,
З-пад ілба глядзіць;

А пад печкай — маіх курак
Хаткі-катухі,
Там, як трэба мне ўставаці,
Пяюць петухі.

Напроць печы з дзвюх пліт жорны,
Ля жарон — палок,
Над палком тарчыць пад бэлькай
Коска і брусок.

На куце пад абразамі
Стол стаіць, як пан;
Дзве пры ім таўстыя лаўкі
І адзін тапчан.

Дык во, знайце ж маю хатку,
Родную маю!—
У ёй цэлы век жыву я,—
Ем, працую, сплю,

Хоць старая, хоць крывая,
З аднаго гнілля,—
Не аддам яе нікому,
Бо яна мая!
Бо яна мая!

[*1905—1907*]

## САХА

Друг мой неадчэпны,
Саха ты крывая,
Хоць корміш свет цэлы,
Сама ж век худая.

Вяровак, жалеза,
А дрэва найболей
Пайшло, каб пажытак
З цябе быў у полі.

От рэзні-нарогі,
Паліцу — ўзнімай роль —
Мне выкаваў ў кузні
З жалеза каваль Сроль.

Палічнік, прыполак,
Падсошнік-крывуля
Прыладжаны мною
З дубочка-сынулі.

На пласе з бярозы,
Ў рагач увязаней
Падвоямі туга,
Нарогі ўзагнаны.

Рагач жа яловы —
Ў ім мыліца ўбіта —
З ярмом змацаваны
Прызьмом з дубцоў вітым.

Ў ярмо і кульбакі
Капаныя ўткнёны,
А такжа й занозы
На ўсе дзве староны.

Такіх вось прыладаў
Сабраць сасе трэба,
Каб здатнай была ўжо
Дабыці нам хлеба.

Як гэта ўсё умелай
Рукой і здаровай
Прывёў да парадку —
І сошка гатова.

Валоў запрагаеш,
Кульбакі прымерыш
І — валь баразною!
К сабе, «Бур», к сабе, «Рыж»!

К сабе, «Бур», к сабе, «Рыж»,
Ідзі, сошка, ёмка,
Мы ж гора забудзьма,
Запейма а громка.

Запейма, як дужы,
Каб свет аж затрожся,
На ўсе каб староны,
Як гром, гул разнёсся...

Ты, сошка, худая,
Я пан твой — араты,
Век бедны, галодны,
Хоць пан наш багаты.

[*1905—1907*]

## ЛАПЦІ

Не праклінайце
Лапцяў ліповых,
Не пагарджайце
Лапцяў лазовых.

З імі шануйце
Цяжкую працу,—
Лапатнік корміць
Пана з палацу.

З часам жа лапці —
Гаю, ой, гаю! —
Выпра дастатак
З нашага краю.

Людзі абуюць
Боты, камашы;
Прыйдзе загуба
На лапці нашы.

Але адзін хоць
Мусіць застацца,
Ў цэркве завісне
Дый на падкладцы.

Вушкам, аборай,
Скурай пад сподам
Памяткай будзе
Прышлым народам.

Будзе ён сведчыць,
Як у няволі
Кепска жывецца
Ў хаце і ў полі.

Як людзей сотні
Лапці цягалі,
Каб багачы ўсе
Ў золаце спалі.

І пройдуць леты,
Многія векі,

Зменяцца людзі,
Можа, і — рэкі.

Лапаць жа будзе
Ў цэркве вісеці,
Люд аб ім будзе
Песенькі пеці.

[*1905—1907*]

## БАБУЛЬКА — ПРАДАЎЧЫЦА ЗЁЛАК

У Мінску на рынку,
Ў канцы агароды,
Бабулька старая
Садзіцца заўсёды.

Усякія зёлкі
На рынак прыносіць
І людцаў прахожых
Купляць у ёй просіць.

Ляжаць перад бабкай,
Ці вечар, ці ранак,
Пучкі дзівасілу,
Чабор і румянак.

Ад кожнай хваробы
Ё зёлкі, карэнне;
Лячыць можа імі
Падвей, парушэнне.

І любчыку нават
Дасць вам пад сакрэтам
Ды наўча, як зводзіць
Любізнічкам гэтым.

І ўсякіх, усякіх
Дастанеце лекаў,

Якіх толькі людзі
Не зналі ад векаў.

Шмат летак бабульцы:
Трасуцца ўжо рукі —
Ёсць пэўна унукі,
Э! нават праўнукі.

Усяк ёй жылося
На свеце на божым —
І смутна, самотна,
І з хлопцам прыгожым.

І слёзы ліліся,
І песні звінелі,
Малойцавы грудзі
Туліла ў пасцелі.

Ды ўсё ж праляцела,
Як яснай маланкай;
Спяць думкі і песні,
Ў магіле спіць Янка.

Эй, моладасць-радасць
Мінула ўдалая!
А старасць-няўдаласць
Ніяк не мінае.

І кепска бабульцы:
Сівая, худая,
Брак сіл працаваці,
Дык зёлкі збірае.

Нясе іх да Мінска,
На рынку садзіцца,
Збывае і вуча,
Як трэба лячыцца.

А можа, паможа
Душы хоць адной дзе,
І праца бабулькі
На марна не пойдзе.

[*1905—1907*]

## СТАРЦЫ

З торбай кажны, з думкай важнай:
«Дадуць — не дадуць»,
Даўным следам дзед за дзедам
На кірмаш ідуць.

Як дарога к хаце Бога,
Або й так аб што,
Не пытаюць, добра знаюць,
Звон пачулі — й до!

Быццам горбы, іхні торбы
Выдаюць парад;
На кірмашы старцы нашы
Садзяцца у рад.

Кожны прэцца ў лепша месца...
Чуй! аж во калі,
Ўтройцы, ўпарцы хрыпла старцы
Песню завялі.

Той там з лірай у тры шчыра
Струны задае,
Той з кантычкі, той з прывычкі
Модлы дзьме свае:

За змарлыя, за жывыя
Душкі, за жыццё,
За скацінку, за збажынку
І за ўсё, за ўсё...

Гэй, малітвам, быццам бітвам,
Стар'ё аддалось,
А з-пад воку глядзяць к боку,
Ці дадуць хто штось.

Во паследні у абедні
Кончыўся «падай»;
Сыплюць людзі, што-та будзе,—
Старча, намагай!

Неспакойна з сілай двойнай
Песень гул памкнуў,

І ўвесь гэты рой распеты
Рукі працягнуў.

Дыдак густа й хлеба лусты
Сыпяцца, прычом
Разам з хлебам — за што трэба
Маліцца дзядом.

Час праходзе... Годзе, годзе
Глядзець на полк наш!
Пайшлі людзі, што-та будзе,—
Кончыўся кірмаш.

З торбай кажны, з думкай важнай:
«Ці дзе больш дадуць»,
Даўным следам дзед за дзедам
З кірмашу ідуць.

[*1905—1907*]

## НАД МАГІЛАМІ

Спіце, загнаныя,
Ад сонца скрытыя,
Спіце, бяздольныя,
Горам забітыя!

Як вам зямелькаю
На вочы кінулі,
З людскога памяці
Марна загінулі.

Над косцьмі вашымі,
Па-над курганамі
Слёзы узносяцца
Мглою, туманамі.

Крыжы яловыя
Набок скрывіліся,
Наспы пасмертныя
Вадой размыліся;

Два-тры з іх свецяцца
Кветкай жычліваю,
Рэшта скрываецца
Лазой, крапіваю.

Самі ж вы зданямі,
Бледнымі, сінімі,
Летам усходзіце
Па-над магіламі.

Начніцы чорныя
Ночкай злятаюцца,
І совы шэрыя
Пераклікаюцца.

Ваўкі збіраюцца
Парой зімоваю
І пяюць, выючы,
Песнь паграбовую...

Спіце, загнаныя,
Ад сонца скрытыя,
Спіце, бяздольныя,
Горам забітыя!..

[*1905—1907*]

## ДЗЯЎЧЫНКА, ГАЛУБКА МАЯ!

Дзяўчынка, галубка мая!
Кінь весела вочкам ка мне,
Табой зачараваны я,
Любуюся ў яве і ў сне.

Дзяўчынка, галубка, хадзі
Ка мне, бо цябе я люблю,
Сагрэю на белай грудзі,
Уцехай кахання прысплю.

Дзяўчынка, галубка, тады
Забудземся свету, людзей,
Забудземся гора, бяды,
Нядолі забудзем сваей.

Дзяўчынка, галубка, слязой
Як скропіш павеку сваю,
Я вытру, пацешу, як свой,
І песню табе запяю.

Дзяўчынка, галубка, не дам
З цябе жарты строіць жыццю:
Дзяліць буду я папалам
Нядолю і долю тваю.

Дзяўчынка, галубка, мой друг,
Саўём мы ціхое гняздко,
Дзе створым душу адну з дзвюх,
І думы, і сэрца адно.

Дзяўчынка, галубка, мы так
Па хвалях жыцця паплывём,
З каханнем за знамя, за знак,
На зайздрасць цярпенню, ўрагом.

А толькі, галубка мая,
Мяне, сірату, пажалей:
Любі, як цябе люблю я,
Мілуй і цалуй агнісцей.

[*1905—1907*]

## ДА ДЗЯЎЧАТАК

Ой, дзевачкі, любанькі!
  Люблю, люблю вас,
Я ў вашых, галубанькі,
  Сетачках увяз.

Ох, мае вы сонейкі,
  Не знаю, з чаго

Не мілы мне гонейкі
Шнурочка майго.

Не мілы мне хатачкі
Родненькай куток,
Не мілы мне матачкі
Слоўцы: «мой сынок»!

Не міла, як волікаў
Рог забушаваў;
Ой, ой, для саколіка
Час благі настаў!

Сэрца б'ецца, корчыцца,
Кроў пайшла гуляць,
Днём рабіць не хочацца,
А ночкаю — спаць.

Нападае часценька
Нейка дзіўна млось,
І так шчасна-шчасненька
Хочацца чагось.

Вочы неўспадзевачкі
Ўсё туды бягуць,
Дзе сонейкі-дзевачкі,
Любачкі жывуць.

Ой, ой, не ў цікавую
Сетку, знаць, забрыў,
Хоць бы з добрай славаю
Ўжо яе пазбыў.

Голуб, як з галубкаю,
Весела вурчыць;
Пэўна хлопцу з любкаю
Лепей, як так, жыць.

Бачу, так здаваецца,
Што мне, бедаку,
Таго штось жадаецца,
Чаго й галубку.

Адну ненаглядачку
За жонку вазьму,

Тады, можа, радачку
Дам гору свайму.

Тругі, тругі, трубачкі!
Грайце ў добры час;
Дзевачкі-галубачкі,
Люблю, люблю вас!

*[1905—1907]*

## ЧОРНЫЯ ВОЧЫ

Што, скажыце, цямнейшым на свеце ад ночы?
— Дзявочыя чорныя вочы.

Што больш мае і тайнаў, і чараў, як ночы?
— Дзявочыя чорныя вочы.

Што няведама дзе завядзе, як мрок ночы?
— Дзявочыя чорныя вочы.

Што нас губіць, як гінуць зблудзіўшыя ночай?
— Дзявочыя чорныя вочы.

А што любім, хоць жудкім, як цёмныя ночы?
— Дзявочыя чорныя вочы.

*[1905—1907]*

## СВАТАНАЯ

Прыстройся, дзяўчынка-нябожа,
Так, як у дзянёчак святы,
Галоўку ўчашы ты прыгожа,—
Сягоння прыедуць сваты.

З гарэлкай прыедуць сягоння
Й запоіны будуць твае...
Падумай, куды цябе згоне,
Куды цябе злы лёс пашле.

Падумай, як прыйдзецца жонкай
Вайсці да хацінкі чужой,
Зазнацца з чужою старонкай,
Злюбіцца з чужою сям'ёй.

Дасць бацька пасагу: цялушку
Й свінню ці авечку з ягнём;
Дасць маці выправу: падушку
Ды кубел стары з палатном.

Усё гэта возьме твой мілы,
Як з купленай, возьме з табой,
А ты будзеш аж да магілы
І жонкай яму, і слугой.

Павінна служыць ты і мужу,
І ўсёй яго слухаць радні;
На працу, на голад, на стужу
Зважаць не павінна ані.

Не будзеш чуць ласкавых словак,
І свёкар палае, й свякроў;
Прытыкаў ятровак, заловак
Нап'ешся і ўгроз — дзевяроў.

Цярпець будзеш многа, ды часам
Паскардзішся мужу свайму,—
Багаты й сваіх крыўд запасам,
Не дасць рады гору твайму.

А гора тваё, напачатку
Малое, пачне прыбываць,
Як станеш ты звацiся маткай,
Дзіцё пачне грудзь тваю ссаць.

Жаць пойдзеш далёка ці блізка,
Муж пойдзе араць ці касіць,
З табой йдзе дзіцё,— і калыска
На полі на козлах вісіць.

А вернешся з поля дадому,
Гаротнае гора тваё!
Пачнеш паглядаць пакрыёму,
Ці хлеба хоць трохі йшчэ ё.

Слуга, жонка, ўрэшце і матка,
Ўжо знаеш, што трэба рабіць:
Спаўеш у пялёнкі дзіцятка
І станеш вячэру варыць.

І вечна не знойдзеш спакою
Ў замужнім бязвольным жыцці;
Нядоля ўслед за табою,
Як здань тая, будзе ісці.

Ў дарогу ты выправіш мужа,
Пачнеш яго з страхам чакаць,
А хоць не раз поўху і ўдружа,
Павінна п'янога спаткаць.

Каса твая доўгая п'яным
Патузанай будзе не раз,
Наб'е сінякоў пад каптанам,
Зрачэшся дзявоцкіх прыкрас.

Прытухнуць ад слёз ясны вочы,
Завяне, паморшчыцца твар,
А ў сэрцы, сягоння ахвочы,
Замрэ твой мілосны ўвесь жар.

Нявольніка з краю нядолі —
Гаротнай нявольніцай ты,
Ахвярай ты век без патолі
Трудоў, беднаты, цемнаты.

Ну, што там смутнееш, нябожа?
Гарэлку пап'еш зараз ты!..
Ідзі ж і прыстройся прыгожа,
Каб не адракліся сваты.

Ўпадоба быць мусе нязменне,
Каб з дому барздзжэй паляцець,
Бо дома... і дома не меней,
Як замужам, мусіш цярпець.

Званкі ўжо звіняць па дарозе,
Вот госці пад брамай крывой,
Ідуць, вот ужо на парозе...
Ты плачаш?! Чаго? Бог з табой!

Дзяўчынка, ці я цябе песняй
Разжаліў панурай сваей,
Што гэтак ліюцца балесна
Слязінкі з прыгожых вачэй?

Кінь плакаць і смейся! Хай плача,
Хто песню нядолі запеў,
Святла хто і ласкі не бача,
Хто змалку дзён шчасця не меў.

Жалобных не слухай ты шумаў,
У сілы свае цвёрда вер
І лепшую долю прыдумай,
Як гэта, што маеш цяпер.

[*1905—1907*]

## МАЛАДЫМ НА ВЯСЕЛЛІ

Ужо звязалі рукі вам
Прад алтаром навекі,
«Сама» ўжо — жонка, мужам — «сам»,
Не трэба вам апекі.

Каб хлопец — маці кіне ўчыць —
К «самой» не падсукаўся;
«Самога» бацька не збурчыць,
Каб па сялу не шляўся.

Вы самі будзеце ўжо знаць,
Што годна, што не годна,
Адно другога пільнаваць
Лепш маткі, бацькі родных.

Як, што там далей будзе ў вас —
Не нам тут раздумляці!

Вяселле ў вас, а ў гэты час
Мы хочам пагуляці.

Гарэлку п'ём мы, як ваду,
Ядзім сыр, масла, сала,
Загналі ў кут нуду-бяду,
Чуй!.. музыка зайграла.

Уседзець трудна за сталом,
Аж ходзяць — так здаецца —
І ногі, й плечы хадыром,
І сэрца б'ецца, б'ецца.

Хутчэй, хутчэй, яду набок!
Набок сталы і лавы!
Гульнём, дзяўчынка, мой дружок!
Часцей такіх забаваў!

І шчасце — дым, і праўда — дым,
А клёк — гульня, пахмелле.
Гукнём мы «дзякуй» маладым,
Што ўстроілі вяселле.

Разгул такі гады ў рады
Пацешыць прылятае...
А гэта што? Хмур малады
І плача маладая?

Чашы каменне ў сто сякер,
Не выстругаеш крэсел;
Я плакаў некалі... цяпер
Глядзі,— няма слёз — весел!

І ты, злучона пара, пей,
А я вот павіншую:
Мець спор вам з любасці сваей,
Мець долю не благую!

Мець клеці поўныя з дабром,
Мець міласць, згоду ў хатцы,
Й так жыўшы, жыўшы ўдваём,
Унукаў дачакацца!

[*1905—1907*]

## ШАВЕЦ

Я шавец-маладзец,
Знаю дзела сваё,
Слухаць мусяць мяне
Капыллё і скур'ё.

Пры варстаце маім
Дружна праца ідзе:
Жонка дратву прадзе,
Вучань суча яе.

Я сам «крой» намачыў,
На капыл нацягнуў;
Стукі-стук! малатком
Шылам, дратвай махнуў,

Падашву прылажыў,
Нагнаў штыфтаў кругом,
Абцас гладка прыбіў
Ды падкоўку на ём;

Капыл выдзер, і вот
Бот на траме вісіць;
Эй, дзівуйся, панок! —
Добра будзе насіць.

Эй, дзівуйся, хто жыў,
Які майстар я, зух!
Бот, камаш, чаравік
Вам састрою удруг.

І багат бы я быў
(Хоць не бедзен і так),
Каб лапцей не насіў
Наш мужык-небарак.

Ой было ж бы, было
Заработку, трудоў,
Часцей сотку б злавіў,
Угасціў бы дружкоў!

Но ён хіба тады
Стане боты насіць.
Як не будзе з чаго
Лык на лапці лупіць.

[*1905—1907*]

## ПАНІЧ І МАРЫСЯ

Свеце месяц, свеце,
Як дзюрка ў сярмязе;
Паніч за мужычкай
Безустання лазе.

Дваццаць год Марысі,
Кроў іграе ў целе,
З панскім сынам ночкі
Каратае, дзеле.

«Марыся, Марыся! —
Гавора ёй маці: —
Кінь на паніча так
Вачыма міргаці».

Яна як не чуе
Матчыных мараляў:
Спусці маці з вока,—
Дзеўка й загуляла.

Пад лясок, за вёску,
Бы далей ад дому,
Ляціць на спатканне
К панічу ўдаламу.

Што з сабой там робяць,
Як час каратаюць? —
Гэта хіба толькі
Муж і з жонкай знаюць.

Свеце месяц, свеце,
Як лысіна ў пана;

Мусіць быць нарэшце
Песня даспявана.

Ад пакус і ўцехаў
Крок адзін к пакуце,—
Быці бабай дзеўцы
Часам чорт паплуце...

Панічу з паненкай,
З багатай Амэляй,
Ужо рукі хусткай
Ксёндз вяжа ў касцеле.

Панічова ж любка,
Марыся ўдалая,
На прылёты бусла
Слёзна паглядае.

Марыся, Марыся!
Галоўкі не чухай,—
Не слухала маці,
Бабкі цяпер слухай.

*[1905—1907]*

## З ДАРОГІ

Дарогай шырокай, з дарогі нялёгкай,
Дый многа без ліку гадзін,
На кій абапёрты, стары і абдзёрты,
Ішоў падарожны адзін.

Ішоў ён да вёскі, што блізка дарожкі
У полі пад лесам была;
Там некалі даўна ён жыў добра, слаўна,
Там моладасць-радасць прайшла.

Там кінуў ён хатку, і бацьку, і матку,
І жонку пакінуў сваю,
І дзетак маленькіх, прыгожых, міленькіх,
Пакінуў усю там радню.

У дальняй старонцы лет многа бясконца
Пражыў у бядзе ён цяжкой;
Ні шчасця, ні долі не бачыў ніколі,
Бядуючы слёзна парой.

Цяпер на зямельку, сваю карміцельку,
Прыйшоў, каб пабачыць сваіх,
Убачыць каб хатку, і бацьку, і матку,
І дзетак — каліськці малых.

Ідзець ён, падходзіць і вёску знаходзіць,
Таксама, як жыў ў ёй, глядзіць:
І хаты ж такія — гнілыя, старыя,
Карчомка таксама стаіць.

Тут хата Захаркі, там Ёські, Ганчаркі,
Там Янкава жонка жыве,
Тут кум Давідзёнак, там сват Міхальчонак,
Там Сорка, што соль прадае.

А вот і садочак, а вот і дамочак
Даўнейшы яго тут відаць,
Во ганак той самы, з нізкімі акнамі,—
Будынкі таксама стаяць.

Уходзіць у сенцы, аж гнуцца каленцы,
А сэрца трасецца, баліць:
Што будзе тут скора — ці радасць, ці гора?..
Вось дзверы адпёр і глядзіць...

Уйшоў, пазірае, сваіх пазнавае...
Ах, што ж? Ці пазнае калі?
Заплакаў нябожа і глянуць не можа:
Чужыя ужо там былі!..

[*1905—1907*]

## ГРАД

О вы, што век цэлы адзеты і сыты,
І з думкай адной, каб пражыць весялей!
Ці бачылі гора у вёсцы забытай?
Ці бачылі працу загнаных людзей?

Ці гнуўся з вас хто над сахою у полі?
Ці вёз з вас каторы да места дроў воз
На фунт які крупаў, на фунт які солі?
Ці пёкся на сонцы, ці мёрз у мароз?

Палац ваш смяецца з нядолі бядачай,—
Век музыка, песні і сытасці крык.
А там гэт, у вёсцы і стогне, і плача
Ваш брат, пагарджаны галодны мужык.

Пад потам арэ, баранує і сее,
Каб белага хлеба прыдбаці для вас,
А хто ж з вас яго у бядзе пажалее?
Паслухалі ж песні яго вы хоць раз?

Эй! песня ад вас, як ад пнёў, адаб'ецца;
Вы рады б і песню здушыць, апляваць,
Бо ў песнях шмат скаргаў на хціўцаў нясецца,
А ў скаргах бяздольных шмат праўды чуваць.

Гуляйце да часу уцехай шалёнай,
А можа, і памяць надойдзе калі.
Эй! каб не спаткала вас доля Нерона!
Рым можных шаленствы к упадку звялі...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Зайшоў я раз к пану за нейкай патрэбай;
Сяджу, аж тут з вёскі прыходзе мужык,
Худы, чуць жывы, знаць, даўно не еў хлеба,
Хоць, праўда, к бясхлеб'ю з іх кожны прывык.

Уйшоў, ўвесь трасецца, стаіць у парозе,
Баіцца йсці далей, ат, ведама, гад!
Ён толькі адважны дрыжаць на марозе,
Крывавы пот ліці, каб пан быў багат.

Стаіць, і ўздыхае, і слёзы ўцірае,
З нагі на нагу прантупае ўсё так,

Гняце, знаці, думка яго неўдалая.
Аж пан запытаўся: «Што скажаш, бядак?»

«Паночку міленькі! — той гэтак азваўся.—
Будзь ласкаў, змілуйся над горам маім —
Дай хлеба ці жыта, ■ ўсюдых цягаўся,
Нідзе не дастаў, сам галодны зусім.

І дома сямёра дзяцей засталося,
Нятоплена печка, няма што варыць,
А дзеткі заводзяць, а жонка галосе...
Не йдзі хоць у хату, так цяжанька жыць.

Будзь ласкаў, паночку! Як будзе работа,
Я ўдвое за ласку табе адраблю.
Дай з пудзік, мей літасць над нашай бядотай,
Пазыч, бо ці ж буду я грызці зямлю?!»

І моліцца гэтак, і жаліцца гэтак,
А колькі слёз выліў, сам хіба не знаў,
Клянецца на жонку, клянецца на дзетак,
Што ён не гультай, а што Бог гэтак даў,

Што град выбіў збожжа усё да каліўка,
Так збіў, нібы конь пакачаўся ў траве...
А добра ж была так абсеяна ніўка,—
Як глянеш, здаецца, па ёй штось плыве.

«Эй! шчыра, паночку,— ён гэтак гавора.—
З сахой, з бараной увіваўся я ў полі;
Ару, барану́ю да поту, а скора,
А ўсё каб зрабіці, а ўсё як найболей.

Аж глянуці люба — абсеяў шнур цэлы:
Лялее пшанічка, авёс і ячмень,
Лялее другі шнур з жытцом, ужо белы;
Хаджу і любуюся кожненькі дзень.

Вот, думаю, будзе і крупак, і хлеба,
Што лішняе — ў Мінск павязу і прадам;
Вот будзе і солі, эй, ласкаў Бог з неба!
Аддам ў магазын і падаткі аддам.

Дарэмныя ж думкі былі усё гэта:
Нядолі праўдзівай, знаць, родны я сын!

Дарэмна я біўся вясну так і лета:
Усю маю працу дзень знішчыў адзін.

Раз неяк на небе з'явілася хмура;
Усякі з нас летняму дождж ыку рад,
Але тут шла летняя страшная бура...
О, Божа, хаця б не пасыпаўся град!

Гром глуха грахоча пад небам высокім,
Прыціхнулі птушкі, схаваўся каршун,
Мігнула маланка адблескам далёкім,
Ударыў у елку гняўлівы пярун.

Свет пеклам здаецца, зямля раве дзіка,
А неба, сыпнуўшы маланак агнём,
Азвалася бурай шалёнай, вялікай,
Лясы затрашчэлі, дождж лінуў ліўнём.

Пайшоў я назаўтра к пасевам на поле;
Падходжу, дзе жыта, дзе шнур з ярыной,
Хацеў бы вярнуцца, не йсці ужо болей:
І смутна, і жудка, сам неяк не свой.

Прыйшоў, і... затрэсліся ногі і рукі,
Хацеў бы заплакаць — дый слёз не дастаў:
Дзе столькі ўлажыў я і працы, і мукі,
Мае ўсе пасевы з зямлёй град змяшаў»...

Так скончыў няшчасны свой жаль выліваці,
Па твары ж сляза за слязою бяжыць,
Як дзе летняй раніцай на сенажаці
Раса на травіцы вісіць і блішчыць.

Заплакаў бы, браце, я разам з табою,
Дый слёзаў цяперашні свет не ўзнае;
Сіл трэба магутных змаганню з бядою,
А слёзы, брат, высмеюць толькі твае.

Вы скажаце, пэўна, што пан злітаваўся,
Даў хлеба ці збожжа, памог у бядзе?
Ці ж знае, чым гора, хто з горам не знаўся?
Паноў такіх добрых няма, брат, нідзе.

Паны толькі могуць гуляці да поту,
І беднаму гэты пры мне сказаў там:
«Плаціў и улетку табе за работу,
Плаці ж і за хлеб мне: я дарма не дам!»

[*1905—1907*]

## КАНЮХ

*(Паданне)*

Ёсць, браткі мае вы, у нашым народзе
З даўнейшага часу паданне адно,—
З дзядоў на унукаў ідзе, пераходзе,
І мне гэтаксама дайшлося яно.

Навукі паданне, ой, шмат захавала
Для грэшных, труслівых і цёмных людзей,
Ў ім бачым, што шчасця зазнае той мала,
Хто праўды не хоча пазнаці бардзей.

Гадоў таму многа, без ліку, без меры,—
За часу, калі сатвараўся наш свет,
Былі ужо створаны людзі, і звеbecause,
І птушкі-пяюхі усякіх прымет.

І людзі ўжо мелі усё, што хацелі:
Даліны, і горы, і поле, і луг;
Лясы ўжо шумелі, дзярны зелянелі,
І пекна, і міла было ўсё ўвакруг.

Адной толькі рэчы яшчэ не хапала:
Ні каплі вады на зямлі не было;
Праз гэта было бяды, плачу нямала,—
Усё піць хацела, што толькі жыло.

Ўсе сталі збірацца і радзіцца з гора,
Як гэтай пазбыцца вялікай бяды,—
Аж сам Бог, урэшце, усім так гавора:
«Я вас навучу, як дастаці вады.

Ваду вы мець будзеце цягам навекі;
Збярыцеся разам, хто жыў на зямлі,
І ямы капайце на студні, на рэкі,
А толькі к рабоце усе каб ішлі!

І помніце: кожны, хто з вас астанецца,
Не выйдзе у гэтай супольнай бядзе,—
Піць, піць будзе вечна такому хацецца,
І ён жа не знойдзе вадзіцы нідзе!»

Вот рвуцца да працы агромністай людзі,
І звеpы, і птушкі, і кожны жучок;
І цяжка працуюць, зрываючы грудзі,
Капаюць, цягаюць жвіровы пясок.

Ну! Будзе ім добра: дастануць вадзіцы,
Больш сохнуць не будуць, як сохнуць цяпер;
Вот зробяць азёры і рэкі, крыніцы
І студні, а к студням — і зруб, і асвер!

Але хоць так шчыра паслухалі Бога
Усе і за працу узяліся ўсе,
Канюх адзін толькі не робіць нічога,
Ён гульма гуляе, к рабоце не йдзе.

Убачыў Бог гэта з высокага неба,
Пазваў канюха і гавора тады:
«Няўжо ж піць ніколі табе не патрэба?
Чаму не працуеш, дастаць каб вады?»

«Я піць не хачу! — так канюх кажа Богу.—
А як захачу, дык нап'юся расы».
І тут ён пусціўся назад у дарогу,
Аж енкнуў віхор, зашумелі лясы.

А з неба грамлівы ўслед голас раздаўся:
«Навекі ты будзеш жыць толькі расой!
І хоць бы ты млеў і з жыццём расставаўся,—
«Піць, піць!» — будзеш клікаць ты летняй парой!»

Вот скончана праца, найшліся крыніцы,
І мора бушуе, і рэчка бяжыць;
Хто колькі захоча, нап'ецца вадзіцы,
Адзін канюх просіць, лятаючы, піць.

Жалобна ён просіць так, як бы клянецца,
Як моліцца Богу, каб грэх даравадь,
І толькі часамі расіцы нап'ецца,
А самай жарой мусіць ён усыхаць.

Крычыць ён так, як бы людзям для навукі,
Што боская кара ўсіх мусіць спаткаць
Тых, хто, баючыся цярпення і мукі,
Не хоча па праўдзе для ўсіх працаваць.

Дык ведайце ж, браткі, хто к працы вялікай
З вас рук прылажыць не захоча сваіх,—
Такому Бог скажа: «Піць!» цэлы век клікай
І будзь праклінаны ад брацяў сваіх».

[*1905—1907*]

## СЦЁПКА ЖУК

### 1

Сцёпка Жук, па бацьку Ёсцы,
Гаспадар усім надзіва,
Ўсімі хвалены на вёсцы,
Жыве згодна і пачціва.

Абычай стары шануе,
Не чураецца сярмягі,
Хаты дзедаўскай пільнуе,
Ад суседзяў шмат павагі.

Ён прыкладам для ўсёй вёскі,
Добра знае, калі трэба
З сахой выйсці на свет боскі,
Калі дождж пойдзе з неба.

Дзе якое сеяць збожжа,—
Трудна лепш ад Сцёпкі знаці;
Знацца лепш ніхто не можа
На раллі, на сенажаці.

Дзе якая звадка, схопка,
Годзіць, рае ў полі, ў хаце,—
Адным словам, як наш Сцёпка,
Рэдка нойдзеш гэткіх, браце.

2

Вечарынку як састрое,
Бо ўжо дзеці падрастаюць,—
Ёсць і сёе, ёсць і тое,
Музыканты гучна граюць.

За сталом Сцяпан садзіцца,
Пры ім жонка і суседзі,
Чым паслаў Бог — рад дзяліцца,—
Ўсіх частуе, ўсіх прыгледзе.

Хлопцы-зухі і дзяўчаты
Пагуляць тым часам рады,
Сталі ў пары сярод хаты
І далей жа у прысяды!

Нуце, хлопцы, дзень далёка,
Пагуляйце, колькі воля!
Дый Сцяпан не зводзе з вока,—
Лішніх жартаў не пазволе.

Там і сям Сцяпан бадзяўся,
Распазнаў свет доўгім векам;
Хто распусце раз аддаўся,
Кепскім будзе чалавекам.

3

Жыве, праве, шыкам пана:
Крупаў, сала мае многа,
Хлеб вядзецца ж у Сцяпана
Круглы год, як у нікога.

А хлеб веяны, ўсё белы...
Эй, што там казаць далёка!
Шнур зямлі ён мае цэлы,
Значыць — поўная валока.

З усёй вёскай ён у згодзе:
«Кепска, кажа, жыці звадай».
Ён і ў воласці на сходзе
Многа можа словам, радай.

Жывуць, скажа хтось вучоны,
За граніцай лепш народы;

Кормяць люду мілёны
Шахты, фабрыкі, заводы;

І у нас мінула б ліха,
Каб настаў лад гэткі ў людзях;
Сцёпка ж бухне пад нос сціха:
«А ўсё ж бедны бедным будзе!»

4

Сцёпкі жонка — вёртка баба,
І язык... эй, што казаці!
А з рукамі і мазгамі
Трудна лепшай дзе спаткаці.

Ненаўды, што жонкі гэткай
Сцяпан трохі і баіцца,
А найбольш, хоць то і рэдка,
Калі з сватам падхмяліцца.

У такую тады хвілю
Знае жончыну ён плату;
Гатоў кругу даці мілю,
А цвярозым прыйсці ў хату.

Жонцы справіў чаравікі,
Сам жа ў лапцях ходзе болей,
А пачуе дзе прыцікі,
Што не меў ботаў ніколі,—

Сцёпка скажа: «Эй, там, што ты!
Лепш па зімцы лета меці,
Пасля лапцяў — насіць боты,
Як па ботах лапці ўздзеці».

5

У Сцяпана лад між дзетак,
Лад на полі, лад у хаце;
Адным словам, жывуць гэтак
Цяпер мала, пане браце.

Ад Сцяпанавай хацінкі
Не адойдзе так убогі,

Пагарэлы — без асмінкі,
Сірата — без дапамогі.

Сцёпка працы не баіцца,
Ці нуда гняце якая,
Песняй роднай весяліцца,
Вечна весел, не ўздыхае.

Стане хтось там наругацца,
Што так весел, хоць цвярозы,—
«Лепей, скажа ён, смяяцца,
Як дарэмныя ліць слёзы».

Да ўсяго Сцяпан ахвочы,
Як то ёсць прыпеў шляхочы:
І да танцу, і ружанцу,
Да выпіткі і выбіткі.

II

Плывуць леты, нібы рэкі,
Не варочаюцца болей,
Ніштo жыць не можа векі —
З сваёй, з божай нікне волі.

Сцёпка выдаў замуж дочак,
Пры малодшым жыве сыне;
Як асінавы лісточак,
Ўвесь трасецца, горб на спіне.

Старасць — слабасць падаспела,
Стаў нядуж к рабоце ўсякай,
Неяк ходзе ўжо нясмела,
Нос распушыла табака.

Часам пойдзе ў лес і лыкаў
Надзярэ якіх з пяць пукаў,
З браку ботаў, чаравікаў
Лапці керзае для ўнукаў.

Старасць, старасць — смутны весці!
Ўжо і «вушка» не прымеце,
Скора, пэўна, будзе плесці
З сваім дзедам на тым свеце.

*[1905—1907]*

## ПЕРАД ВЯСНОЙ

Рушыўся снег, зашумела вада,
Раскаваліся рэкі ад лёду,
Хлынула вон зімавая нуда,
Сонца ўносе цяпло і пагоду;
Шумныя песні іграюць лясы,
Павявае вятрок цеплаваты,
Белая ніва ад снежнай расы
Ўбіраецца ў чорныя латы.
Трушанкай зморана ў цёмных хлявах,
Адзываецца рыкам скацінка;
Конікі ў стайнях іржуць пры жлабах;
Бацян праляцеў над адрынкай.
Будзіцца после зімовага сну
Па хацінках людок працавіты,
Скорынька цягне саху, барану,
Глядзіць, ці шыны на колах узбіты.
Высыпе гэты на поле народ
І сеяць будзе свянцонае збожжа...
Добры ўраджай, спорны ўмалот
Працавітым людзям пашлі, Божа!

[*1905—1907*]

## ТАК... НЕ...

Так-не, так-не,
Загарак гамоне,
Так-не, так-не,
Учора й сягоння.
Так-не, так-не,
Плакаць ці смяяцца,
Так-не, так-не,
Скарэй слёз даждацца,
Так-не, так-не,
Ёсць і ў нас свабода,
Так-не, так-не,
Но не для народа.
Так-не, так-не,
Ё свабод, як хмараў,
Так-так, так-так,
Но толькі для...
Так-не, так-не.
Ё зямлі нямала,
Так-так, так-так,
Ўсім бы досыць стала,
Так-не, так-не.
Шмат зямлі паханай,
Так-не, так-не,
Но толькі у пана.
Так-так, так-так,
Дзе гора шукаці,
Так-не, так-не.
У мужыцкай хаце,

Так-так, так-так. Так-не, так-не,
Учора й сягоння Загарак гамоне.

[*1905—1907*]

## ЭПІГРАМА

Што клёпкі трэцяй не стае
У галаве яго,
То гэта, родныя мае,
Чуў шмат я ад каго;
Але каб ў пекле аж на дне
Сядзеў, хто лгаць пасмеў:
Ён іх і з роду, верце мне,
Ніводнае не меў.

[*1905—1907*]

## НАША МІНУЎШЧЫНА

Мы не жылі, як жывуць людзі,
Гасцінцам шчасця не хадзілі,
Не зналі ўцехі нашы грудзі,
Вянкоў мы славы не насілі.

Мы ў паніжэнні, у вечным трудзе,
З днём кожным слабшыя на сіле,
Бясцэльна па калючай грудзе
Блудзілі, горасна блудзілі.

Быдлём асуджан быў валяцца
Сын свайго краю, родных межаў;
Калі ж хто ўздумаў прачыхацца,
Курган прыбавіў толькі свежы.

Хацеў хто песняй адазвацца,
Глушыў хаўтурны воклік з вежы;
З нягодай мусілі змагацца,
Як тыя вербы на ўзбярэжжы.

[*1905—1907?*]



## ТРЫ БУДРЫСЫ

*(Літоўская балада)*

*З польскай — А. Міцкевіча*

Стары Будрыс трох сынаў,
Як сам, гэткіх літвінаў,
Да сябе на дзядзінец паклікаў,
Ды ім кажа: «Зважайце,
Коні борзда сядлайце,
Натачыце мячы ўміг і пікі!
«З Вільні вестку мне далі,
Што ўжо там наказалі
Тры вайны на тры свету староны:
Ольгерд рускіх біць едзе,
Скіргел — ляхаў-суседзяў,
А князь Кейстут разгроміць Тэўтоны.
«Вы, адважныя хлопцы,
Паслужыце старонцы,
Хай вядуць вас літоўскія богі!
Застаюся я дома,
Дам вам раду, вядома:
Трох вас ёсць і тры ёсць вам дарогі.
«Хай адзін у Расію
За Ольгердам шлях крые
Па-над Ільмень, пад мур Навагроду;
Там саболлі апоны,
Залатыя заслоны,
І ў купцоў там чырвонцаў, як лёду.
«Хай да князя Кейстута
Другі едзе, а хутка,
Крыжакоў хай знішчае дашчэнту!
Як пяску, там бурштынаў,
Сукны дзіўнай тканіны,
І там рызы ў ксяндзоў ў дыяментах.

«Мусіць к Скіргелу трэці
Па-за Нёман ляцеці,
Беднату там убачыць ліхую,
Але возьме за тое
Узбраенне стальное
І мне стуль прывязе сынавую.
«Бо з нявольніц мне толькі
Спадабаліся полькі,—
Так панадны мне стан іх дзявочы,
Твар іх бела-ружовы,
Як смоль, чорныя бровы,
Як дзве зоркі, іх свецяцца вочы.
«Маладым чалавекам
Я адтуль прад паўвекам
Сабе вывез палячку за жонку;
Хоць яе пахаваў я,
Ўсё яшчэ ўспамінаю,
Калі гляну я ў тую старонку».
Даўшы так засцярогу,
Блаславіў на дарогу;
Яны ўзялі бронь, селі, пабеглі.
Ўжо й зіма надыходзе,—
Сын не едзе ніводзін,—
Будрыс думаў, што ў бітвах палеглі.
Па сняжыстай дарожцы
Мчыцца ў зброі хтось к вёсцы,
А пад буркаю нешта хавае:
— «Кубел — гэта, знаць, ноша,
А ў ім рускія грошы».
— «Татка,— полька, твая сынавая!»
Па сняжыстай дарожцы
Мчыцца ў зброі хтось к вёсцы,
А пад буркаю нешта хавае.
— «Мусіць, з Прусаў, мой сыну,
Цягнеш кубел бурштыну?»
— «Татка,— полька, твая сынавая!»
Па сняжыстай дарожцы
Трэці нехта мкне к вёсцы,
А пад буркай вяліка здабыча.
Будрыс — што? — не пытае,
Толькі госці склікае,
На вяселле іх трэцяе кліча.

*9 ліпеня 1905*

## ГАЛАДОЎЛІЦА

*З рускай — М. Някрасава*

Стаіць мужык —
Ківаецца,
Ідзе мужык —
Хістаецца.

Жыццё яму
Дакучыла,
Бяда яго
Замучыла.

Глядзіць вачмі
Слязлівымі,
Сапе грудзьмі
Ўдушлівымі.

Ідзе, як цень,
Ідзе і спіць,
Прыйшоў, дзе шнур
З жытцом стаіць.

І скалай стаў,
Дзе шнур чарнеў,
І хрыпла так
Завыў, запеў:

«Паспей бардзей,
Жытца зярно,
Я жду цябе
Даўно, даўно!

Хоць бы з гару
Акраец з'ем
Дый праснакоў
Адразу з сем.

Усё адзін,
Усё з'ем сам,—
Прасі хоць сын,
Хоць хто — не дам!»

*22 ліпеня 1905*

## МУЖЫК І ВУЖАКА

*З польскай — А. Міцкевіча*

Раз неяк зімовай парой
Мужык сеч бярвенне пайшоў
І ў лесе пад елкай гнілой
Вужаку чуць з духам знайшоў.

Ён з добрага сэрца ў мароз,
Як толькі вужаку наўрэў,
Узяў і да хаты прынёс,
На печы ў цяпле адагрэў.

Адхухала гадзіну печ,
Кусацца паўзе к мужыку,
Але той давай яе сеч,
Узяўшы тапор у руку.

На смерць ён гадзюку засек,
Шпурхнуў, дзе больш снегу мяло,
І згінула ў снегу навек,
Навек за няўдзячнасць і зло.

---

Навуку тут маем у том,
Ёсць прыклад такі для людзей:
Што хто за дабро плаціць злом,—
Як гадзіна, сам прападзе.

*23 ліпеня 1905*

## ЛЕБЕДЗЬ, ШЧУПАК І РАК

*З рускай — І. Крылова*

Там, дзе еднасці і згоды
Няма шчырых у людзей,
Праца іхняя заўсёды
Ліха, марна прападзе.

Раз ў калёсы запрагліся
Лебедзь ды Шчупак і Рак;
З усіх сіл вязці ўзяліся,
Дый не зрушаць воз ніяк.

Пад нябёсы Лебедзь рвецца,
Шчупак цягне у ваду;
Распусціўшы клюшні, пхнецца
Рак назад, як на бяду!

---

Хто з іх вінен, хто не вінен,
Не нам гэта раз'ясняць,
Толькі ж і дасюль калёсы
Як стаялі, так стаяць!

*25 ліпеня 1905*

## З ПЕСЕНЬ БАРАЦЬБЫ ЗА ВОЛЮ

*З рускай — Д. Цэнзара*

Спіце, хто згінулі ў бойках за люд,—
Край за вас будзе маліцца...
Скора памінкі адбудуцца тут,
Маці-зямля адрадзіцца.

Бліснуць паходні Усходу, й прыгон
Мучыць не будзе народа,—
Будуць мінуўшыя бітвы, як сон,
Будзе вясна і свабода.

Толькі не прыйдуць на свята вясны
Тыя, што надта любілі...
Спіце, палеглыя, спіце, тут мы
Плачам на братняй магіле!

*1905*

## НА ПАЛЕССІ

*З польскай — Л. Кандратовіча*

Сярод багнаў і бораў,
На пясочку на рыжым
Села вёска ў пакоры,
Як убогі пад крыжам.

Шумяць тонкія сосны,
Нуды ў шуме тым многа:
Выгляд вёскі нязносны,
Выглядае убога.

Людзі ў зрэбных сярмягах,
Лапці ногі ім вяжуць,
Уваччу голад, смага,
Б'е ад іх дым і сажа.

Тарчаць пуняў і хатаў
Ломам сцены-шкілеты,—
Замест гонтаў на латах —
Лахманы з ачарэтаў.

*Гоніш мяне, панічок...*

*Зб. «Жалейка», 1908:*

2 Не ў пару із хаты,
10 Даў багацця болі,
18—19 Бо рабак ты ж прэце,—
І пазнаў, як бедняком

*А ты, браце, спі!*

*Зб. «Жалейка», 1908:*

2 Свеце па зямлі;
12 Но кажы: няхай!
17—18 Холад, голад, бяда ў хаце,—
З нэндзы дух замёр;
20 Ты ж, як твой тапор!
32 А можа лепш спі?!.

*Люлі, люлі, мужычок!*

*Зб. «Жалейка», 1908:*

2, 22 Жаласлівай песняй,
4, 24 Спі,— уставаць заўчэсне!
8—9 Сенца не паелі.
Свішчаць, шыпяць па лугах
25 Яшчэ вакруг цемната

*Эй, скажы, мужычок!..*

*Зб. «Жалейка», 1908:*

7 Ці ў Вільню завёз,—
17—18 Мо' з дравамі прадаў,
Як у места вазіў,
25 Так скажы ж, мужычок,

*Ах, ці доўга...*

*Зб. «Жалейка», 1908:*

1—2 Ах, ці доўга, братцы, будзем
Пад няволяй мы стагнаць?
11 Горш за ўсякага стварэння,
16 Ссохнеш з голаду, як цень,
19 Але тваім дзецям, жонцы
25—26 Калі часам ты двузлотку
Зарабіў у пана дзе,
27 Так на чынш і на падаткі
31 І плаціць чыншоў, падатку
33 Но на гэта тут не помняць,
35 І паследнюю кароўку
39 Но што толькі мне ні байце,

*На добры стары лад*

*Зб. «Жалейка», 1908:*

4, 14, 24, 33 Ці ў гвары, ці ў глушы,
9 Разносяць стон стары
20 Не вечан цемнатой,

*Працуй*

*Зб. «Жалейка», 1908:*

3 Гні спіну младую ахвотна,
5 Ой, шчэзнеш, но толькі не бойся,
7 Раз з нэндзай у дружбу завёўся,
10 Ты рвешся, як птушка із клеткі,
12 Но зможа крывавы труд гэ'ткі.
17 Пахіліцца спіна ад горбу,
29 Дык вот, як узброішся гэтак,

*Кепска...*

*Зб. «Жалейка», 1908:*

1 Кепска, братцы, жыць нам стала! —
6—7 Да нас ценгле прыплывае;
П'юць усе тут без ружніцы,
10 Хоць лье слёзы жонка, дзеці,
13 П'юць, хоць грош той з крвавым потам
14 На гарэлку дабываюць;

*Гарэлка*

*Зб. «Жалейка», 1908:*

22 З іх кажны без меры,
28 Што б шоў кроў глытаці.
51 Праходзе дзень трэці,

*Чаго нам трэба*

*Зб. «Жалейка», 1908:*

5 Трэба нам, трэба, як ласкі з неба,
11—12 Цэлы адзетак, ксёнжак для дзетак;
Трэба нам школы па вёсках стаўляць.
18—19 Дарма лячыліся б дзе беднякі,
З торбай ж на старасць каб не цягацца,
25 Пры ласцы Божай усё мы зможам,
27 Звальчым нядолю, звальчым няволю,

*Любімось, мае суседзі!*

*Зб. «Жалейка», 1908:*

13 А пачнійма жыці у згодзе,

15 Знайдзім долю, знайдзім волю,
19 І ў Бога ласку маюць

### *Засвяціла цяпло...*

*Зб. «Жалейка», 1908:*

4 Відзім светласць кругом, відзім сонца — вясну!
10 Захэнцае да працы, да праўды святой,
13 Аж так хочацца жыць і святую надзею

### *Вясна*
(«Ой, вясна, ой, вясна!..»)

*Зб. «Жалейка», 1908:*

8 Як пан, думны глядзіць.
19 Прэць на поле народ
25—26 ...А там далей глядзі,—
Стаіць дзевачак з пяць,
28 Громка песні ляцяць.
32 Асладжаем жыццё
Пасля 32 *Радок кропак.*
38 Абальёмся слязьмі,

### *З песень аб вясне*
(«Свяціла сонца, птушкі пелі...»)

*Зб. «Жалейка», 1908:*

7 Но вот збірацца сталі хмары,
12 Азябшых птушак б'ець каршун
14 Імша заціхне ў касцеле,
16 Аж зноў устане із пасцелі

### *Пры скаціне*

*Зб. «Жалейка», 1908:*

15 На поле, на лугі,
17 Друг дружку не бадзі.
22 Скубе вільготную траву
30 Снуе вакруг удоўж і ўшыр,
34 Мкне адгалос трубы,
37 Но вот наеўся і ідзе
40 Но ці й пастух сыт, ці пад'еў?

### *Касьба*

*Зб. «Жалейка», 1908:*

7 Сонца пале агнём; пот ліецца зы лба;
11 Эх, аддайся рабоце, люд бедны з душой!
20—21 А ў траве конік шастае, весяля слух.

Вот падвяла крыху; жыва, бабы, на лог!
26 Заве з неба, ды голадам мучышся ты.
28 Часам выйдзеш і ты з беднаты, з цемнаты

*Захад сонца*

*Чарнавы аўтограф:*

2 Даль пахмураю
6а Табе яснае
б *Як у асноўным тэксце*
9 Наглядзелася
16а Зарунелася
б *Як у асноўным тэксце*
18 Бяспрытомнага
20 Абнядоленых
22 Усім засмучаным
31—32 І ўзнімі агні
У сэрцах стухшыя
35а Што край наш і мы
б Што дней лепшых мы
36а Лепшых дзён дажджом
б *Як у асноўным тэксце*

*Сяўцу*

*Зб. «Жалейка», 1908:*

1 Скланяецца лета к закату;
2 Дзе-не-дзе зляцеў лісць чырвоны;
11 Ці снег у разводдзе падпарэ,
17 Но ён не зважае на гэта,
21 Тут кожны, сяўца хто ўбача,
27 А з зерня, што з добрага севу,

*Восень*
(«Эй, восень, восень...»)

*Зб. «Жалейка», 1908:*

18 Восень а шыбы
53 З поля сабраў вот
57 Ну, асталося
61—63 Вот і жыві тут,
І будзь шчаслівы,
І будзь багаты
67 Ба, і скацінцы
71 Горш яшчэ жыці,
93 Лоб счырванее

*Зіма*

(«Прыйшла зіма халодная...»)

*Зб. «Жалейка», 1908:*

11 Сапець, шуміць мяцеліца,
13 Мароз, ай кат бязжаласны,
15 Стральбой сваею пакаснай
22—23 Скаціна і народ,
У снег зямлі абноўлены.

*Мая хатка*

*Зб. «Жалейка», 1908:*

20 А столь із драніц.
30 Пры жорнах палок;
37 Так вот знайце ж маю хатку,
39 У ёй век цэлы жыву я,—

*Саха*

*Зб. «Жалейка», 1908:*

8 З цябе быў на полі.
15 Прыстроены мною
22—23 З мыліцай узбітай
К ярму прыкаваны
25 У ярмо кульбакі
27 Так жа і занозы
29 ...Такіх-та прыладаў
31 Каб здатнай была йна
42 Ідзі роўна сошка,
44 Запейма хоць трошка,
52 Хоць пан мой багаты.

*Лапці*

*Зб. «Жалейка», 1908:*

16—17 На лапці вашы,
Но з іх адзін хоць
18 Мусе астацца,

*Бабулька — прадаўчыца зёлак*

*Зб. «Жалейка», 1908:*

11 Пучкі дзевясілу,
15 Лячыць можна імі
27—28 Ё пэўна ўнукі,
Ба! Нават праўнукі.
37 Но ўсё ж праляцела,
43 Но старасць і беднасць
48 Так зёлкі збірае;

*Старцы*

*Зб. «Жалейка», 1908:*

6 Альбо й так аб што,
17 Там той з лірай у тры шчыра
28—29 Ці даюць хоць штось.
Вот паследні у абедні.

*Над магіламі*

*Зб. «Жалейка», 1908:*

7 І з людскай памяці

*Дзяўчынка, галубка мая!*

*Зб. «Жалейка», 1908:*

4 Любуюсь на яве і ў сне.
8 Уцехай кахання усплю.
19 Я буду дзяліць папалам
29—30 Но толькі, галубка мая,
Мяне сіраты пажалей,

*Да дзяўчатак*

*Зб. «Жалейка», 1908:*

1 Ой, дзевачкі, любачкі!
3 Я ў вашых, галубачкі,
16 Кепскі час настаў.
18 Кроў стала гуляць,
27 Дзе сонечкі-дзевачкі,
31—32 Хаця б з добрай славаю
Я яе пазбыў.
34 Весела варчыць,

*Сватаная*

*Зб. «Жалейка», 1908:*

7—8 Падумай, куды ця загоне,
Куды ця благі лёс пашле.
27 Прытыкаў заловак, ятровак,
34 Малое, начне прыбываць,
51—52 У цэркаў нядзелькай святою,
Не будзеш мець часу пайці.
54 Й пачнеш яго з страхам чакаць,
62 Зблядзее, паморшчыцца твар,
77 Званкі ўжо звіняць на дарозе,
87 Хто прышласці светлай не бача,

*Маладым на вяселлі*
(«Ужо звязалі рукі вам...»)

*Зб. «Жалейка», 1908:*

23 І ногі, й плечы хадуром,
25 Скарэй, скарэй яду набок!
36 І плачэць маладая?

*Шавец*

*Зб. «Жалейка», 1908:*

4 Капылы і скур'ё.
12 Шылам, дратвай мігнуў
16 Дый падкоўку на ём
28 Мужычок-небарак

*Паніч і Марыся*

*Зб. «Жалейка», 1908:*

5 Дваццаць лет Марысі,
10 Гаворыць ёй маці:
14 Матчыных маралаў:
32 Часам чорт наплуце...
35—36 Ужо рукі вяжа
Ксёндз хусткай ў касцеле;

*З дарогі*

*Зб. «Жалейка», 1908:*

1 Дарогай шырокай, з дарогі далёкай,
14 Пражыў ён у нэндзы цяжкой;
20 І дзетак калісь-то малых.
23 І хаты такія ж, гнілыя, старыя,
31 Бо ганак той самы, з нізкімі дзвярамі,—
35 Штось будзе тут скора, ці радасць, ці гора...
37 Ушоў, паглядае, сваіх пазнавае...

*Да радка 35 ёсць варыянт:*

Спаткнуўся ў ямку, бярэцца за клямку.

*Град*

*Зб. «Жалейка», 1908:*

3 Ці бачылі нэндзу ў вёсцы забытай?
9 Палац ваш смяецца над нэндзай бядачай,
14 Каб белага хлеба згатовіць для вас,
17—18 Эй! Песня ж ад вас, як ад пней, адаб'ецца;
Вы й песню бы рады здушыць, апляваць,
23 Эй! каб не спаткала вас доля Нарона!
24 Рым можных шаленства к упадку звялі...
26 Сяджу, аж прыходзе із вёскі мужык,

29 Ушоў, весь трасецца, стаіць у парозе,
40 Нідзе не дастаў, сам галодны саўсім,
41 І дома сямёра дзяцей асталося,
43 А дзеткі заводзяць і жонка галосе...
44 Не йдзі хоць у хату, так трудненька жыць
50 А сколькі слёз выліў, сам хіба не знаў,
56 Як глянеш, здаецца, па ней штось плыве.
68—69 Адсыплю ў магазын, падаткі аддам...
Напрасныя ж думкі былі усё гэта:
71 Напрасна я біўся вясну так і лета:
75 Но тут ішла страшная летняя бура,
82 Міргаючы, неба, маланак агнём,
95 Як раніцай летняй дзе на сенажаці
98—99 Но слёзаў цяперашні свет не узнае;
Сіл трэба магучых, каб вальчыць з бядою,

*Канюх*

*Зб. «Жалейка», 1908:*

1 Ёсць, братцы мае вы, у нашым народзе
4—7 І мне так жа сама дайшлося яно.
Навукі ў паданні тым многа, ой! многа
Для грэшных, трухлівых і цёмных людзей.
Ў ім бачыш, што кара спаткае ад Бога,
10 За часу, калі Бог тварыў гэты свет,
16—17 І пекна і міла было усё укруг.
Аднэй толькі рэчы яшчэ бракавала:
19 Праз гэта было плачу, енку нямала,—
27—28 І ямы капайце на студні і рэкі,
Но толькі к рабоце усе каб ішлі!
32 Але ён не знайдзе вадзіцы нідзе!
41—42 Но ўсе хоць так шчыра паслухалі Бога,
І сталі да працы усе, як адзін,
44—45 Ён гульма гуляець, як пан-гаспадзін...
Увідзеў Бог гэта з высокага неба,
54 На векі жыць будзеш ты толькі расой!
59 Хто сколькі захоча, нап'ецца вадзіцы
64 А самай жарой ён змушон усыхаць...
69 Так знайце жа, братцы, хто к працы вялікай
72 І будзь праклінаны ад братаў тваіх!»

*Сцёпка Жук*

*Зб. «Жалейка», 1908:*

3 Ўсімі хвалёны ў вёсцы,
18 Годзе, радзе ў полі, ў хаце,—
34—35 Пагуляйце, сколькі воля!

Но Сцяпан не зводзе вока;
37 Там і сям Сцяпан шатаўся,
49 З дворам, з панам Сцёпка ў згодзе:
55 Кормяць людзей мілёны
58—59 Каб настаў лад гэткі ў людзе;
Сцёпка ж буркне пад нос сціха:
62 І язык... эй, што сказаці!
67—68 А найбардзей, хоць то рэдка,
Як са сватам пахмяліцца.
78 Лепш па зіме лета меці,
88 Сірата без запамогі.
92 Цёнгля весел, не ўздыхае.
96 Як напрасныя ліц слёзы.

*Эпіграма*

(«Што клёпкі трэцяй не стае...»)

*Зб. «Жалейка», 1908:*
5 Но каб у пекле аж на дне

*Наша мінуўшчына*

*Чарнавы аўтограф:*
15—16 А колькі наспаў на ўзбярэжжы,
...І ўсё ж яшчэ нас многа, братцы.

## ПЕРАКЛАДЫ

*Тры Будрысы*

*Тэкст першадруку (зб. «Шляхам жыцця», 1913):*

Стары Будрыс трох сынаў, як сам, ёмкіх літвінаў
На дзядзінец заве і гавора:
Коні з пашы вядзеце; зброю, сёдлы браць з клеці!
А спраўляцца мне жвава і скора!

З Вільні вестку мне далі, што ўжо там наказалі
Тры вайны на тры света староны:
Вольгерд рускіх біць едзе, Скіргел — ляхаў-суседзяў,
А князь Кейстут заграбіць Тэўтоны.

Дзяцюкі вы не зломкі, для радзімай старонкі
На вайне пашукайце ўспамогі...
Не йду сёлета з вамі,— знаю — трапіце самі;
Трох вас ёсць і тры ёсць вам дарогі.

Вось адзін хай паспее за Альгердам у Расею
Па-над Ільмень, пад мур Навагроду;
Там — саболі і лісы, і злацістыя місы,
І ў баяраў там грошы — як лёду.

Едзь другі да Кейстута, а ўвіхайся там крута,
Крыжакам дай, як следна, па пятах;
Мерать там на асміны брыліянты, бурштыны,
Дарагіх шмат ксяндзоўскіх арнатаў.

Скіргел з трэцім памчыцца там, дзе Вісла бурліцца;
Беднату там убачыш ліхую,
Але возьмеш затое узбраенне стальное,
І мне стуль прывязеш сынавую.

Бо дзе [redacted] не быў толькі, спадабаў адны полькі,—
Так панадны мне стан іх дзявочы,
Твар іх бела-ружовы, як смоль — чорныя бровы,
Як дзве зоркі, так свецяцца вочы.

Маладым чалавекам я стуль быў прад паўвекам,
Сабе вывез палячку за жонку;
Хоць яна ўжо ў магіле, я ўбываю на сіле,
А ўсё ж міла гляджу ў ту старонку.

Даўшы так асцярогу, блаславіў на дарогу;
Яны ўзялі бронь, селі, пабеглі.
Сходзе восень, зіма йдзе, сыны ўсё там — вайна дзе;
Будрыс думаў, што ў бітвах палеглі.

Па сняжыстай дарожцы мчыцца ў зброі хтось к вёсцы,
А пад буркаю нешта хавае:
Кубел — гэта, знаць — ноша, а ў ім рускія грошы...
Не!.. Палячка — твая сынавая.

Па сняжыстай дарожцы мчыцца ў зброі хтось к вёсцы,
А пад буркаю нешта хавае:
Мусіць, з Прусаў, мой сыну, цягнеш кубел бурштыну...
Не!.. Палячка — твая сынавая.

Па сняжыстай дарожцы трэці нехта прэ к вёсцы,
А пад буркай вяліка дабыча,
Будрыс — што? — не пытае, толькі госці склікае,
На вяселле іх трэцяе кліча.

*Белавы аўтограф (рукапісны зб. «Шляхам жыцця»):*

33 *а* Так наўчыўшы, дарогу паказаў ім з парогу,
■ *Як у аснойным тэксце*
37 *а* Па сняжыстай дарожцы хтось ляціць збройны
к вёсцы,

*б Як у аснойным тэксце*

*Асобны аўтограф:*

3—8 На дзядзінец заве і гавора
Павыводзьце румакі
І наладзьце кульбакі
А спраўляцца і жвава і скора
Мне казалі ў Вільне
Што атрубяць нямыльне
10 Ольгерд рускіх наедзе
12—14 А князь Кейстут заграб Тэўтоны
Вы здаровыя хлопцы
Служыць едзьце старонцы
15—17 Кіньце родненькай хаты парогі
Няйду сёлята з вамі
Знаю, трапіце самі
19—20 Адзін з вас бегчы мусе
За Альгердам да Русі
22—23 Там саболі і лісы
І злацістыя місы
24 А ў баяраў там грошай як лёду
25—30 Другі едзь да Кейстута
Служы толькі там крута
Нішчы добра крыжакаў-псубратаў
Меруць там на асміны
Брылянты і бурштыны
Знойдзеш многа ксяндзоўскіх арнатаў
31—34 Скіргал з трэцім памчыцца
Там дзе Вісла струіцца
Беднату там увідзіш ліхую
Але возьмеш затое
36—38 І аттуль прывязеш сынавую
Дзе ні ездзіў я толькі
Спадабаў адны полькі
39—42 Стан іх стройны высокі ўрочы
Твар бялейшы ад млека.
З чорнай брывой павека
Як дзве гвяздкі так свецяцца вочы
44—54 Я быў стуль прад паўвекам
Прывёз польку-красотку за жонку

Хоць яна ў магіле
Я ўпадаю на сіле
А ўсё ж міла гляджу ў ту старонку
Так наўчыўшы,— дарогу
Паказаў ім з парогу
Яны селі і коні пагналі
Зіма студзе у вуху
А сыноў ані слуху.
Будрыс думаў што ў бітвах прапалі
56 Хтось зближаецца к вёсцы
57, 63 А пад буркай знаць нешта хавае
58—59 «Пэўне кубел харошы
А ў нім рускія грошы»
60, 66 Не! — Гэта полька твая сынавая
62 Хтось зближаецца к вёсцы
64 Пэўне з Прусаў мой сыну
65 Вязеш кубел бурштыну
68 Трэці нехта прэ к вёсцы
69 А пад буркай таўстая дабыча
71 Гасцей многа спрашае

*Лебедзь, Шчупак і Рак*

*Зб. «Жалейка», 1908:*
4—6 Ліха, марне прападзе.
У калёсы запрагліся
Раз Шчупак, Лебедзь і Рак;
8 Воз не рушыцца ніяк.
15 На калёсы і дагэтуль

*Соленая*

*Часоп. «Полымя», 1930, № 5—6:*
6 Кусочкаў з пяць,

*Пара*

*Зб. «Жалейка», 1908:*
2 Зямлю вашу падвярнулі.

*Каму*

*Зб. «Жалейка», 1908:*
10 Знае нэндзу цвёрдай долі,

*На жалейцы*

*Зб. «Жалейка», 1908:*
11 Злічыў, сколькі слёз ліецца
15 Бо сноп кожны б быў крывавы,
17 Ўзойдзе сонца, пусце косы
21 Но слёз высушыці мора

*Аўтограф:*

2 Вот і наўрэўся ты мне, дружочак!
5а Акурат ля майго зуба!
б Акурат па маім зубе!
6—7 К таму ж голад проста губе!
З'ем ця зараз на снеданне.
10 Але покі здоймеш скуру
12 Не еж ты мяне, як знаю,
15 Есці ж так не стыд ваўку.
17 Чую, хваце сілы, духу
19 Ідзе толькі мне аб тое
22 *Адсутнічае*
25—26 *Перастаўлены месцамі*
27—40 О! сколькі ж дабраты ў тваім сэрцы
А ў нас кажуць, што воўк-мардэрцы
Э! Брэшуць! Знамо як між галатою
Але ну іх там з брахнёю
Хадзі ж ка мне ў когці мой браце
І з скуры мяне абдзіраці —
Лішні заход, вяльможны пане,
Ёсць спосаб дагаднейшы
Што мне і мучэння ўбавя
А для ягомасці лацвейшы
Хай ваша аподаль стане
І ляпу разяве
А я і бухну ў яе як у рыну
А п цябе лыкну як сліну
41—42 Ха-ха-ха-ха
І засмяяўся тут па-воўчаму воўк
44 Язык выпер глытаці лаўчыцца
46 Як бадне пад ляпу рогам ваўка
48а Дзе пастух трасе ёмкай дубінай
б А пастух трасе ёмкай дубінай
49 Дый крычыць: біце ваўка! Цю-га! Цю-га!
52 Але дыша тонкімі бакамі
54 Сваё паганае атроддзе
56—60 Усё на адно неяк выходзе.
Нам гэтта такая навука
Што хоць барана з'есці ваўку і не штука
Але й баран з воўчых лап вырвацца можа
І слабы як не дурань дык сільнага зможа

*«Пажоўкнуў ліст... Прыгаслі вочы...»*

*Белавы аўтограф:*

1 Пажоўклы ліст, прытухлі вочы
4 Чы я жыву, чы дажываю,
7 Гдзе, ты доля? Гдзе ты доля?
22 Ой спаць, спаць на волі,
26 Чы жыў, чы загінуў.

*Як кароль у паход выходзіў...*

*Газ. «Наша ніва», 1914, № 46, 20 лістап.:*

9 На вайне там кулі свішчуць,
15 Стах ад раны памірае

*Думка*

(«Нашто чорныя мне бровы...»)

*Зб. «Жалейка», 1908:*

1—4 Нашто ж чорныя мне бровы
І карыя вочы,
Нашто ж леты маладыя,
Нашто ж твар дзявочы?
9 Сэрца вяне, нудзе светам,
14 На свеце мне жыці;
25—26 Людзі ж мяне не спытаюць,
Дык нашто ж пытаці? —
28 Няхай леты траце!
31 Плачце, моцна галасіце,
33 Заняслі каб ветры буйны
35—36 Маю цяжкую нядолю,
Маю бяду-гора!..

*Зб. «Жалейка» (Зб. тв., 1925, т. I):*

2 І чорныя вочы,
4 Нашто твар дзявочы?
14 На свеце мне жыці:
16 З некім гаварыці!
1, 25, 26, 28, 31, 35, 36 *Супадаюць з «Жалейкай», 1908.*

*Агароднік*

*Зб. «Жалейка», 1908:*

8 Глядзіць зорка, ды слухаець песню маю.
9—13 Агароднік дасціпны, я швэндаўся шмат;
Па дварах, па мясцах я багатых бываў,
І нагледзіўся там многа пекных дзяўчат,
А такой жа ні разу нідзе не відаў.
Бровы чорныя, стройна й прыгожа была.
17 Не раз чуў на сяле ад сваіх маладзіц,

20 Валасы нібы лён, сам ўвесь стройны такі.
22 Но, як глянуў я тут на пакоі яе,
24 Дый скарэй за мужыцкія думы свае.
28 Чаму неяк прыўныў і даўно не пяю.
30 Галаву звешу толькі на белую грудзь,
45 Пацямнела ў вачах, душу кінула ў дрож,
49 З таго часу з ёй шмат скаратаў я начэй,
51 Расплятаў, заплятаў касу светлую ей,
56 Аж хтось, цап! і «зладзея дзяржы!» —
тут крычыць

59—62 Красату з галавы вострай брытвай зняслі,
І жалезны убор на нагах зазвінеў.
Асцябалі спіну і пагналі дружка
Ад радзімай старонкі ў дальні краёк
64 Мужыкам, нам хамулам, ды панскіх дачок.

# КАМЕНТАРЫ[1]



У першы том уключаны вершы і пераклады 1904—1907 гг., польскамоўныя вершы.

У параўнанні з папярэднімі выданнямі ў том уведзены новы раздзел — Dubia, у якім змешчаны верш на польскай мове «Modlitwa» і верш «Гурка і Лідвалі».

Упершыню друкуецца польскамоўны верш «Kobiecie».

За асноўны тэкст большасці вершаў, змешчаных у першым томе, прыняты Збор твораў у шасці тамах (Мн., 1925—1932) як найбольш аўтарытэтнае, дакладнае і выверанае самім аўтарам выданне.

Тэксты твораў нанова зверany з усімі друкаванымі і рукапіснымі крыніцамі, вывучаны архіў паэта, вывераны і ўдакладнены варыянты аўтарскага тэксту, якія прыводзяцца ў раздзеле «Іншыя рэдакцыі і варыянты». У выніку праведзенай аналітычнай зверкі тэкстаў выпраўлены памылкі, скажэнні і недакладнасці, якія былі ў ранейшых публікацыях асобных твораў паэта.

Удакладнены даты напісання некаторых вершаў, напрыклад, «Што ты спіш?..», «Не рвіся к багатым», «Пашкадуй мужыка!» і інш.

Перагледжаны асобныя тэксталагічныя рашэнні, што былі прыняты ў папярэднім Зборы твораў у сямі тамах (Мн., 1972—1976). Гэта датычыцца вершаў «Там», «З песень нядолі» («Колькі жудкага...») і інш.

У параўнанні з папярэднім Зборам твораў на падставе друкаваных крыніц і вывучанага крытычнага матэрыялу ў вершах «З маіх песень», «З асенніх напеваў», «З песень нядолі» («Шумныя бярозы...»), «Касьба», «Шавец» узноўлены строфы, якія пасля 1908 г. адсутнічалі ва ўсіх выданнях. Узноўленыя строфы ў названых вышэй вершах падаюцца па зб. «Жалейка» (1908). У вершах «У зялёным садочку» («У зялёным

---

[1] Падрыхтоўка тэкстаў і каментарыі:

Вершы 1904—1907 гг., польскамоўныя вершы — *Забродская С. В.;* Вершы 1907 г., пачынаючы з верша «На беларускую выдавецкую суполку «Загляне сонца і ў наша аконца», раздзел 1905—1907 гг., пераклады, польскамоўныя вершы, пачынаючы з верша «Miłuję cię, ziemio» — *Шамякіна А. І.*

садочку...»), «Плачуць мае песні», «Дзе б і праўда жыла...», «З песень беларускага мужыка», «А ты, браце, спі!», «Дзяўчынка, галубка мая!», «На Палессі» і інш. захаваны праўкі, якія былі зроблены рэдкалегіяй Збору твораў у сямі тамах (1972—1976).

Нягледзячы на тое, што некаторыя друкаваныя крыніцы (напрыклад, энцыклапедычны даведнік «Янка Купала» (Мн., 1986), Зб. тв., 1951, т. I) для вершаў «Я не паэта», «Чорныя вочы» даюць пэўныя даты, гэтыя творы захаваны ў раздзеле «Вершы 1905—1907», паколькі ніводная дата ў названай літаратуры не аргументуецца.

Крыніцамі для ўстанаўлення дакладнага аўтарскага тэксту і датавання твораў з'яўляюцца: а) Збор твораў, т. I («Жалейка» — «Гусляр»). Мн., 1925; б) Збор твораў, т. II («Шляхам жыцця»). Мн., 1926; в) Збор твораў, т. V («Спадчына»). Мн., 1928; г) Збор твораў, т. VI. Мн.; 1932; д) Выбраныя творы, т. 1—2. Мн., 1935; е) Збор твораў, т. IV. Мн., 1940; ж) аўтографы паэта, што ў сваёй большасці захоўваюцца ў фондах Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы (у далейшым — ДзЛМЯнК); з) зб. «Жалейка», выд. «Загляне сонца і ў наша аконца». Пецярбург, 1908 (у далейшым — «Жалейка», 1908); і) зб. «Гусляр», Пецярбург, 1910; к) зб. «Шляхам жыцця» (у тым ліку рукапісны экземпляр і экземпляры аўтарскай карэктуры гэтага зборніка; л) зб. «Шляхам жыцця», выд. «Загляне сонца і ў наша аконца». Пецярбург, 1913 (у далейшым — «Шляхам жыцця», 1913); м) зб. «Шляхам жыцця», Вільня, 1923; н) зб. «Шляхам жыцця». Вільня, 1935; о) зб. «Спадчына». Беларускае кааперацыйна-выдавецкае таварыства «Адраджэнне». Мн., 1922 (у далейшым — «Спадчына», 1922); п) штотыднёвая беларуская газета «Наша ніва», 1907—1914. Вільня; р) зб. «Кабзар», Мн., 1939; с) часопіс «Полымя», 1929—1930; т) газета «Літаратура і мастацтва», 1940, 23 лістап. і іншыя перыядычныя выданні.

## ВЕРШЫ

### 1904

*Мая доля* (с. 49)

(«Мая доля, дык вось доля...»)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1930, № 5—6, дзе датуецца 15 ліпеня 1904 г. Пад тэкстам заўвага аўтара: «Прыводзячы ў парадак свае старыя архівы, я знайшоў сярод рукапісаў друкуемыя тут вершы, якія раней па цэлым шэрагу прычын, у тым ліку і цэнзурным, нідзе не друкаваліся. Янка Купала».

«Мая доля» — самы ранні з вядомых вершаў Я. Купалы на беларускай мове. У пазнейшых прыжыццёвых выданнях не друкаваўся.

Па сцвярджэнню сястры паэта, Леакадзіі Дамінікаўны Раманоўскай, верш «Мая доля» быў напісаны ў Селішчы. Там, успамінаў значна пазней Я. Купала, жыў парабак, які быў майстрам расказваць з вялікім захапленнем. «Так вот кто, пожалуй, был моим первым наставником, скорее, вдохновителем по отношению к моему впоследствии поэтическому творчеству». (Ліст да Л. Клейнбарта ад 21 верас. 1928 г.)

Захоўваецца аўтограф верша, напісанага лацінкай. Пад тэкстам аўтографа дата: 1904 г., 15 ліпеня і подпіс: І. Луцэвіч (ДзЛМЯнК, ф. А, воп. 1, адз. зах. 1).

Пасля даты ў аўтографе змешчана страфа, якая адсутнічае ва ўсіх прыжыццёвых выданнях:

Ах ты доля мая  
Не люблю ж я цябе  
Бо з табой да мяне  
Гора смутак ідзе.

Пасля гэтай страфы подпіс: Янка Купала.

На адвароце ліста з аўтографам верш на польскай мове «Kobiecie» («Кабеце»), дата напісання якога пазначана аўтарам: 14 ліпеня 1904 г.

У ДзЛМЯнК (ф. А, воп. 1, адз. зах. 362) захоўваецца таксама аўтограф наступнай страфы:

Ах, ты воля, мая воля,  
Залатая ты мая,  
Воля сокал паднябесны,  
Воля светлая зара.

Можна меркаваць, што дадзеныя радкі з'яўляюцца адным з варыянтаў страфы да верша «Мая доля» або запевам да новага цыкла.

Верш пераклалі: на рускую мову М. Браўн, на ўкраінскую — Дз. Паўлычка, на літоўскую — Э. Матузявічус, на калмыцкую — М. Ханінаў, на таджыкскую — М. Фархат, на ўзбекскую — Тулкун, на чувашскую — М. Уйп, на албанскую — Г. Джэй.

*Хорт* — паляўнічы сабака, з доўгай вострай мордай, доўгімі тонкімі нагамі і гладкай поўсцю.

### 1905

*Мужык* (с. 51)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II, дзе змешчаны ў раздзеле «Наша вёска».

Упершыню — газ. «Северо-Западный край», 1905, № 746, 15 мая. Пад тэкстам подпіс: Я. Купала.

Датуецца годам апублікавання.

Першы друкаваны твор паэта на беларускай мове. Спрыяў надрукаванню верша «Мужык» У. Самойла, беларускі публіцыст і літаратурны крытык, які першы заўважыў паэтычны талент Я. Купалы. (Ліст Я. Купалы да Л. Клейнбарта ад 21 верас. 1928 г.)

Верш уключаўся і ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Спадчына», 1922; Зб. тв., 1929, т. II; Выбр. тв., 1935, т. I.

Паводле характарыстыкі Я. Коласа, верш «з'яўляецца як бы праграмай усяе паэтычнае дзейнасці маладога Купалы аж да Кастрычніцкай рэвалюцыі. Які б твор гэтага перыяду мы ні ўзялі, ён абавязкова так або інакш пераклікаецца з гэтым вершам» (зб. «Памяці Янкі Купалы», М., 1943).

У белавым аўтографе (ДзЛМЯнК, ф. А, воп. 1, адз. зах. 118), які знаходзіцца ў рукапісным зборніку «Шляхам жыцця», Я. Купала зрабіў наступную заўвагу: «Верш гэты быў надрукаваны ў мінскай расейскай газеце «Северо-Западный край», 15/V 1905 г. у № 746. Гэта першы мой выступ у беларускай літаратуры. Аўтар».

У апошняй вядомай аўтабіяграфіі (1940) Я. Купала пісаў: «Первым стихотворением было написано «Ах ты, доля моя, доля» (гаворка ідзе пра верш «Мая доля».— *С. З.*), но напечатано первым было не оно, а «Мужик» в минской газете «Северо-Западный край» в 1905 г.». Усе творы, якія былі напісаны паэтам пасля верша «Мужык» (напісана было даволі шмат), пачалі з'яўляцца ў друку толькі ў 1907 г.

Як лічыць А. Лойка, верш «Мужык» пераклікаецца з вершам Ф. Багушэвіча «Дурны мужык, як варона», таксама як і вершы Я. Купалы «Мая доля» («Мая доля, дык вось доля...»), «Над калыскай» («Спі, маленькі мой сыночак...»), «Мая хата», з вершамі Ф. Багушэвіча «Не цурайся», «Гора», «Калыханка», «Мая хата» (Янка Купала. Энцыклапедычны даведнік. Мн., 1986. С. 59)[1].

«Северо-Западный край» — прагрэсіўная грамадска-палітычная і літаратурная газета, якая выходзіла на рускай мове з 1.11.1902 г. да 8.12.1905 г. у Мінску пад рэдакцыяй М. П. Мысаўскога. На старонках газеты друкаваліся творы Л. Талстога, А. Чэхава, У. Караленкі, М. Горкага, артыкулы пра А. Герцэна, В. Бялінскага, А. Міцкевіча, пра творы Цёткі.

Верш пераклалі: на рускую мову Н. Кіслік, А. Кудрэйка, У. Раждзественскі, на ўкраінскую — А. Малышка, М. Нагнібеда, Дз. Паўлычка, на азербайджанскую — А. Сарывелі, на армянскую — Ахаўні, на асецінскую — Н. Джусайты, на грузінскую — М. Мачаварыяні, на казахскую — Ж. Абдзірашаў, на калмыцкую — М. Ханінаў, на латышскую — Ю. Ванаг, М. Грынфелдэ, на малдаўскую — П. Дарые, на таджыкскую — М. Фархат, на ўзбекскую — Тулкун, на чувашскую — А. Алга, на эстонскую — М. Вээтам, на англійскую — У. Мэй, В. Рыч, на балгарскую — Н. Вылчаў, А. Германаў, на іспанскую — К. Шэрман, на нямецкую — Э. Эстэррайхер, на румынскую — С. Дэлчу, на французскую — у анталогіі беларускай паэзіі «У краіне паэтаў» (Парыж, 1982, перакладчык не названы).

На музыку верш паклаў К. Цесакоў (араторыя «Мы — беларусы»). Араторыя створана на вершы «А хто там ідзе?», «Мужык», «Выйдзі» Я. Купалы, «На будоўлі» П. Панчанкі і «Маці» М. Танка (у 6 частках, 1968 г., першае выкананне 1969 г.).

*Чашчавік* — падбярозавік.

---

[1] У далейшым — ЭД.

*Водклік з 29 кастрычніка 1905 г.*
*у Мінску* (с. 52)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1929, № 3, дзе датуецца 1906 (? ).

Улічваючы, што верш быў водгукам на кастрычніцкія падзеі 1905 г. і тое, што аўтарская дата (1906?) суправаджаецца пытальнікам, рэдкалегія дадзенага выдання лічыць, што верш быў напісаны адразу пасля кастрычніцкіх падзей 1905 г.

Рабочыя Мінска ўдзельнічалі ў Кастрычніцкай усерасійскай палітычнай стачцы 1905 г. 18 кастр. у Мінску каля вакзала Лібава-Роменскай чыгункі адбыўся 10-тысячны мітынг, дзе сацыял-дэмакраты заклікалі не верыць цару, які 17 кастр. 1905 г. выдаў маніфест, і прадаўжаць барацьбу супраць самадзяржаўя. Па патрабаванню ўдзельнікаў мітынгу мінскі губернатар П. Р. Курлоў вымушаны быў вызваліць палітвязняў. Аднак у гэты час па загаду губернатара салдаты акружылі плошчу і без папярэджання пачалі страляць па дэманстрантах. Было забіта больш за 80 чалавек і некалькі соцень паранена. Пахаванне забітых ператварылася ў антыўрадавую дэманстрацыю, якая адбылася 29 кастр. 1905 г.

Пад тэкстам аўтографа верша (ДзЛМЯнК, ф. А, воп. 1, адз. зах. 11) заўвага Я. Купалы: «Паправіў і перапісаў з чужога арыгіналу І. К.».

Верш уключаўся і ў пазнейшае прыжыццёвае выданне: Выбр. тв., 1935, т. 1.

Верш пераклалі: на рускую мову А. Андрэеў, Н. Кіслік, М. Сідарэнка, на ўкраінскую — З. Ганчарук, на грузінскую — Ш. Апхаідзе, на літоўскую — В. Бложа.

*У зялёным садочку* (с. 54)
(«Ой, не раз удваёчку...»)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — зб. «Спадчына», 1922, дзе датуецца 1905 г.

У ДзЛМЯнК захоўваецца аўтограф верша, напісаны лацінкай, пад тэкстам верша подпіс: Янук Купала (ф. А, воп. 1, адз. зах. 2).

У пазнейшых прыжыццёвых выданнях не друкаваўся.

Верш пераклалі: на ўзбекскую мову Тулкун, на чувашскую — М. Уйп, на албанскую — Г. Джэй.

На музыку верш пакладзены А. Туранковым.

*Снаваць* — тут — складаць, ствараць.

*Чаго б я хацеў...* (с. 55)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Жалейка», 1908, дзе датуецца 1905 г.

Уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Выбр. тв., 1935, т. I; Зб. тв., 1940, т. 4.

Верш пераклалі: на рускую мову Н. Кіслік, Я. Нячаеў, А. Пракоф'еў, на ўкраінскую — Дз. Паўлычка, на асецінскую — А. Пухаеў, на чувашскую — М. Уйп, на албанскую — Г. Джэй.

*Думы маркотныя...* (с. 56)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1929, № 2, дзе датуецца 1905 г.

Да публікацыі ў часоп. «Полымя» паэт зрабіў наступную заўвагу: «Паданыя тутака мае творы напісаны да рэвалюцыі 1917 г., якія былі згублены і выпадкова знайшліся цяпер у вядомага апякуна беларускіх пісьменнікаў дарэвалюцыйнае эпохі Бр(аніслава) Ігн(атовіча) Эпімах-Шыпілы ў часе перагляду ім сваёй вялікай бібліятэкі. Рукапісы гэтыя

былі пакінуты мною ў Бр. Ігн., калі яшчэ я жыў у яго ў 1909—1913 гг. у Пецярбурзе і аб якіх ■ сам ужо быў забыўся. Упарадкаваўшы і прарэдагаваўшы гэты знойдзены матэрыял, я палічыў патрэбным апублікаваць яго — з пэўнымі ўвагамі да некаторых вершаў — на старонках «Полымя». Адначасна выказваю тут шчырую падзяку праф. Эпімах-Шыпілу за яго мілую для мяне неспадзеўку. Я. Купала».

А ў лісце да Л. Клейнбарта ад 25 чэрв. 1929 г. з гэтай жа нагоды Я. Купала пісаў: «Поделюсь с Вами приятной для меня неожиданностью: нашлась часть моих рукописей, о которых я думал, что пропали, нашлись они, конечно, в богатом архиве Б. И. Эпимах-Шипилло. Сейчас их привожу ■ порядок и думаю опубликовать в «Полымі». Рукопись большей частью 1906—1907 гг. Кроме непечатанных, имеются оригиналы использованные, но все датированные, так что можно восстановить почти полную хронологию всего мною написанного, учтя вещи, печат⟨авшиеся⟩ в «Нашай ніве» большей частью с датой». На жаль, аўтографы вершаў, аб якіх вядзе гаворку Я. Купала, не захаваліся.

Уключаўся і ў пазнейшае прыжыццёвае выданне: Выбр. тв., 1935, т. I.

Верш пераклаў на рускую мову У. Раждзественскі.

## 1906

### *Нуда* (с. 58)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Жалейка», 1908, дзе датуецца 10 сакавіка 1906 г.

Уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1940, т. 4.

Верш пераклалі: на рускую мову Н. Кіслік, Г. Сямёнаў, на балгарскую — Н. Вылчаў.

### *Каршун* (с. 59)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1929, № 3, дзе датуецца 12 сакавіка 1906 г.

Верш уключаўся і ў пазнейшае прыжыццёвае выданне: Выбр.тв., 1935, т. 2.

Пераклаў на балгарскую мову Н. Вылчаў.

### *Нябожчык* (с. 60)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Жалейка», 1908, дзе датуецца 18 сакавіка 1906 г.

Верш уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1940, т. 4.

Пераклалі на рускую мову І. Аўраменка, Н. Кіслік, Я. Нячаеў.

*Пекацца* — мець вялікія і цяжкія турботы.

*Локаць* — старадаўняя мера даўжыні, роўная прыблізна 0,5 метра.

### *З песень а бітвах* (с. 62)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Жалейка», 1908, дзе датуецца 30 сакавіка 1906 г. Надрукаваны пад загалоўкам «З песняў а бітвах».

У зб. «Жалейка», 1908 верш друкаваўся без апошняй страфы (паўтор першай).

Уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1940, т. 4.

Верш пераклалі: на рускую мову Г. Сямёнаў, на ўкраінскую — Дз. Паўлычка, на балгарскую — Н. Вылчаў, на польскую — І. Сікірыцкі.

*Сурма* — старажытны духавы інструмент.

*Паэтам* (с. 63)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1929, № 3, дзе датуецца 31 сакавіка 1906 г.

Уключаўся і ў пазнейшае прыжыццёвае выданне: Выбр. тв., 1935, т. I.

Верш пераклаў на ўкраінскую мову Дз. Паўлычка.

*Не клянiце мяне* (с. 63)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1929, № 2, дзе датуецца 15 красавіка 1906 г.

Уключаўся і ў пазнейшае прыжыццёвае выданне: Выбр. тв., 1935, т. I.

Верш пераклалі: на рускую мову Б. Кежун, Н. Кіслік, на ўкраінскую — Дз. Паўлычка, В. Струцінскі, на асецінскую — А. Пухаеў, на латышскую — Ю. Ванаг, на балгарскую — І. Давыдкаў.

*Што ты спіш?..* (с. 66)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI, дзе датуецца 1906 г.

Упершыню — кн. І. Свянціцкага «Адраджэнне беларускага пісьменства» (Львоў, 1908), з падзагалоўкам «Пабудка». Твор падпісаны псеўданімам: Марка Бяздольны. Побач з вышэйназваным вершам у кнізе быў надрукаваны верш «Там». Кніга была забаронена галоўным чынам за тое, што ў ёй былі змешчаны вершы Я. Купалы «Што ты спіш?..» і «Там». Цэнзар М. А. Васянцовіч-Макарэвіч пісаў: «Сапраўды, у першым вершы («Што ты спіш?..».— *С. З.*) звяртаецца ўвага мужыка на тое, што на яго грошы робіцца ўсё: цар і палац сабе будуе, і вайну вядзе, а мужык з дзецьмі памірае ад голаду. Дык няхай жа ён ідзе з касою ў руцэ і патрабуе звароту сабе ўсяго, што яму належыць, няхай крычыць на ўвесь свет, што з ім зрабіў цар!.. У другім вершы апісваецца, як «там» змагары за свабоду ідуць на шыбеніцу, а цар стаіць з нагайкай над тымі, што сваім потам палiваюць зямлю. Паўстаньце ж, покуль цар яшчэ не высмактаў усёй крыві з вас! Думаю, што гэтага ўпаўне дастаткова для забароны брашуры з нявыдачай прасіцелям» («Пуцявінамі Янкі Купалы». Мн., 1981. С. 58).

Верагодней за ўсё верш напісаны да 7(20).4.1906 г. Падставу для такога сцверджання дае той факт, што верш «Што ты спіш?..» у выкананні А. Бурбіса прагучаў на Пятроўшчынскім прадстаўленні, якое адбылося 7 (20).4.1906 г. у маёнтку Пятроўшчына пад Мінскам. Разам з гэтым вершам прагучалі вершы «Не рвіся к багатым», «Пашкадуй мужыка!» (Скалабан В. «Пятроўшчынскае прадстаўленне». Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі. Мн., 1984. Т. 4. С. 434—435).

Верш уключаўся і ў пазнейшае прыжыццёвае выданне: Выбр. тв., 1935, т. I.

*«Адраджэнне беларускага пісьменства»* — першая буйная беларусазнаўчая праца Іларыёна Сямёнавіча Свянціцкага (1876—1956) — вучонага, даследчыка беларускай літаратуры і ўкраінска-беларускіх сувязей. Кніга ўпершыню ўбачыла свет за межамі расійскай імперыі ў аўстрыйскім тады г. Львове ў 1906 г. Адтуль нелегальна была дастаўлена на Беларусь.

Два вершы Я. Купалы «Там» і «Што ты спіш?..» завяршаюць даследаванне І. Свянціцкага. Як сведчыць І. Свянціцкі ў лісце да У. Ф. Луцэвіч ад 28 лістап. 1949 г., ён атрымаў аўтографы вершаў «Там» і «Што ты спіш?..» непасрэдна ад Я. Купалы пад час адной з сустрэч у Пецярбурзе летам 1907 г. (ДзЛМЯнК, фонды. Аўтограф). Літаратуразнавец Г. Кісялёў адзначае пярэчанні наконт даты сустрэчы І. Свянціцкага з Я. Купалам і таго, як І. Свянціцкі атрымаў рукапісы вершаў паэта. «Сустрэча І. Свянціцкага з Я. Купалам у Пецярбургу ў 1907 г. здаецца вельмі сумніцельнай,— разважае Г. Кісялёў,— бо, наколькі вядома, паэт першы раз прыехаў у Пецярбург у канцы 1909 г. Трэба думаць, ва ўспамінах сумешчаны дзве падзеі: 1) атрыманне Свянціцкім рукапісаў Купалы ў Пецярбургу ў Эпімах-Шыпілы ў 1907 г. і 2) пазнейшая (не раней 1909 г.) сустрэча Свянціцкага з Купалам у Пецярбургу на кватэры Эпімах-Шыпілы» («Пуцявінамі Янкі Купалы». Мн., 1981. С. 59).

Верш пераклалі: на рускую мову Б. Кежун, на ўкраінскую — Р. Лубкіўскі, на грузінскую — М. Чачава, на калмыцкую — М. Ханінаў, на кіргізскую — Ц. Уметалieў, на латышскую — Ю. Ванаг.

*Васняцовіч-Макарэвіч М. А.*— малодшы цэнзар Цэнтральнага камітэта замежнай цэнзуры ў Пецярбурзе ў пач. XX ст. Ажыццяўляў нагляд за беларускімі і ўкраінскімі выданнямі, што выходзілі за мяжой.

*Чынш* — на Беларусі і ў Літве ў XV — XIX стст.— грашовы аброк.

*Магазыннік* — утрымальнік грамадскага або прыватнага свірана (магазына), адкуль выдавалася збожжа ў крэдыт.

*Не рвіся к багатым* (с. 69)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. 1.

Упершыню — «Жалейка», 1908.

Верш напісаны да 7(20).4.1906 г. (гл. каментарый да верша «Што ты спіш?..»).

Уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. 1; Выбр. тв., 1935, т. І.

Верш пераклалі: на рускую мову Б. Ірынін (У ЦДАЛіМ, г. Масква, захоўваецца аўтограф перакладу (ф. 2573, воп. 1, адз. зах. 8), на украінскую — Р. Бойка, Дз. Паўлычка, на польскую — А. Баршчэўскі.

Верш цытуецца ў працы Я. Карскага «Белорусы» (т. 3, вып. 3, Пг., 1922)[1].

*Пашкадуй мужыка!* (с. 69)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. І.

Упершыню — «Жалейка», 1908, дзе надрукаваны пад загалоўкам «Пажалей мужыка».

Верш напісаны да 7(20).4.1906 г. (гл. каментарый да верша «Што ты спіш?..»).

Уключаўся і ў іншыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. 1; Выбр. тв., 1935, т. І;

Дыяменты беларускага прыгожага пісьменства. Кіеў, 1919;

Беларуская вёска, 1930, 24 мая.

Верш цытуецца ў працы Я. Карскага «Белорусы».

*Лахман* — старое паношанае або падранае адзенне; лахмоцце; кавалкі, абрыўкі адзення, матэрыі.

---

[1] У далейшым — Я. Карскі. «Белорусы».

*Там* (с. 70)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI, дзе датуецца 1906 г.

Упершыню — кн. І. Свянціцкага «Адраджэнне беларускага пісьменства» (Львоў, 1908), пад псеўданімам Янка Купала (гл. каментарый да верша «Што ты спіш?..»).

Рэдкалегіяй сямітомнага Зб. тв. паэта (1972—1976) у асноўны тэкст верша ўнесена праўка. Радок 34 асноўнага тэксту выпраўлены па першадруку: «Свабоды сонца вас заве!» замест «Свабода, сонца вас заве!» Змена ў тэксце толькі канстатуецца ў каментарыях, хаця матывы, на аснове якіх адзін варыянт тэксту замяняецца іншым, не зразумелыя. Адной канстатацыі змены недастаткова пры ўнясенні праўкі ў тэкст, прыняты за асноўны, бо існуе небяспека аўтарскую дапрацоўку тэксту прыняць за недакладнасць або памылку. Рэдкалегія дадзенага выдання не прызнала ўнесеную праўку ў асноўны тэкст правамернай і пакінула варыянт радка, які друкаваўся ва ўсіх прыжыццёвых публікацыях за выключэннем першадруку.

Я. Ф. Карскі ў працы «Белорусы» адзначае, што ў вершы «Там» «особенно ярко выражен призыв к борьбе за свободу».

Уключаўся і ў пазнейшае прыжыццёвае выданне: Выбр. тв., 1935, т. І.

Верш пераклалі: на рускую мову М. Ісакоўскі, Н. Кіслік, Дз. Леванеўскі, на ўкраінскую — М. Прыгара, Дз. Паўлычка, на асецінскую — А. Пухаеў, на армянскую — Г. Камуні, на казахскую — Ж. Абдзірашаў, на латышскую — Ю. Ванаг, на малдаўскую — П. Дарые, на літоўскую — Я. Матузявічус, на туркменскую — А. Ніязаў, на чувашскую — М. Яўстаф'еў, на балгарскую — Н. Вылчаў, на англійскую — У. Мэй, на іспанскую — К. Шэрман.

Паводле матываў верша М. Савіцкі напісаў карціну «Мужыкі».

*І як тут не смяяцца...* (с. 72)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. І.

Упершыню — «Жалейка», 1908. Пад загалоўкам пазначана: «Куплеты».

Датуецца 12 мая 1906 г.

У зб. перакладаў твораў паэта на ўкраінскую мову «Выбрані твори. 1905—1936». Київ — Харків, 1937, верш датуецца 12 мая 1906 г. У выданні гэтага зборніка Я. Купала прымаў актыўны ўдзел, аб чым сведчыць ліст паэта ад 19 крас. 1937 г. да Т. Масэнкі — рэдактара зборніка.

Дарагі Тэрэнь Германавіч! Дасылаю Вам спісак вершаў з датамі. Недакладна падпісаны толькі два вершы — «Песні», няма пачатковых радкоў, так што не ведаю, якія гэта песні».

Спісак, аб якім вядзе гаворку Я. Купала, не захаваўся. Многія даты з украінскага зборніка, якія былі прастаўлены на аснове спіска, адсутнічаюць у беларускіх выданнях або разыходзяцца з імі. З 61 верша, змешчанага ў зборніку, такіх выпадкаў больш за 20 («А хто там ідзе?», «Як вазьму жалейку ў рукі», «Адповедзь» і інш.). Вывучэнне рукапісных крыніц і іншых архіўных матэрыялаў дазваляе зрабіць выснову, што многія даты ў гэтым спіску былі пастаўлены Я. Купалам, відаць, па памяці, і таму не зусім дакладна.

Што датычыцца верша «І як тут не смяяцца...», то ўкраінскі зборнік — адзіная крыніца з аўтарскім датаваннем гэтага твора, што, зразумела, не выключае неабходнасці далейшага даследавання пытання аб датаванні гэтага верша.

У каментарыях да 1-га т. Зб. тв. Я. Купалы ў 7-мі тт. (Мн., 1972—1976) памылкова адзначана, што верш у зб. «Жалейка», 1908 да-

туецца 1905(? ). Верш у зб. «Жалейка», 1908 зусім не датуецца, як не датуецца і ў другім выданні зб. «Жалейка», які ўвайшоў ў склад Зб. тв. 1925—1932.

У 86 радок верша ў асноўны тэкст рэдкалегіяй сямітомнага Зб. тв. (1972—1976) унесена слушная сэнсавая праўка па першадруку: *абралі старшыной* замест *абралі старшынёй.*

Паводле ўспамінаў Г. І. Гарэцкага, у Горацкім каморніцка-агранамічным і землеробчым вучылішчах у 1914—1919 гг. папулярнасць твораў Я. Купалы была ўжо вялікай: «Вершы Купалы дэкламаваліся на вечарах і самадзейных канцэртах, на некаторыя купалаўскія вершы студэнты-навучэнцы самастойна складалі песні. Студэнты Аляксей Ляднеўскі і Мікіта Лайкоў, маючы прыгожыя галасы (бас і тэнар), з поспехам спявалі на ўласныя матывы «Гэта крык, што жыве Беларусь», «Вось тут і жыві», «Я не паэта», «І як тут не смяяцца...». Апошнія радкі-прыпеўкі дружна падхопліваліся грамадою студэнтаў». (Гаўрыла Гарэцкі. Вобраз Янкі Купалы ў маім успрыманні // Успаміны пра Янку Купалу.— Мн., «Маст. літаратура», 1982. С. 46.)

Уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. 1; Выбр. тв., 1935, т. 1; Зб. тв., 1940, т. 4.

Верш пераклалі: на рускую мову Д. Бродскі, Н. Кіслік, Б. Цімафееў, на ўкраінскую — П. Дарошка, на казахскую — Ж. Абдзірашаў, на латышскую — Ю. Ванаг, на эстонскую — Х. Юрысан, на іспанскую — К. Шэрман.

На музыку верш пакладзены У. Мулявіным.

*Адзін* (с. 75)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Жалейка», 1908, дзе датуецца 28 мая 1906 г.

Верш уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1940, т. 4.

У першы пасляваенны Зб. тв. паэта (Мн., 1951—1954) верш не быў уключаны.

Верш пераклаў на рускую мову Я. Нячаеў.

*Зашумеў лес разгуканы* (с. 76)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1930, № 5—6, дзе датуецца 2 чэрвеня 1906 г. Верш надрукаваны пад загалоўкам «Урывак».

Рэдкалегіяй Зб. тв. у шасці тамах (1951—1954) радок 2 выпраўлены па першадруку. У асноўным тэксце: «Нівы задрымалі». Памылковая замена літары «ж» на «м» прывяла да скажэння тэксту.

Уключаўся і ў пазнейшае прыжыццёвае выданне: Выбр. тв., 1935, т. 1.

Верш пераклалі: на рускую мову М. Ісакоўскі, на ўкраінскую — А. Малышка, на армянскую — А. Лусенц, на грузінскую — Г. Цэцхладзе, на казахскую — Ж. Абдзірашаў, на літоўскую — В. Бложа, на туркменскую — А. Ніязаў, на чувашскую — А. Эсхель, на англійскую — У. Мэй, на балгарскую — Н. Вылчаў, на кітайскую — Чжу Цзі.

*Для куска хлеба* (с. 78)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1929, № 2,дзе датуецца 11 чэрвеня 1906 г.

Уключаўся і ў пазнейшае прыжыццёвае выданне: Выбр. тв., 1935, т. 1.

Верш пераклалі: на рускую мову І. Бурсаў, на ўкраінскую — Дз. Паўлычка, на грузінскую — Г. Каландадзе, на чувашскую — Г. Яфімаў.

*Мая эпітафія* (с. 79)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI, дзе ўпершыню апублікаваны. Пад тэкстам дата: 12 чэрвеня 1906 г.

У пазнейшых прыжыццёвых выданнях не друкаваўся.

Верш пераклалі: на рускую мову Н. Кіслік, на ўкраінскую— А. Малышка, на асецінскую — А. Пухаеў, на іспанскую — К. Шэрман.

*Песенька для некаторых маладых людзей* (с. 79)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Жалейка», 1908, дзе датуецца 24 чэрвеня 1906 г.

Верш уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Выбр. тв., 1935, т. I.

*Над калыскай* (с. 81)

(«Спі, маленькі мой сыночак!..»)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. 1.

Упершыню — «Жалейка», 1908, дзе датуецца 26 чэрвеня 1906 г.

У зб. «Жалейка», 1908, пад тэкстам памета: (Наследаванне з Лермантава), а ў Зб. тв., 1925, т. I і ва ўсіх наступных выданнях пазначана: (Наследаванне). У каментарыях да 1-га т. Зб. тв. Я. Купалы ў 7-мі тамах (Мн., 1972—1976) як крыніца наследавання называецца верш М. А. Някрасава «Калыханка». Аднак сам някрасаўскі верш напісаны паводле лермантаўскай «Казацкай калыханкі».

Радкі (45—48, 69—72), якія маюць асобую выкрывальную сілу, апушчаны ў «Жалейцы», 1908 верагодней за ўсё з цэнзурных меркаванняў. Узноўлены паэтам толькі ў Зб. тв., 1925, т. 1.

Уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1940, т. 4.

Верш пераклалі: на рускую мову Н. Кіслік, В. Шэфнер, на ўкраінскую — А. Малышка, на латышскую — Ю. Ванаг.

*Стражнік* — да рэвалюцыі — ніжэйшы паліцэйскі чын у сельскіх мясцовасцях, падпарадкаваны ўрадніку.

*Мая малітва* (с. 83)

(«Я буду маліцца і сэрцам, і думамі...»)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1929, № 2, дзе датуецца 5 ліпеня 1906 г.

У пазнейшых прыжыццёвых выданнях не друкаваўся.

Верш пераклалі: на рускую мову А. Пракоф'еў, І. Садоф'еў, на ўкраінскую — А. Малышка, на асецінскую — А. Пухаеў, на малдаўскую — П. Дарые, на англійскую — У. Мэй, В. Рыч, на французскую — у анталогіі беларускай паэзіі «У краіне паэтаў» (Парыж, 1982, перакладчык не названы).

*Ой, чаму на хаты гэтыя?..* (с. 84)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. 1.

Упершыню — «Жалейка», 1908, дзе датуецца 26 ліпеня 1906 г.

Уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. 1; Зб. тв., 1940, т. 4.

Верш пераклалі: на рускую мову М. Браўн, М. Янчук, на ўкраінскую — Т. Масэнка.

*«Вось так хлопец, вось так ён...»* (с. 84)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1929, № 3, дзе датуецца 26 ліпеня 1906 г. Верш надрукаваны разам з іншымі вершамі пад агульнай рубрыкай «Эпіграмы».

Пад рубрыкай «Эпіграмы» разам з вершам «Вось так хлопец, вось

так ён...» у часопісе змешчаны: «На бел(арускую) выд(авецкую) сутолку «Загляне сонца і ў наша аконца» (I. «Што і мы аб чымсь дбаем,— выдавецкую маем...», II. «Горы абяцаці... »), «Ён і работнік грамадзянскі...», «То беларус, то палячок...», «Ў кавярні водзіць рэй і лад...», «Варшаўскіх брукаў марны франт...», «Мо чалавекам з рук, з вачэй...», «Любіць ён работу...», «Дэпутату N.N.». Пад тэкстам апошняга твора дата: 26 ліпеня 1906 г.

У пазнейшых прыжыццёвых выданнях не друкаваўся.

Верш пераклаў на рускую мову Н. Кіслік.

*Дзе ні вылеці з няволі...* (с. 85)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Жалейка», 1908, дзе датуецца 10 жніўня 1906 г. Верш надрукаваны пад загалоўкам «З песняў аб мужыцкім горы».

Уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1940, т. 4.

Верш пераклаў на рускую мову I. Аўраменка.

*Паняверка* — няпэўны стан, сумненне, нерашучасць, тут — гора, нядоля.

*Адрына* — халодная будыніна для захоўвання кармоў, сельскагаспадарчага інвентару.

*Папар* — поле, пакінутае незасеяным з мэтай паляпшэння глебы пад пасеў азімых.

*Вольха* (с. 87)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. 1.

Упершыню — «Жалейка», 1908, дзе датуецца 14 жніўня 1906 г.

Уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1940, т. 4.

Верш пераклалі: на рускую мову М. Камісарава, Н. Кіслік, Я. Нячаеў, на ўкраінскую — М. Шапавал, на асецінскую — А. Пухаеў, на ўзбекскую — Тулкун, на польскую — Я. Лапскі.

*Я бачыў* (с. 87)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Жалейка», 1908, дзе датуецца 15 жніўня 1906 г.

Уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. 1; Выбр. тв., 1935, т. 1.

Верш пераклалі: на рускую мову В. Колычаў, Я. Нячаеў, А. Пракоф'еў, М. Янчук, на ўкраінскую — М. Цярэшчанка, на асецінскую — А. Пухаеў, на ўзбекскую — Тулкун, на чувашскую — Г. Яфімаў, на англійскую — У. Мэй.

На аснове тэкстаў народных песень і вершаў Я. Купалы «Родныя песні» і «Я бачыў...», «Я не паэта» В. Помазаў напісаў вакальна-сімфанічную паэму «Янка Купала» (1982).

*Ліпа* (с. 88)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Жалейка», 1908, дзе датуецца 15 жніўня 1906 г.

У перавыдадзеным I томе (1954) Зб. тв. паэта ў шасці тамах (Мн., 1951—1954) 12 радок верша друкаваўся ў іншым варыянце: *«спазнаці усё абрыдне»* замест варыянта, які друкаваўся ва ўсіх прыжыццёвых выданнях паэта: *«збадаці усё абрыдне»*. Слова польскага паходжання «збадаці» (даследаваць, вывучаць) з-за меншай зразумеласці і распаўсюджанасці было заменена на больш знаёмае: «спазнаці». У наступным Зб. тв. (Мн., 1961—1963) 12 радок быў узноўлены ў купалаўскім варыянце.

Уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. І; Зб. тв., 1940, т. 4.

Верш пераклалі на рускую мову М. Камісарава, А. Чачыкаў.

*Патоля* — тут — літасць.

*Шчасце* (с. 89)

(«Мы гонімся часта за мараю блуднай...»)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. І.

Упершыню — «Жалейка», 1908, дзе датуецца 18 жніўня 1906 г. Уключаўся і ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Шляхам жыцця»; 1913; Зб. тв., 1928, т. І; Зб. тв., 1940. т. 4.

Верш пераклалі: на рускую мову Я. Нячаеў, У. Раждзественскі, на ўкраінскую — Дз. Паўлычка, В. Ткачэнка, на латышскую — Ю. Ванаг, на ўзбекскую — Тулкун.

*Над сваёй Айчызнай* (с. 89)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. 1.

Упершыню — «Жалейка», 1908, дзе датуецца 28 жніўня 1906 г.

У Зб. тв., 1925, т. І верш змешчаны з наступнай заўвагай рэдакцыі: «Зварот поэты да нейкага «бога», які быццам «стварыў свет» — ёсць не болей як паэтычны зварот. Біблейская казка аб стварэнні свету богам зруйнавана сучаснай навукай і адкінута назаўсёды».

Верш уключаўся і ў пазнейшае прыжыццёвае выданне: Зб. тв., 1928, т. І.

У першы пасляваенны Зб. тв. паэта (Мн., 1951—1954) верш не ўключаны.

Я. Ф. Карскі ў сваёй працы «Белорусы» пісаў: «Той же любовью к родине вызвано стихотворение «Над сваёй Айчызнай», в котором автор спрашивает, куда девалось его отечество, то время, когда кругом был свой народ, который все свое любил, пел свои песни и не стыдился своей одежды» (Е. Ф. Карский. «Белорусы». Т. 3. Петроград, 1921. С. 266).

Верш пераклалі на рускую мову Н. Кіслік, М. Янчук.

*Канюх* (каня, кнігаўка) — птушка сямейства сеўцападобных, дакучлівы манатонны крык якой нагадвае слова «піць».

*Песня жней* (с. 90)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. І.

Упершыню — «Жалейка», 1908, дзе датуецца 2 верасня 1906 г. Надрукаваны пад загалоўкам «Песня жнеяў».

Уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. І; Выбр. тв., 1935, т. 1.

Верш пераклалі: на рускую мову Я. Нячаеў, А. Пракоф'еў, на ўкраінскую — А. Малышка, на асецінскую — Г. Пліеў, на балгарскую — Х. Берберау.

*Спрасоння* (с. 92)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. І.

Упершыню — «Жалейка», 1908, дзе датуецца 10 верасня 1906 г.

Уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. І; Выбр. тв., 1935, т. 1; Зб. тв., 1940, т. 4.

Верш пераклалі: на рускую мову М. Камісарава, Я. Нячаеў, на ўкраінскую — А. Капштэйн, Дз. Паўлычка, на чувашскую — А. Эсхель, на польскую — Б. Жыранік.

*Панарад* — тут — калёсы без драбін.

*Патоля* — гл. заўвагу да верша «Ліпа».

*Не тужы* (с. 93)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1929, № 2, дзе датуецца 16 кастрычніка 1906 г.

Уключаўся і ў пазнейшае прыжыццёвае выданне: Выбр. тв., 1935, т. I.

Верш пераклалі: на рускую мову Н. Кіслік, Л. Хаўстаў, на ўкраінскую — А. Грызун, Дз. Паўлычка.

*«Пакіньма капуста на лёс свой наракаць...»* (с. 94)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1929, № 2, дзе датуецца 22 кастрычніка 1906 г.

У пазнейшых прыжыццёвых выданнях не друкаваўся.

Верш пераклалі: на рускую мову У. Садоф'еў, М. Сідарэнка, на ўкраінскую — Дз. Паўлычка, на асецінскую — А. Пухаеў, на латышскую — Ю. Ванаг, на літоўскую — Э. Матузявічус, на чувашскую — Г. Яфімаў.

Верш уваходзіць у вакальны цыкл У. Мулявіна на вершы Я. Купалы. Акрамя гэтага твора ў цыкл уваходзяць наступныя вершы: «...Ты мне песню спей, дзяўчына...», «...Пакахай мяне, дзяўчынка...», «Людка», «Разлад», «...Не глядзі...», «І як тут не смяяцца...», «Паніч і Марыся», «З кірмашу», «Я не паэта». Вакальны цыкл напісаны да 100-годдзя з дня нараджэння Я. Купалы.

*За што?..* (с. 95)

(«Маці мая, маці...»)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1929, № 2, дзе датуецца 31 кастрычніка 1906 г.

У пазнейшых прыжыццёвых выданнях не друкаваўся.

Верш пераклалі: на рускую мову Н. Кіслік, А. Пракоф'еў, на ўкраінскую — Дз. Паўлычка, на кіргізскую — Ц. Уметаліеў, на латышскую — Х. Галіньш, на малдаўскую — І. Геаргіцэ.

*З людзьмі* (с. 96)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1929, № 3, дзе датуецца 9 лістапада 1906 г.

У пазнейшых прыжыццёвых выданнях не друкаваўся.

Верш пераклала на рускую мову М. Камісарава.

*Пойдзем...* (с. 96)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1929, № 2, дзе датуецца 27 лістапада 1906 г.

Уключаўся і ў пазнейшае прыжыццёвае выданне: Выбр. тв., 1935, т. I.

Верш пераклалі: на рускую мову М. Сідарэнка, на кітайскую — Чжу Цзі .

*Да N.* (с. 97)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI, дзе змешчаны ўпершыню. Пад тэкстам дата: 8 снежня 1906 г.

Уключаўся і ў пазнейшае прыжыццёвае выданне: Выбр. тв., 1935, т. I.

Верш пераклаў на ўкраінскую мову Дз. Паўлычка.

*Родныя песні* (с. 97)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — часоп. «Беларускае жыццё», 1919, № 13, 14 верас., дзе датуецца 1906 г.

У ДзЛМЯнК захоўваецца аўтограф верша з подпісам: Янка Купала і датай: 1906 г. (ф. А, воп. 1, адз. зах. 10).

Уключаўся і ў пазнейшае прыжыццёвае выданне: Выбр. тв., 1935, т. I.

Верш пераклалі: на рускую мову В. Шэфнер, на ўкраінскую — В. Ткачэнка, на армянскую — Ахаўні, на польскую — Ф. Няўважны.

*Часоп. «Беларускае жыццё»* — грамадска-палітычны і літаратурны часопіс нацыянал-дэмакратычнага накірунку. Выдаваўся з чэрв. 1919 г. у Вільні і з ліст. 1919 г. у Мінску да сак. 1920 г. на беларускай мове лацінкай і кірыліцай як штотыднёвік нерэгулярнай перыядычнасці. Друкаваліся інфармацыйныя даведкі пра жыццё і творчую дзейнасць Я. Купалы.

*Дуб* (с. 98)

(«Калыханы ветрамі...»)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — газ. «Беларусь», 1920, 24 лют.

Датуецца 1906 г.

У ДзЛМЯнК захоўваецца белавы аўтограф верша з подпісам: Я. Купала і датай: 1906 г. (ф. А, воп. 1, адз. зах. 8).

У ДзЛМЯнК (ф. А, воп. 1, адз. зах. 17) захоўваецца таксама аўтограф паэта з паметай: «Нававыбраныя вершы ў «Жалейку», ■ далей пералічаны наступныя вершы:

«Гнаны Янка доляй...» (назва закрэслена чырвоным алоўкам.— *С. З.*)

Чорныя вочы
Можна
Рвуцца сілы
Спусташэнне
Гэй, ты, сэрцайка
Дужыя і слабыя
Захад сонца
Якія
Выйду
З песень беззямельнага
Воля
Падарожны
Воўк і баран
Дуб
Як кароль у паход выходзіў...

Усе пералічаныя творы, акрамя верша «Гнаны Янка доляй...»,— упершыню былі ўключаны паэтам у другое перагледжанае выданне зб. «Жалейка», які ўвайшоў ў склад Зб. тв. 1925—1932.

Уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1940, т. 4.

Верш пераклалі: на рускую мову М. Камісарава, Н. Кіслік, О. Колычаў, на асецінскую — А. Пухаеў, на казахскую — А. Налібаеў, на балгарскую — Н. Вылчаў.

На музыку верш пакладзены А. Багатыровым.

*Газ. «Беларусь»* — штодзённая палітычна-эканамічная і літаратурная газета нацыянальна-дэмакратычнага накірунку. Першы нумар надрукаваны 21 кастр. 1919 г. Да гэтага выйшла 28 нумароў газеты пад

назвай «Звон». Газета друкавалася ў Мінску ў 1919—1920 гг. на беларускай мове. Рэдактарам-выдаўцом у 1919 г. афіцыйна значылася Ядвіга Луцэвіч, з сакав. 1920 г.— беларускі нацыянальны камітэт.

У першым нумары газеты ў рэдакцыйным артыкуле «Нашае слова» было вызначана крэда рэдакцыі: «І мы пойдзем к народу свайму,— пойдзем у сёлы, мястэчкі, вёскі, засьценкі і будзем казаць: Народзе Беларускі! Не збавішся ты ад горкай долі ніколі, калі не адбудуеш дзяржавы свае, свайго Беларускага Гаспадарства. Мы будзем гаварыць гэта, бьючы ў сэрцо усіх адступнікаў ад народу свайго, усіх тых, хто выракся роду свайго, хто не шануе мовы свае і падбівае народ на новую няволю».

Купала пачаў друкавацца ў газеце з першых яе нумароў. Публіцыстычныя артыкулы выходзілі пад скарочаным подпісам «К-а», вершы і паэмы паэт падпісваў «Янка Купала». (Камент. Т. Процька.)

*Усе разам* (с. 99)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — «Спадчына», 1922, дзе датуецца 1906 г.

У пазнейшых прыжыццёвых выданнях не друкаваўся.

Верш пераклалі: на рускую мову Н. Кіслік, А. Пракоф'еў, М. Сідарэнка, на асецінскую — А. Пухаеў, на казахскую — Ж. Абдзірашаў, на кіргізскую — Ц. Уметаліеў, на таджыкскую — М. Фархат, на эстонскую — Х. Юрысан.

*З сіроцкай долі* (с. 101)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — «Спадчына», 1922, дзе датуецца 1906 г.

Верш уключаўся і ў пазнейшае прыжыццёвае выданне: Выбр. тв., 1935, т. I.

*Хай жа вам так не здаецца...* (с. 102)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — «Спадчына», 1922, дзе датуецца 1906 г.

У ДзЛМЯнК захоўваецца белавы аўтограф верша з подпісам: Я. Купала і датай: 1906 г. Аўтограф змешчаны на здвоеным лісце паперы разам з вершам «Беларушчына», які датуецца аўтарам 1908 г. (ф. А, воп. 1, адз. зах. 12).

Тое, што аўтографы вершаў, адзін з якіх аўтар датуе 1906 г., а другі 1908 г., напісаны на адным лісце паперы, можна тлумачыць тым, што Я. Купала, відаць, падрыхтаваў гэтыя рукапісы да зб. «Спадчына», 1922. Гэтае меркаванне пацвярджаецца і тым, што верш «Беларушчына», як і верш «Хай жа вам так не здаецца...», упершыню быў надрукаваны толькі ў зб. «Спадчына», 1922.

Уключаўся і ў пазнейшае прыжыццёвае выданне: Выбр. тв., 1935, т. II.

Верш пераклалі: на рускую мову Б. Кежун, на ўкраінскую — Дз. Паўлычка, на асецінскую — А. Пухаеў, на румынскую — С. Дэлчу.

*Вясна* (с. 102)

(«Згінулі сцюжы, марозы, мяцеліцы...»)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — «Спадчына», 1922, дзе датуецца 1906 г.

У пазнейшых прыжыццёвых выданнях не друкаваўся.

Верш пераклалі: на рускую мову Н. Кіслік, А. Пракоф'еў, на ўкраінскую — А. Малышка, на асецінскую — А. Пухаеў, на латышскую — Ю. Ванаг, на англійскую — У. Мэй, на балгарскую — Н. Вылчаў, на іспанскую — К. Шэрман.

Беларускі жывапісец Н. Воранаў прысвяціў памяці Я. Купалы лірычны пейзаж «Сонейкам цёпленькім, зеленню вабнаю абдаравала зямельку вясна» (1972). За назву твора ўзяты радкі з верша «Вясна».

*Віхор загуляў* (с. 103)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V, дзе датуецца 1906 г.

Упершыню — газ. «Беларусь», 1920, 4 крас., пад загалоўкам «Віхор».

У ДзЛМЯнК захоўваецца белавы аўтограф верша з подпісам: Я. Купала і датай: 1906 г. Аўтограф змешчаны на здвоеным лісце паперы разам з вершам «Разлад», які датуецца аўтарам 1907 г. (ф. А, воп. 1, адз. зах. 9). Тое, што аўтографы вершаў, адзін з якіх аўтар датуе 1906 г., а другі 1907 г., напісаны на адным лісце паперы, можна тлумачыць тым, што Я. Купала, відаць, падрыхтаваў гэтыя рукапісы да зб. «Спадчына», 1922.

Уключаўся і ў пазнейшае прыжыццёвае выданне: Выбр. тв., 1935, т. II.

Верш пераклалі: на рускую мову Л. Хаўстаў, на літоўскую — Э. Матузявічус.

*Першыя песні* (с. 104)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — «Спадчына», 1922, дзе датуецца 1906 г.

У пазнейшых прыжыццёвых выданнях не друкаваўся.

Верш пераклалі на рускую мову Н. Кіслік, П. Кустоў.

*Куды ні ўцякаю...* (с. 105)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — «Спадчына», 1922, дзе датуецца 1906 г.

У пазнейшых прыжыццёвых выданнях не друкаваўся.

Верш пераклаў на рускую мову У. Раждзественскі.

*З песень нядолі* (с. 105)

(«Колькі жудкага...»)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — «Спадчына», 1922, дзе датуецца 1906 г.

У ДзЛМЯнК захоўваецца белавы аўтограф верша з подпісам: Янук Купала (ф. А, воп. 1, адз. зах. 7).

Верш прысвечаны М. Сярніцкай, жонцы Сярніцкага, вінакура з маёнтка Дольны Сноў на Міншчыне, у якога паэт працаваў памочнікам у 1907—1908 гг. Рэдкалегія Зб. тв. (1972—1976) лічыць, што ёсць фактычная недакладнасць у датах: верш датуецца 1906 г., а працаваў Я. Купала з Сярніцкім пазней. Але Я. Купала мог быць знаёмы з сям'ёй Сярніцкіх і да работы на бровары, і таму фактычных разыходжанняў у датах, на нашу думку, тут няма.

У Зб. тв., 1972, т. I, у асноўным тэксце верша 17 радок выпраўлены па аўтографу: *«Там пад працаю бескарыснаю»* замест *«Там над працаю бескарыснаю»*. Аналіз верша паказвае, што больш позні варыянт 17 радка ўзнік як вынік далейшай працы аўтара над тэкстам, хаця ў дадзеным выпадку і існуе небяспека прыняць пазнейшую аўтарскую дапрацоўку за механічную памылку. На думку рэдкалегіі дадзенага выдання ўнясенне праўкі ў асноўны тэкст не мае падстаў.

Уключаўся і ў пазнейшае прыжыццёвае выданне: Выбр. тв., 1935, т. II.

Верш пераклалі: на рускую мову М. Камісарава, на ўкраінскую — П. Дарошка, Дз. Паўлычка, на латышскую — Ю. Ванаг, на эстонскую — М. Вээтам.

*Не глядзі...* (с. 106)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — «Спадчына», 1922, дзе датуецца 1906 г.

Уключаўся і ў пазнейшае прыжыццёвае выданне: Выбр. тв., 1935, т. I.

Верш пераклалі: на рускую мову У. Раждзественскі, на ўкраінскую — А. Малышка, на асецінскую — А. Пухаеў, на чэшскую — Ю. Рубін.

Верш пакладзены на музыку У. Мулявіным.

*Паэзія* (с. 107)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — «Спадчына», 1922, дзе датуецца 1906 г.

У пазнейшых прыжыццёвых выданнях не друкаваўся.

Верш пераклалі: на рускую мову Н. Кіслік, У. Раждзественскі, І. Шклярэўскі, на ўкраінскую — Дз. Паўлычка, на англійскую — А. Пракоф'ева, на іспанскую — К. Шэрман.

*Янка Канцавы* (с. 109)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — «Спадчына», 1922, дзе датуецца 1906 г.

Уключаўся і ў пазнейшае прыжыццёвае выданне: Выбр. тв., 1935, т. II.

*Пакровы* — царкоўнае свята, якое адзначаецца праваслаўнай царквой 1(14) кастр. Тут у сэнсе — да восені.

*Чынш, магазыннік* — гл. каментарый да верша «Што ты спіш?..».

*Пры выпіўцы* (с. 112)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — «Спадчына», 1922, дзе датуецца 1906 г.

У пазнейшых прыжыццёвых выданнях не друкаваўся.

*Застава* — рэч, здадзеная пад залог.

*Благая жонка...* (с. 114)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — «Спадчына», 1922, дзе датуецца 1906 г.

У пазнейшых прыжыццёвых выданнях не друкаваўся.

Верш пакладзены на музыку У. Мулявіным.

*Кацярына* (с. 115)

(«Ох, як гэта Кацярына...»)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — «Спадчына», 1922, дзе датуецца 1906 г.

У пазнейшых прыжыццёвых выданнях не друкаваўся.

*Прыпеўка* (с. 116)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — «Спадчына», 1922, дзе датуецца 1906 г.

У пазнейшых прыжыццёвых выданнях не друкаваўся.

Верш пакладзены на музыку У. Мулявіным, А. Туранковым.

*Хлеб* (с. 116)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1929, № 2, дзе памылкова датуецца 25 ліпеня 1907 г.

Датуецца 1906 г. У ДзЛМЯнК захоўваецца аўтограф верша з подпісам: Янук Купала і датай: 1906 г. (ф. А, воп. 1, адз. зах. 337).

У пазнейшых прыжыццёвых выданнях не друкаваўся.

Верш пераклалі: на рускую мову Н. Кіслік, А. Пракоф'еў, на ўкраінскую — Дз. Паўлычка, на латышскую — Ю. Ванаг.

*На службе* (с. 117)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1929, № 2, дзе датуецца 1906 г.

Уключаўся і ў пазнейшае прыжыццёвае выданне: Выбр. тв., 1935, т. I.

Верш пераклалі: на рускую мову І. Садоф'еў, на ўкраінскую — Р. Бойка, Дз. Паўлычка.

*З песень бедака* (с. 118)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1929, № 2, дзе датуецца 1906 г.

Уключаўся і ў пазнейшае прыжыццёвае выданне: Выбр. тв., 1935, т. I.

Верш пераклалі: на рускую мову У. Раждзественскі, на ўкраінскую — Р. Бойка, Дз. Паўлычка, на грузінскую — А. Шаламберыдзе, на латышскую — Ю. Ванаг, на малдаўскую — А. Чакану.

*Вы кажаце...* (с. 119)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1929, № 2, дзе датуецца 1906 г.

Уключаўся і ў пазнейшае прыжыццёвае выданне: Выбр. тв., 1935, т. I.

Верш пераклалі: на рускую мову А. Андрэеў, С. Спаскі, на ўкраінскую — Дз. Паўлычка, на асецінскую — А. Пухаеў, на латышскую — Ю. Ванаг, на чувашскую — М. Яўстаф'еў, на чэшскую — Ф. Ціхі.

*Бываюць хвілі...* (с. 119)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1929, № 2, дзе датуецца 1906 г.

У пазнейшых прыжыццёвых выданнях не друкаваўся.

Верш пераклалі: на рускую мову У. Раждзественскі, на балгарскую — Н. Вылчаў.

*Думкі перад вясной* (с. 120)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1929, № 3, дзе датуецца 1906 г.

Уключаўся і ў пазнейшае прыжыццёвае выданне: Выбр. тв., 1935, т. I.

Верш пераклалі: на рускую мову А. Пракоф'еў, на ўкраінскую — Дз. Паўлычка.

*Спроба актавы* (с. 121)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1930, № 5—6, дзе датуецца 1906 г.

У пазнейшых прыжыццёвых выданнях не друкаваўся.

Верш пераклалі: на рускую мову С. Бацвіннік, С. Спаскі, на ўкраінскую — Р. Бойка, Дз. Паўлычка, на англійскую — У. Мэй.

*Паняверка* — тут — цяжкое, беспрасветнае жыццё.

*Праз вайну* (с. 123)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1930, № 5—6, дзе датуецца 1906 г.

Уключаўся і ў пазнейшае прыжыццёвае выданне: Выбр. тв., 1935, т. I.

Верш пераклалі на ўкраінскую мову С. Літвін, В. Ткачэнка.

*Чынш* — гл. заўвагу да верша «Што ты спіш?..».

*Доля ўдавы* (с. 124)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1930, № 5—6, дзе датуецца 1906 г.

Уключаўся і ў пазнейшае прыжыццёвае выданне: Выбр. тв., 1935, т. I.

Верш пераклалі: на ўкраінскую мову Дз. Паўлычка, на літоўскую — I. Грайчунас.

*Шуміць шумненька гаёк* (с. 125)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI, дзе ўпершыню апублікаваны. Пад тэкстам дата: 1906 г.

Уключаўся і ў пазнейшае прыжыццёвае выданне: Выбр. тв., 1935, т. I.

Верш пераклалі: на рускую мову А. Пракоф'еў, на асецінскую — А. Пухаеў, на чувашскую — Ю. Скварцоў.

*Аўтарцы «Скрыпкі беларускай»* (с. 126)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Жалейка», 1908.

Верш датуецца 1906 г. на той падставе, што зборнік Алаізы Пашкевіч «Скрыпка беларуская» з'явіўся ўлетку 1906 г. пад псеўданімам «Гаўрыла з Полацка». Верш «Аўтарцы «Скрыпкі беларускай» Я. Купала напісаў у сувязі з выхадам у свет гэтага зборніка беларускай пісьменніцы, вядомай у літаратуры пад псеўданімам Цётка (1876—1916).

Цётка сябравала з Я. Купалам, Я. Коласам, З. Бядулем. Яшчэ да асабістага знаёмства Я. Купала прысылаў ёй свае творы. З вершамі-лістоўкамі Цёткі «Пад штандарам», «Хрэст на свабоду» Я. Купала пазнаёміўся ў 1905 г., працуючы на бровары ў Сёмкаве. Знаёмства Я. Купалы з Цёткай адбылося ў лютым 1910 г. у Пецярбурзе на вечары беларускіх студэнтаў, дзе паэтэса чытала свае вершы. У «Нашай ніве» ад 4(17) сакав. 1910 г. пад псеўданімам Мацей Крапіўка Цётка змясціла інфармацыю аб гэтым вечары.

Уключаўся і ў пазнейшае прыжыццёвае выданне: Зб. тв., 1928, т. I.

Верш пераклалі: на рускую мову М. Камісарава, на ўкраінскую — Р. Лубкіўскі.

*«Нашай долі»* (с. 127)

(Першай беларускай газеце)

Друкуецца па зб. «Жалейка», 1908, дзе ўпершыню апублікаваны.

Верш датуецца 1906 г. на той падставе, што газ. «Наша доля», выхаду ў свет якой прысвечаны верш, пачала выходзіць з верасня 1906 г.

У другое, папраўленае выданне зб. «Жалейка» (Зб. тв., 1925, т. I) паэт гэты верш не ўключыў. У пазнейшых прыжыццёвых выданнях не друкаваўся.

Пераклаў на рускую мову У. Раждзественскі.

*«Наша доля»* — першая легальная газета на беларускай мове. Выдавалася з 1 верас. да 1 снеж. 1906 г. групай членаў Беларускай сацыялістычнай грамады ў Вільні, рэдактар газеты I. А. Тукеркес. Выйшла 6 нумароў, з якіх пяць было канфіскавана. У лісце да Л. Клейнбарта ад 11 студз. 1929 г. Я. Купала пісаў: «Какие были у меня отношения с «Нашай доляй»? Не помню. Читать ее — читал, но посылал ли туда свои рукописи — не могу с уверенностью сказать. В общем в «Нашай долі», кажется, моего ничего нет напечатанного».

*Беларускай выдавецкай супольцы «Загляне сонца і ў наша аконца»* (с. 128)

Друкуецца па зб. «Жалейка», 1908, дзе ўпершыню апублікаваны.

Можна меркаваць, што верш напісаны ў 1906 г. на той падставе, што суполка, заснаванню якой паэт прысвяціў верш-пасланне, была заснавана 5 мая 1906 г.

У другое, папраўленае выданне зб. «Жалейка» (Зб. тв., 1925, т. I) гэты верш паэт не ўключыў. У лісце да Л. Клейнбарта ад 23 кастр. 1928 г. Б. Эпімах-Шыпіла адзначаў, што «впервые об Янке Купале узнала «Пецярбургская суполка «Загляне сонца і ў нашэ ваконца», когда однажды (даты не помню — 1906-го или 1907 г.) получила от него письмо со стихотворным приветствием Суполке» (АІРЛІ (Пушкінскі дом) АН СССР, ф. 586, № 229). Б. Эпімах-Шыпіла меў на ўвазе верш Я. Купалы «Беларускай выдавецкай суполцы «Загляне сонца і ў наша аконца», напісаны ў 1906 г.

У пазнейшых прыжыццёвых выданнях не друкаваўся.

*«Загляне сонца і ў наша аконца»* — першае беларускае легальнае выдавецкае таварыства (суполка), створанае ў Пецярбурзе 5 мая 1906 г. Заснавана групай передавой беларускай інтэлігенцыі па ініцыятыве Б. І. Эпімах-Шыпілы. Праіснавала суполка да 1914 г. Ставіла перад сабой асветніцкія мэты. Праз У. І. Самойлу суполка атрымала рукапісы вершаў Я. Купалы, якія ўвайшлі ў зб. «Жалейка», 1908. Выпуск зборніка затрымліваўся, і Купала напісаў дзве эпіграмы («На беларускую выдавецкую суполку «Загляне сонца і ў наша аконца»). Больш цесная сувязь Купалы з суполкай пачалася ў пецярбургскі перыяд яго жыцця. Суполка адыграла вялікую ролю ў папулярызацыі твораў беларускага песняра. Акрамя зб. «Жалейка» (1908), выдала драматычную паэму «Сон на кургане» (1912), камедыю «Паўлінка» (1913), зб. вершаў «Шляхам жыцця» (1913).

## 1907

### *«Цяжка мне, цяжка, слузе беспрытоннаму...»* (с. 130)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1930, № 5—6, дзе датуецца 29 студзеня 1907 г.

Уключаўся і ў пазнейшае прыжыццёвае выданне: Выбр. тв., 1935, т. I.

### *Сон* (с. 131)

(«Не помню дня і той мінуты...»)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1929, № 3, дзе датуецца 21 сакавіка 1907 г.

Урывак чарнавога аўтографа верша захоўваецца ў ДзЛМЯнК (ф. А, воп. 1, адз. зах. 16). Апошнія 8 радкоў гэтага аўтографа ўпершыню апублікаваны ў Зб. тв., 1972, т. I, с. 469.

У пазнейшых прыжыццёвых выданнях не друкаваўся.

Верш пераклалі: на рускую мову М. Камісарава, на літоўскую — Э. Матузявічус.

*Той спаў летаргу зводным сном...* — тут у сэнсе — спаў летаргічным сном, падобным на знікненне, смерць.

### *Касцу* (с. 132)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Наша ніва», 1907, № 18, 11(24) мая з подпісам: Янук Купала.

Датуецца годам апублікавання.

Верш «Касцу» — першае выступленне паэта ў беларускім перыядычным друку і другі пасля верша «Мужык» друкаваны твор паэта.

Уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Выбр. тв., 1935, т. I.

*«Наша ніва»* — штотыднёвая грамадска-палітычная і літаратурная газета, якая выдавалася ў Вільні. Першы нумар яе выйшаў 10 (23) ліст. 1906 г. Спыніла існаванне 7 (20) жн. 1915 г. Першы рэдактар і выдавец С. Вольскі, з 8 (21) снеж. 1906 г.— А. Уласаў, з 16 мая 1914 г.— рэдактар-выдавец Я. Купала. Падпісваўся сапраўдным прозвішчам І. Луцэвіч.

Я. Купала працаваў у рэдакцыі «Наша ніва» з вер. 1908 г. да кастр. 1909 г., другі раз — з восені 1913 г. да закрыцця газеты, спачатку супрацоўнікам, потым рэдактарам, рэдактарам-выдаўцом. Творчасць Купалы як паэта і праца ў рэдакцыі газеты ў многім вызначалі грамадска-літаратурнае аблічча «Нашай нівы».

У газеце публікаваліся творы Цёткі, Я. Коласа, М. Багдановіча, Ц. Гартнага, З. Бядулі, М. Гарэцкага і інш., пераклады некаторых твораў рускіх і польскіх класікаў — М. Гогаля, Л. Талстога, М. Горкага, А. Міцкевіча, Э. Ажэшкі.

Газета «Наша ніва» адыграла выключна важную ролю ў развіцці беларускай літаратуры, беларускай літаратурнай мовы, у выданні і прапагандзе беларускіх кніг, у выяўленні і збіранні талентаў з народа.

Верш пераклалі: на рускую мову М. Браўн, Н. Кіслік, Я. Нячаеў, на ўкраінскую — Ю. Назарэнка, Дз.Паўлычка, на кіргізскую — Ц. Уметаліеў, на літоўскую — В. Рэймерыс, на англійскую — У. Мэй, на венгерскую — І. Трэнчэні-Валдапфэл, на іспанскую — К. Шэрман, на чэшскую — К. Беднарж.

Верш на музыку паклалі А. Грыневіч, С. Палонскі. Да 90-годдзя з дня нараджэння паэта С. Картэс стварыў араторыю-паэму «Памяці паэта» (у 7 ч., паст. 1973). Араторыя-паэма створана на купалаўскія вершы «За ўсё...», «Мая навука», «Ваўкалак», «На купалле», «Я не паэта», «Гусляр», «Калыханка», «Касцу», «Песня будаўніцтву».

*Ворагам Беларушчыны* (с. 133)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II, дзе датуецца 1907 г. Верш змешчаны ў раздзеле «Сваім і чужым».

Упершыню — «Наша ніва», 1908, № 12, 6 (19) чэрв., з подпісам: Янук Купала. Выразка з першадруку — у рукапісным зборніку «Шляхам жыцця» (ДзЛМЯнК, ф. А, воп. 1, адз. зах. 118). Пад загалоўкам верша адзначана: «Да № 9 «Нашае Нивы». У гэтым нумары газеты (№ 9 ад 23 крас., 1908 г.) быў змешчаны артыкул рэдактара «Нашай нівы» А. Уласава ў абарону беларускай мовы і літаратуры.

У лісце да Л. М. Клейнбарта ад 13 лют. 1929 г. Я. Купала адзначаў, што «...та борьба за белорусский язык и за белорусское возрождение вообще, которая часто разгоралась в полемических статьях на страницах «Нашай нівы» и ее противников, не могла не оказывать известного влияния и в моем творчестве. Так, помню, мое стихотворение «Чаго вам хочацца, панове?» («Ворагам Беларушчыны».— *С. З.*) написано мною после диких нападок на все белорусское со стороны русских и польских совр(еменных) черносотенных газеток».

Я. Купала, відаць, меў на ўвазе газету «Виленский вестник» (1841—1916 гг.) і часопіс «Крестьянин» (1906—1915 гг), якія выступалі супраць беларускага нацыянальна-вызваленчага руху, адмаўлялі беларускаму народу ў праве на развіццё роднай мовы і літаратуры.

Верш напісаны, як сведчыць паэт, «при перегонном и контрольном

апарате в винокур(енном) заводе, когда я должен был наблюдать за этим аппаратом, чтобы регулярно поступал в него спирт». (Ліст Я. Купалы да Л. М. Клейнбарта ад 21 верас. 1928 г.)

Уключаўся і ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Спадчына», 1922; Зб. тв., 1929, т. II.

Верш пераклалі: на рускую мову С. Спаскі, на ўкраінскую — Р. Лубкіўскі, на асецінскую — А. Пухаеў, на польскую — Ю. Ленарт, на англійскую — У. Мэй, В. Рыч.

*Я не для вас...* (с. 135)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1929, № 2, дзе датуецца 8 чэрвеня 1907 г.

Уключаўся і ў пазнейшае прыжыццёвае выданне: Выбр. тв., 1935, т. I.

Верш пераклалі: на рускую мову М. Камісарава, Н. Кіслік, М. Сідарэнка, на ўкраінскую — М. Зісман, Дз. Паўлычка, на азербайджанскую — Г. Беюкага, на грузінскую — Г. Каландадзе, М. Мачаварыяні, на літоўскую — П. Кейдошус, на таджыкскую — М. Фархат, на чувашскую — А. Алга, на эстонскую — Х. Юрысан, на англійскую — В. Рыч, У. Мэй, на балгарскую — А. Германаў, на іспанскую — К. Шэрман, на польскую — Ф. Няўважны, К. Яворскі, на румынскую — С. Дэлчу, на чэшскую — К. Беднарж.

*Перад Сёмухай* (с. 136)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1929, № 3, дзе датуецца 9 чэрвеня 1907 г.

У пазнейшых прыжыццёвых выданнях не друкаваўся.

*Сёмуха* — царкоўна-хрысціянскае свята, якое адзначаецца на сёмым тыдні пасля Вялікадня. Паводле народных звычаяў, гэты дзень лічыцца днём сустрэчы лета. У гэты дзень хаты і іншыя будынкі ўпрыгожваюць зелянінаю, якая называецца «маем».

Верш пераклаў на рускую мову А. Пракоф'еў.

*Перад бурай* (с. 137)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1929, № 2, дзе датуецца 14 чэрвеня 1907 г. Пад тэкстам заўвага: «Верш гэты напісаны пасля разгону царом другой Думы. Аўтар». Другая Дзяржаўная дума была разагнана царскім урадам 3 чэрв. 1907 г.

Уключаўся і ў пазнейшае прыжыццёвае выданне: Выбр. тв., 1935, т. I.

Верш пераклалі: на рускую мову А. Пракоф'еў, М. Сідарэнка, на ўкраінскую — Дз. Паўлычка, А. Хутаран, на асецінскую — А. Пухаеў, на грузінскую — Ш. Апхаідзе, на калмыкскую — М. Ханінаў, на літоўскую — Э. Матузявічус, на чувашскую — А. Кляменцьеў, на англійскую — В. Рыч, на польскую — А. Баршчэўскі, на французскую — у анталогіі бел. паэзіі «У краіну паэтаў» (Парыж, 1982, перакл. не названы).

*Не чакай...* (с. 137)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1929, № 2, дзе датуецца 14 чэрвеня 1907 г.

Друкуецца з папраўкамі. У асноўным тэксце:

1—4 Не чакай пацехі скорай,
Думкай дай заснуць,

Што, паспагадае гору
Твайму хто-нібудзь?

Змены ў другім і трэцім радках зроблены на аснове сэнсавага аналізу верша. Так, у другім радку замена толькі адной літары (думкам — думкай) зацямняе аўтарскі тэкст, робіць яго незразумелым. Знята коска пасля «што» ў шостым радку, апушчаны пытальнікі ў канцы чацвёртага, восьмага і дванаццатага радкоў — паводле першадруку.

У пазнейшых прыжыццёвых выданнях не друкаваўся.

Верш пераклалі: на рускую мову Н. Кіслік, Г. Сямёнаў, на асецінскую — А. Пухаеў, на латышскую — А. Веян.

*«Калі ў свет я ні гляну прыгожы...»* (с. 138)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1929, № 2, дзе датуецца 16 чэрвеня 1907 г.

У пазнейшых прыжыццёвых выданнях не друкаваўся.

*Не чапайся, панічок!..* (с. 139)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1929, № 3, дзе датуецца 19 чэрвеня 1907 г.

Верш уключаўся і ў пазнейшае прыжыццёвае выданне: Выбр. тв., 1935, т. I.

*З бяды і нуды* (с. 140)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1929, № 2, дзе датуецца 4 ліпеня 1907 г.

У пазнейшых прыжыццёвых выданнях не друкаваўся.

*Лета* (с. 141)

(«Эх ты, лета гарачае, бурнае!..»)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II, дзе змешчаны ў раздзеле «Па межах родных».

Упершыню — «Наша ніва», 1907, № 24, 6 (19) ліп., з подпісам: Янук Купала.

Датуецца годам апублікавання.

Аўтограф і выразка з першадруку — у рукапісным зб. «Шляхам жыцця» ў раздзеле «Па межах родных» (ДзЛМЯнК, ф. А, воп. 1, адз. зах. 118).

Уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1929, т. II; Выбр. тв., 1935, т. I.

Верш пераклалі: на рускую мову М. Камісарава, Я. Мазалькоў, на ўкраінскую — Дз. Паўлычка, на мардоўскую (эрзя) — А. Мартынаў, на чувашскую — А. Кляменцьеў, на польскую — Д. Хрусцялеўская.

*Ці ж гэта многа?!* (с. 142)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II, дзе змешчаны ў раздзеле «Наша вёска».

Упершыню — «Наша ніва», 1907, № 24, 6 (19) ліп., з подпісам: Янук Купала.

Датуецца годам апублікавання.

Белавы аўтограф і выразка з першадруку — у рукапісным зб. «Шляхам жыцця» ў раздзеле «Наша вёска» (ДзЛМЯнК, ф. А, воп. 1, адз. зах. 118).

Уключаўся і ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Спадчына», 1922; Зб. тв., 1929, т. II; Зб. тв., 1940, т. 4.

Верш пераклалі: на рускую мову В. Шэфнер, на англійскую — А. Пракоф'ева.

*Валока* — тут — былая мера зямлі (каля 20 дзесяцін, прыблізна 21 га).

*Устань* (с. 142)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1929, № 2, дзе датуецца 15 ліпеня 1907 г.

У пазнейшых прыжыццёвых выданнях не друкаваўся.

*Далей і болей* (с. 143)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1929, № 2, дзе датуецца 20 ліпеня 1907 г.

У пазнейшых прыжыццёвых выданнях не друкаваўся.

*Покуль сонца ўзыйдзе...* (с. 143)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1929, № 2, дзе датуецца 26 ліпеня 1907 г.

Уключаўся і ў пазнейшае прыжыццёвае выданне: Выбр. тв., 1935, т. I.

Верш пераклалі: на рускую мову — А. Пракоф'еў, на ўкраінскую — С. Пінчук, на грузінскую — Г. Каландадзе.

*Чынш* — гл. каментарый да верша «Што ты спіш?..».

*Вучыся...* (с. 144)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II, дзе змешчаны ў раздзеле «Сваім і чужым».

Упершыню — «Наша ніва», 1907, № 27, 17 (30) жн., пад загалоўкам «Вучыся!».

Датуецца годам апублікавання.

Белавы аўтограф у рукапісным зб. «Шляхам жыцця» ў раздзеле «Сваім і чужым» (ДзЛМЯнК, ф. А, воп. 1, адз. зах. 118).

Уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1929, т. II; Выбр. тв., 1935, т. I; Зб. тв., 1940, т. 4.

Верш пераклаў на рускую мову В. Шэфнер.

*Адрына* — гл. каментарый да верша «Дзе ні вылеці з няволі...».

*Былі ў бацькі тры сыны...* (с. 145)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II, дзе змешчаны ў раздзеле «Наша вёска».

Упершыню — «Наша ніва», 1907, № 29, 14 жн., пад загалоўкам «Старая песня на новы лад». Пад тэкстам подпіс: Янук Купала. Назва месяца ў газеце, відаць, памылковая. Трэба — 14 верас.

Датуецца годам апублікавання.

У аўтографе і першай публікацыі кожная страфа заканчвалася рэфрэнам-воклічам «Ух, я!». У наступных публікацыях Я. Купала апусціў гэты рэфрэн.

Верш быў уключаны паэтам у зб. «Шляхам жыцця», 1913, аб чым сведчыць аўтограф верша ў рукапісным зб. «Шляхам жыцця» (ДзЛМЯнК, ф. А, воп. 1, адз. зах. 118). У карэктуры зб. «Шляхам жыцця», 1913 адзначана на палях «Выбросить, а набор пока оставить» (ДзЛМЯнК, ф. А, воп. 1, адз. зах. 356).

Уключаўся і ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Спадчына», 1922; Зб. тв., 1929, т. II; Зб. тв., 1940, т. 4.

Верш пераклалі: на рускую мову Д. Бродскі, А. Пракоф'еў, на ўкраінскую — Дз. Паўлычка, на латышскую — Ю. Ванаг, на малдаўскую — П. Дарые, на чувашскую — Г. Яфімаў, на эстонскую — М. Вэ-

этам, на албанскую — Г. Джэй, на англійскую — У. Мэй, на кітайскую — Чжу Цзі, на польскую — І. Сікірыцкі.

Да спектакля «Раскіданае гняздо» (1972, Бел. акад. тэатр імя Я. Купалы) С. Картэс напісаў музыку на вершы Я. Купалы «Былі ў бацькі тры сыны...», «Снег» і інш. Верш «Былі ў бацькі тры сыны...» на музыку паклаў таксама К. Галкоўскі.

*Чары* (с. 146)

(«Покі світкі не стыдаўся...»)

Друкуецца па «Нашай ніве», 1907, № 31, 12(25) кастр., дзе ўпершыню апублікаваны. Пад тэкстам подпіс: Янук Купала.

Датуецца годам апублікавання.

Выразка з першадруку — у рукапісным зб. «Шляхам жыцця» (ДзЛМЯнК, ф. А, воп. 1, адз. зах. 118). Выразка закрэслена чырвоным алоўкам, і верш ні ў адно з выданняў зб. «Шляхам жыцця» не ўключаўся.

У першы прыжыццёвы Зб. твораў паэта (1925—1932) верш «Чары» таксама не ўвайшоў. Упершыню быў уключаны толькі ў шасцітомны Зб. твораў паэта (1951—1954).

Верш пераклаў на асецінскую мову А. Пухаеў.

*А шнуркамі абчапляўся, // Апнуў спіну чарнатой,*— тут у значэнні: пайшоў на службу ў паліцыю, адзеў чорны мундзір.

*Прыйшла восень...* (с. 146)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II, дзе змешчаны ў раздзеле «Наша вёска». Пад тэкстам дата: 1907 г.

Упершыню — «Наша ніва», 1907, № 32, 26 (8) кастр., з подпісам: Янук Купала.

Уключаўся і ў іншыя прыжыццёвыя выданні: «Спадчына», 1922; Зб. тв., 1929, т. II; Выбр. тв., 1935, т. I.

Выразка з першадруку — у рукапісным зб. «Шляхам жыцця» ў раздзеле «Наша вёска» (ДзЛМЯнК, ф. А, воп. 1, адз. зах. 118).

Верш пераклалі: на рускую мову Н. Кіслік, А. Пракоф'еў, на ўкраінскую — П. Дарошка.

*Магазын* — гл. заўвагу да верша «Што ты спіш?..».

*Пайкапы* — капа — мера ліку: 60 штук ці адзінак.

*«Легла на сэрцы гора нядольнае...»* (с. 147)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II, дзе датуецца 1907 г.

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913, у раздзеле «Бацькаўшчыне», пад загалоўкам «Легла на сэрцы...». У выданнях зб. «Шляхам жыцця» 1923 і 1935 гг. верш надрукаваны пад загалоўкам «Гора нядольнае».

Захаваліся два аўтографы: адзін — у рукапісным зборніку «Шляхам жыцця» (ДзЛМЯнК, ф. А, воп. 1, адз. зах. 118), другі — асобны (ДзЛМЯнК, ф. А, воп. 1, адз. зах. 14).

У часоп. «Полымя», 1929, № 2 верш памылкова змешчаны сярод дарэвалюцыйных вершаў, якія публікаваліся ўпершыню, і памылкова датуецца 1909 г.

Уключаўся і ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Спадчына», 1922; Зб. тв., 1929, т. II.

Верш пераклалі: на рускую мову П. Жур, У. Раждзественскі, на англійскую — У. Мэй.

*З песень аб няволі* (с. 148)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI, дзе датуецца 1907 г.

Упершыню — зб. «Зажынкі», 1918.

Уключаўся і ў пазнейшае прыжыццёвае выданне: Выбр. тв., 1935, т. I.

Верш пераклалі: на рускую мову М. Браўн, на ўкраінскую — Дз. Паўлычка, на малдаўскую — А. Чыбатару.

*«Зажынкі»* — літаратурны альманах, выдадзены ў 1918 г. у Маскве Беларускім нацыянальным камісарыятам. У альманаху, акрамя верша «З песень аб няволі», упершыню надрукаваны вершы Я. Купалы «Мая вера», «У вечным боры», «Паўлюк».

У альманаху апублікавана таксама лекцыя З. Жылуновіча (Ц. Гартнага) «Беларуская літаратура», прачытаная ў Беларускім народным універсітэце ў Маскве летам 1918 г., у якой ён называў Я. Купалу «карыфеем», «беларускім Шаўчэнкам і Міцкевічам», цалкам прывёў вершы Я. Купалы «З песень аб сваёй старонцы», «Песня сонцу», «Адцвітанне».

*Поле роднае* (с. 148)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V, дзе датуецца 1907 г.

Упершыню — часоп. «Беларускае жыццё», 1919, № 19, 1 лістап., з подпісам: Янук Купала.

Уключаўся і ў пазнейшае прыжыццёвае выданне: Выбр. тв., 1935, т. II.

Верш пераклалі: на рускую мову М. Камісарава, на ўкраінскую — Дз. Паўлычка, С. Пліпенка, на грузінскую — Г. Каландадзе, М. Мачаварыяні, на казахскую — Ж. Абдзірашаў, на кіргізскую — Ц. Уметаліеў, на латышскую — Ю. Ванаг, на таджыкскую — М. Фархат.

*Часоп. «Беларускае жыццё»* — гл. каментарый да верша «Родныя песні».

*Куды ты рвешся!..* (с. 149)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню газ. «Беларусь», 1920, 21 студз., пад загалоўкам: «Куды ты рвешся?..». Пад тэкстам подпіс: Я. Купала і дата: 1907 г.

У пазнейшых прыжыццёвых выданнях не друкаваўся.

Верш пераклалі: на рускую мову Г. Сямёнаў, на ўкраінскую — Дз. Паўлычка.

*Газ. «Беларусь»* — гл. каментарый да верша «Дуб».

*«Сумна, сумна жыць на свеце...»* (с. 150)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — «Спадчына», 1922, дзе датуецца 1907 г.

У пазнейшых прыжыццёвых выданнях не друкаваўся.

Верш пераклалі: на рускую мову Л. Хаўстаў, на грузінскую — М. Мачаварыяні.

*Дайце мне...* (с. 151)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — «Спадчына», 1922, дзе датуецца 1907 г.

У пазнейшых прыжыццёвых выданнях не друкаваўся.

Верш пераклалі: на рускую мову А. Пракоф'еў, І. Садоф'еў, на ўкраінскую — Р. Бойка, П. Тычына.

*Забытая карчма* (с. 152)

(«Ля дарогі, ля далёкай...»)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — «Спадчына», 1922, дзе датуецца 1907 г.

У пазнейшых прыжыццёвых выданнях не друкаваўся.

Верш пераклаў на латышскую мову Х. Галіньш.

*Разлад* (с. 154)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — «Спадчына», 1922, дзе датуецца 1907 г.

У ДзЛМЯнК (ф. А, воп. 1, адз. зах. 9) захоўваецца белавы аўтограф верша з подпісам: Я. Купала і датай: 1907 г. (гл. каментарый да верша «Віхор загуляў»).

У пазнейшых прыжыццёвых выданнях не друкаваўся.

Верш пераклалі: на рускую мову Г. Сямёнаў, на польскую — Э. Карпук.

*Праступнік* (с. 155)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — «Спадчына», 1922, дзе датуецца 1907 г.

Верш быў уключаны паэтам у зб. «Шляхам жыцця», 1913, аб чым сведчыць аўтограф верша ў рукапісным зб. «Шляхам жыцця» (ДзЛМЯнК, ф. А, воп. 1, адз. зах. 118), аднак убачыў свет толькі ў зб. «Спадчына», 1922. У карэктуры зб. «Шляхам жыцця», 1913, Я. Купала, відаць, па цэнзурных меркаваннях спачатку закрэсліў 2, 5 і 6 строфы верша, замест іх паставіў кропкі, а ў наступнай карэктуры зборніка зняў верш зусім, адзначыўшы на палях: «Выбросить, а набор пока оставить» (ДзЛМЯнК, ф. А, воп. 1, адз. зах. 356).

Уключаўся і ў пазнейшае прыжыццёвае выданне: Выбр. тв., 1935, т. I.

Верш пераклалі: на рускую мову Н. Кіслік, на ўкраінскую — С. Крыжаніўскі, на асецінскую — А. Пухаеў, на грузінскую — В. Гарганелі, на латышскую — Ю. Ванаг, на эстонскую — Р. Паавел.

*З нуды* (с. 156)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — «Спадчына», 1922, дзе датуецца 1907 г.

У пазнейшых прыжыццёвых выданнях не друкаваўся.

*Згінула сонца...* (с. 157)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1929, № 2, дзе датуецца 1907 г.

Уключаўся і ў пазнейшае прыжыццёвае выданне: Выбр. тв., 1935, т. I.

Верш пераклалі: на рускую мову Н. Кіслік, У. Раждзественскі, на грузінскую — Ш. Апхаідзе.

*Не дружы...* (с. 158)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1929, № 2, дзе датуецца 1907 г.

У ДзЛМЯнК захоўваецца белавы аўтограф, пад тэкстам верша подпіс: Янук Купала (ф. А, воп. 1, адз. зах. 15).

Уключаўся і ў пазнейшае прыжыццёвае выданне: Выбр. тв., 1935, т. I.

Верш пераклалі: на рускую мову М. Камісарава, А. Пракоф'еў, на грузінскую — Г. Каландадзе, М. Мачаварыяні, на кіргізскую — Ц. Уметаліеў, на яўрэйскую — З. Аксельрод.

*Даўней і цяпер* (с. 158)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1929, № 2, дзе датуецца 1907 г.

Уключаўся і ў пазнейшае прыжыццёвае выданне: Выбр. тв., 1935, т. I.

Верш пераклалі: на рускую мову П. Кабзарэўскі, на ўкраінскую — П. Дарошка, А. Юшчанка, на польскую — Э. Карпук.

*З маркотных думак...* (с. 160)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1929, № 2, дзе датуецца 1907 г.

Уключаўся і ў пазнейшае прыжыццёвае выданне: Выбр. тв., 1935, т. I.

Верш пераклаў на рускую мову А. Пракоф'еў.

*Замаўчыце, думы...* (с. 161)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1929, № 2, дзе датуецца 1907 г.

У пазнейшых прыжыццёвых выданнях не друкаваўся.

Верш пераклаў на рускую мову У. Раждзественскі.

*На адвітанне* (с. 162)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1929, № 3, дзе датуецца 1907 г.

Уключаўся і ў пазнейшае прыжыццёвае выданне: Выбр. тв., 1935, т. I.

Пры перавыданні першага тома (1954) рэдкалегіяй шасцітомнага Зб. тв. паэта (1951—1954) унесена праўка ў другі радок: «Хай пацеха цябе не міне!» замест «Хай пацеха цябе міне!». Рэдкалегія дадзенага выдання лічыць, што ўнясенне гэтай праўкі не мае падстаў. Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях другі радок верша гучаў так: «Хай пацеха цябе міне!»

Верш пераклаў на рускую мову Г. Сямёнаў.

*На бел.⟨арускую⟩ выд.⟨авецкую⟩ суполку*
*«Загляне сонца і ў наша аконца»* (с. 163)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI, дзе змешчаны разам з творамі іншых гадоў пад агульным загалоўкам «Эпіграмы». Пад тэкстам ***Горы абяцаці: 1907 г.

Упершыню — «Полымя», 1929, № 3, дзе памылкова датуецца 1917 г.

Гэта дзве эпіграмы Я. Купалы на першае легальнае беларускае выдавецкае таварыства «Загляне сонца і ў наша аконца» (заснавана ў 1906 г. у Пецярбурзе), аб'яднаныя адной назвай.

Першыя ўзоры сатыры і гумару ў паэзіі Я. Купалы.

Гэтыя эпіграмы, у якіх Я. Купала крытыкуе выдаўцоў за маруднасць у працы, за невыкананне плана выпуску беларускіх кніг, сведчаць пра неадназначныя адносіны паэта да выдавецкага таварыства.

З'яўленне эпіграм было выклікана, відаць, і тым, што затрымлівалася выданне зб. «Жалейка», запланаванае на 1906 г. (выйшаў у 1908 г.).

Чарнавы аўтограф без подпісу і без даты пад загалоўкам «Эпіграмы на БВС» змешчаны на здвоеным лісце разам з паэмай «Нікому» (1906). (ДзЛМЯнК, ф. А, воп. 1-р 6, адз. зах. 129-а, л. 1).

У пазнейшыя прыжыццёвыя выданні не ўключаўся.

У Зб. тв., 1951, т. I эпіграмы ***Што і мы аб чымсь... і ***Горы абяцаці... беспадстаўна змешчаны як асобныя вершы пад назвамі «Эпіграма» і з падзагалоўкамі «На бел.⟨арускую⟩ выд.⟨авецкую⟩ суполку «Загляне сонца і ў наша аконца».

У каментарыях Зб. тв., 1951, т. I даюцца наступныя варыянты рукапісу эпіграмы «Горы абяцаці...», якія не адпавядаюць тэксту адзінага чарнавога аўтографа.

7—8 Тваёй мовай кніжак
Не друкуецца.

У Зб. тв., 1951, т. І гэтыя «варыянты» ўзніклі, відаць, з-за дрэннага прачытання тэксту.

*«Мо чалавекам з рук, з вачэй...»* (с. 164)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI, дзе змешчаны разам з творамі іншых гадоў пад агульным загалоўкам «Эпіграмы».

Упершыню — «Полымя», 1929, № 3, разам з іншымі творамі пад агульным загалоўкам «Эпіграмы», непасрэдна перад тэкстам верша стаіць «На...». Пад тэкстам: 1907 г.

У пазнейшыя прыжыццёвыя выданні не ўключаўся.

У Зб. тв., 1951, т. І беспадстаўна змешчаны пад назвай «Эпіграма» і з падзагалоўкам «На бел. ⟨арускую⟩ выд. ⟨авецкую⟩ суполку «Загляне сонца і ў наша аконца».

У ЭД, с. 403 выказваецца меркаванне, што верш мог быць адрасаваны канкрэтнай асобе.

*Не дайце згінуць...* (с. 165)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1930, № 5—6, дзе датуецца 1907 г.

У пазнейшыя прыжыццёвыя выданні не ўключаўся.

Верш пераклалі: на рускую мову А. Чывіліхін, на кіргізскую — Ц. Уметаліеў, на ўзбекскую — Тулкун, на чувашскую — А. Алга.

*Тканне наметкі* (с. 165)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1930, № 5—6, дзе датуецца 1907 г.

У пазнейшыя прыжыццёвыя выданні не ўключаўся.

*Нарог* — частка плуга, якая падразае зямлю знізу.

*Бёрда* — прылада ў ткацкім станку з тонкіх пласцінак накшталт грэбеня з дзвюма спінкамі для прыбівання ўточнай ніткі.

*Навой* — тут: пярэдні і задні валік у кроснах.

*Чын* — тут: месца скрыжавання нітак асновы, дзе ходзіць чаўнок.

*Ніт* — тут: злучэнне ніцяных петляў у ткацкім станку для падымання нітак асновы.

*Панажы* — прылада ў ткацкім станку ў выглядзе дзвюх або некалькіх дошчачак пад кроснамі, пры дапамозе якіх нагамі прыводзяцца ў рух ніты.

*Цэўка* — тут: прыстасаванне ў выглядзе трубкі, на якое навіваюцца ніткі і якое ўстаўляецца ў чаўнок пры тканні.

*Губка* — тут: мера асновы, палатна даўжынёй на хатнюю сцяну.

*У зялёным садочку* (с. 168)
(«У зялёным садочку...»)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI, дзе датуецца 1907 г.

Радкі 2—3 рэдкалегіяй Зб. тв., 1972—1976 слушна выпраўлены па аўтографе. У асноўным тэксце было: «Пад ігрушай удваёчку».

Чарнавы аўтограф без подпісу і без даты змешчаны на здвоеным лісце разам з паэмай «Нікому» (ДзЛМЯнК, ф. А, воп. 1-р 6, адз. зах. 129-а, л. 1).

У пазнейшыя прыжыццёвыя выданні не ўключаўся.

Верш пераклалі: на рускую мову — В. Шэфнер, на таджыкскую — М. Фархат.

*Вецер, і сокал, і я...* (с. 168)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. І.

Упершыню — «Гусляр», 1910, дзе надрукаваны пад назвай «І вецер, і сокал, і я...».

Радкі 8 і 12 рэдкалегіяй Зб. тв. выпраўлены па аўтографе. У асноў-

ным тэксце было: Пяе а бязволлі людзей; Хоць гора цягаю ланцуг. Пры падрыхтоўцы Зб. тв., 1925 гэтыя радкі былі зменены паэтам, відаць, па цэнзурных меркаваннях. (Гл. Гульман Р. Тэксталогія твораў Янкі Купалы. Мн., 1971.)

Чарнавы аўтограф без подпісу і без даты змешчаны на здвоеным лісце разам з паэмай «Нікому» (ДзЛМЯнК, ф. А, ф. 1-р 6, адз. зах. 129-а, л. 2). У чарнавым аўтографе адсутнічаюць тры радкі апошняй страфы.

Верш уключаўся ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Выбр. тв., 1935, т. I.

Верш умоўна можна датаваць 1906—1907 гг. Падставай для такога сцвярджэння можа служыць той факт, што аўтограф верша «Вецер, і сокал, і я...» змешчаны разам з творамі (паэма «Нікому», вершы «Эпіграмы на БВС», «У зялёным садочку»), якія датуюцца 1906 (паэма «Нікому») і 1907 гг. (вершы «Эпіграмы на БВС», «У зялёным садочку»).

Верш пераклалі: на рускую мову М. Браўн, Д. Бродскі, Р. Куранёў, І. Шклярэўскі, на ўкраінскую — А. Капштэйн, Р. Лубкіўскі, на асецінскую — Н. Джусайты, А. Пухаеў, на грузінскую — Н. Гурашыдзе, на чувашскую — М. Сандроў, на балгарскую — Х. Бербераў, на польскую — І. Сікірыцкі.

## 1905—1907

Усе вершы гэтага раздзела ўмоўна датуюцца 1905—1907 гг., перыядам стварэння і падрыхтоўкі да друку зб. «Жалейка» (выд. «Загляне сонца і ў наша аконца», Пецярбург, 1908).

### *«Грай, мая жалейка...»* (с. 170)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Жалейка», 1908, дзе надрукаваны ў якасці эпіграфа.

Як эпіграф змешчаны ў другім выданні зборніка (Зб. тв., 1925, т. I) і ў Зб. тв., 1928, т. I.

Верш пераклаў на рускую мову Ус. Раждзественскі.

### *Я не паэта* (с. 170)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Жалейка», 1908.

Верш уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1940, т. IV.

У ЭД, с. 693 адзначаецца, што верш напісаны 3 чэрвеня 1906 г. Але аўтар артыкула гэту дату не пацвярджае фактамі.

У лістападзе 1910 г. у газетах «Минский голос» (21/XI, перакладчык пад псеўданімам Номо) і «Полесье» змешчаны пераклад верша на рускую мову. Пазней Я. Нячаеў таксама зрабіў пераклад, які ўвайшоў у першы зборнік Я. Купалы на рускай мове «Избранные стихотворения в переводах русских поэтов» (М., 1919). У ЦДАЛіМ (г. Масква) у фондзе 66 І. А. Белавусава захоўваецца аўтограф перакладу, зробленага Я. Нячаевым (воп. 1, адз. зах. 1399).

Акрамя гэтага, верш пераклалі: на рускую мову Н. Кіслік, Ус. Раждзественскі, Б. Турганаў, на ўкраінскую — Р. Кочур, А. Малышка, Т. Масэнка, на армянскую — О. Касян, А. Лусенц, Л. Мірыджанян, Р. Пагасян, Х. Рачан, М. Херанян, на асецінскую — А. Пухаеў, на грузінскую — А. Чыладзе, на казахскую — Ж. Абдзірашаў, на латышскую — Ю. Ванаг, на літоўскую — А. Венцлава, на малдаўскую —

М. Луцік, на туркменскую — А. Агабаеў, на ўзбекскую — Тулкун, на чачэнскую А. Шайхіеў, на чувашскую — М. Уйп, на англійскую — У. Мэй, А. Пракоф'ева, на балгарскую — Н. Вылчаў, Л. Стаянаў, на венгерскую — Л. Кардаш, на іспанскую — К. Шэрман, на кітайскую — Джу Цзі, на нямецкую (перакладчык невядомы), на польскую — К. Яворскі, А. Ясцер, на румынскую — С. Дэлчу, на славацкую — Ю. Андрычык, на французскую — Л. Арагон, Ж. Гаш, на чэшскую — К. Беднарж.

На музыку верш паклалі С. Картэс (араторыя-паэма «Памяці паэта» ў 7-мі ч., паст. 1973), Ул. Мулявін і В. Помазаў (вакальна-сімфанічная паэма «Янка Купала», 1982).

Верш цытуецца ў працы Я. Карскага «Белорусы».

*Каму вас, песні?..* (с. 171)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Жалейка», 1908, дзе надрукаваны пад загалоўкам «Каму?» і з эпіграфам «Абяцанка-цацанка, но не ўсякаму радасць» (Прыказка).

Верш уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1940, т. IV.

Радок 16 у Зб. тв., 1940, т. IV даецца ў наступным выглядзе:

Пацук рукопісі паесць.

Р. I. Гульман у кнізе «Тэксталогія твораў Янкі Купалы» (Мн., 1971. С. 40) лічыць, што гэты радок папраўлены рукой рэдактара тома, а не самога Я. Купалы. У выніку такой замены, як адзначае даследчыца, парушаецца рыфма, вобраз не адпавядае стылю гэтага верша.

Верш пераклалі на рускую мову Н. Кіслік, Ус. Раждзественскі. На словы верша Т. Шнітман стварыў раманс «Буду пець» (1930).

Верш цытуецца ў працах украінскага даследчыка Д. Дарашэнкі «Беларусы і іх нацыянальнае адраджэнне» («Наша ніва», 1909, № 4, 22 (4) студз., на бел. мову пераклаў Я. Журба) і Я. Карскага «Белорусы».

*Патнець* — пагрызе.

*Шчуры* — пацукі.

*З маіх песень* (с. 173)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Жалейка», 1908, дзе надрукаваны пад загалоўкам «З маіх песняў».

У асноўным тэксце пасля 16 радка ўзноўлена страфа, якая пасля 1908 г., відаць, з-за цэнзурных меркаванняў адсутнічала ва ўсіх прыжыццёвых выданнях.

Верш уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1940, т. IV.

Упершыню верш перакладзены на рускую мову I. А. Белавусавым і Я. Нячаевым. У ЦДАЛіМ (г. Масква) у фондзе 348 Я. Нячаева захоўваецца аўтограф перакладу (воп. 1, адз. зах. 17). А пераклад, зроблены I. А. Белавусавым, увайшоў у першы зборнік Я. Купалы на рускай мове «Избранные стихотворения в переводах русских поэтов» (М., 1919).

Акрамя гэтага, верш пераклалі: на рускую мову Ус. Раждзественскі, на ўкраінскую — А. Малышка, на ўзбекскую — Тулкун.

Верш цытуецца ў працы Я. Карскага «Белорусы».

*Да песень* (с. 173)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Жалейка», 1908, дзе надрукаваны пад загалоўкам «К песням».

Верш уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Выбр. тв., 1935, т. I.

Упершыню верш перакладзены на рускую мову Я. Нячаевым. У ЦДАЛіМ (г. Масква) у фондзе 66 І. А. Белавусава захоўваецца аўтограф перакладу, зробленага Я. Нячаевым (воп. 1, адз. зах. 1399). Нячаеўскі пераклад верша ўвайшоў у першы зборнік Я. Купалы на рускай мове «Избранные стихотворения в переводах русских поэтов» (М., 1919).

Акрамя гэтага, верш пераклалі: на рускую мову А. Пракоф'еў, на ўкраінскую — А. Малышка, А. Юшчанка, на латышскую — Ю. Ванаг, на літоўскую — Э. Матузявічус, на польскую — М. Кананові.

Верш цытуецца ў працы Я. Карскага «Белорусы».

*Да сваіх думак* (с. 175)
(«Думкі, думкі-весялушкі!..»)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Жалейка», 1908.

У зб. «Жалейка» (1908) даецца ў зносцы тлумачэнне слова шакал: «Шакал — звер да нашай лісіцы падобны, хітры дый баязлівы, да слабейшага ён зух, ад сільнага ўцякае».

Верш уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1940, т. IV; Выбр. тв., 1935, т. 1.

Ул. Самойла ў рэцэнзіі «Великий праздник. «Жалейка» Янука Купалы» (газ. «Минский курьер», 1908, № 113, 23 жн.) пісаў пра верш наступнае: «Недавний весенний «вецер вольны, што па горах скача» и только что пережитые «бурлівыя паводкі... што вясною час кароткі... залівалі, затаплялі» «родную зямельку»,— «навеялі, нанеслі» все эти «думкі, думкі-весялушкі», что в сердце поэта, «нібы птушкі, песняй азваліся», как он говорит в прелестном стихотворении «Да сваіх думак». И эти «думкі-весялушкі», эти «птушкі» родной поэзии разлетаются по всей «роднай зямельцы» и, чаруя своей близкой народному сердцу красотой, неизмеримо больше сделают для народного самосознания и духовного роста, чем десятки обрусительных школ и тысячи поповских проповедей и ксендзовских казаний».

Верш пераклалі на рускую мову М. Браўн, А. Пракоф'еў.

Верш цытуецца ў працы Я. Карскага «Белорусы».

*Аблуда* — тут: няправільная памылковая думка, погляд, памылковае ўяўленне аб чым-небудзь.

*Відма* — здань, вобраз нябожчыка, які ўзнікае ва ўяўленні містычна настроеных або псіхічнахворых людзей; прывід; створаны ва ўяўленні вобраз таго, чаго ў сапраўднасці няма.

*Зарэе* — займаецца на зару.

*Думкі* (с. 177)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Жалейка», 1908.

Верш уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1940, т. IV.

Радок 25 у Зб. тв., 1940, т. IV даецца ў наступным выглядзе:

Са сну будзяць, душу нудзяць.

Магчыма, што тут памылка друку.

Верш пераклалі: на рускую мову В. Шэфнер, на таджыкскую — М. Фархат.

Верш цытуецца ў працы Я. Карскага «Белорусы».

*Я не сокал...* (с. 179)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Жалейка», 1908, дзе памылкова надрукаваны двой-

чы пад двума загалоўкамі: «З маіх думак» (с. 63—64) і «Хто я?» («Думка») (с. 131—132).

Верш уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1940, т. IV.

Верш пабудаваны ў форме традыцыйнай каламыйкі (ЭД, с. 693).

Упершыню верш перакладзены на рускую мову Я. Нячаевым. Пераклад пад назвай «Из моих думок» увайшоў у першы зборнік Я. Купалы на рускай мове «Избранные стихотворения в переводах русских поэтов» (М., 1919).

Акрамя гэтага, верш пераклаў на рускую мову В. Шэфнер.

Верш цытуецца ў працы Я. Карскага «Белорусы».

*Гайна* — рака, правы прыток Бярэзіны, даўжыня 100 км, цячэ ў Лагойскім, Смалявіцкім і Барысаўскім раёнах Мінскай вобл. На рацэ — г. п. Лагойск, каля яго плаціна.

### *Змачу пёрка...* (с. 180)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Жалейка», 1908.

Верш уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1940, т. IV.

Па характару сатырычнага адлюстравання рэчаіснасці пераклікаецца з творчасцю Ул. Сыракомлі (ЭД, с. 252).

Верш выконваўся на вечарыне студэнтаў-беларусаў у Варшаве 21 лістапада 1911 г.

Верш цытуецца ў працы Я. Карскага «Белорусы».

*Атрамант* — устарэлае, тое, што і чарніла.

Вымоўны выраз *«крэнту-мэнту, крэнту-мэнту»* (у нар. гаворках *«крэнтам-мэнтам»*) ужыты ў значэнні: няпраўдай, ашуканствам, махлярствам.

### *Песня аб песнях* (с. 180)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Жалейка», 1908.

Верш уключаўся і ў Зб. тв., 1928, т. I.

Верш пераклаў на рускую мову Ус. Раждзественскі.

Верш цытуецца ў рэцэнзіях Ул. Самойлы «Жалейка»: песні Янука Купалы» («Наша ніва», 1908, № 17, 15(28) жн.), «Великий праздник. «Жалейка» Янука Купалы» («Минский курьер», 1908, № 113, 23 жн.) і ў працы Я. Карскага «Белорусы».

### *«Хоць ты, сэрца, лопні, трэсні...»* (с. 181)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Жалейка», 1908.

Верш уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1940, т. IV.

У ЭД, с. 638 адзначаецца, што твор з'яўляецца звяном у цыкле вершаў, вядомых пад назвай «Песні аб песнях».

У № 67 за 13 красавіка 1908 г. у газ. «Минский курьер» з'явіўся пераклад верша на рускую мову пад назвай «Белорусу» (пераклад зрабіў Ул. Самойла).

Акрамя гэтага, верш пераклалі: на рускую мову Я. Нячаеў (у ЦДАЛіМ (г. Масква) захоўваецца аўтограф перакладу), Г. Сямёнаў, на ўкраінскую — А. Капштэйн, на асецінскую — А. Пухаеў.

Верш выконваўся на беларускіх вечарынах у Капылі 30—31 мая, 2 чэрвеня 1911 г., у Слуцку 30—31 мая 1911 г.

Верш цытуецца ў працы Я. Карскага «Белорусы».

*Плачуць мае песні* (с. 183)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Жалейка», 1908.

Радок 27 рэдкалегіяй Зб. тв., 1972—1976 слушна выпраўлены па «Жалейцы», 1908. У асноўным тэксце было: «Па чужых кутках век».

Верш уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1940, т. IV.

Верш па змесце і паэтычнай форме прымыкае да ранніх «песняў-скаргаў», напісаных пад уплывам паэзіі Ф. Багушэвіча (ЭД, с. 487).

Упершыню верш перакладзены на рускую мову І. Белавусавым, Я. Нячаевым. У ЦДАЛіМ (г. Масква) у фондзе 66 І. А. Белавусава захоўваецца аўтограф перакладу (воп. 1, адз. зах. 142). Пераклад, зроблены І. А. Белавусавым, увайшоў у першы зборнік Я. Купалы на рускай мове «Избранные стихотворения в переводах русских поэтов» (М., 1919).

Акрамя гэтага, верш пераклалі: на рускую мову М. Браўн, М. Ісакоўскі, на ўкраінскую — Р. Бойка, А. Малышка, на кіргізскую — Ц. Уметаліеў, на латышскую — Ю. Ванаг, на літоўскую — Э. Матузявічус, на таджыкскую — М. Фархат.

Верш цытуецца ў працы Я. Карскага «Белорусы».

*Гэй, ты, сэрцайка...* (с. 184)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. 1, дзе змешчаны ўпершыню.

Верш уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1940, т. IV.

Па эстэтычным змесце і настраёвасці верш можна аднесці да твораў, якія М. Багдановіч характарызаваў як пераймальныя («пісаныя пад Бурачка»). Аднак у адрозненне ад чыста «песенных» ранніх вершаў тут больш выразна выяўлены матывы паэтычнага самавызначэння, праблема сувязей мастацкай творчасці з жыццём народа. У гэтых адносінах верш бліжэй да праграмных твораў «Грай, мая жалейка», «Я не паэта», «Каму вас, песні» і інш.

Верш пераклаў на латышскую мову Ю. Ванаг.

*Адповедзь* (с. 185)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Жалейка», 1908.

Верш уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Выбр. тв., 1935, т. I.

Па настроі і накіраванасці твор блізкі да вершаў «Родныя песні», «Першыя песні», «Я не для вас», «Я не паэта» і інш.

У ЭД, с. 30 адзначаецца, што канкрэтны адрасат верша невядомы, але за зборным вобразам «Вы, паны...» бачацца тыя з польскіх шавіністычных крытыкаў, якія спрабавалі адарваць Купалу ад беларускай паэзіі, прарочачы яму гучную славу, калі ён стане трубадурам іх ідэй і будзе пісаць па-польску.

У гэтым жа даведніку таксама адзначаецца, што вельмі выразная біяграфічная аснова верша дае падставу меркаваць, што твор напісаны ў час працы на бровары, калі будучыня ўяўлялася паэту невыразна і выклікала песімістычныя настроі.

Верш пераклалі: на рускую мову А. Пракоф'еў, на ўкраінскую — Дз. Паўлычка, на казахскую — С. Асанаў, на польскую — Ф. Няўважны.

*Як пайду я, пайду...* (с. 186)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Жалейка», 1908.

Верш уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Выбр. тв., 1935, т. I.

Упершыню верш перакладзены на рускую мову Я. Нячаевым, пазней А. Пракоф'евым, на ўкраінскую — Р. Бойкам, Дз. Паўлычкам.

*Дзе б і праўда жыла...* (с. 187)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Жалейка», 1908, дзе надрукаваны пад загалоўкам «З пралётных дум».

Радок 5 рэдкалегіяй Зб. тв., 1972—1976 слушна выпраўлены па «Жалейцы», 1908. У асноўным тэксце было: «І запеў бы там песню, эй, думку сваю».

Верш уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Выбр. тв., 1935, т. I.

Радок 12 у Зб. тв., 1928, т. I; Выбр. тв., 1935, т. I і Зб. тв., 1951, т. I даецца ў наступным выглядзе:

І з такой у магілу напэўна зыйду.

Магчыма, тут памылка друку.

Верш пераклаў на рускую мову А. Пракоф'еў.

Верш цытуецца ў працы Я. Карскага «Белорусы».

*Рвуцца сілы...* (с. 188)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I, дзе змешчаны ўпершыню.

Верш уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Выбр. тв., 1935, т. I.

*Па жыццёвай пуцявіне* (с. 189)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Жалейка», 1908, дзе апублікаваны пад загалоўкам «З пралётных думак».

Верш уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Выбр. тв., 1935, т. I.

Страфічная структура і вершаваны памер блізкія да народнай каламыйкі (ЭД, с. 449).

Верш пераклаў на рускую мову А. Пракоф'еў.

*З асенніх напеваў* (с. 190)

(«Не гудзі так, восень...»)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Жалейка», 1908.

У асноўным тэксце пасля 12 радка ўзноўлена страфа, якая пасля 1908 г., відаць, з-за цэнзурных меркаванняў адсутнічала ва ўсіх прыжыццёвых выданнях.

Верш уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Выбр. тв., 1935, т. I.

Упершыню верш перакладзены на рускую мову Я. Нячаевым. У ЦДАЛіМ (г. Масква) у фондзе 66 І. А. Белавусава захоўваецца аўтограф перакладу, зробленага Я. Нячаевым (воп. 1, адз. зах. 1399). Нячаеўскі пераклад верша ўвайшоў у першы зборнік Я. Купалы на рускай мове «Избранные стихотворения в переводах русских поэтов» (М., 1919).

Акрамя гэтага, верш пераклалі: на рускую мову М. Ісакоўскі, А. Пракоф'еў, на грузінскую — Г. Каландадзе, М. Мачаварыяні, на таджыкскую — М. Фарҳат, на кітайскую — Джу Цзі.

Верш цытуецца ў працы Я. Карскага «Белорусы».

*З песень нядолі* (с. 190)

(«Шумныя бярозы...»)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Жалейка», 1908, дзе надрукаваны без загалоўка.

У асноўным тэксце пасля 40 радка ўзноўлена страфа, якая пасля 1908 г., відаць, з-за цэнзурных меркаванняў адсутнічала ва ўсіх прыжыццёвых выданнях.

Верш уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Выбр. тв., 1935, т. I.

Упершыню верш перакладзены на рускую мову Я. Нячаевым, пазней Н. Кіслікам, А. Пракоф'евым, на ўкраінскую — П. Дарошкам, Дз. Паўлычкам, на асецінскую — А. Пухаевым, на казахскую — Ж. Абдзірашавым, на малдаўскую — П. Дарые, на эстонскую — М. Вээтам, на англійскую — У. Мэем, на іспанскую — К. Шэрманам.

Верш стаў народнай песняй (апрацоўка Р. Пукста, К. Паплаўскага).

На музыку верш паклаў У. Тэраўскі.

*Срогія* — лютыя, суровыя.

*З песень аб сваёй старонцы* (с. 192)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Жалейка», 1908, дзе надрукаваны пад загалоўкам «З песняў а сваёй старонцы».

Верш уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1940, т. IV; газ. «Беларуская вёска», 1930, 24 мая.

Ідэйным зместам твор набліжаецца да верша Я. Коласа «Родныя вобразы» (ЭД, с. 229).

Упершыню верш быў перакладзены на рускую мову I. Белавусавым (пераклад увайшоў у першы зборнік Я. Купалы на рускай мове «Избранные стихотворения в переводах русских поэтов» (М., 1919), на польскую — M. W. S. (зб. «З аколіц Дзвіны», Вільня, 1912, с. 184; ёсць меркаванне, што M. W. S.— крыптанім польскага паэта і перакладчыка пач. XX ст. Мар'яна Шадурскага).

Р. Зямкевіч у рэцэнзіі на зб. «З аколіц Дзвіны» («Наша ніва», 1912, 8.III) назваў пераклад гэтага верша Купалы ў прыгаданым зборніку пасрэдным.

А 6—7. VII 1912 г. у газ. «Витебский вестник» была апублікавана рэцэнзія (без подпісу) «Ваколіцы Дзвіны» на краязнаўчы зб. «З аколіц Дзвіны». Рэцэнзент назваў Я. Купалу «польска-беларускім паэтам», аўтарам «псеўданародных вершаў». Аўтар рэцэнзіі не заўважыў верш «А хто там ідзе?», а засяродзіўся на спрошчанай крытыцы эканамічных і геаграфічных рэалій верша «З песень аб сваёй старонцы», спрабуючы даказаць, быццам у сялянскім побыце няма той беднасці і нядолі, пра якія пісаў паэт. Рэцэнзент навучаў Купалу, што на Беларусі водзяцца не толькі «дрозд ды гусь», але «салаўі і іншыя пеўчыя птушкі», а беларускія сяляне «Янка ды Сымонка» будуюць цагляныя дамы і «паляпшаюць умовы сваёй гаспадаркі».

Акрамя гэтага, верш пераклалі: на рускую мову А. Андрэеў, Н. Кіслік, М. Сідарэнка, на ўкраінскую — Дз. Паўлычка, на казахскую — Ж. Абдзірашаў, на эстонскую — М. Вээтам, на англійскую — В. Рыч, на французскую — перакладчык невядомы.

Паводле верша Л. Шлег стварыла праграмны інструментальны цыкл.

Верш цытуецца ў рэцэнзіях Ул. Самойлы «Жалейка»: песні Янука Купалы» («Наша ніва», 1908, № 17, 15 (28) жн.), «Великий праздник.

«Жалейка» Янука Купалы» («Минский курьер», 1908, № 113, 23 жн.), нарысе С. Русавай «Возрождение белорусской литературы» (часоп. «Познание России», 1909, № 3), артыкуле Л. Гмырака «Яшчэ аб сплачванні доўгу» («Наша ніва», 1913, № 33, 16 жн. і № 34, 5 верас.), працы Я. Карскага «Белорусы».

*Зрэб'е* — грубая кастрывая кудзеля, якая аддзяляецца пры трапанні лёну, пянькі; палатно з такой кудзелі.

*Гэта крык, што жыве Беларусь* (с. 194)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Жалейка», 1908.

Верш уключаўся і ў Зб. тв., 1928, т. I.

Прасякнуты ідэяй патрыятызму, твор блізкі да вершаў «Мая хатка», «Палац» і інш. (ЭД, с. 180—181).

Упершыню на рускую мову верш перакладзены Я. Нячаевым, пазней В. Шэфнерам, на ўкраінскую — А. Малышкам, на армянскую — Р. Пагасян, на казахскую — Ж. Кашкінавым, на балгарскую — Н. Вылчавым, на румынскую — С. Дэлчу, на французскую — Ж. Гашам.

Верш ілюстраваны Я. Чарняцінам (у кн.: Я. Купала «Вершы і паэмы», М., 1982).

Словы «Гэта крык, што жыве Беларусь!» узяты эпіграфам у рэцэнзіі Ул. Самойлы «Великий праздник. «Жалейка» Янука Купалы» («Минский курьер», 1908, № 113, 23 жн.). Гэтыя ж словы паўтараюцца і ў тэксце самой рэцэнзіі.

Верш цытуецца таксама ў працах украінскага даследчыка Д. Дарашэнкі «Беларусы і іх нацыянальнае адраджэнне» («Наша ніва», 1909, № 4, 22 (4) студз., на бел. мову пераклаў Я. Журба) і Я. Карскага «Белорусы».

*Асвер (абл.)* — журавель калодзежа.

*Тачок* — памянш. ад ток — тут: спецыяльны будынак для складвання, абмалоту і ачысткі збожжа, гумно.

*А хто там ідзе?* (с. 196)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Жалейка», 1908.

Белавы аўтограф без загалоўка, без подпісу, захаваўся добра (ДзЛМЯнК, ф. А, воп. 1-р 1, адз. зах. 6-а, л. 1).

Верш уключаўся і ў іншыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1940, т. IV; Выбр. тв., 1935, т. I;

Беларуская рада, 1917, 3 снеж.;

Дыяменты беларускага прыгожага пісьменства, К., 1919;

Памятка беларусам — палонным, Берлін, 1919;

Дэкламатар, Вільня, 1921;

Беларускія ведамасці, 1921, 23 кастр.;

Выпісы з беларускай літаратуры, Мн., 1923;

Дварчанін І. Хрэстаматыя новай беларускай літаратуры, Вільня, 1927;

Беларуская крыніца, 1933, 5 сак.;

Чырвоная змена, 1935, 11 снеж.;

Зара, 1940, 8 снеж.;

Піянер Беларусі, 1940, 8 снеж.;

Камуністычная праца, 1935, 11 снеж.;

Нова Білорусь, Харкаў, 1929;

Плуг, 1928, № 10 (на укр. мове, перакладчык С. Піліпенка).

Верш напісаны лагаэдам, надзвычай рэдкай разнавіднасцю

ўсходнеславянскага верша, што ўзнікла як пераходная форма ад народнай тонікі да сілаба-танічнай сістэмы вершаскладання.

Як харал твор выконваўся, у прыватнасці, у трупе І. Буйніцкага (пытанне спяваў саліст, адказваў хор).

У 1910 годзе кампазітар Л. Рагоўскі паклаў верш на музыку, і яго як неафіцыйны беларускі гімн выконвалі да Кастрычніцкай рэвалюцыі, а ў Заходняй Беларусі да 1939 г. Верш Я. Купалы з нотамі Л. М. Рагоўскага газ. «Наша ніва» надрукавала асобнай лістоўкай (Вільня, 1910) на беларускай мове і лацінкай. Верш Купалы з нотамі Л. М. Рагоўскага быў надрукаваны таксама ў «Беларускім календары «Нашай нівы» на 1910 г.

У тым жа 1910 годзе па просьбе М. Горкага газ. «Наша ніва» нада-слала пісьменніку, які жыў у гэты час на Капры, тэкст купалаўскага верша з нотамі (ліст М. Горкага ў газ. «Наша ніва», напісаны не пазней 26 (13) верасня 1910 г.). Захаваўся водгук М. Горкага, які ў пісьме да М. М. Кацюбінскага ад 7 (20) лістапада 1910 г. пісаў: «У кніжку маю ўкладзены лісток-песня і ноты, нешта накшталт беларускага гімна. Мяне гэта рэч усхвалявала» (М. Горький. Собр. соч.: В 30 т. М., 1955. Т. 29. С. 138—139).

Неўзабаве верш быў перакладзены М. Горкім на рускую мову і змешчаны ў артыкуле пісьменніка «Пра пісьменнікаў-самавукаў», надрукаваным у часоп. «Современный мир», 1911, № 2, с. 208.

Прыводзім тэкст перакладу і каментарый да яго М. Горкага: «Я звяртаю ўвагу скептыкаў на маладую літаратуру беларусаў — самага забітага народа ў Расіі,— на работу людзей, якія згрупаваліся вакол газеты «Наша ніва». Дазволю сабе прывесці песню, выдадзеную нядаўна «Нашай нівай», словы напісаны беларускім паэтам Янкам Купалам:

А кто там идет по болотам и лесам
Огромной такою толпой?
Белорусы.
А что они несут на худых плечах,
Что подняли они на худых руках?
Свою кривду.
А куда они несут эту кривду всю,
А кому они несут напоказ свою?
На свет божий.
А кто же это их, не один миллион,—
Кривду несть научил, разбудил их сон?
Нужда, горе.
А чего же теперь захотелось им,
Угнетенным века, им, слепым и глухим?
Людьми зваться»*.

Каб усвядоміць сабе глыбокі сэнс гэтай песні,— якая, магчыма, на час зробіцца народным гімнам беларусаў,— чытачу трэба было б паглядзець «Нашу ніву» — яна многа цікавага скажа яму».

Многа пазней, у прамове на ўрачыстым пасяджэнні з нагоды 35-годдзя літаратурнай дзейнасці, Я. Купала тлумачыў задуму свайго твора наступным чынам: «Мне хацелася крыкнуць на ўвесь свет аб тым, як цяжка пакутуе народ пад прыгнётам цара і капіталістаў. Мне хацелася намаляваць вобраз народа, які ідзе з рукамі ў крывавых мазалях, з нагамі ў лапцях і нясе на плячах сваю крыўду. Мне хацелася, каб

* Прашу Янку Купалу дараваць мне дрэнны пераклад яго красамоўнай і суровай песні (М. Горкі).

гераічны і свабодалюбівы беларускі народ знішчыў усіх сваіх крыўдзіцеляў» (Я. Купала. Зб. тв.: У 7 т. Мн., 1976. Т. 7. С. 319).

Верш «А хто там ідзе?» адразу пасля публікацыі пачаў перакладацца на мовы народаў свету: у 1909 г. М. Шапавалам на ўкраінскую (нарыс «Беларусы» як 30-ты вып. «Просвітних листків», Львоў), у 1910 г. Л. Гірам на літоўскую (артыкул Л. Гіры «З беларускай літаратуры» (газ. «Viltis» («Надзея»), 1910, 1.IX), Л. Гіра назваў гэты верш «сапраўднай жамчужынай сусветнай паэзіі, адным з найпрыгажэйшых гімнаў адраджэння»), у 1911 г. М. Горкім на рускую і А. Чэрным на чэшскую, у 1912 г. на польскую ў зб. «З аколіц Дзвіны» (Вільня, 1912, с. 185; пераклад падпісаны крыптанімам M. W. S. Ёсць меркаванне, што M. W. S.— крыптанім польскага паэта і перакладчыка пач. XX ст. Мар'яна Шадурскага).

Р. Зямкевіч у рэцэнзіі на зб. «З аколіц Дзвіны» («Наша ніва», 1912, 8.III) назваў пераклад гэтага верша з названага зборніка пасрэдным, а ў другой рэцэнзіі («Витебский вестник», 1912, 6 і 7.VII) на пераклад верша зусім не звернута ўвагі.

У зб. «З аколіц Дзвіны» (Вільня, 1912) да верша «А хто там ідзе?» пастаўлены эпіграф — чатырохрадкоўе з верша Ф. Багушэвіча «Не цурайся» («А кінь вокам на хату маю...»).

Як лепшы ўзор паэзіі Я. Купалы верш поўнасцю прыведзены:

у рэцэнзіі Ул. Самойлы «Великий праздник. «Жалейка» Янука Купалы» («Минский курьер», 1908, № 113, 23 жн.);

у нарысе С. Русавай «Возрождение белорусской литературы» (часоп. «Познание России», 1909, № 3, с. 115);

у працы Д. Дарашэнкі «Беларусы і іх нацыянальнае адраджэнне» («Наша ніва», 1909, № 4, 22 (4) студз.);

у артыкуле А. Л. Пагодзіна «Беларускія паэты» (часоп. «Вестник Европы», 1911, № 1);

у артыкуле Ежы Янкоўскага «Песняры маладой Беларусі» (часоп. «Przegląd Krajowy», 1909, № 7—8);

у кн. «Беларусь» (на ням. мове, Берлін, 1919; змешчаны нямецкім славістам Рудальфам Абіхтам (1850—1921) пад назвай «Беларуская нацыянальная песня»);

у артыкуле славенскага пісьменніка, крытыка і перакладчыка Андрэя Будала «Пра беларусаў і беларускую літаратуру» (зб. «Luč» («Прамень»), 1933, IX; змешчаны арыгінал і падрадковы пераклад верша). Твор характарызуецца як «беларускі гімн».

У артыкуле А. Гурло «Беларускае ігрышча ў Пецярбургу» («Наша ніва», 1913, 20 лют.) расказана і пра выкананне хорам песні «А хто там ідзе?».

3.IV 1915 г. у газ. «Вечерняя газета» быў надрукаваны артыкул «Горкі пра беларусаў», падпісаны псеўданімам «Бо-вичь» (гэты артыкул прыпісваецца Л. Гмыраку). Аўтар прывёў ацэнку Горкім творчасці Купалы і яго пераклад на рускую мову верша «А хто там ідзе?».

У 1940 г. у часоп. «Интернациональная литература» № 5—6 быў змешчаны ўрывак з артыкула М. Горкага «Аб пісьменніках-самавуках» — «Беларуская песня Янкі Купалы» з поўным перакладам у ім верша Купалы «А хто там ідзе?».

Ежы Янкоўскі ў артыкуле «Песняры маладой Беларусі» (часоп. «Przegląd Krajowy» («Пшэглёнд краёвы»), 1909, № 7 і 8) пісаў: «Чуваць у гэтым вершы водгулле размеранага кроку мільёнаў ног. Веліч пакрыўджанага народа, які ідзе на барацьбу за сваю чалавечую годнасць, на бой за шчасце, уздымае чытача. Песня аб тым вялікім паходзе імпануе, трывожыць, пранізвае пагрозай чакання. Народ ідзе!

Песня вырастае да сілы гімна, хоць яна ім не названа. Трэба нарадзіцца ў нашыя дні на берагах Віліі, каб з поўным усведамленнем зразумець той факт, што не кожны гімн ёсць гімнам. Параўнайце вышэй успомнены беларускі верш з так званым «Літоўскім гімнам» нейкага п. Антона Завішы... і пераканаецеся, што ў значнай ступені паэтычны дар Янкі Купалы перарастае мяжу роднай культуры».

Я. Карскі ў сваёй фундаментальнай працы «Белорусы» адзначаў наступнае: «В стихотворении «А хто там ідзе?» (Жал., 38), не особенно складном по форме, но сильно идейном по содержанию, выражено желание белорусов:

А чаго ж, чаго захацелась ім,
Пагарджаным век, ім, сляпым, глухім?
Людзьмі звацца».

Тэкст верша быў выкарыстаны ў харавой песні «А хто там ідзе?» У. Тэраўскага, які змясціў яе ў 1922 г. у зб. «Беларускі лірнік». Верш увайшоў у цыкл хораў a' cappella (1981) А. Мдывані. Р. Пукст напісаў кантату «А хто там ідзе?» на вершы Купалы, М. Клімковіча, П. Труса і К. Кірэенкі; К. Цесакоў стварыў араторыю «Мы — беларусы» на словы Я. Купалы, П. Панчанкі і М. Танка, дзе ў пралогу і эпілогу гучыць верш «А хто там ідзе?», М. Чуркін — хор.

У БДАМЛіМ (г. Мінск) захоўваецца аўтограф кантаты Р. Пукста «А хто там ідзе?» для хору, салістаў і сімфанічнага аркестра.

Паводле матываў верша З. Азгур выканаў эскіз скульптурнай кампазіцыі (загінула ў гады Айчыннай вайны), П. Сергіевіч жывапісныя палотны «А хто там ідзе?» і «Беларусы», У. Гоманаў — трыпціх «А хто там ідзе?», «Паланянкі», «Зямля родная», Я. Раманоўскі і В. Шаранговіч — графічныя карціны, В. Ціхановіч — ілюстрацыю, Б. Цітовіч застаўкі да верша ў кн. Купалы «Песня ў імя свабоды» (Кішынёў, 1982), М. Савіцкі ілюстрацыі ў кн. «А хто там ідзе?» «На мовах свету» (Мн., 1982).

У 1982 г. да 100-годдзя з дня нараджэння Я. Купалы верш быў выдадзены асобнай кнігай пад назвай «А хто там ідзе?». На мовах свету». У кнізе верш надрукаваны ў арыгінале (у т. л. на асобнай уклейцы — факсіміле яго аўтографа) і ў перакладах на 82 мовы народаў свету.

У 1982 г. каля в. Гаеўцы Маладзечанскага р-на была знойдзена гільза ад вінтовачнага патрона, у якой невядомы салдат бярог лісток адрыўнога календара з вершам «А хто там ідзе?» (дата лістка невядомая).

Да гэтага верша і выказанага ў ім жадання беларусаў «людзьмі звацца» апеляваў у час судовага працэсу над Беларускай сялянска-рабочай грамадой (1928) яе кіраўнік Б. Тарашкевіч.

Водгалас галоўнай думкі і вобразнага ладу верша адчуваецца ў вершах: А. Куляшова «Крыўда» (1931), А. Звонака «Беларусы» (1968), А. Грачанікава «Людзьмі звацца» (1973).

*Можна...* (с. 196)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I, дзе змешчаны ўпершыню.

Верш уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Выбр. тв., 1935, т. I; Выбр. тв. (Школьная серыя), Мн., 1935.

Верш пераклалі: на рускую мову Г. Сямёнаў, на ўкраінскую — В. Ткачэнка, на асецінскую — А. Пухаеў, на польскую — А. Баршчэўскі.

*«Я відзеў душы сільныя...»* (с. 197)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Жалейка», 1908, дзе надрукаваны пад загалоўкам «Я відзеў». Ва ўсіх астатніх прыжыццёвых выданнях — без загалоўка.

Верш уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Выбр. тв., 1935, т. I.

Верш з'яўляецца водгукам паэта на падзеі рэвалюцыі 1905—1907 гг.

Упершыню верш перакладзены на рускую мову М. Янчуком. Пераклад верша пад назвай «Я видел» увайшоў у першы зборнік Я. Купалы на рускай мове «Избранные стихотворения в переводах русских поэтов» (М., 1919).

Акрамя гэтага, верш пераклалі: на рускую мову В. Колычаў, І. Садоф'еў, на ўкраінскую — Дз. Паўлычка, на кіргізскую — Ц. Уметаліеў.

*Песня вольнага чалавека* (с. 197)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Жалейка», 1908.

Гэты верш, як і «Ах, ці доўга...», быў прызнаны цэнзурай адным з найбольш «злачынных» у «Жалейцы» (1908). У адносіне С.-Пецярбургскага камітэта па справах друку пракурору С.-Пецярбургскай судовай палаты ад 4 лістапада 1908 г. адзначалася: «...«Песня вольнага чалавека» (стар. 48—49) гаворыць аб тым, што ўсялякія насіллі «подлых» дэспатаў, накіраваныя да таго, каб закаваць у кайданы народную свабоду, знішчыць яе мечам ката і пятлёю, не маюць сэнсу, бо як нельга загасіць сонца, так нельга знішчыць імкненне народа да свабоды, і чым больш народ прыгнечаны, тым больш ён рвецца да свабоды...

У гэтым змесце верша «Песня вольнага чалавека» нельга не заўважыць адкрытага ўзбуджэння да дзеянняў яўна бунтаўнічых, г. зн. злачынства, прадугледжанага п. 1, арт. 129 Крымінальнага ўлажэння...» (Пуцявінамі Янкі Купалы: Дакументы і матэрыялы. С. 62).

Як вядома, на пасяджэнні Камітэта па справах друку 14 кастрычніка 1908 г., дзе разглядалася справа «Жалейкі», была прынята пастанова аб тым, каб пакласці на яе арышт і прыцягнуць да судовай адказнасці аўтара і асоб, «вінаватых у надрукаванні брашуры».

Верш уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Выбр. тв., 1935, т. I; Выбр. тв. (Школьная серыя), Мн., 1935; Дварчанін І. Хрэстаматыя новай беларускай літаратуры. Вільня, 1927;

Чырвоная змена, 1935, 11 снеж.;

Камуністычная праца, 1935, 11 снеж.;

Верш пераклалі: на рускую мову А. Пракоф'еў, на ўкраінскую — Р. Бойка, Дз. Паўлычка, на казахскую — Ж. Абдзірашаў, на латышскую — Ю. Ванаг, на татарскую — Н. Арсланаў, на англійскую — У. Мэй.

Верш цытуецца ў працы Я. Карскага «Белорусы».

*Воля* (с. 198)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I, дзе змешчаны ўпершыню.

Белавы аўтограф без даты з подпісам «Янук Купала» змешчаны на адным лісце з вершам «Наша мінуўшчына», які ўпершыню апублікаваны ў «Гусляры», 1910 (ДзЛМЯнК, ф. А, воп. 1-р 1, адз. зах. 3-а, л. 1).

У аўтографе рукою Я. Купалы адзначана: «У «Жалейку». Аднак

гэты верш, як і некаторыя іншыя творы паэта, увайшоў толькі ў другое выданне «Жалейкі» (Зб. тв., 1925, т. I).

У ЭД, с. 127 адзначаецца, што твор напісаны не пазней 1910 г. Верш напісаны ў «жалейкаўскі» перыяд, аб чым сведчыць памета рукою самога Я. Купалы на аўтографе. А ў ЭД гэта дата больш расцягнута.

Верш уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1940, т. IV; Выбр. тв., 1935, т. I; Выбр. тв. (Школьная серыя), Мн., 1935.

Верш пераклалі: на рускую мову П. Кабзарэўскі, А. Пракоф'еў, на ўкраінскую — А. Малышка, М. Цярэшчанка, на калмыцкую — М. Ханінаў, на кіргізскую — Ц. Уметаліеў, на ўзбекскую — Тулкун, на чувашскую — Г. Яфімаў.

*З песень беларускага мужыка* (с. 199)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Жалейка», 1908, дзе надрукаваны пад загалоўкам «З песняў беларускага мужыка».

Радок 31 рэдкалегіяй Зб. тв., 1972—1976 слушна выпраўлены па «Жалейцы», 1908. У асноўным тэксце было: «Хлябок вынасе змей».

Верш уключаўся і ў іншыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1940, т. IV; зб. «Выпісы з беларускай літаратуры» (Мн., 1923).

Радок 6 у Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1940, т. IV і Зб. тв., 1951, т. I даецца ў наступным выглядзе:

Усёй сілай папру,—

Тут памылка, якая выклікае пэўныя сэнсавыя змены.

У «Альманаху-календары для ўсіх на 1910 г.» (Пецярбург, 1909) пад назвай «Песня белорусского мужика» змешчаны пераклад верша на рускую мову (перакладчык С. Ан-скі). Пазней Я. Нячаеў таксама пераклаў верш на рускую мову. У ЦДАЛіМ (г. Масква) у фондзе 66 I. А. Белавусава захоўваецца аўтограф перакладу, зробленага Я. Нячаевым (воп. 1, адз. зах. 1399). Нячаеўскі пераклад верша ўвайшоў у першы зборнік Я. Купалы на рускай мове «Избранные стихотворения в переводах русских поэтов» (М., 1919).

Акрамя гэтага, верш пераклалі: на рускую мову М. Браўн, на ўкраінскую — А. Малышка, Я. Фамін, на туркменскую — Б. Кербабаеў.

Верш цытуецца ў рэцэнзіі Ул. Самойлы «Великий праздник. «Жалейка» Янука Купалы» («Минский курьер», 1908, № 113, 23 жн.).

*Залом* — заломленыя каласы жыта. Па народных павер'ях, заломы робяць чарадзеі, каб наклікаць бяду на гаспадара поля.

*Вядзьмар* — той, хто займаецца заклінаннямі, якімі, на думку забабонных людзей, можна ўздзейнічаць на лёс чалавека і прыроды.

*Я мужык-беларус...* (с. 200)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Жалейка», 1908, дзе надрукаваны без загалоўка.

Верш уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Выбр. тв., 1935, т. I;

Дварчанін I. Хрэстаматыя новай беларускай літаратуры. Вільня, 1927;

Дэкламатар. Мн., 1928.

Радок 29 у Зб. тв., 1928, т. I даецца ў наступным выглядзе:

Дык вось, людзі, які

Тут памылка пісьма, калі адзін склад у слове заменены другім.

Упершыню верш перакладзены на рускую мову Я. Нячаевым.

Нячаеўскі пераклад верша ўвайшоў у першы зборнік Я. Купалы на рускай мове «Избранные стихотворения в переводах русских поэтов» (М., 1919). У ЦДАЛіМ (г. Масква) у фондзе 66 І. А. Белавусава захоўваецца аўтограф перакладу, зробленага Я. Нячаевым (воп. 1, адз. зах. 1399).

Акрамя гэтага, верш пераклалі: на рускую мову М. Камісарава, І. Шклярэўскі, на ўкраінскую — Т. Масэнка, на асецінскую — А. Пухаеў, на грузінскую — Г. Каландадзе, на казахскую — М. Абдзірашаў, на кіргізскую — Ц. Уметаліеў, на малдаўскую — П. Дарые, на чувашскую — А. Кляменцьеў, на эстонскую — М. Вээтам, на англійскую — У. Мэй, на балгарскую — Х. Бербераў, на іспанскую — К. Шэрман, на кітайскую — Чжу Цзі, на польскую — Э. Карпук.

Верш ілюстравалі В. Ціхановіч, А. А. Жываткоў (у кн. Я. Купалы «Выбраныя творы», Кіеў, 1970).

А. Пупко па матывах верша стварыў сюжэтную кампазіцыю з дрэва. М. Пушкар увасобіў верш у кераміцы.

Верш цытуецца ў нарысе С. Русавай «Возрождение белорусской литературы» (часоп. «Познание России», 1909, № 3), артыкуле А. Пагодзіна «Белорусские поэты» (часоп. «Вестник Европы», 1911, № 1), працы Я. Карскага «Белорусы».

*На старую ноту* (с. 202)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. І.

Упершыню — «Жалейка», 1908.

Верш уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. І; Выбр. тв. (Школьная серыя), Мн., 1935.

Радок 48 у Зб. тв., 1928, т. І і Зб. тв., 1951, т. І даецца ў наступным выглядзе:

У бедным людзе

Магчыма, тут памылка запамінання, калі адбываецца пропуск малазначных слоў.

У Зб. тв., 1925, т. І ёсць наступная рэдактарская заўвага: «Свята Юр'я паэт бярэ, як звычайна прынята ў хлебаробаў, пачаткам працы на полі, не прыдаючы яму ніякага рэлігійнага значэння. Свята Спаса — канчаткам гэтае працы таксама без іншага значэння».

Упершыню верш перакладзены на рускую мову Я. Нячаевым. У ЦДАЛіМ (г. Масква) у фондзе 66 І. А. Белавусава захоўваецца аўтограф перакладу, зробленага Я. Нячаевым (воп. 1, адз. зах. 1399). Нячаеўскі пераклад верша ўвайшоў у першы зборнік Я. Купалы на рускай мове «Избранные стихотворения в переводах русских поэтов» (М., 1919).

Акрамя гэтага, верш пераклалі: на рускую мову Д. Бродскі, Л. Хаўстаў, на ўкраінскую — Р. Бойка, А. Малышка, на латышскую — Ю. Ванаг.

*Юр'е* — старадаўняе веснавое земляробчае свята, адзначаецца 23 красавіка ст.ст.

*Спас* (старажытнае земляробчае свята ўраджаю) адзначаецца 6 жніўня ст.ст. Да Спаса царква прымеркавала свята «ператварэння Хрыста». У земляробчым календары Спас быў мяжой паміж летнім і асеннім цыклам работ.

*Згарусціў* — тут: не набыў, не зрабіў сабе запасу.

*Бравэрка* — верхняя кароткая мужчынская вопратка звычайна з аўчын, абцягнутых саматканым сукном.

*Ад рана да рана...* (с. 203)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. І.

Упершыню — «Жалейка», 1908, дзе надрукаваны без загалоўка.

Верш уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1940, т. IV; Выбр. тв.; 1935, т. I.

У ЭД, с. 27 памылкова адзначаецца, што ў зб. «Жалейка» верш надрукаваны пад загалоўкам «Пейце, старцы, дзеці...».

Верш пераклалі: на рускую мову Г. Сямёнаў, на ўкраінскую — Дз. Паўлычка.

Верш цытуецца ў працы Я. Карскага «Белорусы».

*Грош* — манета вартасцю ў $^{1}/_{2}$ кап.

*Вось тут і жыві...* (с. 205)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Жалейка», 1908, дзе надрукаваны пад загалоўкам «З песняў мужыцкіх».

Верш уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Выбр. тв., 1935, т. I; Выбр. тв. (Школьная серыя), Мн., 1935;

ЛіМ, 1936, 20 лістап.;

«Нова Білорусь» (Харкаў, 1929; пад назвай «З песень беларускага мужыка»);

«Плуг», 1928, № 7—8 (на укр. мове, перакладчык С. Піліпенка).

У «Альманаху-календары для ўсіх на 1910 г.» (Пецярбург, 1909) пад назвай «Мужыцкая песня» змешчаны пераклад верша на рускую мову (перакладчык С. Ан-скі).

У 1910 г. Адамасам Якштасам верш быў перакладзены на літоўскую мову. Пераклад быў надрукаваны:

часоп. «Draugija» («Суполка»), 1910, т. 10, № 40 (пад назвай «З песень мужыка»);

зб. «Асенняе рэха» (1911);

зб. «Лірыка» (1930).

Акрамя гэтага, верш пераклалі: на рускую мову Д. Бродскі, А. പракоф'еў, на ўкраінскую — С. Піліпенка, М. Цярэшчанка, на асецінскую — А. Пухаеў, на малдаўскую — П. Дарые, на балгарскую — Х. Берберaў, на кітайскую — Чжу Цзі, на польскую — Б. Гагалеўская, Б. Жыранік.

Верш ілюстравалі А. Волкаў, В. Ціхановіч.

Верш цытуецца ў працы Я. Карскага «Белорусы».

*Гоніш мяне, панічок...* (с. 206)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Жалейка», 1908.

Верш уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Выбр. тв., 1935, т. I.

Верш пераклалі: на рускую мову В. Шэфнер, на ўкраінскую — А. Малышка.

Верш выконваўся на беларускіх вечарынах у Капылі 30—31 мая, 2 чэрвеня 1911 г., у Слуцку 30—31 мая 1911 г.

*Рабак* — чарвяк.

*А ты, браце, спі!* (с. 207)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Жалейка», 1908.

Радок 23 рэдкалегіяй Зб. тв., 1972—1976 слушна выпраўлены па «Жалейцы», 1908. У асноўным тэксце было: «Ржа касу есць пад парогам».

Верш уключаўся і ў Зб. тв., 1928, т. I.

Упершыню верш перакладзены на рускую мову Я. Нячаевым. У Дзяржаўнай бібліятэцы Расіі (г. Масква) захоўваецца аўтограф перакладу.

Акрамя гэтага, верш пераклалі: на рускую мову Ус. Раждзественскі, на ўкраінскую — М. Шапавал, на літоўскую — С. Нагінскас, на таджыкскую — М. Фархат.

Верш цытуецца ў працы Я. Карскага «Белорусы».

*Люлі, люлі, мужычок!* (с. 208)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Жалейка», 1908.

У зб. «Жалейка» (1908) ёсць зноска, у якой тлумачыцца слова: «заўчэсне» — зарана.

У Зб. тв., 1925, т. I ёсць наступная рэдактарская заўвага: «Ваўкалак» — па-расійску «Оборотень», па-ўкраінску «Перевертень», узяты паэтам з народных павер'яў і ўжыты для большай вобразнасці».

Верш уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1940, т. IV.

Верш пераклаў на рускую мову Л. Хаўстаў.

*Коні-валахі* — пакладаныя коні.

*Ваўкалак* — персанаж славянскай міфалогіі, пярэварацень, чалавек, нібыта ператвораны помслівым чарадзеем у ваўка, або сам чарадзей, які шкодзіць людзям.

*Кажан* — начная млекакормячая жывёліна з шырокімі перапончатымі крыламі; лятучая мыш.

*Эй, скажы, мужычок!..* (с. 209)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Жалейка», 1908, дзе надрукаваны пад загалоўкам «Да мужычка».

Верш уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1940, т. IV.

Верш адносіцца да ранніх песенных вершаў Я. Купалы, напісаных пад значным уплывам паэзіі Ф. Багушэвіча (ЭД, с. 674).

Верш пераклалі: на рускую мову М. Камісарава, на ўкраінскую — К. Дрок, А. Малышка, на польскую — К. Сухадольская.

Верш цытуецца ў рэцэнзіях Ул. Самойлы «Великий праздник. «Жалейка» Янука Купалы» («Минский курьер», 1908, 23 жн.), «Жалейка»: песні Янука Купалы» («Наша ніва», 1908, № 17, 15(28) жн.).

*У заставу* — тут: у заклад.

*Ах, ці доўга...* (с. 210)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Жалейка», 1908.

Гэты верш у адносіне Камітэта па справах друку пракурору С.-Пецярбургскай судовай палаты (гл. с. 382) характарызаваўся наступным чынам: «У другім вершы — «Ах, ці доўга...», стар. 19—21, апісаўшы цяжкое працоўнае жыццё мужыка, аўтар гаворыць, што ўсякі, нават мізэрны, заработак мужыка адбіраецца на чынш і на падаткі, тады як Бог даў зямлю сялянам і не загадаў збіраць з яе падаткі і патрабаваць чынш. На гэта, аднак, увагі не звяртаюць: «дзяруць» з мужыка грошы за зямлю і прадаюць на падаткі апошнюю кароўку. Хто вінаваты ў гэтым? — пытаецца аўтар і адказвае: многа вінаваты ў гэтым сяляне. Такім чынам, указваючы на несправядлівасць патрабавання падаткаў і чыншу і абвінавачваючы сялян у тым, што яны самі вінаваты ў тым, што такая несправядлівасць існуе, аўтар тым самым, несумненна, узбуджае сялян да неплацяжу падаткаў, г. зн. робіць злачынства, прадугледжанае п. 3, арт. 129 Крымінальнага ўлажэння» (Пуцявінамі Янкі Купалы: Дакументы і матэрыялы. С. 62).

У Зб. тв., 1925, т. I да радка 30 («Бог бясплатна даравaў»), ёсць наступная рэдактарская заўвага: «Паэт у гэтым месцы бярэ бога ў тым сэнсе, у якім працоўны народ ужываў яго пры змаганні за зямлю. Зямля божая — значыць, не царская, народная».

Верш уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1940, т. IV; Выбр. тв., 1935, т. I. У ЭД, с. 53—54 адзначаецца, што верш напісаны ў 1907 г. Але аўтары артыкула гэту дату не пацвярджаюць фактамі.

Верш пераклалі: на рускую мову А. Пракоф'еў, на ўкраінскую — К. Дрок, на азербайджанскую — А. Кюрчайлы, на казахскую — Ж. Абдзірашаў, на латышскую — Ю. Ванаг.

Верш цытуецца ў працы Я. Карскага «Белорусы».

*Двузлотка* — польская манета.

*На добры стары лад* (с. 211)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Жалейка», 1908.

Верш уключаўся і ў Зб. тв., 1928, т. I.

Верш пераклала на рускую мову М. Камісарава.

Верш цытуецца ў працы Я. Карскага «Белорусы».

*Працуй* (с. 212)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Жалейка», 1908.

Верш уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1940, т. IV.

Радок 37 у Зб. тв., 1928, т. I і ў Зб. тв., 1940, т. IV, даецца ў наступным выглядзе:

А ты?.. Ты цягнеш й гэту працу,

Верш пераклаў на ўкраінскую мову Дз. Паўлычка.

*Якія* (с. 213)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I, дзе змешчаны ўпершыню.

Верш уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1940, т. IV; Выбр. тв., 1935, т. I; Выбр. тв. (Школьная серыя), Мн., 1935.

Верш пераклалі: на рускую мову Л. Хаўстаў, на ўкраінскую — А. Малышка, Т. Масэнка, Дз. Паўлычка, на армянскую — А. Лусенц, на кіргізскую — Ц. Уметаліеў, на англійскую — А. Пракоф'ева, на польскую — С. Стандэ.

*Дужыя і слабыя* (с. 214)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I, дзе змешчаны ўпершыню.

Верш уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1940, т. IV; Выбр. тв., 1935, т. I.

Верш пераклалі: на рускую мову М. Браўн, на азербайджанскую — А. Кюрчайлы.

*Кепска...* (с. 215)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Жалейка», 1908, дзе надрукаваны пад загалоўкам «Кепска, братцы, жыць нам стала!».

Верш уключаўся і ў Зб. тв., 1928, т. I.

Верш пераклалі: на рускую мову Л. Хаўстаў, на ўкраінскую — Р. Лубкіўскі.

Верш выконваўся на беларускіх вечарынах у Капылі 30—31 мая, 2 чэрвеня 1911 г.

Верш цытуецца ў працы Я. Карскага «Белорусы».

*Гарэлка* (с. 215)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Жалейка», 1908.

Верш уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1940, т. IV.

На рускую мову верш перакладзены А. Карынфскім. Упершыню пераклад верша з'явіўся ў часоп. «Трезвая жизнь», 1913, № 12.

Верш пад назвай «Пакіньце надзею» ўвайшоў у цыкл хораў a'capella (1981) А. Мдывані.

Верш цытуецца ў працы Я. Карскага «Белорусы».

*Чаго нам трэба* (с. 217)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Жалейка», 1908, дзе надрукаваны з падзагалоўкам «Наследаванне».

Верш уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1940, т. IV.

Верш пераклалі: на рускую мову А. Андрэеў, У. Шошын, на ўкраінскую — К. Дрок, А. Малышка, на польскую — Р. Гажэльскі.

Верш выконваўся на вечарыне студэнтаў-беларусаў у Варшаве 21 лістапада 1911 г.

Верш цытуецца ў артыкуле М. Янчука «Несколько слов о новейшей белорусской литературе» («Известия общества славянской культуры», М., 1912. Т. I. Кн. I) і ў працы Я. Карскага «Белорусы».

*Мультан* — баваўняная варсістая тканіна.

*Любімось, мае суседзі!* (с. 218)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Жалейка», 1908.

Верш уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1940, т. IV.

Верш цытуецца ў працы Я. Карскага «Белорусы».

*Засвяціла цяпло...* (с. 219)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Жалейка», 1908, дзе надрукаваны без загалоўка як другая частка цыкла «З песняў аб вясне».

У Зб. тв., 1925, т. I ёсць наступная рэдактарская заўвага: «[1]З вадзіцы свянцонай нячыстая сіла — паэтычны вобраз, ужыты аўтарам у сімвалічным сэнсе, акрасляючы сілу новых ідэй у змаганні з рэакцыяй. Звычайны спосаб абмінуць канкрэтны выказ ад кары царскай цэнзуры».

Верш уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Выбр. тв., 1935, т. I.

Верш пераклалі: на рускую мову Я. Нячаеў. У ЦДАЛіМ (г. Масква) захоўваецца аўтограф перакладу (ф. 66, воп. I, адз. зах. 1399), А. Пракоф'еў, на ўкраінскую — А. Малышка.

Верш цытуецца ў рэцэнзіі Ул. Самойлы «Великий праздник. «Жалейка» Янука Купалы» («Минский курьер», 1908, № 113, 23 жн.) і ў працы Я. Карскага «Белорусы».

*Вясна* (с. 219)
(«Ой, вясна, ой, вясна!..»)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Жалейка», 1908.

Верш уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Выбр. тв., 1935, т. I; часоп. «Маланка», 1928, № 6.

Разам з вершамі «Засвяціла цяпло», «Перад вясной», «З песень аб вясне» («Свяціла сонца, птушкі пелі») складае своеасаблівы «веснавы» цыкл, у якім паэт вітае веснавое абуджэнне зямлі і ўсяго жывога, апявае час асаблівых надзей і радасці для працоўнага селяніна.

Упершыню верш перакладзены на рускую мову Я. Нячаевым. У ЦДАЛіМ (г. Масква) у фондзе 66 І. А. Белавусава захоўваецца аўтограф перакладу, зробленага Я. Нячаевым (воп. 1, адз. зах. 1399). Нячаеўскі пераклад верша ўвайшоў у першы зборнік Я. Купалы на рускай мове «Избранные стихотворения в переводах русских поэтов» (М., 1919). Акрамя гэтага, верш пераклалі: на рускую мову А. Пракоф'еў, на ўзбекскую — Тулкун, на румынскую — С. Дэлчу.

Верш пакладзены на музыку В. Салманавым.

Верш цытуецца ў працы Я. Карскага «Белорусы».

### *З песень аб вясне* (с. 221)

(«Свяціла сонца, птушкі пелі...»)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Жалейка», 1908, дзе надрукаваны як першая частка цыкла «З песняў аб вясне».

Верш уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Выбр. тв., 1935, т. I.

Уваходзіць у т. зв. «веснавы» цыкл вершаў (гл. каментарый да верша «Вясна» («Ой, вясна, ой, вясна!..»).

Упершыню верш перакладзены на рускую мову Я. Нячаевым. У ЦДАЛіМ (г. Масква) у фондзе 66 І. А. Белавусава захоўваецца аўтограф перакладу, зробленага Я. Нячаевым (воп. 1, адз. зах. 1399). Нячаеўскі пераклад верша ўвайшоў у першы зборнік Я. Купалы на рускай мове «Избранные стихотворения в переводах русских поэтов» (М., 1919). Акрамя гэтага, верш пераклаў на рускую мову І. Аўраменка.

*Крук* — крумкач, вялікая чорная птушка сямейства крумкачовых, якая жывіцца пераважна падлай; груган.

### *Падарожны* (с. 221)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I, дзе змешчаны ўпершыню.

Верш уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1940, т. IV.

Верш пераклалі на рускую мову Б. Ірынін. У ЦДАЛіМ (г. Масква) захоўваецца аўтограф перакладу (ф. 2573, воп. 1, адз. зах. 8), Н. Кіслік.

Пад уплывам верша напісана, магчыма, карціна П. Сергіевіча «Падарожныя» (1936).

### *Пры скаціне* (с. 223)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Жалейка», 1908.

Верш уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1940, т. IV; І. Дварчанін. Хрэстаматыя новай беларускай літаратуры (Вільня, 1927).

Радок 34 у Зб. тв., 1940, т. IV даецца ў наступным выглядзе:

Мкне адгалос трубы,

Магчыма, тут памылка друку.

Верш пераклалі: на рускую мову А. Чачыкаў, на кітайскую — Чжу Цзі.

### *Касьба* (с. 224)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Жалейка», 1908.

У асноўным тэксце пасля 24 радка ўзноўлены 2 страфы, якія пасля

1908 г. па невядомых прычынах адсутнічалі ва ўсіх прыжыццёвых выданнях.

Верш уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Выбр. тв., 1935, т. I.

Верш пераклалі на рускую мову С. Гарадзецкі, А. Пракоф'еў.

Верш ілюстраваны Я. Чарняціным (у кн.: Я. Купала «Вершы і паэмы», М., 1982).

Верш цытуецца ў працы Я. Карскага «Белорусы».

*Пятрок* — царкоўна-хрысціянскае свята апосталаў Пятра і Паўла, якое адзначалася 29 чэрвеня па ст. ст. Звычайна ў гэты час пачыналася касьба.

*Валох* — відаць, ад валок: доўгія вузкія кучы сена; сена з некалькіх пакосаў, складзеных разам.

*Захад сонца* (с. 225)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I, дзе змешчаны ўпершыню.

Захавалася два аўтографы.

Аўтограф № 1* — чарнавы рукапіс з подпісам Янук Купала, захаваўся дрэнна (ДзЛМЯнК, ф. А, воп. 1-р 1, адз. зах. 4-а, л. 1). У раздзел «Іншыя варыянты і рэдакцыі» вынесены варыянты гэтага аўтографа.

Аўтограф № 2 — белавы рукапіс, без подпісу, захаваўся дрэнна.

У аўтографе № 2, напісаным лацінкай (ДзЛМЯнК, ф. А, воп. 1-р 1, адз. зах. 5-а, л. 1), Купала зрабіў паметку: «У «Жалейку», аднак у дарэвалюцыйныя зборнікі гэты верш не трапіў.

Верш уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1940, т. IV.

Твор пераклікаецца з беларускім народным меласам, а таксама з творамі рускага паэта А. Кальцова (ЭД; с. 243).

Верш пераклалі: на рускую мову М. Камісарава, на ўкраінскую — К. Дрок, А. Малышка, В. Чабаненка, на кіргізскую — Ц. Уметаліеў, на латышскую — Ю. Ванаг.

*Выйду...* (с. 226)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I, дзе змешчаны ўпершыню.

Верш уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1940, т. IV.

Інтанацыйным ладам і вобразнай канструкцыяй верш блізкі да народнай песні (ЭД, с. 133).

Верш пераклалі: на рускую мову М. Камісарава, на ўкраінскую — Р. Лубкіўскі.

*Сяўцу* (с. 227)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Жалейка», 1908.

Верш уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1940, т. IV.

Радок 28 у Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1940, т. IV даецца ў наступным выглядзе:

Збяруць яны добрую ўроду

Радок 6 у Зб. тв., 1940, т. IV даецца ў наступным выглядзе:

Жытцо на раллі раскідае,

Верш пераклалі: на рускую мову Л. Хаўстаў, на ўкраінскую — Дз. Паўлычка, на літоўскую — Э. Матузявічус.

Верш цытуецца ў працы Я. Карскага «Белорусы».

---

* Нумарацыя аўтографаў умоўная.

*Восень* (с. 228)
(«Эй, восень, восень...»)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Жалейка», 1908.

Верш уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1940, т. IV; Выбр. тв. (Школьная серыя), Мн., 1935.

Верш пераклалі: на рускую мову М. Браўн, на ўкраінскую — І. Цітовіч, на латышскую — Ю. Ванаг.

Ілюстрацыі да верша зроблены М. Бельскім, А. Волкавым.

Верш фальклярызаваўся, стаў народнай песняй. Гарманізацыю народнай мелодыі зрабіў У. Тэраўскі, гарманізацыю і апрацоўку для голасу з фартэпіяна — І. Любан.

Верш пакладзены на музыку Р. Пукстам.

Верш цытуецца ў нарысе С. Русавай «Возрождение белорусской литературы» (часоп. «Познание России», 1909, № 3).

*Аруды*—хлебныя засекі.

*Спусташэнне* (с. 231)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I, дзе змешчаны ўпершыню.

Верш уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Выбр. тв., 1935, т. I.

Верш пераклалі на рускую мову У. Мікушэвіч, Ус. Раждзественскі.

*Зіма* (с. 232)
(«Прыйшла зіма халодная...»)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Жалейка», 1908.

Верш уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Выбр. тв., 1935, т. I.

Упершыню верш перакладзены на рускую мову Я. Нячаевым. У ЦДАЛіМ (г. Масква) у фондзе 66 І. А. Белавусава захоўваецца аўтограф перакладу, зробленага Я. Нячаевым (воп. 1, адз. зах. 1399). Нячаеўскі пераклад верша ўвайшоў у першы зборнік Я. Купалы на рускай мове «Избранные стихотворения в переводах русских поэтов» (М., 1919).

Акрамя гэтага, верш пераклалі: на рускую мову В. Шэфнер, на ўкраінскую — І. Цітовіч.

Верш цытуецца ў працы Я. Карскага «Белорусы».

*Мая хатка* (с. 233)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Жалейка», 1908.

Верш уключаўся і ў Зб. тв., 1928, т. I.

Упершыню верш перакладзены на рускую мову Я. Нячаевым. Нячаеўскі пераклад верша ўвайшоў у першы зборнік Я. Купалы на рускай мове «Избранные стихотворения в переводах русских поэтов» (М., 1919).

Акрамя гэтага, верш пераклалі: на рускую мову Н. Кіслік, А. Пракоф'еў, на армянскую — Г. Камуні, на асецінскую — А. Пухаеў.

Верш цытуецца ў нарысе С. Русавай «Возрождение белорусской литературы» (часоп. «Познание России», 1909, № 3).

*...сцен не склютавана. Несклютаваныя сцены* — сцены з бярвенняў, неабчэсаных з унутранага боку.

*Саха* (с. 235)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Жалейка», 1908.

Верш уключаўся і ў Зб. тв., 1928, т. I.

Верш пераклаў на рускую мову Б. Кежун.

Верш цытуецца ў працы Я. Карскага «Белорусы».

*Паліца* — тут: частка плуга, якая аддзяляе і пераварочвае падрэзаны лемяшом пласт зямлі; адвал.

*Плаха* — тут: палавіна расколатага ўздоўж бервяна; плашка.

*Рагач* — тут: драўляная саха; драўляная частка сахі.

*Падвой* — вязкі, звітыя пруты, якімі што-небудзь звязана (напр., расоха з аглоблямі).

*Мыліца* — тут: ручка ў сошцы.

*Ярмо* — тут: драўляны хамут для вупражы рабочай буйной рагатай жывёлы.

*Прызьмо (дыял.)* — вяровачка, якою пры запраганні валоў прывязваюць аглоблі да ярма.

*Кульбака* — дэталь у ярме.

*Лапці* (с. 237)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Жалейка», 1908.

Верш уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1940, т. IV; І. Дварчанін. Хрэстаматыя новай беларускай літаратуры (Вільня, 1927).

Радок 7 у Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1940, т. IV даецца ў наступным выглядзе:

Лапатнік корме

Магчыма, тут памылка пісьма, калі адзін склад у слове заменены другім. Але І. У. Саламевіч лічыць, што гэта дыялектная форма мінска-маладзечанскіх гаворак.

Верш пераклалі: на рускую мову Ус. Раждзественскі, на польскую — Я. Гушча, С. Стандэ.

Верш цытуецца ў артыкуле А. Пагодзіна «Белорусские поэты» (часоп. «Вестник Европы», 1911, № 1) і ў працы Я. Карскага «Белорусы».

*Абора* — вераўчаны або раменны шнур пры лапцях для прывязвання іх да нагі.

*Бабулька — прадаўчыца зёлак* (с. 238)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Жалейка», 1908.

Верш уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1940, т. IV; І. Дварчанін. Хрэстаматыя новай беларускай літаратуры (Вільня, 1927).

Верш пераклалі: на ўкраінскую мову А. Малышка, на польскую — Я. Гушча.

*Румянак* — румянка, стэпавая двухгадовая расліна сямейства бурачнікавых з цвёрдымі шурпатымі лістамі і пурпурнымі кветкамі.

*Падвей* — тут: параліч.

*Парушэнне* — захворванне нервовае або выкліканае падняццем цяжару.

*Любізнічак* — тут: зелле з любчыку, якое, па павер'ю, мае чароўную сілу: прываблівае каханую або каханага.

*Старцы* (с. 240)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Жалейка», 1908.

Верш уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; зб. «Адцвітанне», Мн. 1930.

Верш пераклалі: на рускую мову М. Галодны, Б. Кежун, на ўкраінскую — Р. Лубкіўскі.

*Кантычка* — кніжка малітваў і духоўных песень (кантаў).

*Модлы* — скаргі, малітвы.

*Над магіламі* (с. 241)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Жалейка», 1908.

Верш уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Выбр. тв., 1935, т. I.

У ЭД, с. 424 адзначаецца, што верш напісаны не пазней 1907 г. Але аўтары артыкула гэту дату не пацвярджаюць фактамі.

Упершыню верш перакладзены на рускую мову А. Карынфскім. Пераклад верша надрукаваны: часоп. «Педагогический листок», 1914, № 3, с. 207; зб. Я. Купалы «Избранные стихотворения в переводах русских поэтов» (М., 1919).

Акрамя гэтага, верш пераклалі: на рускую мову М. Камісарава, на польскую — Я. Гушча, Я. Лапскі.

*Дзяўчынка, галубка мая!* (с. 242)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Жалейка», 1908.

Радкі 14 і 22 рэдкалегіяй Зб. тв., 1972—1976 слушна выпраўлены па «Жалейцы», 1908. У асноўным тэксце было: «Як скропім павеку сваю»; «Спаўём мы ціхое гняздко».

Верш уключаўся і ў іншыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1940, т. IV; Выбр. тв., 1935, т. I; зб. «Беларускі дэкламатар», Мн., 1924.

Верш пераклаў на рускую мову Ус. Раждзественскі.

Верш пакладзены на музыку А. Туранковым.

*Да дзяўчатак* (с. 243)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Жалейка», 1908.

Верш уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1940, т. IV.

Верш пакладзены на музыку А. Туранковым.

*Чорныя вочы* (с. 245)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I, дзе змешчаны ўпершыню.

Верш уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1940, т. IV.

Радок 7 у Зб. тв., 1940, т. IV даецца ў наступным выглядзе:

Што нас губіць, як гінуць зблудзіўшыя ночы?

Магчыма, тут памылка пісьма, калі адбылася замена аднаго склада другім (замест ночай надрукавана ночы).

У Зб. тв., 1951, т. I верш датуецца 1907 г. Але гэта дата не пацвярджаецца фактамі.

Верш пераклалі: на рускую мову М. Камісарава, Р. Куранёў, на ўкраінскую — Р. Лубкіўскі, М. Цярэшчанка, на англійскую — У. Мэй, на іспанскую — К. Шэрман, на польскую — Б. Жыранік, М. Кахановіч, на в'етнамскую — Тхуй Тоан.

Верш пакладзены на музыку В. Зіцькевічам.

*Сватаная* (с. 245)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Жалейка», 1908.

Верш уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Выбр. тв., 1935, т. I.

Верш фальклярызаваўся і як народная песня бытуе на Смаргоншчыне (запіс у фальклорным архіве БДУ).

Верш пераклалі: на рускую мову Л. Хаўстаў, на ўкраінскую — І. Цітовіч.

*Запоіны* — першая вясельная размова, калі жаніх са сватамі і сваімі бацькамі частуецца ў доме маладой.

*Ятроўка* — жонка дзевера.

*Залоўка* — сястра мужа.

*Дзевер* — брат мужа.

*Маладым на вяселлі* (с. 248)

(«Ужо звязалі рукі вам...»)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Жалейка», 1908, дзе надрукаваны пад загалоўкам «Малады на вяселлі».

Верш уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1940, т. IV; часоп. «Полымя», 1929, № 3.

Верш пераклалі: на рускую мову Н. Кіслік, на ўкраінскую — Р. Лубкіўскі.

*Шавец* (с. 250)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Жалейка», 1908.

У асноўным тэксце пасля 28 радка ўзноўлены 2 страфы, якія пасля 1908 г. па невядомых прычынах адсутнічалі ва ўсіх прыжыццёвых выданнях.

Верш уключаўся і ў Зб. тв., 1928, т. I.

Радок 15 у Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1951, т. I даецца ў наступным выглядзе:

Абсац гладка прыбіў.

Верш пераклалі на рускую мову Л. Хаўстаў, В. Элькін.

*Дратва* — тоўстая, моцна прасмоленая або навошчаная нітка для шыцця абутку і іншых скураных вырабаў.

*Капыл* — тут: кавалак дрэва ў форме ступні, на якім шавец робіць абутак.

*Штыфты* — драцяная прытыка або цвічок без галоўкі.

*Паніч і Марыся* (с. 251)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Жалейка», 1908.

Верш уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; часоп. «Маланка», 1928, № 5.

Упершыню верш перакладзены на рускую мову Я. Нячаевым. У ЦДАЛіМ (г. Масква) у фондзе 66 І. А. Белавусава захоўваецца аўтограф перакладу, зробленага Я. Нячаевым (воп. 1, адз. зах. 1399). Нячаеўскі пераклад верша ўвайшоў у першы зборнік Я. Купалы на рускай мове «Избранные стихотворения в переводах русских поэтов» (М., 1919).

Верш пакладзены на музыку У. Мулявіным.

*З дарогі* (с. 252)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Жалейка», 1908, дзе надрукаваны пад загалоўкам «Падарожны».

Верш уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Выбр. тв., 1935, т. I.

Верш пераклаў на рускую мову Б. Кежун.

*Град* (с. 254)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Жалейка», 1908.

Верш уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1940, т. IV; Выбр. тв., 1935, т. I; Выбр. тв. (Школьная серыя), Мн., 1935.

Верш пераклалі: на рускую мову А. Чывіліхін, на туркменскую — А. Ніязаў.

9/II 1913 г. верш дэкламаваўся на вечарыне ў Пецярбурзе (карэспандэнцыя А. Гурло пра гэту падзею змешчана ў «Нашай ніве» 20 лютага 1913 г.).

Верш цытуецца ў працы Я. Карскага «Белорусы».

*Нерон, Клаўдзій Цэзар* — рымскі імператар (54—68). Вызначаўся жорсткасцю і дэспатызмам. У 68 г. сенат пазбавіў яго ўлады і аб'явіў па-за законам. У час уцёкаў з Рыма скончыў жыццё самагубствам.

*Канюх* (с. 257)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Жалейка», 1908.

У «Жалейцы» (1908) да верша ёсць наступнае тлумачэнне: «Канюх або каня — гэта птушка. У сухую пагоду, як дажджу доўга не бываець, яна, лётая высока, крычыць жаласліва, як маленькі рабёнак, і людзі тады кажуць, што гэта «каня піць просіць, каня дажджу просіць».

Верш уключаўся і ў Зб. тв., 1928, т. I.

Радок 47 у Зб. тв., 1928, т. I даецца ў наступным выглядзе:

Няўжо ж піць ніколі табе не патрэбна!

Магчыма, тут памылка пісьма, калі ў слове ўзнікла лішняя літара.

У творы выкарыстаны матыў беларускага народнага падання. У гады Вялікай Айчыннай вайны паэт вярнуўся да яго зноў. У артыкуле «Народ-мститель» (1941) Я. Купала наступным чынам раскрывае змест падання: «Есть в этой старой легенде замечательная утверждающая сила коллективной солидарности, коллективной дружбы. Народная сказка, сложенная белорусами, учит людей работать и сражаться вместе. Слава дружбе, горе измене!»

Паводле верша «Канюх» У. Кандрусевіч напісаў араторыю «Паданне».

У рэцэнзіі «Жалейка», песні Янука Купалы» Ул. Самойла пісаў наступнае: «Добра ўдалося Купале пералажэнне народнай казкі аб «Канюху», каторы быў пракляты богам і назначаны вечна прагнуць за тое, што з гультайства і себялюбства адмовіўся ад агульнай работы «дабывання вады» — работы, каторую даў бог усяму жывому. Гэты вершык пасвячаецца думцы аб супольнай, згоднай працы грамадскай, без каторай народу ніяк нельга палепшыць жыцця свайго» («Наша ніва», 1908, № 17, 15 жн., рэцэнзія падпісана псеўданімам Владак з Казіміраўкі).

Верш пераклаў на рускую мову Г. Сямёнаў.

*Сцёпка Жук* (с. 259)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Жалейка», 1908.

Верш уключаўся і ў Зб. тв., 1928, т. I.

*Асміна* — мера вагі, роўная 48 кг.

*Перад вясной* (с. 263)

Друкуецца па «Жалейцы», 1908, дзе змешчаны ўпершыню.

У пазнейшых прыжыццёвых выданнях не друкаваўся.

*Трушанкай* — тое, што і трасянка (стрэсенае сена з саломай, якое ідзе на корм жывёле).

*Так... не...* (с. 263)

Друкуецца па «Жалейцы», 1908, дзе змешчаны ўпершыню.

У пазнейшых прыжыццёвых выданнях не друкаваўся.

*Загарак* (п о л ь с к.) — гадзіннік.

*Эпіграма* (с. 264)

(«Што клёпкі трэцяй не стае...»)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI, дзе змешчаны пад агульным загалоўкам «Эпіграмы» і з датай 1908 г.

Усе тэксты, акрамя гэтай эпіграмы, упершыню апублікаваны ў «Полымі», 1929, № 3.

Дата 1908 г. памылковая, бо ўжо ў пачатку 1908 г. зб. «Жалейка» выйшаў з друку.

Упершыню — «Жалейка», 1908, дзе надрукаваны пад загалоўкам «Эпіграма на К. В.», напісаны, відаць, не пазней 1907 г.

У пазнейшыя прыжыццёвыя выданні не ўключаўся.

У вершы народны фразеалагізм «Не хапае клёпкі ў галаве» пера-асэнсаваны наступным чынам: «...клёпкі трэцяй не стае // У галаве яго».

*Наша мінуўшчына* (с. 264)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Гусляр», 1910.

Чарнавы аўтограф без подпісу і без даты змешчаны на адным лісце з вершам «Воля» (ДзЛМЯнК, ф. А, воп. 1-р 1, адз. зах. 3-а, л. 1). Аўтограф напісаны чорным чарнілам, праўкі зроблены простым алоўкам. Аўтограф пачынаецца са слова «асуджан», такім чынам адсутнічаюць дзве першыя страфы. Акрамя таго, два радкі зусім немагчыма прачытаць — сцёрты і заклеены.

Ва ўсіх крыніцах верш датуецца 1908—1910 гг., перыядам падрыхтоўкі і выхаду ў свет зб. «Гусляр» (1910). Але можна выказаць меркаванне, што верш мог быць напісаны трохі раней. Падставай для такога сцвярджэння можа паслужыць той факт, што чарнавы аўтограф твора змешчаны разам з аўтографам верша «Воля». А на аўтографе верша «Воля» рукой самога Я. Купалы напісана: «У «Жалейку». Аднак «Воля», як і некаторыя іншыя творы, у «Жалейку» 1908 г. не трапіла.

Верш уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1940, т. IV; зб. «Адцвітанне», Мн., 1930.

Верш пераклалі: на рускую мову П. Кустоў, на латышскую — Х. Галіньш.

## ПЕРАКЛАДЫ

*Тры Будрысы* (с. 267)

Пераклад з польскай мовы балады А. Міцкевіча «Trzech Budrysow». Адзін з самых ранніх перакладаў Я. Купалы твораў польскага паэта.

Друкуецца па газ. «Літаратура і мастацтва», 1940, № 38, 23 ліс-тап., дзе пераклад быў змешчаны ў пераапрацаваным выглядзе. Пера-працоўка была звязана з падрыхтоўкай да 85-й гадавіны з дня смерці Адама Міцкевіча (1798—1855).

Упершыню пераклад надрукаваны ў зборніку «Шляхам жыцця»,

1913 пад назвай «Трох Будрысаў». У першадруку апушчаны аўтарскі падзагаловак «Літоўская балада».

Абодва варыянты перакладу тэкстуальна блізкія да арыгінала. Амаль цалкам вытрымана і яго вершаваная форма.

Ёсць два аўтографы: у рукапісным зборніку «Шляхам жыцця» без подпісу (ДзЛМЯнК, ф. А, воп. І-р 3, адз. зах. 118-а, лл. 303—305) і асобны з подпісам: Янук Купала, 1905 г., 9 ліпеня (ДзЛМЯнК, ф. А, воп. І-р 5, адз. зах. 336-а, лл. 1—2).

Пераклад уключаўся і ў Зб. тв., 1929, т. II.

*Альгерд (Альгірдас)* — вялікі князь літоўскі (1345—1377), сын Гедыміна, брат Кейстута. Двойчы выступаў супраць Масквы (1368 і 1370), але быў разбіты.

*Скіргел (Скіргайла) Альгердавіч* (1354—1396) — літоўскі князь, сын Альгерда. Княжыў у Полацку (да 1392) і Кіеве (1394—1396), брат Ягайлы і яго памочнік у барацьбе з Кейстутам.

*Кейстут (Кестуціс)* (1297—1382) — князь літоўскі (1345—1382), сын Гедыміна. Вёў барацьбу з крыжакамі. У 1382 г. быў забіты сваім пляменнікам Ягайлам (малодшы сын Альгерда).

*Тэўтоны* — каталіцка-духоўны ордэн, ваенная арганізацыя нямецкага рыцарства, якая ў XIII—XIV стст. ажыццяўляла феадальна-каталіцкую агрэсію ва Усходняй Еўропе.

*Ільмень* — возера ў Ноўгарадскай вобл. Расіі.

*Наваград* — Ноўгарад.

*Апоны* — тое, чым накрываюць (апінаюць) што-небудзь.

*Крыжакі* — удзельнікі захопніцкіх паходаў супраць славянскіх і іншых зямель. Члены Тэўтонскага ордэна.

*Прусы* — група балтыйскіх плямёнаў, якія з даўніх часоў жылі ў нізоўях рэк Віслы і Нёмана. У XIII ст. іх землі былі захоплены Тэўтонскім ордэнам. Пазней на гэтай тэрыторыі ўзнікла Прусія.

*Галадоўліца* (с. 269)

Пераклад з рускай мовы песні «Голодная» з паэмы М. А. Някрасава (1821—1878) «Кому на Руси жить хорошо» (раздзел «И старое и новое»).

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1930, № 5—6, дзе датуецца 22 ліпеня 1905 г.

У пазнейшыя прыжыццёвыя выданні не ўключаўся.

*Праснак* — тоўсты блін з прэснага цеста.

*Мужык і вужака* (с. 269)

Вольны пераклад з польскай мовы байкі А. Міцкевіча «Chłop i żmija», bajka z Lafontaina.

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1930, № 5—6, дзе датуецца 23 ліпеня 1905 г.

Пры жыцці Я. Купалы пераклад быў надрукаваны: часоп. «Іскры Ільіча», 1940, № 12.

*Найрэў* — тут: нечакана сустрэў.

*Лебедзь, Шчупак і Рак* (с. 270)

Пераклад з рускай мовы аднайменнай байкі І. А. Крылова (1769—1844).

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. І.

Упершыню — «Жалейка», 1908, дзе надрукаваны пад загалоўкам «Шчупак, Лебедзь і Рак» (Крылова)», з датай: 25 ліпеня 1905 г.

У ЭД, с. 332 памылкова адзначаецца, што пераклад датуецца 5 ліпеня 1905 г.

Верш уключаўся і ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; часоп. «Снапок», 1938, № 2.

*З песень барацьбы за волю* (с. 271)

Пераклад з рускай мовы верша Дз. М. Цэнзара «На брацкай магіле» (1905).

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI, дзе надрукаваны пад загалоўкам «Сень барацьбы за волю».

Упершыню — «Полымя», 1929, № 3, дзе датуецца 1905 г.

У пазнейшыя прыжыццёвыя выданні не ўключаўся.

*Цэнзар Дзмітрый Міхайлавіч* (1879—1947) — рускі паэт.

*На Палессі* (с. 271)

Пераклад з польскай мовы верша Ул. Сыракомлі «Z wrażeń poleskiej podróży», 1850 («З уражанняў ад палескага падарожжа»).

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Радок 21 рэдкалегіяй Зб. тв., 1972—1976 выпраўлены слушна па часоп. «Полымя». У асноўным тэксце было: «Не пляці гэтых божбаў...»

Упершыню — «Полымя», 1929, № 3, дзе датуецца 1905 г.

У пазнейшыя прыжыццёвыя выданні не ўключаўся.

*Сыракомля Уладзіслаў* (сапр. Кандратовіч Людвік Францішак Уладзіслаў; 1823—1862) — польскі і беларускі паэт, грамадскі дзеяч. Перакладаў на польскую мову асобныя творы Пушкіна, Лермантава, Рылеева, Някрасава, Шаўчэнкі, Беранжэ, Бёрнса і інш.

*Гонты* — дахавы матэрыял у форме невялікіх дошчачак, востра сструганых з аднаго боку і з пазам з другога.

*Соленая* (с. 273)

Пераклад з рускай мовы песні «Соленая» з паэмы М. А. Някрасава «Кому на Руси жить хорошо» (раздзел «Доброе время — добрые песни»).

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1930, № 5—6, дзе датуецца 1905 г.

У пазнейшыя прыжыццёвыя выданні не ўключаўся.

*Пядзь* — трэба пядзя, тут: старая мера даўжыні, роўная адлегласці паміж канцамі расцягнутых вялікага і ўказальнага пальцаў.

*Жальба дзяўчыны* (с. 273)

Пераклад з польскай мовы аднайменнага верша Яскулкі.

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1930, № 5—6, дзе датуецца 1905 г.

Псеўданім Яскулкі не раскрыты.

У пазнейшыя прыжыццёвыя выданні не ўключаўся.

*Хвальбона* — фальбона, палоска матэрыялу, прышытая зборкамі да спадніцы, фартука і г. д.

*«Што ні год памяншаюцца сілы...»* (с. 275)

Пераклад з рускай мовы аднайменнага верша М. А. Някрасава.

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1930, № 5—6, дзе датуецца 18. IV.1906 г.

У пазнейшыя прыжыццёвыя выданні не ўключаўся.

*У людзей і ў нас* (с. 275)

Пераклад з рускай мовы верша М. Някрасава «У людей-то в дому — чистота, лепота...» з цыкла «Песни».

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1929, № 3, дзе датуецца 12/VI—1906 г.
У пазнейшыя прыжыццёвыя выданні не ўключаўся.

*Пара* (с. 276)

Пераклад з польскай мовы верша М. Канапніцкай «Przeorały raz i drugi» з цыкла «Z łąk i pól» («З лугоў і палёў»).

Верш узяты Я. Купалам са зборніка М. Канапніцкай «Poezye» (Варшава, 1883), якім карыстаўся ў 1906 г.

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Жалейка», 1908, дзе датуецца 9 ліпеня 1906 г.

Першы вядомы пераклад Я. Купалы з М. Канапніцкай.

Пераклад уключаўся і ў Зб. тв., 1928, т. I.

Пераклад верша быў таксама надрукаваны: «Наша ніва», 1910, № 40, 30 верас.

У гэтым нумары пераклад верша змешчаны пасля паведамлення аб смерці М. Канапніцкай. Да перакладу ёсць зноска: «Верш гэты надрукаваны быў у «Жалейцы» Янкі Купалы; там жа ёсць і другія пераклады з Канапніцкай».

*Канапніцкая Марыя* (1842—1910) — выдатная польская пісьменніца. Пачала друкавацца ў 1876—1877 гг.

*Каму* (с. 276)

Пераклад з польскай мовы верша М. Канапніцкай «Temu tylko pług a socha» («Таму толькі плуг і саха») з цыкла «Z łąk i pól» («З лугоў і палёў»).

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Жалейка», 1908, дзе датуецца 11 ліпеня 1906 г.

Верш узяты Я. Купалам са зборніка М. Канапніцкай «Poezye» (Варшава, 1883), якім карыстаўся ў 1906 г.

Пераклад уключаўся і ў Зб. тв., 1928, т. I.

*На жалейцы* (с. 277)

Пераклад з польскай мовы верша М. Канапніцкай «A czemuż wy, chłodne rosy» («А чаму ж вы, халодныя росы») з цыкла «Na fujarce» («На жалейцы»).

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Жалейка», 1908, дзе датуецца 28 ліпеня 1906 г.

Верш узяты Я. Купалам са зборніка М. Канапніцкай «Poezye» (Варшава, 1883), якім карыстаўся ў 1906 г.

Пераклад уключаўся і ў Зб. тв., 1928, т. I.

*Сон на куццю* (с. 278)

Пераклад з польскай мовы верша I. Пілецкай.

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Жалейка», 1908, дзе датуецца 24 жніўня 1906 г.

Пераклад уключаўся і ў Зб. тв., 1928, т. I.

У Зб. тв., 1925, т. I ёсць наступная рэдактарская заўвага: «Куцця — астатак паганскага звычаю святкавання ў чэсць зімы. Адпавядае наогул святам у чэсць розных квадраў году. Не носіць у сабе нічога рэлігійнага, забабоннага».

*Пілецкая Іда* — польская паэтэса і пісьменніца. Аўтар твораў «Kulig», «Koń-widmo», «Opowieść z czasów Napoleona» і інш. Выступала і з крытычнымі артыкуламі.

*Куцця* — пярэдадзень Каляд, Новага года (па ст.ст.) і вадохрышча з урачыстай абрадавай вячэрай, на якой абавязковай стравай была куцця. Традыцыйны рытуал гэтай вячэры ўключаў элементы засцерагальнай магіі, варажбы.

*Гэтта* — у значэнні: тут.

*Воўк і баран* (с. 279)

Пераклад з польскай мовы байкі К. Балінскага.

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I, дзе змешчаны ўпершыню.

Захаваўся аўтограф без даты з подпісам: Янук Купала (ДзЛМЯнК, ф. А, воп. 1-р, адз. зах. 337, л. 1—2).

Пераклад уключаўся і ў Зб. тв., 1928, т. I.

У Зб. тв., 1951, т. I адзначаецца, што пераклад датуецца 1905—1907 гг.

*Балінскі Кароль* (1817—1864) — польскі паэт і грамадскі дзеяч. Пісаў пад псеўданімам Кароль з Яраслаўца. Аўтар зборніка «Pisma». Перакладаў творы іспанскага драматурга Кальдэрона.

*«Пажоўкнуў ліст... Прыгаслі вочы...»* (с. 281)

Пераклад з украінскай мовы верша Т. Р. Шаўчэнкі (1814—1861) «Минають дні, минають ночі».

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1930, № 5—6, дзе датуецца 1906 г.

Пад тэкстам белавога аўтографа пад назвай «Пажоўклы ліст...», напісанага лацінкай: «Тлумачыў з маларускага Янук Купала» (ДзЛМЯнК, ф. А, воп. 1-р 5, адз. зах. 346-а, л. 1).

У пазнейшыя прыжыццёвыя выданні не ўключаўся.

*Як кароль у паход выходзіў...* (с. 282)

Пераклад з польскай мовы верша М. Канапніцкай «A jak poszedl król na wojnę».

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Наша ніва», 1914, № 46, 20 лістап. Пад тэкстам: перакл. Янка Купала.

У машынапісным тэксце (ДзЛМЯнК, ф. А, воп. 1-р 5, адз. зах. 6д, л. 1) з праўкамі, прыналежнасць якіх Я. Купалу ўстанавіць не ўдалося, ёсць дата: 1914 г. Улічваючы, аднак, што паэт гэты пераклад у ліку 14 іншых вершаў уключыў у «Жалейку» (1925), можна меркаваць, што пераклад быў зроблены раней, хутчэй за ўсё ў жалейкаўскі перыяд яго творчасці. ЭД, с. 695 і Зб. тв., 1951, т. I датуюць пераклад 1907 г.

У свой час твор М. Канапніцкай быў пакладзены на музыку і быў вельмі папулярны не толькі ў Польшчы, але і далёка за яе межамі.

Пераклад уключаўся ў Зб. тв., 1928, т. I.

*Думка* (с. 283)

(«Нашто чорныя мне бровы...»)

Пераклад з украінскай мовы аднайменнага верша Т. Шаўчэнкі.

Друкуецца па зб. «Кабзар» Т. Шаўчэнкі, 1939, с. 19, у варыянце, перапрацаваным для гэтага юбілейнага выдання, прысвечанага 125-й гадавіне з дня нараджэння ўкраінскага паэта (1814—1861).

Упершыню — «Жалейка», 1908, дзе надрукаваны ў цыкле «Думкі» разам з вершам «За думаю дума роем вылятае».

Пераклад увайшоў і ў другое выданне «Жалейкі» (Зб. тв., 1925, т. I).

Пераклад уключаўся і ў Зб. тв., 1928, т. I.

Радок 33 у Зб. тв., 1928, т. I даецца ў наступным выглядзе:

Каб занеслі ветры буйны

У ЭД, с. 207 і Зб. тв., 1951, т. I адзначаецца, што пераклад датуецца 1905—1907 гг.

*«За думаю дума роем вылятае...»* (с. 284)

Пераклад з украінскай мовы верша Т. Р. Шаўчэнкі.

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I, дзе змешчаны ў цыкле «Думкі».

Упершыню — «Жалейка», 1908, дзе надрукаваны ў цыкле «Думкі», разам з вершам «Думка» («Нашто чорныя мне бровы...»).

Датуецца 1905—1907 гг.

Пераклад верша апублікаваны ў «Жалейцы», 1908 без канцоўкі арыгінала і друкуецца ў такім выглядзе да апошняга часу. Аб цэнзурным характары гэтай купюры (першым гэтую думку выказаў Б. Чайкоўскі — «Література в школі», 1954, № 5. С. 21) красамоўна гавораць знятыя 12 шаўчэнкаўскіх радкоў:

Не заревуть в Україні
Вольнії гармати.
Не заріже батько сина,
Своеї дитини,
За честь, славу, за братерство,
За волю Вкраїни.
Не заріже, викохае,
Та й продасть в різницю
Москалеві. Це б то, бачиш,
Лепта удовиці.
Престолові — отечеству
Та німоті плата.

(Т. Шевченко. Повне зібрання творів у шести томах, Кіів, 1963, т. I. С. 257).

Гэты пропуск у перакладзе пазначаны кропкамі. Каб верш меў лагічнае завяршэнне, Купала змяніў радок, але гэта аддаліла пераклад ад арыгінала.

Б. Чайкоўскі выказваў таксама меркаванне, што пераклад не задаволіў Купалу і таму ён не ўключыў яго ў беларускае выданне «Кабзара» (Чайкоўскі Б. I. «Т. Р. Шаўчэнка і беларуская літаратура» — «Література в школі», 1954, № 5).

Пераклад уключаўся і ў Зб. тв., 1928, т. I.

*Агароднік* (с. 284)

Пераклад з рускай мовы аднайменнага верша М. А. Някрасава.

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Жалейка», 1908, дзе надрукаваны з падзагалоўкам «З Някрасава».

Датуецца 1905—1907 гг.

Пераклад уключаўся і ў іншыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I;

Дэкламатар, Вільня, 1921;

Беларускія ведамасці, 1921, 14 лістап.;

Беларускі дэкламатар, Мн., 1924;

Дэкламатар, Мн., 1928.

## ВЕРШЫ НА ПОЛЬСКАЙ МОВЕ

Вершы на польскай мове, змешчаныя ў дадзеным раздзеле (акрамя верша «Kobiecie»), друкуюцца паводле машынапіснага тэксту з праўкамі Я. Купалы. Пад тэкстамі вершаў подпіс: I. Луцэвіч і памета: пісаў у 1906 г. (ДзЛМЯнК, ф. А, воп. I, адз. зах. 9).

Упершыню вершы змешчаны ў Зб. тв., 1972—1976, т. I.

Можна меркаваць, што вершы былі напісаны не ў 1906 г., а раней. Аўтабіяграфічныя матэрыялы даюць падставу для такога меркавання. Так, у лісце да Л. М. Клейнбарта ад 21 верас. 1928 г. Я. Купала пісаў: «Но вот попадаются мне в 1904 г. или в начале 1905 г. револ(юционные) прокламации на белор(усском) языке и книжки «Дудка белорусская» Богушевича и «Гапон» или какая-то другая книжка Марцинкевича, изданная за границей, и все мое польское писание пошло насмарку. С этого времени я начинаю писать только по-белорусски...» А ў 1906 г., які пазначаны паэтам пад тэкстамі вершаў, яны, відаць, былі перадрукаваны на машынцы і сабраны ў адзін сшытак. Можна думаць, што паэт намерваўся выдаць іх асобна, але, па невядомых прычынах, пры жыцці паэта вершы не былі надрукаваны. Як адзначае літаратуразнавец У. Мархель, «вылучаючы гэтыя творы ў асобную нізку, Купала не выкрэсліваў іх з сваёй творчасці, а хацеў захаваць і так ці інакш данесці да чытача. Узятыя ў іншамоўную абалонку, яны не супрацьстаялі яго беларускай паэзіі, ядналіся з ёю сваёй тэматыкай і зместам, лучыліся ідэйным тэмпераментам, хоць і неслі на сабе прыкметы кніжнасці» (зб. «Шляхам гадоў», Мн., 1990. С. 306).

*«Kobiecie»* (с. 289)

Друкуецца па аўтографе, пад тэкстам якога подпіс: Луцевіч і дата: 14 ліпеня 1904 г. (ДзЛМЯнК, ф. А, воп. 1, адз. зах. 1). Гл. заўвагу да верша «Мая доля».

Верш публікуецца ўпершыню.

У той час, калі Я. Купала пісаў верш, слова «жыд» ужывалася як бытавое і за ім не стаяла знявага чалавека яўрэйскай нацыянальнасці. У жн. 1925 г. сакрэтным цыркулярам Галоўліта БССР ва ўсіх творах на беларускай мове, нават пры перавыданнях, слова «жыд», якое было традыцыйным для Беларусі і азначала асобу яўрэйскай нацыянальнасці, замянялася на слова «яўрэй». (Нацыянальны архіў Беларусі, ф. 4, спр. 5, с. 30.)

Ніжэй падаюцца даслоўныя пераклады польскамоўных вершаў Я. Купалы, зробленыя У. Мархелем.

## КАБЕЦЕ

Я вучоных розных працы
За свае маладыя гады чытаў,
Але адкуль узялася кабета,
Таго нідзе ■ не знайшоў.
А найболей, чым яна ёсць?
Ці гэта штосьці добрае, святое?..
Ці яна створана для шчасця?..
Ці якоесь праклятае зло?..
І напэўна, так бы заўсёды,
Нічога не ведаючы пра яе, я сядзеў,
Калі б, раз Янкеля спаткаўшы,
Я пра ўсё не даведаўся.
Янкель быў вялікім практыкам,
Як і кожны амаль наш яўрэй,
Таму і ў кабечай лепей,
Чым вучоныя, разбіраўся справе.

(. . . . . . . . . . . . . . .) ужо нямала
За сваё жыццё прагандляваў,
Дорачы ім сталае каханне,
Пераканаўся ў іх недахопах.
Да таго ж яўрэем быў ён,
Каб яму паверыць было можна,
Бо заўсёды яўрэйскі
Розум нам прыемна слухаць.
Вось Янкель мой сказаў,
Распавёў ён пра кабету:
Што кабета — загадка
І да таго вельмі мудрая,
Што — пагадзіцеся — рэдкая з'ява
Заўсёды павінна быць нядобраю.
І хто толькі парываўся
Яе разгадаць, спазнаць, даследаваць,
То заўсёды пераконваўся,
Што не здольны гэта выканаць.
Нават часта ў гэтым даследаванні,
Да якога нейкая сіла
Штурхае нас, то ажно пры сконе
Гэтая загадка была страшнаю.
І вам кажу: калі хочаце
(Так мне далей Янкель расказваў)
Жыць без бяды на гэтым свеце
І каб ад злога Бог вас збавіў,
То ніколі вы не рвіцеся
Даследаваць гэтую загадку,
Бо напэўна памыліцеся,
Бо гэта не да вырашэння.
І калі трапіце ў сіло,
Пастаўленае кабетаю,
То напэўна прападзеце
Так, як у жудасным пекле.

## ЛЯЦІ, ПЕСЕНЬКА...

Ляці, крылатая песенька,
Ляці, куды табе выпадзе,
І ў палацы магната
І да хатак убогіх.

Ляці і загучы надзеяй
На світанне будучага быцця,
Калі развеецца цемра,
Настане лепшае жыццё.

Далёкія чорным сваркам,
Людзі праўдзе не здрадзяць,
Заможныя, бедныя, калекі
Пададуць адзін аднаму рукі.

З нянавісцю шакалаў
Не будуць паклёпнічаць,
Зніч любові распаляць,
Сядуць вакол стала братання.

Скарб шчасця і славы
Будзе адчынены для слёз,
Знойдзе хлеб галодны,
Адзенне знойдзе абарванец.

Хатку знойдзе бяздомны,
Дапамогу знойдзе сірата,
Гэй, для будучых пакаленняў
Надыдзе залатая эра.

Дык, дык з такою надзеяй
Ляці, песенька, з-пад страхі,
Не енч сумна і глуха,
Бі громам радасці.

## У МАЁВУЮ НОЧ

Якая ж цудоўная гэтая маёвая ноч без цёмных хмараў і імглы.
Месяц весела глядзіць на поле і бор;
У чарадзейскія іншасветы думка імкнецца, дзіўныя рояцца сны,
На душы адклікаецца хор гімнаў шчасця.

Грудзі калыша таемным пачуццем, кіпіць кроў,
Ночка шэпча кінуць сумоту і жаль,
Аднекуль, з невядомага краю, з сардэчнай радасці ідзе кліч,
Што ажно памкнуўся б, як стэпавы віхар, у тую далячынь.

Гэй, дзяўчына, каханка, абтрасем злую плесень сваіх смуткаў,
Няхай у сэрцы заб'ецца і пачуццёвасць і моц.
І заспявайма вялікую песню, песню свайго магутнага кахання,
Кубак пачуццяў кахання вып'ем у гэтую ноч.

Забудзьма пра ўсё, пра жыццё, пра людзей, пра свет.
Ха, што ж далі нам людзі і гэты свет і быццё?
Адны клопаты, пакуты, што за намі, як цені, ідуць следам.
Дык, дык далей у гэты рай, дзе ззяе кахання зара.

Смела, смела ў гэты рай узнясіся сваім духам.
Сваю чароўную галоўку пакладзі на мае грудзі,
Вазьмі маё сэрца, дзяўчына, і мой вясельны пярсцёнак вазьмі
За свой вянок, сплецены з міртаў і ружаў.

## ВОСЕНЬ

Шырокую зямлю
Нямілая восень
Цёмнай памрокаю
Слёзна спавіла.

І халодны павеў
Віхураў з поўначы
Вызвоньвае гімны
З жалю, з немачы.

Збянтэжаны дух
Зразумее тыя хоры,
Тыя дзікія танцы
Панурай хвіліны.

Зразумее і засне,
Далёкі ад шчасця.
Але, але не стухне
Ніколі навек.

Зразумее і засне
Да будучай вясны,
Калі сонца ясна
Асветліць сосны.

Калі кіне на іх
Бляск са сховаў,
І зямля паўстане
Зноў да жыцця.

## З УСПАМІНАЎ

Ці бачыш хмараў шэраг, што кідаецца снегам,
Што, сыплючы як прыскам, асляпляе зрок?
Гэтую цемру перад намі, гэтую цемру за намі,
Ці бачыш, ці бачыш гэты змрок?

Ці чуеш гэтыя завывы зімовай віхуры
І жалобны акампанемент ваўкоў за борам?
Гэтыя енкі ў коміне, гэты магільны свіст...
Ці чуеш, ці чуеш гэты хор?

У такую ноч, гадоў пяцьдзесят таму ўжо будзе,
Наш бацька пакідаў родную хату,
Хоць завея, хоць віхры ў сваім шалёным бегу
Смерць неслі пацехам і снам.

Плакалі мы, дзеці, і плакала маці,
Бо нашаму шчасцю надыходзіў канец,

Ды сэрца было ў яго мужнае і цвёрдае, як скала,
Не слухаў нараканняў і слёз.

«Не плачце,— сказаў,— тут жаль не дапаможа,
Пакуты нам Бог, як і радасць, дае.
Ісці [redacted] павінен, ісці трэба, то ў імя, а Божа...
Там даўно чакаюць ужо мяне.

Там даўно ўжо ліецца чырвонаю плынню
За праўду за нашу нявінная кроў,
І магутным рэхам па шырокім свеце
«Гэй, наперад, за волю» — разносіцца кліч».

І выйшаў кудысьці ў поле, нас у жальбе пакінуў,
Яго снежную постаць ахінуў дым.
І выйшаў кудысьці ў поле і больш не вярнуўся,
Хоць прайшло пяцьдзесят ужо зім.

## БЕЛАРУС

Бачу: вось цягнецца нейкая змарнелая постаць,
Бедная сярмяга звісае з худых плячэй,
У лахманах кажуха патанае сівая галава,
А ногі крывыя валакуць лапці з ліпы.

Твар увесь у маршчынах, як ніва ў барознах,
Ценіць прыгнечаннем змярцвелай істоты,
У вачах недахоп жыцця, відаць, яго залілі слёзы,
А з грудзей вырываецца скрыгатам уздых.

Гэта Беларус, што пакутуе і любіць.
Гэта Беларус, якога скаціла
У багну бядноцця цемра-мачаха.

Багацце яго — пахілая хаціна.
Жыццёвая мэта — сякера і саха,
А канец пакуты — карчма і магіла.

## НЕ ДЛЯ ВАС...

Не для вас доля ружовым світанкам
У таўпечы жыцця зззяе на небе,
Не для вас узыходзіць надзея нанова,
Калі яе сумненне разаб'е, закапае.

З думкай пра заўтра, пра хату, пра хлеб
Вы мусіце крочыць з апушчанай галавою.

Працаваць у поце за іншых, за сябе,
А потым памерці са слёз галоднаю смерцю.

Вашая песня енчыць жалобнай элегіяй,
Даючы ўяўленне пра ўсю вашую бядоту,
Што ўжо пры жыцці ператвараецеся ў магілы,

Што вашую зямлю заліло знішчэнне,
Што іншыя могуць жыць вечна ў магутнасці,—
Вам нават нельга памерці са славаю.

## ВЯСНА

Прыйшла яна да мяне,
Ціхая і зялёная,
Вялікая, поўная жыцця,
Пазалочаная сонцам.

Прыйшла і прагнала
Слоты і завеі,
Прыйшла і засеяла
Мроі і надзеі.

Разбудзіла сэрца
Вялікім шалам жыцця,
Распаўсюдзіла чары,
Якіх [redacted] не ведаў.

У нейкія лепшыя светы
Клікала чараўніца;
Праганяла смутак з душы,
Праганяла клопат з твару.

Так ішла яна за мною
Па жыццёвай хвалі,
Але, як прыйшла ціха,
Так і пайшла далей.

Толькі жаль па сабе
Вечны пакінула,
Толькі жаль глыбокі,
Сумны, як магіла.

Восень-тужліўка,
Восень мярцвяна бледная
У самотніцкім сэрцы
Уплывова рассядаецца.

Як змяніла вясну,
Згасае ўсякая радасць;
Пра адвечныя турботы
Распавядае казкі.

. . . . . . . . . .

Шумяць лясы, шумяць,
Шумяць увосень,
А над імі зара
Ясна чырванее.

Паляці, мая песня,
Паляці, мая гучная,
Можа, знікне восень,
Можа, вернецца вясна.

## БАДЗЯГА

Ціха, самотна, без слёз і скаргаў
Валачэцца бадзяга ўбогі,
Глухім уздыхам уздымаюцца грудзі,
Рукі трасуцца і ногі.

Хоць сваю абаяльнасць распаўсюджвае Бог,
Ззяе зорамі і сонцам,
Замучаны бадзяга нічога не бачыць,
Не адчувае пакутным сэрцам.

Парваў ён нітку, што лучыць са светам,
Сумненнем заглушыў надзею,
У будучыя ўцехі не верыць ужо,
Шчасце ўжо для яго не існуе.

А былі хвіліны, калі гэты бадзяга
Захапляўся чарамі свайго існавання,
Думкам надаваў сакаліны палёт,
Змагаўся і перамагаў пакуты.

Былі гэта хвіліны маладых гадоў,
Хвіліны ілюзій і веры,
Без падманаў любіў ён людзей і свет,
Піў нектар добрых уцехаў.

На жаль, адглядзеўся, развееўся сон,
Імгла ілюзіі распаўзлася;
Занадта ён верыў, і гэтая вера
Атруціла яго існаванне.

Сёння самотна, без слёз і скаргаў
Валачэцца бадзяга ўбогі,
Глухім уздыхам уздымаюцца грудзі,
Рукі трасуцца і ногі.

## НА ЗМЯРКАННІ

Люблю я думаць у вячэрнім змроку,
Калі свет ахінаецца ў начныя чорныя строі.
І зорка загляне ў маё аконца,—
О, такі малюнак мне даспадобы.

Тады ў душу пранікаюць мары
Пра маю долю, чарнейшую за змрок,
І хоць сваё сэрца ■ ўзброю нячуласцю,
Неаднойчы заблішчыць і згасне сляза ў воку.

Сяджу, і мару, і чакаю, а чаго?
Сам я не магу адказаць на гэта сабе...
Здаецца, нейкага лепшага лёсу.

Бо калі ж нарэшце ўпрыгожуся шчасцем,
Пазбудуся смутку і свайго болю?
Ці ажно ў магіле — у чорнай халоднай труне?..

* * *

Перастаньце марыць пра слаўнае мінулае.
Сваёю мараю яго ўжо не ўваскрэсіце;
Калі б нават аддалі ўласнае жыццё,—
Яно не вернецца ніколі да вас, не загасцюе.

І будучыня ваша, спавітая ў цемры,
Не свеціць шчасцем на дальнім блакіце;
Нараджае спакваля балючыя сумненні
І вырошчвае ў сэрцы чорную безнадзейнасць.

Дык пакіньце мары і шкадаванні па часе.
Хоць пакутуе душа, хоць сэрца баліць,
Любіце будучыню ў яе прамяністай прыгажосці.

Сэрцам аддайцеся волі лёсу
І ціхаю працаю высцілайце для сябе
Дарогу да будучай святлейшай долі.

## ВЕРНЕЦЦА ВЯСНА, ВЕРНЕЦЦА...

Вернецца вясна, вернецца
З зялянінаю, з кветкамі,
Сонейка выясніцца,
Засвеціць над намі.

Справяцца хаўтуры
На магіле зімы,
Калі лопнуць ільды
Ад вясны радзімай.

І ў полі і ў гушчары
Загучыць птушыны хор,
І прамень надзеі
Афарбуе сны жыцця.

З працавітаю рукою
Селянін пасля доўгага сну
Выйдзе са сваёю зброяю —
Сахою або плугам.

Выкараніць куколь
І марную крапіву.
У зааранае поле
Кіне пладаноснае зерне.

Закалышуцца збажыною
Засеяныя загоны,
Зросяць святою вадою
Людзі новыя ўраджаі.

Жыта і пшаніцу
Збяруць, нібы золата,
З іх дзяўчаты вянкі
Сплятуць на дажынкі.

А сонца навокал
Жалі разгоніць,
Чалавек душою ўсклікне:
Ой, дана, ой, наша.

Гэй, зіма, гэй, халады,
Мінайце хутчэй,
Растапіце свае ільды
Для вясновай пражы.

## ЛЮБЛЮ ЦЯБЕ, ЗЯМЛЯ...

Люблю цябе, зямля, родная мая зямля,
Хоць змрокі зямныя засланілі тваю славу,
Ты заззяеш, у тваім лоне вулканы не дрэмлюць,
Прыйдзе дзень, і зарыва тваёй магутнасці запалае.

Люблю цябе, зямля, хоць нахабныя ворагі,
Што ты ўжо не жывеш, брэшуць мярзотна,
Ты жывеш, як вечнасць, твае дні несмяротныя,
Твой народ памятае пра тваю былую славу.

Люблю цябе, зямля,— тваё воды, тваё нівы
І прывабнасць тваё вясны і пустку тваё зімы,
Тваё ўраджаі і твой люд, замучаны нядоляю,
І люблю гук песенек на роднай мове.

Люблю — як ёсць шырокая і доўгая,
Якою была дзвесце гадоў таму назад,
Калі адбівалі табе паклоны і ўладар і слуга,
Дзе сонцам, дзе громам шумелі штандары.

Люблю цябе, зямля, хоць бадзяжнае жыццё
Нясе мне столькі клопатаў і столькі горкіх слёз;
Я пра цябе не забудуся,— засумую, заплачу
Эх, нават пасля смерці — у тваім лоне, у магіле.

## ГЭЙ, У СВЕТ!..

Гэй, у свет! гэй, у свет! У шырокую далеч,
За думкаю следам, за ветрам следам:
Абы змагчы горыч, смутак, жаль,
Дык далей у свет! Дык далей у свет!

Узброіць душу сталёвым гартам,
Вырваць з сэрца кветку пачуцця,
Сарваць любові ўяўны шалік
І ляцець у свет, у шырокі свет.

Але мне для палёту не хапае крылаў,
Хоць у сэрцы гарыць вялікае жаданне,
Хоць горка так, хоць цяжка так!

О, Божа, асвяці мой быт дома:
У мяне ёсць маці, сёстры і брат...
...Ах, чаму ж нам дадзена сэрца?!

* * *

З вечным болем замкнёныя ў сваіх марах,
Мы вымушаны даследаваць і спазнаць увесь свет,
Даследаваць людскія і душы і жаданні
І снаваць у маўчанні ідэалы быту.

Мы вымушаны заглушыць усё, што нас вабіць,
Што нам зменлівы лёс прынёс у ахвяру,
А толькі граць для будучыні хейналы,
Каб потым знікнуць у пыле забыцця.

Жывём толькі прывіднымі марамі,
Хоць жыццё не раз сваёй спакусаю падманвае,
Хоць маем душы, хоць маем сэрцы.

Так лёс нелітасцівы вечна трэпле нас,
Туляцца мы змушаны ў паняверцы жыцця,
П'ючы атруту, якую даюць паклёпнікі.

## З АСЕННІХ МАТЫВАЎ

Нібы цень плачкі,
Нібы скаргі бадзяжныя,
Нібы жаль пакутніцы,—
Ідзе восень і плача.

Плача, асвячаючы туманам
Чорныя пусткі зямлі,
Ажно па заклапочаным сэрцы
Разбягаюцца мурашкі.

Абшар маці-прыроды
Поўны празяблай немачы;
Кудысь па небе імкнуцца хмары,
Веюць вятры з поўначы.

Паўжывой воўчай зграі
Ляцяць злавесныя енкі,
А ў іх дзіўныя матывы —
Будзе тут яшчэ горай.

Будуць халады і зіма,
Што ад краю да краю
Затрымае жыццё зямлі
Сваім саванам са снегу.

Пуста, глуха на душы,
І пра долю чалавек не сніць;
Непагадзь прыгнятае і глушыць
Хвілі мараў і песні.

Але тут, як з парога,
Сонейка бліснула і грэе,
І абудзіліся зноў
Лепшыя думкі, надзеі.

Чутны дзіўныя водгаласы,
Міне невыносная пара,
Зменіцца лёс зямлі,
Будзе доля і вясна.

Толькі б не загубіць сэрца
У часе непагадзі, завеі,
Сцелючы сумненняў дываны,
Мёртвы сон беспрасвету.

## З ПЕСЕНЕК СІРАТЫ

Матуля мая ляжыць у магіле,
Над курганам віхар вее,
А я тут адна плачу,
Успамінаючы яе надзеі.

Калі спявала, абяцала,
Калышучы мяне ў калысцы,
Што я вырасту, як скала,
І сваю нядолю растапчу.

Што ўзнясуся добрай славаю
Па-над разложыстым лесам,
Што заслужу крываваю працаю
Уласнае поле, уласную хату.

Што надзеяй узбагаціцца
У ясную будучыню маладое сэрца,
Што між свае бадзяжнай брацці
Я знайду дружбу, знайду згоду.

Што жыццёвыя віхуры, буры
Не пераломяць буйнай сілы,
Што я ў гразь не апушчуся,
Са славаю лягу ў магілу.

Што гэтая зямля-карміцелька
Дасць лепшыя ўраджаі,
Радасць будзе вялікая, вялікая,
Ажно загаворыць зялёны бор.

Так спявала мая маці,
А ■ душою адчувала
І цешылася ўпотай
Сэрцам, тады неспакутаваным.

І я бачыла жыццё людзей
У колерах вясёлкі, у блясках сонца,
Вечныя песні на блакіце,
Вечная любасць,ззяючая вераю.

Але, на жаль, ах, на жаль,
Усё павярнулася наадварот.
Доля, дзе ты? Доля, дзе ты?
Дзе ты, вера ў буйную сілу?

Без прытулку, без уцехі
Пастаянна бадзяюся па гэтай зямлі,
Пайшла доля з-пад мае страхі,
Пайшла са сваімі песенькамі.

Свае брацці — як не свае,—
Слёз не бачаць, скаргаў не чуюць,
Кожны марыць пра сваю праўду,
А мой жаль абыходзяць маўчаннем.

Мушу ■ араць чужое поле,
У чужой хаце жыць з сумотай,
Болем мучыць сваю душу,
Што я сірата, што я сірата!

Усюды бяда, куды ні падамся.
Пакідаю парогі чужое хаткі,
Іду да магільных крыжоў,
Выкажу скаргі сваёй маці.

Можа, яна мяне выслухае,
Скаргаў у забыццё не закапае
І падмацуе гартам дух,
Пашле лепшую долю з неба.

## НІБЫ ВЯСНОЮ...

Нібы вясною радасную песню
Думкі мне зайгралі:
Мае мары такіх гукаў
Яшчэ не чулі.

Мае вочы край чароўны
Бачаць навокал далёка,
Сляза радасці заяснела
Пад сумным павекам.

Гэй, не дзіва такую шчаслівую
Адчуць у сабе хвіліну:
Мая дзяўчына сёння глянула
На мяне шчыра, міла.

Добра ў гаі ля ручая
Жыць вясною рана,
Добра песеньку выклікаць з душы,
Лепей быць каханым.

## УЧОРА БЫЛО...

Учора было... Як магілаю
Сэрца ціснуў жаль,
Калі я развітваўся са сваёю хатай,
Калі я падаўся ўдалеч.

Мараю цёмнай віўся перада мною
Чорнай долі вуж,
Неба бурліла непагодаю,
Несупынна грымеў гром.

Ноч навокал нявесела
Распаўсюдзіла змрок,
Зашыпелі сумненні цемры,
Слязою зацямніўся зрок.
. . . . . . . . . . . . . . .
Сёння бачу — неба бляднейшае,
Не так поўна хмараў,
Вясновая песня ляціць здалёку,
Шумна гамоніць бор.

Маю ж далей душу паліць
Сумных мараў рой;
Як і ўчора, баліць сэрца,
Сумна, Божа мой.

## ЗЯМЛЯ...

Зямля, я люблю цябе, люблю ўсёй душою,
Хачу грудзьмі прытуліцца, як да свае каханкі,
Прагну цябе аздобіць у пурпуровыя вянкі,
Прагну абкружыць цябе несмяротнай славаю.

Ты ў зяляніне, уся ў святле, ззяеш смела жыццём.
Бачу на тваёй прасторы прыўкрасныя пісанкі,
Любасці і братэрства бачу ясныя ранкі,
Душа благае: «О Божа! Чаго ж мне сёння мала?»

Сэрца плача... Знікаюць сны пра цябе, зямля:
Замест вясны і сонца — злавесная цемра,
На тваіх квяцістых нівах — каменне і куколь,

Палёты да любасці ў душы ціха дрэмлюць...
Не люблю я цябе, зямля, хоць звяртаюся да Бога:
«Хрысце! Адкуль такая перамена?.. Я ару чужое поле».

## ФРАГМЕНТ

...І выбухнуў вулкан!.. Агромністыя лавіны
Ахапілі прастору, занятую людзьмі,
І, пасмейваючыся са змагання натоўпу, палаючы з катлавіны,
Раўняюць сваім слоем даліны з гарамі.

Натоўп змагаецца... Праклёны і енкі блюзнерскія
Злавесна загучалі, як сабачае скавытанне...
О, дарэмнае змаганне з гэтай загубнаю сілай...
Ужо навокал папялішча. Ха, нічога не застанецца!

Ужо разлягаюцца ўдалечы водгаласы груганоў,
І ваўчаняты на корм ірвануліся.
Ужо адчулі для сябе крывавую бяседу
Гэй, на гэтай магіле, гэй, на гэтым пахаванні.

* * *

Сны падманныя, беспрабудныя,
Поўныя тугі сны
Азмрочылі маю душу,
Нібы начная цемра.

Ззяючыя іскрамі зоркі, сонца
Толькі змрокі шлюць,
Зямля, людзі — адна пустка,
Адна тужлівая імгла.

Сэрца плача, бадзяжныя слёзы
Раняе на гэты свет,
Усё жыццё як пакута,
Як жалобны трэн.

Так падманныя, беспрабудныя,
Поўныя тугі сны
Азмрочылі маю душу,
Нібы начная цемра.

* * *

Хто з вас, сябры, мае брацці,
Суніме жаль, супакоіць слёзы,
Мае бадзяжныя слёзы?
Я шукаю ўцех у сваёй песні,
Але ліра настройваецца на смутак,
З песняй я тужу, плачу...
. . . . . . . . . . . . . . .

Выйшлі з плугам ужо аратыя,
Радуецца юначае сэрца,
А пот залівае твар.
Пра ўраджай багаты люд турбуецца.
...Град збіў ураджаі... Чутны плачы...
Плачуць мае брацці.

## Dubia

### *«Modlitwa»* (с. 307)

Друкуецца па часоп. «Ziarno» («Зярно»), 1903, № 13, дзе ўпершыню апублікаваны, з подпісам «I. L.».

У Зб. твораў уключаецца ўпершыню.

Датуецца годам апублікавання.

На аўтарства Я. Купалы ўказваў С. Александровіч, выказваючы на карысць атрыбуцыі меркаванне, што калі Я. Купала некаторыя вершы пазней таксама падпісваў крыптанімам «I. Л.» («Асёл і навука», «Сват» і інш.), то можна думаць, што верш, змешчаны ў часопісе «Зярно», і ёсць адзін з тых ранніх твораў на польскай мове, аб якіх успамінае Я. Купала ў сваіх аўтабіяграфічных матэрыялах. (С. Александровіч. «Старонкі братняй дружбы». Мн., 1960. С. 18.) Ніжэй падаецца верш «Modlitwa» ў даслоўным перакладзе на беларускую мову У. Мархеля.

### МАЛІТВА

Дарэмна мой дух у пакуце крывавіцца
І дарэмна змардаваная думка тузае
З няспыннай роспаччу!

Ужо зямная літасць мяне не выбавіць,
Не дапаможа енк ці скарга —
Да цябе мой пагляд, Прачыстая!
Каралева нябёс, Маці Хрыста!
Панна!..

Хвала Табе, Пані святая!
Ты — гімн, што ўзнік з маіх боляў
І да ног Тваіх плыве!

О! Не адхіляй на сёмым небе!
Бо мой голас, як ліст, што шамаціць,
Шпурляны віхрам і гнаны —
А сэрца накшталт аднае раны,
Гіне!

Ілюзіі, тугу, пражу мараў —
Усё панеслі хвалі жыцця,
Лёс хвастаў мяне сваім бізуном!

Быў я забаўкай яго здарэнняў,
Асуджаны трываць ад спавівання,
А заўсёды я насіў душу гордую,
Хоць за крыўду не плаціў пагардаю,
Нічым!

*Гурка і Лідвалі* (с. 308)

Друкуецца па «Нашай ніве», 1906, № 5, 8 снеж., дзе ўпершыню апублікаваны пад крыптанімам Я. К.

Некаторыя даследчыкі (напр., У. Гніламёдаў, В. Рагойша і інш.) лічаць, што верш можа належыць Купалу.

Але існуе і процілеглая думка. Так, напрыклад, І. Саламевіч лічыць, што гэты верш напісаны не Купалам. Пры гэтым даследчык спасылаецца на тое, што першы верш паэта, які быў надрукаваны ў «Нашай ніве» — «Касцу».

Рэдкалегія дадзенага выдання вырашыла ўключыць у том артыкулы з гісторыі публікацыі зборнікаў дарэвалюцыйных твораў «Жалейка», «Гусляр», «Шляхам жыцця», «Спадчына», а таксама іх змест, паколькі названыя кнігі з'яўляюцца бібліяграфічнай рэдкасцю.

---

## ЗБОРНІК «ЖАЛЕЙКА»

## (ПЕЦЯРБУРГ, 1908)

Знамянальнай падзеяй пачаўся для Янкі Купалы 1908 год. Не пазней 11 (24) сакавіка ў Пецярбурзе ў выдавецкай суполцы «Загляне сонца і ў наша аконца» тыражом 4300 экз. выйшаў першы зборнік паэта — «Жалейка».

Вялікую дапамогу пісьменніку ў фарміраванні і выданні кнігі аказваў беларускі публіцыст і літаратурны крытык У. І. Самойла. Спачатку зборнік рыхтаваўся да выдання ў Мінску ў выдавецтве «Мінчук», аднак, ці з-за адсутнасці ў выдавецтва сродкаў, ці з-за цэнзурных меркаванняў, не быў выдадзены. Тады ж У. І. Самойла пераслаў рукапіс у Пецярбург Б. І. Эпімах-Шыпілу, які канчаткова скампанаваў кнігу і памог яе выдаць. У пісьме да Л. Клейнбарта ад 23.X.1928 г. Б. І. Эпімах-Шыпіла пісаў: «...Суполка попросила Самойло прислать ей стихи Купалы, что тот и сделал, приславши массу стихотворений частью в рукописях автора, частью переписанных на машинке. Все стихотворения подписаны были: Янук Купала и дата написания. Просмотрев все эти стихотворения и сделав из них выборку, и приготовил к печати сборничек, который автор пожелал назвать «Жалейкой». Переписываясь на первых порах с Самойло, сыном директора бывшего Минского реального училища, и не знал настоящего имени поэта. Только когда в процессе печатания надо было сноситься с самим автором по поводу или фронтисписа к этому сборничку, сделанного по моему указанию коллегой моим художником Якубовским, или иных вопросов, сообщено мне было настоящее имя и место жительства поэта. Во фронтисписе к заглавному листу я невольно сделал ошибку, написавши вместо: «Жалейка Янука Купалы», как автор всегда и повсюду называл себя и подписывался,— «Жалейка Янки Купалы». Таким образом, не умышленно переименовал я Янука и Янку, каковую форму имени принял потом и сам поэт и каковая так и осталась за ним до сих пор — не Яну́к, а Янка Купала»[1].

Складальнікі зборніка ўключылі ў «Жалейку» 96 твораў[2] — вершы, пераклады, наследаванні і паэму «Адплата кахання», якія кампазіцыйна размеркаваліся па двух раздзелах. Першы раздзел склалі непасрэдна арыгінальныя творы, а другі пад назвай «Тлумачэнні, наследаванні і разныя другія вершы» — пераклады твораў М. А. Някрасава, А. Міцкевіча, М. Канапніцкай, Т. Р. Шаўчэнкі, І. А. Крылова,

[1] Пуцявінамі Янкі Купалы: Дакументы і матэрыялы.— Мн.: Навука і тэхніка, 1981. С. 55.

[2] Гэта лічба дакладная. У артыкуле Н. Ракіцкай «Беларуская выдавецкая суполка «Загляне сонца і ў наша аконца» (зб. «Свіцязь», Мн., (1989) лічба 98 памылковая.

наследаванні з М. Ю. Лермантава і некаторыя з лепшых вершаў самога Я. Купалы («Адповедзь», «Каму?», «Касьба» і інш.).

Многія тэксты твораў у зборніку надрукаваны з вялікай колькасцю памылак і скажэнняў, ■ некаторыя вершы змешчаны двойчы («Шавец», «Я не сокал»). Некаторыя памылкі, безумоўна, былі выяўлены і вынесены ў доўгі спіс у канцы кнігі. Але шмат памылак засталося незаўважанымі. Тэкстолаг Р. І. Гульман лічыць, што адной з прычын такой вялікай колькасці памылак і скажэнняў у тэкстах з'яўляецца адсутнасць непасрэднага нагляду аўтара за друкаваннем зборніка[1]. Першая купалаўская кніга была прыхільна сустрэта перадавой грамадскасцю. У адной з рэцэнзій на зборнік У. І. Самойла адзначаў: «Думкі і погляды «Жалейкі» — гэта тыя ж думкі і погляды, што жывуць у народзе», ■ «песні Купалы — гэта люстра, у каторым свеціцца душа беларуса, яго жыццё, яго родны край; гэта праўдзівы, непадробны голас, што выходзіць з самай глыбіні народнай душы, гэта — «крык, што жыве Беларусь!» («Жалейка», песні Янука Купалы». «Наша ніва», 1908, № 17, 15 жн.). А другую рэцэнзію, змешчаную ў газеце «Минский курьер» (1908, № 113, 23 жн.), У. І. Самойла назваў «Вялікае свята»; ён жа прадказаў вялікую паэтычную будучыню Купалу і яго творчасці. Найбольш поўны і разгорнуты аналіз «Жалейкі» даў М. Багдановіч у артыкуле «Глыбы і слаі», паказаўшы месца зборніка ў творчай эвалюцыі паэта. Толькі Ядвігін Ш. недааценіў значнасць першага купалаўскага зборніка (рэц. «Жалейка» Янкі Купалы» ў газеце «Минское эхо», 1908, 9 ліп.). Царскія ўлады наогул паставіліся да зборніка адмоўна. Калі меркаваць па дакументах, якія захаваліся да нашага часу, то першай забіла трывогу паліцыя Віленскага павета. У верасні 1908 г. віленскі павятовы спраўнік накіраваў «Жалейку» ў Віленскі камітэт па справах друку разам са «Смыкам беларускім» і «Дудкай беларускай» Ф. Багушэвіча, перавыдадзенымі ў 1907—1908 гг. у Пецярбурзе выдавецкай суполкай «Загляне сонца і ў наша аконца». Як вядома, кнігі Ф. Багушэвіча былі адабраны паліцыяй 24 ліпеня 1908 г. на рынку ў м. Шырвінты Віленскага павета (зараз г. Шырвінтас Літвы) у селяніна-кнігаsuccessы Мечыслава Станкевіча, які атрымаў іх для продажу ў рэдактара газеты «Наша ніва» А. Уласава. Звязаная з гэтым перапіска адпаведных кіруючых установаў, на вялікі жаль, захавалася не цалкам, але можна выказаць меркаванне, што купалаўскі зборнік таксама быў канфіскаваны ў М. Станкевіча ў Шырвінтах адначасова з іншымі выданнямі на беларускай, літоўскай і польскай мовах. Аднак у Вільні справа па забароне «Жалейкі» не скончылася: яна дайшла ажно да Пецярбургскага камітэта па справах друку. А сам Я. Купала ў аўтабіяграфіі 1940 г. пісаў наступнае: «Царское правительство немедленно после выхода книги конфисковало весь тираж. С большим трудом ее удалось отстоять от конфискации. Второй раз ее конфисковал виленский генерал-губернатор в 1909 г. И только неполадками бюрократического аппарата царской цензуры можно объяснить то обстоятельство, что в содержании книги не могли разобраться и она дошла до читателей»[2].

Калі ў 1908 г. Я. Купала не прымаў непасрэднага ўдзелу ў канчатковым укладанні «Жалейкі», то ў 1923 г., пачаўшы працу над Зборам твораў, шмат увагі надаў свайму паэтычнаму зборніку. І ў 1925 г. з'явілася другое выданне купалаўскага першынца (Зб. тв., 1925, т. І). Нель-

---

[1] Гульман Р. Тэксталогія твораў Янкі Купалы. Мн., 1971. С. 12—13.

[2] Пуцявінамі Янкі Купалы. С. 7.

га сказаць, што «Жалейка» 1925 г. істотна адрозніваецца ад «Жалейкі» 1908 г. Але ўсё ж пэўныя змены ёсць. Я. Купала зняў некаторыя творы («Перад вясной», «Так... не...»), а замест іх уключыў 11 новых («Гэй, ты, сэрцайка...», «Рвуцца сілы», «Можна», «Воля», «Якія», «Дужыя і слабыя», «Падарожны», «Захад сонца», «Выйду...», «Спусташэнне», «Чорныя вочы»), якія па розных прычынах раней не былі надрукаваны. Паэтам былі зменены і загалоўкі некаторых твораў. Напрыклад, верш «З песняў мужыцкіх» атрымаў назву «Вось тут і жыві», «З песняў аб мужыцкім горы» — «Дзе ні выляці з няволі», «З пралётных думак» — «Па жыццёвай пуцявіне» і г. д. У другім выданні «Жалейка» перабудавана і кампазіцыйна: амаль адвольнае размяшчэнне вершаў у выданні 1908 г. паэт падпарадкаваў стройнай сістэме. У пачатку кнігі змешчаны творы, у якіх выказаны эстэтычныя погляды Я. Купалы: «Я не паэта», «Каму вас, песні?», «З маіх песень», «Да песень» і інш.; затым — вершы, якія адлюстроўваюць тагачаснае жыццё і побыт беларускага селяніна: «З песень нядолі», «Над сваёй Айчызнай», «Гэта крык, што жыве Беларусь» і інш.; пасля пейзажныя замалёўкі роднага краю: «Засвяціла цяпло», «Вясна», «З песень аб вясне», за імі — пераклады; а ў заключэнне — апрацоўкі народных паданняў: «Канюх» і паэма «Адплата кахання».

У 1982 г. выйшла факсімільнае выданне зборніка «Жалейка» (1908).

*А. Шамякіна*

## «ЖАЛЕЙКА» (ПЕЦЯРБУРГ, 1908)*

**Змест**



* Змест «Жалейкі» 1908 і 1925 гг. дадзены па тагачасным правапісе.

## «ЖАЛЕЙКА» (Зб. тв. 1925, т. 1)*

### Змест



* У Зб. тв., 1925, т. 1 змест даецца ў алфавітным парадку.

## ЗБОРНІК «ГУСЛЯР» (ПЕЦЯРБУРГ, 1910)

21 кастрычніка 1910 года ў газеце «Наша ніва», № 43 была змешчана аб'ява рэдакцыі:

---

ВЫДАННЕ А. ГРЫНЕВІЧА

Выйшлі з друку і прадаюцца ў рэдакцыі «Нашай Нівы» і ў фірме «Загляне сонца і ў наша ваконца» ў Пецярбурзе:

| | |
|---|---|
| «Гусляр» Янкі Купалы | 40 кап. |
| «Адвечная песня» яго ж | 20 к. |
| і «Беларускія песні» з нотамі | 30 к. |

---

І сапраўды, другі зборнік вершаў Янкі Купалы «Гусляр» выйшаў з друку ў кастрычніку 1910 года. Ён складаўся з вершаў, напісаных у перыяд з 1906 па 1910 гг.

У сакавіку 1908 г. першы паэтычны зборнік Я. Купалы ўбачыў свет, а ў верасні — кастрычніку гэтага ж года па просьбе Б. І. Эпімах-Шыпілы паэт адсылае ў Пецярбург рукапісы новых вершаў. Так пачынаюць збірацца творы для наступнага выдання. У кнігу ўвайшлі некаторыя творы, якія па розных прычынах не трапілі ў «Жалейку», а таксама вершы, напісаныя ў Вільні ў 1908—1909 гг. пасля яе выхаду. Пра гэты перыяд літоўскі кнігазнавец, гісторык культуры Л. Уладзіміраў пісаў у сваёй працы «Бібліятэка, у якой працаваў Янка Купала»: «...у час дзяжурстваў у бібліятэцы «Знание» (Вільна, 1908—1909) узнікла шмат выдатных вершаў з яго зборніка «Гусляр» (ДзЛМЯнК, ф. 1, воп. 1, адз. зах. 60). Можна таксама выказаць меркаванне, што другі зборнік мог папаўняцца вершамі, напісанымі паэтам у 1910 годзе ў Пецярбурзе, але пацвярджэння гэтаму няма: вершы адзначанага перыяду ў зборніку адсутнічаюць. Гэта азначае толькі адно: зборнік, укладзены і падрыхтаваны Б. І. Эпімах-Шыпілам, быў здадзены ў выдавецтва да прыезду паэта ў Пецярбург. Такім чынам, можна сцвярджаць: Я. Купала непасрэднага ўдзелу ў падрыхтоўцы кнігі не прымаў.

Выхад другога зборніка вершаў Янкі Купалы — значная падзея ў развіцці нацыянальнай культуры. Тут дарэчы адзначыць, што падрыхтоўка новай кнігі паэта праходзіла з пэўнымі цяжкасцямі. Так, баючыся, каб новае выданне не напаткаў лёс «Жалейкі» (арышт тыражу, непрыемнасці для выдаўцоў). «Эпімах-Шыпіла... выкінуў усё тое, што магло не спадабацца цэнзуры, і, на ўсякі выпадак, надрукаваў зборнік аднай лацінкай, каб лягчэй было абыйсці цэнзара»[1],— успамінаў пазней Я. Купала.

Паводле меркаванняў А. Александровіч, «са зборніка «Гусляр» выдаўцам зніма́ліся не толькі цэлыя творы, але самавольна скарачаліся вершы. З верша «Памяці Т. Шаўчэнкі», які быў надрукаваны ў зборніку «Гусляр», былі зняты восем радкоў. Змяшчаючы гэты твор у другім выданні «Гусляра», Янка Купала робіць такую заўвагу: «У першым выданні ў гэтым месцы (пасля чацвёртай страфы.— *А. А.*) выкінута выдаўцам дзеля цэнзурных варункаў два чатырохрадковыя зваротк.

---

[1] Александровіч А. Аб дакастрычніцкай творчасці Янкі Купалы.— Полымя, 1947, № 6. С. 72.

За адсутнасцю рукапісу гэты прабел застаецца і ў цяперашнім выданні» (Янка Купала, т. І, выд. 1926)»[1].

Адзначым, што поўны тэкст верша з адноўленымі радкамі ўпершыню апублікаваны ў зб. «У вянок Т. Г. Шаўчэнкі» (1939), а ў зборах твораў Янкі Купалы, пачынаючы з 1961 г.

Зборнік «Гусляр» складаўся з вершаў і перакладаў, выдадзеных лацінскім шрыфтам на 80 старонках у колькасці 2500 экз. Усяго ў зборнік увайшло 75 твораў. Другое выданне «Гусляра» ўбачыла свет разам са зб. «Жалейка» ў І-м томе першага Збору твораў паэта (1925—1932). Падрыхтоўка ж да перавыдання прыгаданых кніг пачалася значна раней. Так, у 1923 годзе ў часопісе «Полымя» (№ 7—8) было змешчана паведамленне: «Янка Купала прыступіў да перагляду сваіх зборнікаў «Жалейка» і «Husłar», якія ён думае выпусціць другім выданнем». Вынікам «перагляду» і з'явіўся названы том Збору твораў Я. Купалы.

Пры аналізе і параўнанні абодвух выданняў выяўляюцца некаторыя адрозненні: у Зб. тв., 1925, т. 1 не ўвайшлі вершы «Памаліся...», «Смутна мне, Божа!» і «О. М. Пяшчынскаму», відаць, па цэнзурных меркаваннях. Аднак верш «Памаліся...» увайшоў пазней у шосты том (1932) згаданага Збору твораў, а потым, як і верш «Смутна мне, Божа!», друкаваўся ва ўсіх Зборах твораў. Верш «О. М. Пяшчынскаму» ўвайшоў толькі ў два апошнія выданні (1961—1963) і (1972—1976).

У асобным выданні кнігі першы верш «Я нясу вам дар...» быў як бы зачынам да ўсяго зборніка, у другім выданні кампазіцыйна ён аформлены так, што ўжо не нясе на сабе такой адзнакі. Апрача таго, загаловак верша «Сядзь тут, пад крыжам...» заменены на «Сядзь тут, на ўзмежку...». Апошняе адрозненне: загалоўкі вершаў «Песня» асобнага выдання ў Зборы твораў у «Змесце» падаюцца па першым радку: «Бяжыць шыбка ручаінка...» і «Па зімовай па дарожцы...».

Беларуская грамадскасць адразу адгукнулася на выхад зборніка. У згаданым ужо нумары «Нашай нівы» была змешчана рэцэнзія А. Бульбы, у якой крытык падкрэсліў вялікае значэнне выхаду кнігі і адзначыў яе каштоўнасць для справы адраджэння. Бульба пісаў: «Але не без радасці трэба прыкмеціць, што Купала ўсё развіваецца, што пазбываецца ўсіх чужых налётаў, выробляе беларускі матыў, так адметны ад матыву братніх народаў. Калі ў першым выданні вершаў Купалы («Жалейка») спатыкаем багата перакладаў і думак чужых, выказаных толькі беларускім вершам, то ў «Гусляры» ўжо іх менш... У ўласных, самабытных творах Купала не мае роўных сабе...

Пануе ў творах Янкі Купалы фантазія, адмыкае ў ім вялікае багацтва форм, напаўняе яго думы, і ліецца песня гусляра. Багацтва настраенняў прабіваецца ў кожным яго творы. У кароткім вершы маем колькі абразоў, гарманічна зліваючыхся ў адзін, каторы малюе пуцяводную думку. Ці кінецца Купала ў даўні быт, ці загляне ў даўні курган, што віднеецца на нашай бацькоўшчыне, ці ўдарыць у сумную заімглёную цяпершчыну,— з усяго дабудзе тон родны, дабудзе той асобны беларускі матыў». Бульба выказаў надзею, што «далейшай самабытнай творчай працай Янка Купала зойме ў нас адно з першых месц і заслужыць на добры спамін».

У рэцэнзіі А. Бульбы станоўча ацэнена таксама праца выдаўцоў твораў Янкі Купалы, у прыватнасці А. Грыневіча.

Зборнік «Гусляр» — новы этап у творчасці паэта. Пра гэта свед-

---

[1] Александровіч А. Аб дакастрычніцкай дзейнасці Янкі Купалы.— «Полымя», 1947, № 6. С. 72.

чаць і даследаванні сучасных літаратуразнаўцаў. Напрыклад, Р. Семашкевіч піша: «...У параўнанні з «Жалейкай» зборнік «Гусляр» — значны крок у развіцці паэта. Істотна ўзрасла культура верша, глыбокае стала паэтычнае мысленне Купалы»[1]. У новым зборніку для выяўлення сваёй пазіцыі, свайго паэтычнага «я» Купала выкарыстоўвае больш складаныя вобразы і алегорыі. Паводле слушнага меркавання М. Яроша, «у «Гуслярь» паэт не адмовіўся ад падрабязнага паказу сялянскага побыту, ад дэталёвай абмалёўкі вонкавага аблічча мужыка, ад апісання вясковага пейзажу і г. д. Але штодзённае сялянскае жыццё, вясковы побыт ён з большым поспехам, чым раней, падначальваў эстэтычнаму асэнсаванню, узводзіў у ранг высокай паэзіі»[2].

Р. Семашкевіч адзначыў таксама вялікае значэнне другога зборніка Янкі Купалы не толькі для развіцця беларускай культуры, але і для яе сувязей з культурамі іншых краін. Паводле яго слоў, пра Купалу піша венская газета «Slawische Tagblat», літоўская «Viltis», чэшская «Slovansky Prechlad» друкуе пераклады яго вершаў «А хто там ідзе?» і «Песня і сіла». З выхадам «Гусляра» паэзія Купалы пераступае беларускія нацыянальныя рамкі»[3].

*Т. Строева*

Гусляр. [Зб. вершаў. Надрукаваны лац. шр.]. Пб., выд-не А. Грыневіча, друк. К. Пянткоўскага, 1910, 80 стар., [2500 экз.], 50 к.

### Змест



[1] Семашкевіч Р. Купала і Эпімах-Шыпіла.— Полымя, 1967. № 7. С. 223.
[2] Ярош М. Пясняр роднай зямлі. Жыццё і творчасць Янкі Купалы.— Мн., Навука і тэхніка, 1982. С. 97.
[3] Семашкевіч Р. Купала і Эпімах-Шыпіла.— Полымя, 1967. № 7. С. 223.

## ЗБОРНІК «ШЛЯХАМ ЖЫЦЦЯ» (ПЕЦЯРБУРГ, 1913)

Зборнік «Шляхам жыцця» — трэці ў творчай біяграфіі Янкі Купалы. Выхад яго з'явіўся значнай падзеяй для самога паэта і ўсёй беларускай літаратуры пачатку XX ст. У параўнанні з папярэднімі зборнікамі Купала істотна пашырыў тэматыку твораў. Калі ў зборніку «Гусляр», паводле слушнага меркавання крытыка А. Александровіч, падбор твораў «не па віне аўтара атрымаўся ў тэматычных адносінах аднастайным», дык новы паэтычны зборнік вылучаўся шматбаковым ахопам жыццёвых з'яў, стылёвай разнастайнасцю вобразаў і выключнай кампазіцыйнай стройнасцю. Творы, уключаныя ў выданне, вызначаліся высокім майстэрствам і сапраўднай мастацкай сталасцю. Тут Купала праявіў па-філасофску глыбокае і тонкае разуменне цеснай сувязі далёкага мінулага з гістарычнай перспектывай. У кнізе, надзвычай цэласнай па мастацкай форме, змесце і ідэйным пафасе, Янку Купалу ўдалося рэалізаваць адметныя рысы свайго паэтычнага таленту.

Абапіраючыся на мастацкія традыцыі сусветнай літаратуры, паэт у зборніку здолеў звязаць нацыянальную ідэю адраджэння з агульначалавечымі гуманістычнымі ідэаламі.

Адметнасць зборніка «Шляхам жыцця» ў тым, што ён, у адрозненне ад ранейшых выданняў, дайшоў да нас не толькі ў выглядзе апублікаванай кнігі. Захаваліся рукапісны зборнік, падрыхтаваны Купалам да друку, асобныя аўтографы і нават аўтарскія карэктуры. Да нашчадкаў дайшоў і экземпляр выдадзенай у 1913 г. кнігі з істотнымі праўкамі, зробленымі паэтам пры падрыхтоўцы другога выдання зборніка (Вільня, 1923). Калі прыгадаць нешматлікія тагачасныя выданні беларускіх пісьменнікаў і самога Купалы, дык мы ўбачым, што гэта амаль адзіны, унікальны выпадак у гісторыі беларускай літаратуры. Немагчыма пераацаніць значэнне гэтых рукапісных матэрыялаў для даследчыкаў, якія атрымалі магчымасць прасачыць за складаным працэсам творчасці выдатнага мастака слова.

Як вядома, рукапісны архіў М. Багдановіча загінуў, і толькі дзякуючы падрабязнаму яго апісанню ў Творах 1927—1928 гг. пад рэдакцыяй І. Замоціна ён стаў здабыткам навуковай грамадскасці. Большая частка рукапісных архіваў іншых пісьменнікаў страчана назаўсёды. Тым большую каштоўнасць уяўляюць захаваныя купалаўскія матэрыялы.

Зборнік «Шляхам жыцця» асобным выданнем выдаваўся тройчы: у 1913, 1923 і 1935 гг. Акрамя гэтага, ён цалкам выходзіў у Зборах твораў, 1925—1928 і 1928—1932 гг.

Да выхаду ў свет зборніка «Шляхам жыцця» Янка Купала быў ужо аўтарам «Жалейкі» і «Гусляра», апублікаваных драматычных паэм «Адвечная песня», «Сон на кургане», а таксама неапублікаваных паэм «Зімою», «Нікому», «Калека». Але творы Купалы даходзілі да чытачоў складанымі шляхамі. Дастаткова нагадаць верш «Мужык», які ў беларускім друку быў апублікаваны толькі ў зборніку «Шляхам жыцця», 1913 (у рускім друку — 15 мая 1905 г.). Паміж публікацыяй у рускім друку і першым з'яўленнем верша «Касцу» ў газеце «Наша ніва» (11 мая 1907 г.) прайшло два гады. Шырока вядомы гісторыі з друкаваннем першых зборнікаў «Жалейка» і «Гусляр». Не стаў выключэннем і зборнік «Шляхам жыцця».

На тытульным лісце рукапіснага варыянта рукою аўтара напісана:

«Шчыра паважанаму доктару А. П. Ярэмічу гэту кніжку пасвячаю. Аўтар»[1].

Аляксандр Парфіравіч Ярэміч (1876—1920) быў дырэктарам былой Елісееўскай бальніцы ў Пецярбурзе, паходзіў з Беларусі. Прымаў актыўны ўдзел у грамадскім і культурным жыцці беларусаў у Пецярбурзе, дзе ў 1910 г. пазнаёміўся з Купалам. А. П. Ярэміч уважліва сачыў за грамадска-палітычнымі падзеямі на Беларусі, цікавіўся нацыянальна-адраджэнскім рухам.

У літаратурным музеі паэта захоўваецца адразны купон да паштовага перавода Ярэміча А. П. на імя рэдакцыі «Наша ніва» ад 22. XII.⟨1911⟩[2]. У ім доктар просіць прысланы на свой хатні адрас газету «Наша ніва» і іншыя беларускія выданні.

Як вядома з лістоў Янкі Купалы да Л. М. Клейнбарта ад 1912 г., А. П. Ярэміч фінансаваў друкаванне кнігі: «Беседовал ■ с Александром Порфирьевичем относительно издания моих стихотворений. Порешили выпустить томик в 15 печатных листов...»[3] Спачатку меркавалася, што ў склад выдання будуць уключаны толькі тыя з лепшых твораў, якія раней не ўваходзілі ў асобныя ўжо выдадзеныя кніжкі. Але потым у яго ўвайшлі і вершы, напісаныя пасля выхаду «Жалейкі» і «Гусляра». Ёсць звесткі, што доктару А. П. Ярэмічу былі прапанаваны для фінансавання два зборнікі: «Радуница» С. Ясеніна і «Шляхам жыцця» Я. Купалы. Апошнюю кнігу рэкамендаваў Л. М. Клейнбарт[4]. Цяжка ўстанавіць, чым кіраваўся доктар А. П. Ярэміч, аддаўшы перавагу малавядомаму паэту, але заслуга гэтага чалавека перад беларускай літаратурай відавочная.

Рукапісны варыянт «Шляхам жыцця» мае даволі цікавую гісторыю[5]. Пасля выхаду зборніка ў свет Янка Купала, відаць, падараваў рукапіс К. Душэўскаму. «К. Душэўскі залажыў у дэпазыт у музей ім. Івана Луцкевіча (6.1.1930) з правам атрымаць назад пры першай просьбе. А. Луцкевіч прыняў». І подпісы: К. Душэўскі і Ант. Луцкевіч. Пад тэкстам: Вільня, 6.1.30. На гэтай жа старонцы пазначана адзінка фонда: Рк-75 і пячатка: Беларускі музей Ів. Луцкевіча БН Т-ва. Клаўдзій Сцяпанавіч Душэўскі (Душ-Душэўскі, 1891—1959) не быў выпадковай асобай у акружэнні паэта. Беларускі грамадскі і культурны дзеяч, адзін з заснавальнікаў Беларускага навукова-літаратурнага студэнцкага гуртка ў Пецярбурзе, быў знаёмы з Купалам. У сувязі са сваім пераездам з Пецярбурга ў Вільню Купала ў 1914 г. выдаў даверанасць Душэўскаму для атрымання з Галоўнага ўпраўлення па справах друку здадзеныя ў Камітэт драматычныя творы[6].

Далейшы лёс рукапіснага зборніка не адлюстраваны ў дакументальных матэрыялах. Да гэтага часу застаецца дакладна невядома, як рукапіс трапіў у ДзЛМЯнК. Відаць, ён быў перададзены ў фонд Цэнтральнай бібліятэкі АН Літоўскай рэспублікі разам з іншымі матэрыяламі музея І. Луцкевіча. Як успамінае пляменніца Янкі Купалы Ядвіга Юльянаўна Раманоўская, у хуткім часе пасля вайны Ул. Ф. Луцэвіч

[1] Захавалася прысвячэнне і ў першым выданні зборніка (1913).

[2] Ф, П-ы, воп. III р-2, адз. зах. 14.

[3] Янка Купала. Зб. тв., 1976, т. 7. С. 413.

[4] Александровіч А. Аб дакастрычніцкай творчасці Я. Купалы.— Полымя, 1947. № 6. С. 79.

[5] Дэконская В. Роздум над купалаўскім рукапісам.— Маладосць, 1992. № 6. С. 101—102.

[6] Пуцявінамі Янкі Купалы: Дакументы і матэрыялы.— Мн.: Навука і тэхніка, 1981. С. 79—80.

прывезла з Вільні ў музей рукапісны зборнік, некаторыя старонкі якога былі значна пашкоджаны.

Па ініцыятыве Я. Ю. Раманоўскай рукапіс быў здадзены ў рэстаўрацыйную лабараторыю АН СССР у Ленінградзе, аб чым сведчаць пячатка гэтай установы і дата на апошняй старонцы рукапісу: «декабрь 1967».

Рукапісны зборнік «Шляхам жыцця» ўяўляе сабой падрыхтаваную Купалам для друкавання кнігу вялікага фармату (34,5 см/26 см) у цвёрдай вокладцы. Усяго 600 старонак (ф. А, воп. І-р, 13, адз. зах. 118). Складаецца кніга ў асноўным з белавых аўтографаў, машынапісных тэкстаў, якія маюць аўтарскія праўкі, і выразак з перыядычных выданняў, у прыватнасці, з газеты «Наша ніва», дзе ўпершыню была апублікавана большасць твораў паэта.

У рукапісным варыянце зборнік складаўся з сямі раздзелаў: І Бацькаўшчыне; ІІ Па межах родных; ІІІ Для Яе; IV Наша вёска; V Сваім і чужым; VI Байкі і аповесці; VII Пераклады з польскага. Аднак не ўсе раздзелы адразу атрымалі канчатковыя назвы. Так, І раздзел першапачаткова называўся «Казкі Бацькаўшчыны», затым «З цыкла «Казкі Бацькаўшчыны». Не меў зусім назвы і VI раздзел. Але ўжо ў «Змесце» зборніка аўтар даў прыгаданым раздзелам канчатковыя назвы.

У кампазіцыйную пабудову зборніка быў пакладзены не ханалагічны, а тэматычны прынцып. Першую спробу рэалізаваць гэты прынцып Купала зрабіў ужо ў зборніку «Жалейка»[1], які быў падзелены на два раздзелы. Але такі падзел насіў хутчэй фармальны характар, што прымусіла ў далейшым пры падрыхтоўцы да друку т. І Збору твораў (1925—1932), куды ўвайшоў зборнік «Жалейка», пераглядзець яго кампазіцыю. Новы, нетрадыцыйны падыход у зборніку «Шляхам жыцця» садзейнічаў стварэнню цэласных мастацкіх структур, што цалкам адпавядала аўтарскай задуме — усебаковаму адлюстраванню быцця.

Тэндэнцыя да аб'яднання вершаў у тэматычныя раздзелы і цыклы была ўласціва і М. Багдановічу. Адзіная кніга паэта «Вянок» падзялялася на некалькі раздзелаў, але і тут такі падзел нельга назваць знешнім аб'яднаннем, механічным. Паміж кампазіцыяй і зместам у зборніках М. Багдановіча і Я. Купалы існавала ўнутраная гарманічная сувязь.

У зборніку «Шляхам жыцця» паэт працягваў практыку аб'яднання твораў у паэтычныя цыклы. Відаць, гэта было выклікана і тым, што ў папярэднія кнігі («Жалейка», «Гусляр») не ўвайшла значная колькасць вершаў 1904—1910 гг. Магчыма, Купала, імкнучыся надаць ім сучаснае гучанне, тэматычна аб'ядноўвае вершы розных гадоў у адзіны твор, дасягаючы пры гэтым пэўнай сюжэтнай завершанасці. Пяць з шасці такіх цыклаў увайшлі ў раздзел «Наша вёска» («Зіма», «Аб мужыцкай долі», «Над ніваю ў непагоду», «З песень беззямельнага», «Вёска»), шосты — у раздзел «Па межах родных» («З асенніх напеваў»).

Я. Купала імкнуўся да стварэння новых паэтычных формаў, і яго дасягненні ў гэтым накірунку вызначалі далейшыя шляхі не толькі яго ўласнай творчасці, але і ўсёй беларускай літаратуры. Невыпадкова А. Лойка назваў зборнік праграмным (ЭД с. 666).

У рукапісным варыянце зборнік пачынаўся з верша «Пад крыжам», які быў змешчаны асобна ад іншых вершаў і з'яўляўся як бы запевам да ўсёй кнігі. Ці двухсэнсоўнасць назвы насцярожыла рэ-

---

[1] Дадзенае выданне, т. 1. С. 420.

дактара, ці сам аўтар палічыў за лепшае пазбегнуць спрошчанага тлумачэння, цяжка з пэўнай дакладнасцю сказаць. Але ў далейшым верш быў перанесены ў канец раздзела «Бацькаўшчыне».

Вядома, што ў першадруку («Наша ніва», 1912, 2/15 лютага, № 43—44) верш «Пад крыжам» меў падзагаловак «З цыклю «Казкі Бацькаўшчыны», што, відаць, і вызначыла спачатку яго месца ў зборніку.

Некаторыя тэксты ў кнізе закрэслены сінім і чырвоным алоўкам. Аднак гэта не азначае, што аўтар адмовіўся ад публікацыі закрэсленых тэкстаў. Справа ў тым, што ў рукапісным зборніку некаторыя вершы прадстаўлены некалькімі аўтографамі і нават выразкамі з перыядычных выданняў. Нярэдка на адным лісце знаходзіліся два і болей аўтографаў. І тады паэт перапісваў адзін з іх, а другі закрэсліваў. Так у раздзеле «Бацькаўшчыне» закрэслены аўтограф верша «Не праспі...» (пад назваю «З песень аб Ёй»), паколькі аўтар перанёс гэты твор у раздзел «Для яе».

Наяўнасць некалькіх аўтографаў аднаго і таго ж верша дае магчымасць прасачыць за творчым працэсам паэта і ўзнавіць гісторыю тэксту.

Шматлікія праўкі і моўна-стылёвыя змены ў тэксце сведчаць аб напружанай працы паэта па ўдасканальванні твораў, уключаных у зборнік.

Рыхтуючы кнігу да выдання, Я. Купала нярэдка змяняў назвы ўжо раней апублікаваных твораў. Так, атрымалі іншыя назвы вершы «Грайце, песні» («Ці то позна, ці то рана»), «Рвіся, думка» («Думка»), «Не праспі...» («З песень аб Ёй»), «Шлях мой...» («Мой шлях»), «Зваяваным» («Вучыцелям людскім»), «На прадвесні» («Думкі хлебароба на прадвесні»)[1].

Паэт даў назвы вершам, якія ў першадруку іх не мелі: «Вісельнік», «На жалейцы», «Зіма», «Над нівай ў непагоду», «І. Буйніцкаму».

Усе творы рукапіснага зборніка захаваны і ў друкаваным зборніку, за выключэннем вершаў «З кірмашу», «Крыжы», «Памаліся...», якія ўжо былі апублікаваны ў зборніку «Гусляр». Верш «Лявон» (упершыню друкаваўся ў газеце «Наша ніва», 1908, 15(28) жніўня, № 17 з падзагалоўкам «Песня-казка») таксама выкраслены ў рукапісным зборніку, паколькі ў далейшым увайшоў у паэму «На папасе». Не трапіў у друкаваны зборнік і верш «хххЗа пасвяшчэнне, вершык харошы» з прысвячэннем «Песняру Альберту Пав-чу». Матэрыялы рукапіснага зборніка выяўляюць цікавую заканамернасць: творы, апублікаваныя ў «Нашай ніве» ў 1908 г., пасля выхаду «Жалейкі», у рукапісным зборніку «Шляхам жыцця» прадстаўлены ў асноўным выразкамі з газет. Толькі некалькі вершаў маюць яшчэ аўтографы, у іх ліку «Да моладзі», «На сенажаці», «Яшчэ прыйдзе вясна», «Падымайся, ўставай...», а таксама верш «Араты», тэкст якога перапісаны невядомаю рукою.

Адсутнасць аўтографаў большасці вершаў 1908 г. можна растлумачыць, відаць, тым, што гэтыя творы Купала меў намер апублікаваць у зборніку «Гусляр». Але яны не трапілі ў другую паэтычную кнігу паэта. Частка вершаў 1908 г. не ўвайшла ні ў адзін дарэвалюцыйны зборнік, а была ўпершыню апублікавана толькі ў зборніку «Спадчына» (1922): «Песня» («Там, гэй, на ліпе на расахатай»), «Аб мужыцкай долі», «Думка», «Фэлькава вяселле», «Дунулі сіверы...», «Роднае слова» («Магутнае слова, ты, роднае слова»). Асобныя творы гэтага перыяду сталі вядомыя пасля публікацыі ў часоп. «Полымя» (1929,

[1] У дужках даюцца першапачатковыя назвы.

№№ 1, 2, 3 і 1930, № 5—6), дзякуючы матэрыялам з архіва Б. І. Эпімах-Шыпілы[1].

Асобна трэба сказаць пра аўтографы 1909 г. Што датычыць першай паловы года, дык тут таксама пераважаюць выразкі з газет. А вось аўтографы вершаў, напісаных у другой палове года, захаваліся амаль усе. Яно і зразумела: у гэты час зборнік «Гусляр» знаходзіўся ўжо ў рэдпадрыхтоўцы. Да гэтага можна дадаць, што творы больш ранняга перыяду (1906—1907), уключаныя ў «Шляхам жыцця», таксама прадстаўлены ў рукапісным зборніку ў значнай большасці выразкамі з «Нашай нівы». Такім чынам, можна меркаваць, што здадзеныя Купалам у выдавецтва рукапісы, магчыма, захаваліся, калі існуюць архівы пецярбургскіх выдавецтваў.

Значных, істотных тэкстуальных змен у рукапісны зборнік Купала не ўносіў. Толькі ў вершы «Над Нёманам», відаць, па цэнзурных меркаваннях, паэт закрэсліў наступныя радкі:

Так грамадзяне свабоднага краю
Ёрмы уздзелі, у рабства пайшлі,
Прадзедаў слава лазой зарастае,
. . . . . . . . . . . . . .
Рынкам жывога тавару няслава
Край ўвесь зрабіла, загнала на ўбой,
Дзе ўжо лет сотні Масква і Варшава
Торг груганоўы вядуць між сабой...[2]

Але рукапісы, машынапісныя тэксты і газетныя выразкі з аўтарскімі паметамі аб месцы і даце напісання даюць магчымасць істотна ўдакладніць час стварэння, нават выправіць памылковыя даты, дадзеныя Купалам, відаць, па памяці ў першым Зборы твораў (1925—1932) і выкарыстаць гэты каштоўны матэрыял для «Летапісу жыцця і творчасці».

У сярэдзіне рукапіснага зборніка ёсць старонка, якая нагадвае тытульны ліст:

---

ЯНКА КУПАЛА

**Сонца і Хмары**

У Сонцы і Хмарах жылі і жывём,
Сонца і Хмары ў думках гадуем,
Хто ж з іх найболей кіруе жыццём,—
Трудна мяркуем

Пецярбург 1913

---

На адвароце ліста — назва выдавецкай суполкі: «Загляне сонца і ў наша ваконца». Існуе думка, што гэта першапачатковая назва зборніка[3]. Але да гэтага часу не ўдалося з пэўнай дакладнасцю высветліць,

[1] «Перад вісельняй», «Усё саюзы...», «Нібы казка», «Дэпутату №№», «З надзеяй гаротнай...», «Грымну я, грымну па струнах бунтарных».

[2] Узноўлены радкі былі ў другім выданні зборніка (1923).

[3] Дэконская В. Роздум над купалаўскім рукапісам.— Маладосць, 1992. № 6. С. 105.

што азначае прыгаданы ліст. На жаль, сярод вядомых матэрыялаў (аўтабіяграфія, лісты) не знойдзены дакументальныя звесткі аб існаванні іншай назвы зборніка. Невядома, хто аўтар эпіграфа. Не выключана верагоднасць перакладу. Можна пагадзіцца з меркаваннем, выказаным у названым артыкуле наконт таго, што на Купалу паўплывалі назвы паэтычных зборнікаў рускіх паэтаў-сімвалістаў К. Бальмонта («Советы солнца, мёда и луны») і Вяч. Іванова («Борозды и межи»)[1]. Гэты ўплыў заўважаецца ў назвах вершаў «Хмары і думы», «Блізкім і далёкім», раздзела «Сваім і чужым», пабудаваных таксама на супастаўленні і кантрасце, што значна ўзмацняе эмацыянальнае ўздзеянне. Відаць, названы тытульны ліст выпадкова трапіў у карэктуру, дзе і быў закрэслены аўтарам.

У рукапісным зборніку «Шляхам жыцця» звяртае на сябе ўвагу і яшчэ адна асаблівасць. Выкарыстоўваючы традыцыі нашаніўскай паэзіі, Купала прысвячае некаторыя вершы пэўным асобам і супрацоўнікам газеты «Наша ніва». Сярод іх В. і М. Ластоўскія («Дудар», «Песня званара»), К. Буйло («Мая думка»), С. Палуяну («Курган»), А. Паўловічу («хххЗа пасвяшчэнне вершык харошы...»), супрацоўнікам рэдакцыі і чытачам «Нашай нівы» («Роднае слова», 1910).

Гэтыя прысвячэнні значна пашыраюць уяўленне пра тых грамадскіх дзеячаў, творчых асоб і проста сяброў і знаёмых, якія акружалі Купалу. На жаль, не ўсе прысвячэнні да гэтага часу расшыфраваны: «З недацветаў» — «Таварышу К. С. Л-э».

Пры падрыхтоўцы другога выдання зборніка (1923) Я. Купала здымае гэтыя прысвячэнні, у тым ліку і доктару А. П. Ярэмічу. Прычыны ў кожным канкрэтным выпадку маглі быць розныя. Але, думаецца, Купала адмовіўся ад раней выкарыстанай формы не па нейкіх асабістых адносінах да канкрэтных людзей, а хутчэй паводле эстэтычных меркаванняў. Здымаючы прысвячэнні, паэт, магчыма, імкнуўся да больш шырокіх мастацкіх абагульненняў, не звязваючы змест твора толькі з пэўнай рэальнай асобай. Паказальны ў гэтых адносінах верш «Жняя». Пакідаючы ў рукапісным зборніку прысвячэнне М. Шышко (сваячцы Ядвігіна Ш.), Купала перапрацоўвае некалькі радкоў у тэксце аўтографа, замяняючы словы інтымнага характару на больш нейтральнае, паколькі прысвячае твор канкрэтнай асобе. Але, калі паэт зняў прысвячэнне, ён, на жаль, не ўзнавіў першапачатковы варыянт:

| | *Варыянт аўтографа* | *Варыянт друкаванага зборніка* |
|---|---|---|
| 9—10 | На грудзях панадных<br>Каптанок ружовы. | На грудзях шчаслівых<br>Каптанок ружовы. |

Праца Купалы над зборнікам працягвалася і тады, калі пачалі прыходзіць карэктурныя лісты[2].

Асабліва каштоўнымі з'яўляюцца даты, пастаўленыя на лістах рэдактарам і аўтарам фіялетавымі чарніламі: яны дапамагаюць узнавіць час вычыткі аўтарам карэктуры. Першая такая памета адносіцца да 5.XI.1912 г. і сведчыць пра тое, што апублікаваныя ўпершыню ў

[1] Дэконская В. Роздум над купалаўскім рукапісам.— Маладосць. 1992. № 6. С. 105.

[2] Карэктура зборніка была перададзена ў ДзЛМЯнК разам з іншымі матэрыяламі Дзяржаўнай бібліятэкай БССР імя Леніна, аб чым сведчыць пячатка ўстановы. Апрацоўка і нумарацыя лістоў (622) зроблена супрацоўнікамі музея 27/VII—71 г.

зборніку «Шляхам жыцця» вершы, якія не маюць дакладных дат, напісаны не пазней 5 лістапада 1912 г. Выключэннем з'яўляецца верш «Прарок», які датуецца 7 снежня 1912 г.; калі аўтар ужо пачаў атрымліваць карэктурныя лісты 1-га раздзела.

Праглядаючы карэктурныя лісты, можна заўважыць даволі істотныя тэкстуальныя змены. Гэта датычыцца вершаў «Прыстаў я жыць...», «Папросту», а таксама цыкла «З песень беззямельнага», дзе Купала па цэнзурных меркаваннях здымае некалькі радкоў і строф. У карэктуры пазначаны і заўвагі рэдактара, які рэкамендаваў зняць некалькі вершаў «без крыўды для беларускай літаратуры» («Па межах родных») ці «Выпусціце, не крыўдзячы ні свае славы, ні беларускай літаратуры» (VII частка знікла «З песень беззямельнага»). Як бачым, паводле выдадзенай кнігі, Купала пагадзіўся не з усімі парадамі рэдактара. Побач з вершамі «Былі ў бацькі тры сыны», «Праступнік» і VI часткай «З асенніх напеваў» стаіць памета: «Выбросить, но набор пока оставить». З трох вершаў толькі першы ўвайшоў у надрукаваны зборнік. Другі — «Праступнік» — упершыню быў апублікаваны ў зборніку «Спадчына» (1922), а VI частка цыкла — у часопісе «Полымя», 1929, № 2.

Зробленыя на палях аўтарскія паметкі яскрава дэманструюць уважлівыя адносіны Купалы да тэксту. У карэктуры выявілася настойлівае імкненне паэта пазбавіцца ад русізмаў і паланізмаў. Побач з некаторымі словамі ёсць паметкі: «маскалізм», «поленізм». Шмат разоў сустракаюцца паметы, накшталт: «Исправить ■ прислать еще раз корректуру. Ив. Луцевич» ці «По исправлении прислать еще раз корректуру. Везде вместо несправленных «марашек» вставить букву ў. Ив. Луцевич».

Клапоцячыся пра захаванне раздзелаў, Купала не пакідае без увагі і кампазіцыю зборніка: «Этот отдел второй (II) окончить на 86-й странице, следующий III-й отдел («Для Яе») начать с 87-й страницы. Ив. Луцевич (4/1 1913)» ці «По исправлении прислать еще раз корректуру. Этот IV отдел окончить на 138 странице. Ив. Луцевич (18/1)» і далей: «Окончить на 138-й с., а следующий V-й отдел начать с 139 ст. Ив. Л.». І ўжо перад самым выхадам кнігі 18 сакавіка 1913 г. Купала на першай старонцы карэктуры напісаў: «По исправлении прислать корректуру вторично».

Непакоіў Купалу не зусім якасны набор тэксту, што і выклікала неабходнасць шматразовай вычыткі. Невыпадкова Купала рэкамендуе ў канцы кнігі змясціць спіс друкарскіх памылак: «После оглавления поместить на этой же странице опечатки. Оглавление пойдет ■ конце книги. Ив. Л.». Апошняя памета зроблена 22/III, а ў хуткім часе, у пачатку красавіка 1913 г., зборнік «Шляхам жыцця» пабачыў свет. Надрукавана кніга была ў выдавецтве «Загляне сонца і ў наша ваконца» ў Пецярбурзе (Друкарня Ю. Н. Эрліх).

Ужо 6 красавіка ў лісце да А. Луцкевіча Я. Купала пісаў: «Я паслаў Вам для рэцэнзіі «Шляхам жыцця» ...вельмі шчыра прасіў бы Вашай ласкі даць дзе можна хоць маленькія отзывы аб гэтай кніжцы, а такжа памясціць абвесткі ў «Нашай ніве», «Kurjery Krajowym», «Веч. газ.» У «Н. н.» ■ неўзабаве вышлю крыху экзэмпляраў на камісію» (Ф. Э., воп. Пр-1, адз. зах. 4).

Адзін з першых экземпляраў сваёй кнігі Я. Купала падараваў бібліятэцы Санкт-Пецярбургскага Імператарскага універсітэта 22 красавіка 1913 г. Купалу звязвала працяглая творчая дружба з Б. Эпімах-Шыпілам, які ў той час працаваў у бібліятэцы універсітэта. Кніга

з дарчым надпісам паступіла ў купалаўскі музей з аддзела рэдкай кнігі бібліятэкі ў 1969 г.[1].

У музеі захоўваюцца яшчэ тры экземпляры зборніка, падараваныя Купалам А. А. Карынфскаму (СПб, 23/VI—13), П. Бычкоўскаму (Акопы, 29/VI — 13) і В. Брусаву (Вільня, 18/VIII—1914 г.), з якімі ў паэта склаліся цёплыя сяброўскія адносіны і творчыя сувязі. Даследчык В. Рагойша ў 1976 г. выявіў у Навуковай бібліятэцы Маскоўскага універсітэта імя М. В. Ламаносава зборнік «Шляхам жыцця», 1913, падараваны А. Гагалінскаму (СПб., 2/XII—13 г.)[2].

Трэба звярнуць увагу на тое, што звесткі аб даце і месцы падпісання значна пашыраюць і істотна ўдакладняюць «Летапіс жыцця і творчасці» паэта. Як адзначана ў зборніку «Пуцявінамі Янкі Купалы», у красавіку 1913 г. Купала выслаў і ў рэдакцыю «Kurjera Krajowego» сваю новую кнігу «Шляхам жыцця»[3]. Газета называла сябе «ранішняй дэмакратычнай». Яе рэдакцыя размяшчалася на адной вуліцы з рэдакцыяй газеты «Наша ніва» (вул. Віленская, 15).

У лісце ў рэдакцыю «Нашай нівы» 18 красавіка 1913 г. Янка Купала скардзіўся на тое, што яна ў апошнім 15-м нумары ад 12 красавіка не абвясціла аб выхадзе 2-га сшытка часопіса «Маладая Беларусь» і зборніка «Шляхам жыцця». Відаць, гэта тлумачыцца тым, што дадзеныя выданні выходзілі не ў Вільні, а ў Пецярбурзе і звесткі аб іх выхадзе маглі спазніцца. Можна зразумець хваляванне і нецярплівасць маладога аўтара. Але А. Луцкевіч не прымусіў Купалу доўга чакаць водгуку на кнігу. 26 красавіка 1913 г. на старонках «Нашай нівы» з'явілася першая рэцэнзія на зборнік. Артыкул так і называўся — «Шляхам жыцця». Яго аўтар выступіў пад псеўданімам А-н-а. Вядомы беларускі грамадскі дзеяч, крытык і публіцыст Антон Навіна (Луцкевіч) не памыліўся, калі падкрэсліў «творчую сілу і талент Купалы», справядліва сцвярджаючы, што «...пясняр Маладой Беларусі займець пачэснае мейсца ў гісторыі беларускага адраджэння». Далей А. Луцкевіч зазначыў вельмі ўдалую назву зборніка, якая адлюстроўвае і творчы шлях паэта, што, на думку рэцэнзента, «...цягнецца далёка-далёка ў будучыню і пясняр прарочым словам прымушае верыць, што, ідучы сваёй дарогай, мы дойдзем урэшце да лепшай долі». Можна толькі здзіўляцца сапраўднай празарлівасці аўтара артыкула, які слушна заўважыў: «Даючы сумныя абразы гора і нядолі народнай, кніжка Купалы родзіць веру, што будзе лепей, што папраўдзе блізка ўжо часіна адраджэння забытых і забітых беларусаў». Асаблівую ўвагу А. Луцкевіч звярнуў на ідэю нацыянальнага адраджэння, якая знайшла яркае ўвасабленне ў змесце зборніка. На жаль, мастацкія вартасці твораў засталіся незаўважанымі крытыкам ці характарызаваліся даволі спрошчана: «У пекных, зычных, шчыра і з размахам напісаных вершах адбіваецца жыццё нашага народа, шэрай беларускай вёскі, захаванай недзе між лясоў і балот». Але гэты недахоп адлюстроўваў пэўны ўзровень тагачаснай крытыкі, што ні ў якай ступені не зніжала значэння першага станоўчага водгуку на зборнік. Так пачалося літаратурнае жыццё адной з лепшых кніг купалаўскага паэтычнага таленту.

Не прайшло і 10-ці гадоў, як Янка Купала распачаў падрыхтоўку другога выдання «Шляхам жыцця». Невялікі тыраж першага выдання

---

[1] Кніга была прывезена ў музей Ж. Дапкюнас (зараз дырэктар музея).
[2] Рагойша В. Напісана рукою Купалы. Мн., 1981. С. 17.
[3] Пуцявінамі Янкі Купалы. С. 95.

(3000 экз.) зрабіў кнігу бібліяграфічнай рэдкасцю, і ўзнікла неабходнасць у другім яе выданні.

У той час Я. Купала быў ужо вядомым за межамі Беларусі: у 1919 г. І. А. Белавусаў падрыхтаваў да выдання зборнік купалаўскіх твораў («Янка Купала — белорусский поэт. Избранные стихотворения». М., 1919). Мяркуючы па пісьмах Купалы, цікавасць да творчасці і асобы паэта ўзрастала. Падрыхтоўка другога выдання зборніка «Шляхам жыцця» з'явілася для аўтара не фармальнай справай і простай перадрукоўкай, а новым творчым этапам, аб чым сведчылі істотныя змены ў тэкстах. Захаваўся экземпляр друкаванай кнігі «Шляхам жыцця» (1913) з аўтарскімі праўкамі, унесенымі пры падрыхтоўцы другога выдання (ф. А, воп. 1-р. 13, адз. зах. 357, с. 1—269). Паэт ізноў вяртаецца да тых твораў, у якіх былі зроблены купюры. Так, у вершы «Над Нёманам» цалкам узнаўляюцца 16-я страфа і два радкі ў 15-й страфе, у вершы «Прарок» перапрацоўваецца і ўзнаўляецца 10-я страфа, у вершы «Папросту» — радкі 6, 10, 22, 24, 27.

Працуючы над другім выданнем зборніка, Купала дае назвы наступным вершам: «Не ўздыхай», «Яшчэ прыйдзе вясна», «За праўду», «Як [redacted] полем іду», «Дзе ты шчасце маё?», «Гора нядольнае», «Чаго хмурыцца?..», «Бледныя буднія дні...», «Абнімі...». На жаль, Купалу не ўдалося ўзнавіць усе ранейшыя купюры папярэдняга выдання. Так атрымалася з вершам «Прыстаў я жыць...», у якім у карэктуры Купала быў вымушаны закрэсліць дзве страфы і два радкі:

37—47 На ніве роднай зброд прадажны
Скрозь гаспадарку распасцёр,
Чужацкай песняю прыказнай
Калыша здаўлены прастор.

І шумна чаркі напаўняе
Крывёй асленленых рабоў...
Гульню так чорную спраўляе
Паміж крыжоў, паміж грабоў.

З чужынцам-катам нельга жыці
Чужынцу-кату служа брат...

Пры падрыхтоўцы другога выдання Купала, відаць, не меў ні рукапісу, ні машынапіснага тэксту, [redacted] па памяці не змог яго ўзнавіць. Магчыма, паэт мог і забыць пра закрэслены тэкст. Так ці інакш, паўстае пытанне: ці правамерна пакідаць гэтыя радкі ў каментарыях, ці, у адпаведнасці з аўтарскай воляй, перанесці іх у асноўны тэкст? На думку складальнікаў дадзенага выдання верш «Прыстаў я жыць...» павінен друкавацца па машынапісу.

У віленскім выданні зборніка Купалы да верша «Паляўнічы і пара галубкоў» ёсць заўвага. Захаваўся рукапісны тэкст, напісаны паэтам сінім чарнілам. Гэты ліст паперы знаходзіцца ў кнізе «Шляхам жыцця», 1913 з аўтарскімі праўкамі і выяўлены пры падрыхтоўцы да выдання дадзенага Збору твораў.

Другое папраўленае выданне зборніка было ажыццёўлена ў Вільні, у 1923 г., Беларускім аддзелам «Віленскага выдавецтва Б. А. Клецкіна». Яно з'явілася асновай да т. 2 Збору твораў (1925—1932), тэксты якога амаль цалкам адпавядаюць віленскаму выданню.

У 1935 г. у Вільні зборнік «Шляхам жыцця» выйшаў трэці раз у Выдавецтве Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры. Выданне, па сутнасці, паўтарыла зборнік 1923 г. Кніга, выдадзеная ў 1935 г., з'явілася апошнім асобным выданнем зборніка «Шляхам жыцця»,

паколькі ўсе пасмяротныя Зборы твораў кампазіцыйна пабудаваны паводле жанрава-храналагічнага прынцыпу.

Даследчыкі творчасці Янкі Купалы адзінадушна высока ацэньвалі як асобныя вершы зборніка, так і кнігу цалкам. На жаль, нярэдка ў крытычным аналізе твораў дамінаваў сацыялагічны падыход у ацэнках і меркаваннях. Асоба ж паэта і адметныя рысы яго творчай індывідуальнасці пакідаліся ўбаку. Складаны і трагічны лёс Купалы выразна адлюстроўваў супярэчнасць паміж творчай асобай і ўладай, да якой сапраўдны мастак заўсёды знаходзіцца ў апазіцыі. «Купалу ў вышэйшай ступені ўласціва «высокая хвароба» сапраўднага, вялікага паэта — асэнсаванне свайго творчага шляху, як трагічнага, можа быць, згубнага, але прадвызначанага, неабходнага народу, такога, з якога нельга ўжо звярнуць»[1],— дакладна вызначыў найбольш характэрную рысу ў светаадчуванні паэта Вінцук Каваленка ў артыкуле «Вяртанне да Купалы».

Зборнік «Шляхам жыцця» адзначыў 80-я ўгодкі з дня свайго нараджэння. Ён на доўгі час вызначыў шляхі развіцця нацыянальнай паэзіі, стаўшы паэтычным помнікам бессмяротнаму таленту.

*Э. Золава*

Шляхам жыцця. (Зб. вершаў). Пб., «Загляне сонца і ў наша ваконца», друк. Ю. Н. Эрліх, 1913, 264 стар. (3000 экз.).*

**Змест**

**I. Бацькаўшчыне**



---

[1] Літ. і мастацтва, 1993. 22 студз.
*У Купалы змест даецца па алфавіце ў раздзелах.

**II. Па межах родных...**



**III. Для яе**

**IV. Наша вёска**

**V. Сваім і чужым**



**VI. Байкі і аповесці:**

## ЗБОРНІК «СПАДЧЫНА»
## (МІНСК, 1922)

«Спадчына» з'яўляецца чацвёртым паэтычным зборнікам Я. Купалы. Паэт рыхтаваў яго рукапіс у 1919 г., а выданне было здзейснена ў 1922 г. у Мінску кааперацыйна-выдавецкім таварыствам «Адраджэнне» (тыраж 4000 экземпляраў). У зборнік увайшлі чатыры паэмы — «Зімою» (1906) і «Бандароўна», «Магіла льва», «Яна і я» (першая палова 1913 г.), а таксама 153 вершы, выбранае з напісанага выдатным мастаком слова за 12 розных гадоў (1905—1919 гг., выключаючы з іх 1910 і 1916—1917 гг.).

У якім аб'ёме паэзія тут прадстаўлена па гадах? Уключаны адзін верш 1905 г.; 16—1906 г.; 8—1907 г.; 7—1908 г.; 4—1909 г.; 3—1911 г.; 4—1912 г.; 28—1913 г.; 19—1914 г.; 21—1915 г.; 24—1918 г.; 1—1919 г. і 17 вершаў, дата якіх застаецца невядомай. Значную частку зборніка складаюць вершы, якія раней не друкаваліся: у «Спадчыне» адбылася іх першая публікацыя. Гэта вершы 1906 г.— «Куды ні ўцякаю...», «Не глядзі...», «Паэзія», «Янка Канцавы», «Пры выпіўцы», «Благая жонка», «Кацярына», «Прыпеўка», «Усе разам», «З песень нядолі», «З сіроцкай долі», «Хай жа вам так не здаецца...», «Вясна», «Віхор загуляў», «Першыя песні»; 1907 г.— «Сумна, сумна жыць на свеце...», «Дайце мне...», «Забытая карчма», «Разлад», «Праступнік», «З нуды»; 1908 г.— «Беларушчына», «Думка», «Дунулі сіверы...», «Фэлькава вяселле»; 1909 г.— «Апекунам», «Тут і там», «Я і воля мая»; 1911 г.— «Блізкім і далёкім», «Я казак — не казак...», «Днём і ночкай працаваў ён...»; 1912 г.— «Новы год»; 1913 г.— «Ўсюды лета...», «Коціцца крыніца...», «Песняй тольві», «Тутэйшы», «Чын», герб і лапаць», «Жыў музыка Налім...»; 1914 г.— «На полі тае», «Сваякі», «Груганы»; 1915 г.— «Не судзіла доля», «Ночцы»; 1918 г.— «Спадчына», «Паязджане», «Наша гаспадарка» і вершы дарэвалюцыйнага часу, дакладная дата якіх не ўстаноўлена,— «З песень мужычых», «Можам часта мы плакаць...», «Песня» («Гнаны Янка доляй»), «Няма грошы», «Душачка, шынкарка...», «На ўсе рукі», «Эпіграма на самога сябе».

Аўтарская дата пад вершамі прастаўлена не паслядоўна. Яе не маюць 33 вершы. У датаванні сустракаюцца недакладнасці. Напрыклад, верш «Дзе ні кінь — дык клін» у «Спадчыне» пазначаны 1914 г., а вядома, што ў 1913 г. быў надрукаваны ў «Каляднай пісанцы». Верш «Дунулі сіверы...» таксама на год пастарэў: паводле ж аўтографа датуецца 7.ХІІ.1908 г., а не 1909 г., як у зборніку.

Вершы, якія ўпершыню друкаваліся ў нашаніўскай рубрыцы «У мутным віры» (1913—1914 гг.) без загалоўкаў, у «Спадчыну» ўвайшлі пад назвамі «Асёл і яго цень», «Кажух і вата», «Расейскія чыгункі», «Груган і салавей», «Ястраб, лісіца й певень», «Селянін і конь», «Янка і свабода», «Свінапас і стрынатка», «Дэпутаты і грамадзяне», «Пчолы і трутні».

Адкрываецца кніга вершам «Спадчына», напісаным 19 лістапада 1918 г. у час аднадзённага прыезду Я. Купалы ў Оршу са Смаленска. Гэта твор аб ролі нацыянальнай гісторыі і культуры ў жыцці чалавека. «Высакароднасць патрыятычнай ідэі, глыбокая філасофская напоўненасць, выразная фальклорна-рамантычная вобразнасць зрабілі яго адным з найвыдатнейшых твораў»[1]. Верш даў назву зборніку і вызначае

---

[1] Калеснік У. «Спадчына» / Янка Купала. Энцыклапедычны даведнік. Мн., 1986. С. 572.

яго мастацкую праграму. Твор насычаны фарбамі і колерамі, гукамі і настроямі, характэрнымі для паэзіі ўсіх шасці раздзелаў.

На шляху творчай эвалюцыі Янкі Купалы «Спадчына» з'яўляецца этапным зборнікам. Ён адметны ідэйна-тэматычнай, праблемнай маштабнасцю. У ім «на ўвесь велічны рост паўстае асоба паэта ў яе маштабным мысленні і пачуццях, моцна з'яднаная з народам, з яго барацьбой на важнейшым сацыяльна-гістарычным перавале, з бязмежнай верай у здаровыя сілы народа»[1],—падкрэслівае даследчыца творчасці паэта В. І. Гапава ў манаграфіі «Перачытваючы «Спадчыну» Янкі Купалы». У «Спадчыне», як раней у вершах зборнікаў «Гусляр» і «Шляхам жыцця», толькі яшчэ актыўней, Я. Купала распрацоўваў адну з галоўнейшых ідэй сваёй творчасці — ідэю нацыянальнай самабытнасці народа, яго гістарычнага лёсу.

Купалазнаўцы верш зборніка характарызуюць як прамоўніцкі, узнёслы, рамантычна-экспрэсіўны, нагружаны глабальнымі асацыяцыямі, прарочай сімволікай. Асабліва падкрэсліваецца бязмежнасць маштабаў паэтычных асацыяцый.

У крытыцы існуе небеспадстаўная думка, што ў сэнсе паэтычнага адзінства, цэласнасці і закончанасці «Спадчына» — кніга проста унікальная. Яна пабудавана паводле храналагічнага прынцыпу. Архітэктанічная стройнасць кожнага з яе шасці раздзелаў абумоўліваецца ўнутранай блізкасцю вершаў — ідэйна-тэматычным падабенствам, аднаскіраванасцю матываў і эмацыянальна-фармальных адценняў. Паэтычнае ж адзінства зборніка, зпітаванасць усіх ідэйна-тэматычных пластоў — публіцыстычна завостраных грамадзянскіх вершаў, вершаў на «мужыцкую» тэму, пра вайну, філасофскага цыклу, санетаў, вершаў пра каханне і фальклорных твораў — абумоўлена арганічным сплавам у паэзіі асабістага і грамадскага, дзе аўтабіяграфічныя матывы, пафас, настрой выяўляюцца праз узаемаадносіны з гістарычным жыццём радзімы, ходам часу. «Мастацкае адзінства дасягаецца і адзінствам лірычнага героя і філасофскай думкі, яно замацавана маштабным купалаўскім суіснаваннем рамантычнага і рэалістычнага...»

У 1927 г. зборнік «Спадчына» быў з нязначнымі тэкстуальнымі зменамі перадрукаваны ў пятым томе першага купалаўскага Збору твораў, укладальнікам і рэдактарам якога з'яўляўся сам аўтар. Вось прыклад найбольш істотных паправак: «Цягне, цягне разгавор» («Цягне, цягне гоман свой» / «Летам»); «І пяюць, пяюць наўмор» («І пяюць, што моцы той» / «Летам»); «Гэты ніжай, гэты вышай» («Гэты вышай, гэты ніжай» / «Спадчына»); «Пасвечаны» («На шляху» // «Пасвенчаны» / «Па шляху»).

Першае рэпрынтнае выданне зборніка прыхільнікі паэзіі Янкі Купалы віталі ў 1992 г.

*Л. Мазанік*

---

[1] Гапава В. Перачытваючы «Спадчыну» Янкі Купалы. Мн., 1983. С. 71.
[2] Тамсама. С. 71.

Спадчына. Менск, Беларускае кааперацыйна-выдавецкае таварыства «Адраджэнне», 1922.

## Змест

III

IV



V



VI

# АЛФАВІТНЫ ДАВЕДНІК*





* Першая калонка лічбаў — старонкі тэкстаў, другая — іншых рэдакцый і варыянтаў, трэцяя — каментарыяў.

## ВЕРШЫ НА ПОЛЬСКАЙ МОВЕ

# ЗМЕСТ*





* Першая калонка лічбаў — старонкі тэкстаў, другая — іншых рэдакцый і варыянтаў, трэцяя — каментарыяў.

**1907**

**1905—1907**

## ПЕРАКЛАДЫ



## ВЕРШЫ НА ПОЛЬСКАЙ МОВЕ

**Купала Я.**

К 92 Поўны збор твораў. У 9 т. Т. 1. Вершы, пераклады 1904—1907 / Прадм. У. Гніламёдава.— Мн., Маст. літ., 1995.— 462 с., [4] л. іл., 1 л. партр.

ISBN 5-340-01094 (т. 1).

У першы том Збору твораў народнага паэта Беларусі Янкі Купалы ўвайшлі творы перыяду 1904—1907 гг. Шмат якія творы друкуюцца ў Зборы ўпершыню.

К $\frac{8820600000-102}{М\ 302(03)-95}$ 81—94

ББК 84(4Беи)6



Літаратурна-мастацкае выданне

ЯНКА КУПАЛА

*Поўны збор твораў*
*у дзевяці тамах*

**Том 1**

*Вершы, пераклады*
*1904—1907*

Рэдактар *Н. І. Семашкевіч*
Мастак *М. Р. Казлоў*
Мастацкія рэдактары *А. І. Цароў, А. І. Дрозд*
Тэхнічны рэдактар *Т. М. Сокал*
Карэктары *І. М. Паланейчык, А. Т. Глушчанка*

Здадзена ў набор 20.06.94. Падп. да друку 07.09.95. Фармат 84×108[1]/32. Папера афс. № 1. Гарнітура літаратурная. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 24,36+0,53 укл. Ум. фарб.-адб. 25,25. Ул.-выд. арк. 26,14. Тыраж 6000 экз. Зак. 1465.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь. Ліцэнзія ЛВ № 3. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005. Мінск, Чырвоная, 23.